# Бацькаўшчына

## Зборнік гістарычнай літаратуры





# Бацькаўшчына

## Зборнік гістарычнай літаратуры





Мінск
«Юнацтва»
1997

УДК 882.6-93+087.5:947.6
ББК 84(4 Бен)6
Б 31

*Для сярэдняга
і старэйшага школьнага ўзросту*

Укладальнік С. С. Панізнік

Мастак У. М. Якунін

ISBN 985-05-0130-8



# НА НЕСУРОЧНАЙ ЗЯМЛІ

*Вяртаюся я да кнігі з густымі, як іней, радкамі. На пагоркі ўскладаю Прыдзвіння, асцерагаючыся, каб не надламаць вострых, як зуб'ё дзядзінца, вяршалін маіх бароў.*

*Вяртаюся я да кнігі з летапіснымі словамі бацькі, законамі новага дня, запаветам на нашае заўтра.*

*Вяртаюся я да кнігі... І ад дыхання зямлі з інею белых радкоў прарастаюць словы ласкі — у век мой. І схіляюся я чалом да звясеннеых парасткаў мовы... І не кніга перад вачыма — неўміручая воля зямлі.*

Перад тваімі вачыма, дарагі чытач, чарговы выпуск зборніка гістарычнай літаратуры «Бацькаўшчына», куды ўкладзены творы пра Наддзвінне, прысвечаныя гістарычным дзеям, якія адбываліся ў Полацкай зямлі — калысцы нашае дзяржаўнасці.

Так распарадзіўся Высокі Лёс, што Полацкая зямля разлеглася ў вадазборы Дзвіны-Даўгавы. Рака са старажытнейшых часоў стала жыццядайнай артэрыяй нашага народа. Дзейны назоў гэтай магутнай ракі, падзвіжніцкая яе чыннасць, дзіўная краса, неперапынна доўгае служэнне планідзе балтаў і крывічоў-беларусаў. Нездарма нас у Латвіі называюць балткрэвамі, зліўшы ў гэты назоў донарскую кроў балтаў і крэваў-крывічоў.

Пазначалася на картах рака так: Дуна, Эрыдан, Рубон (Рудон), яна была вядома яшчэ старажытным грэкам. Згадваецца Дзвіна і ў «Аповесці мінулых гадоў». Летапісец зазначаў, што выцякае яна з Вокаўскага лесу, як і Волга, як і Дняпро. Вадзіца маленькага ручая мінае азёры Дзвінец, Ахват-Жаданне, набірае моцы і кіруе ў «мора Варажскае». На берагі Дзвіны, як пярлінкі, здаўна нанізваліся сялібы, пасады, паселішчы, замкі. Румы і пристані збіралі людзей і багацце...

*На беразе жыцця, на беразе Дзвіны стаіць вялікі рум яшчэ з часоў вайны. Сцякае з берявна жывіцы даўніна. А беражэ той рум і Волга і Дзвіна.*

*Здалёку чую гул сасновага камля: нібы заве мяне прыдзвінская зямля.*

*Здалёк свіціцца рум бурштынавай луской — і воляй баравой, і доляю людской. З яго я свой ганок вяжу... На быстраку пазнаць жыццё ракі, пазнаць жыцця раку.*

Так, Дзвіна — гэта рака нашага гістарычнага жыцця. Яе рэчышча — нібыта чырвоны радок у летапіснай кнізе пад назваю «Беларусь». І як шматкроп'е гісторыі — валуны на берагах дзяржаўнае ракі з выгукамі на старажытнай літаратурнай мове: «Госпадзі, успамажы рабу свайму Барысу...»

Дзвіна-Даўгава сапраўды «даўга́я»: на працягу 325 кіламетраў цячэ ў Расійскай Федэрацыі, 328 кіламетраў па Беларусі і 367 — па зямлі Латвіі. Яшчэ з 2-га тысячагоддзя да новай эры яна стала адным з гандлёвых шляхоў. Міжнародным сувязям Дзвіна служыць пачынаючы з VI стагоддзя новай эры — між нашымі землямі і балтыйскімі, скандынаўскімі, Гоцкім берагам. У многім дзякуючы дзвінскаму гандлёваму шляху ў першай палове XIII стагоддзя склаўся Ганзейскі саюз, які ўжо ў XIV—XV стагоддзях яднаў 200 гарадоў, куды ўваходзіў і Полацк.

Для Полацкай дзяржавы Дзвіна шляхам рэлігійна-культурных дачыненняў з продкамі латышоў пратарыла выхад да мора. Толькі па прычыне непразорлівай лагоднасці Полацка ў 1201—1203 гадах вусце-рыгво Дзвіны было перахоплена іншаземцамі, калі крыжакі-мечаносцы ўзвялі свае крэпасці Рыгу, Гольм, Іксюль. Полацк паступова стаў страчваць сваіх даннікаў, абарончыя ўмацаванні Кукенойс, Герсіку...

А шлях «з варагаў у грэкі» быў магутным паэтычным вобразам для многіх пакаленняў творцаў. Дзвіна стала своеасаблівай дзейнай асобай і для такіх літаратурных помнікаў, як ужо згаданая «Аповесць мінулых гадоў», «Слова пра паход Ігараў». У граматах, дамовах Смаленска, Віцебска, Полацка з Рыгай і Гоцкім берагам выявіліся асаблівасці той мовы, якую мы сёння называем беларускай. Так што Дзвіна ўскалыхала нашу родную мову!

Маскоўскі цар Іван Жахлівы, у страшных войнах прабіваючыся да Балтыйскага мора, так ацэньваў стратэгічнае значэнне Дзвіны, паўтараючы даўняе высокапаэтычнае выслоўе: «Берагі Дзвіны сярэбраныя, а дно — залатое».

Дзвіна здаўна была артэрыяй, якая злучала цывілізацыі, працавала на адухоўленасць і на гадаванне. Латышы пра яе спявалі так: «Даўгавіня, мамуліня...» А бурлакі з-пад Улы мелі на ўвазе Дзвіну іншую:

За гарамі, за даламі
Усе ўлянскія сяляне.
Хто на гонак, хто на барку,
А хто цягне моўчкі лямку.

«Моўчкі цягнуць лямку» — гэта праява ўжо так званай «ментальнасці» нашчадкаў крывічоў...

Цяжка пералічыць, якімі суднамі карысталіся на Дзвіне. Гэта былі — лодка-дуб, човен, камяга, абіянік, шугалей, струг, учан. Потым для гандлёвых зносін спатрэбіліся байдакі, шкуты, баркі. Байдак і віціну з часам замяніла бярліна, а струг і шкут — лайба. Калі пайшлі па Дзвіне параходы, спатрэбілася баржа. Славіліся сваёй трываласцю на парогах віцебскія і веліжскія стругі.

Ішла барачка Дзвіной,
Яе ўдарыла валной
Па крутому беражочку
Да Гануліна дварочку.

У сплаўшчыкаў былі такія прафесіі: вадаліў, травельшчык, рулявы, грабец. Лоцман на Дзвіне называўся кормчым, корнікам, кормшчыкам. Былі і сцернявыя, дрыгальшчыкі. Народны пісьменнік Латвіі Андрэй Упіт пісаў: «Некаторыя плытнікі і стругаўшчыкі былі латышы. Але большасць, асабліва плытнікі, гналі па Даўгаве ганкі з бяскрайніх лясоў Беларусі, і часта аднаго са стырнавых звалі Грышкам. Вось адкуль, як мне здаецца, паходзіў у Вектэранах каля Аўзкраўкля мой дзед Грышка».

Другі народны пісьменнік, беларускі паэт Рыгор Барадулін, прызнаваўся: «Мне Латвія асабліва дарагая і блізкая, бо мой дзед Андрэй Галвіньш, механік млыноў, трапіў у Полацак з Рыгі».

*Дзед у Андрэя — Грышка. У Грышкі дзед — Андрэй. Няма для дружбы прышлых! Жыццё вяло свой рэй,— бо Грышка быў як шышка, Андрэй за ўсіх мудрэй.*

*Даўгава пупавінай адной для іх была: натхненнем успаіла, высока ўзнясла. Ушачка і Латышка — дзве музы любяць Грышкі метафары-кілішкі. Але вядзе адно паэта з кніжкі ў кніжку настырнае стырно: любоў да слова роднага, вясёлага, нязводнага, пякучага, бо матчына; крутога, бо з Ушаччыны.*

Сплылі па рацэ часу плытагоны і іх песні, адметныя словы, найменні. На стужцы майго магнітафона «Рамантык» засталіся сякоўскія валачобныя песні. Плылі з-за Віцебска сякі (мо сакуны?). На велікодныя дні прычальвалі яны да лявонпальскага берага і станавіліся валачобнікамі: славілі хрыстоў уваскрос, зычылі шчасця гаспадарам прыветных дамоў. Тэмп песні ў іх быў прыспешны, адрывісты, адным словам — сякоўскі:

Ідзём-пайдзём...
— Хрыстос — сын Божы!
Мае братцы...
— Хрыстос — сын Божы!

А вясною 1988 года мне самому прыйшлося стаць «валачобнікам», і «валачыліся» сябры расійскай, беларускай і латышскай груп пісьменнікаў і вучоных ад вытока Дзвіны аж да вусця. Нашая экспедыцыя мела дэвіз: «Мір — планеце, здароўе і моц — зямлі!» У. Арлоў, І. Васілеўскі, В. Якавенка разам з М. Пятро-

вым, В. Вараб'ёвым, Э. Зірнісам, Ю. Кунасам, А. Лацэ, А. Сніпсам, іншымі навукоўцамі і супрацоўнікамі аховы прыроды, з нефармаламі, якія працавалі дзеля захавання і рэстаўрацыі даўніны, даследавалі па маршруце экспедыцыі стан вадасцёку Понашай агульнай ракі. Гэта было ў маі, а ў канцы верасня ў Полацку прайшла рэгіянальная навукова-тэарэтычная канферэнцыя «Дзвіна-Даўгава» (на базе гісторыка-археалагічнага запаведніка). Латвійскі, Беларускі фонды культуры, Смаленскі і тады яшчэ Калінінскі абласныя аддзяленні фонда культуры Расіі запрасілі на зацікаўленае абмеркаванне біёлагаў, археолагаў, гідролагаў, архітэктараў, літаратараў... Гаварылі пра экалогію і культуру народаў, што жывуць на берагах ракі, іх нацыянальную самасвядомасць. Бо, як падкрэсліў латышскі грамадскі дзеяч, публіцыст Дайнас Іванс, у Дзвіне-Даўгаве адлюстроўваецца наш лёс, наша надзея, наша гора. Паводле яго слоў, барацьба за чыстую Даўгаву для Латвіі — гэта барацьба за этнічную і экалагічную будучыню. Вось чаму так паважна ўспрымаліся словы прамоўцаў пра аднаўленне культурна-гістарычнага ландшафту, каб архітэктурная, этнаграфічная, моўная, прыродная спадчына, назапашаная людзьмі на берагах Дзвіны, артэрыі культурнага супрацоўніцтва, змагла паслужыць сучаснікам і нашчадкам.

Такім чынам, Дзвіна стала важным чыннікам новай гісторыі сужыцця народаў. І ўжо праз год, вясною 1989 года, тыя, каму стаў неабыякавым лёс прыроды і культуры басейна Заходняй Дзвіны, правялі ў Віцебску пасяджэнні Міжрэспубліканскага каардынацыйнага цэнтра «Дзвіна-Даўгава». Вось толькі некалькі радкоў з «кладоўкі ідэй» у адрас каардынацыйнага цэнтра: «В. Арлоў, выкладчык Віцебскага тэхналагічнага інстытута: «Патрэбна «Чырвоная кніга» культуры і прыроды Прыдзвіння»; Ю. Якімовіч: «Шматлікія помнікі архітэктуры Прыдзвіння страшна запушчаны. Дзісна — збор вялікіх руін! Лявонпаль — унікальны музей пад адкрытым небам».

Я сам з Лявонпаля і магу пасведчыць, што дзякуючы пісару Вялікага княства графу Лапацінскаму Лявонпаль сапраўды стаў мясцінаю прывабнаю. А вось як узнавіць страчаную веліч? Адраджэнне, да прыкладу, гістарычнага Лявонпаля — гэта і маё духоўнае адраджэнне...

*Каля Дзвіны ў крынічанцы лазовай аскому лета юнага гасіў. І цяжка выспявала ў сыне слова, нібы імя, якое Край насіў. Але калі ўжо наязджаў са свету, наслухаўшыся, як пяе сусед,— між землякоў я адкрываў паэтаў, і сам я пачуваўся, як паэт. Мяне гукалі леты на ўлонне, каб летапісы дзвінскія бярог... Як Усяслаў, дасюль я ў палоне маіх на бацькаўшчыну выбраных дарог. І калі дні Радзімы палымнеюць, мой родны сцяг палае ўгары,— тады й на мой маленькі прапар веюць Задзвіння радаводныя вятры. І Беларусь крывіцкая аберуч узважвае сыноўняе крыло: маю любоў, маю адданасць, веру — усё, што вывела мяне за родны бераг і што назад на бераг прывяло».*

Радаводныя вятры сталі асабістаю турботаю і для латыша, і для расіяніна, і для беларуса. Сумесная абарона Дзвіны-Даўгавы супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС натхніла на новыя дзеянні. І вось пасля сустрэч у Полацку, Віцебску восенню 1991 года Даўгаўпілс праводзіць міжрэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю па праблемах фармавання культурнага асяроддзя ў даліне ракі Даўгавы. Людзі падышлі да высновы, што трэба ствараць новую канцэпцыю абароны гістарычнай спадчыны басейна Дзвіны-Даўгавы, выпрацаваць міждзяржаўныя пагадненні для рэалізацыі праграмы, каб яна стала часткаю праграмы ААН па абароне навакольнага асяроддзя (ЮНЕП), а таксама і ЮНЕСКА. І цверцамі і віцьбічамі быў успрыняты заклік Дайніса Іванса: «Даўгава-Дзвіна злучала нас. Даўгава — наш агульны сімвал вяртання ў Еўропу. Наколькі чыстай будзе яе вада, наколькі культурнай даліна, настолькі чыстыя і светлыя нашы душы. Шлях у цывілізаваную Еўропу ў нас агульны».

На шчасце, не перапынілася многа творчых праектаў міжнароднага супрацоўніцтва, бо Беларускі фонд культуры сумесна з Латвійскім распрацоўваў праграму «Шлях з варагаў у грэкі» па вывучэнні і мемарыялізацыі старажытнага гістарычнага шляху па рацэ Заходняя Дзвіна. У Цверы марылі аб падрыхтоўцы «Атласа Даўгавы», распрацоўвалі ўмовы для кантактаў мастакоў, пісьменнікаў Расіі, Беларусі, Латвіі. З 1995 года зноў пачаў працаваць міжнародны каардынацыйны савет «Дзвіна-Даўгава»!

*Быў краем свету прыбераг Дзвіны, дзе камянёў Барысавых асколкі ўраслі ў мурог і шапаткі, і колкі.*

*Быў краем свету прыбераг Дзвіны: яго задзірванелае карэнне і салаўёў ягоных азарэнне... І вось я зноў ступіў на крохкі край. Ты не карай мяне, мой бераг кроўны, мой самы першы бераг і галоўны.*

*Быў краем свету прыбераг Дзвіны, а стаў — любові, ростані, віны...*

Супакойвае тое, што сама Дзвіна нас ніколі не пакідала. І кожная яе хваля — нібыта жывая старонка-скрыжаль, на якой можна прачытаць хаця б такія радкі Ігната Дварчаніна:

Дзвіна, Дзвіна! Ты бачыла
І росквіт наш і славу,
Ты песціла і лашчыла
Чаўноў крывіцкіх лаву...

Цяпер — ах, песні йнакшыя
Чутны тут навакола,
Тут людзі ўсе абракшыя
І хмурны й невясёлы.

Не думаю, што чытач перанясе на сучасны стан Прыдзвіння ўсе радкі паэта. Бо заканчвае свой верш Ігнат Дварчанін з аптымізмам заўтрашняга дня:

Зара ўзышла. Ўжо свет настаў...
І хвалі ўжо сінеюць...
Вітай, сястра! Прамень упаў...
Другія ветры веюць.

Сама па сабе жывая вада — гэта вечнае абнаўленне. Пятрусь Броўка ў вершы «Размова з Дзвіною» так выказаў свае натхнёныя Дзвіной пачуцці:

Ты з дзён юнацтва па сягоння
Прываражыла да сябе.
Дзвіна! Дзвіна!.. І слова звоніць,
Як толькі ўспомнім пра цябе.

А хваляў колер сіні-сіні,
Адкуль іх вецерназганяў...
Напэўна, ў іх глядзеў Скарына,
Калі ў рад літары складаў.

І з тых часоў да нашых ранняў,
Праз даль стагоддзяў ідучы,
Калі пачуеш: «Палачанін!»,
Дык сэрцу радасна: гучыць!

Чытаеш такія пачуццёвыя прызнанні і верыш, што любоў да Дзвіны станавілася сімвалам любові да Бацькаўшчыны. Недзе ў 50-х гадах мінулага стагоддзя Аляксандр Рыпінскі (1811—1900), ураджэнец вёскі Кукавячына каля Віцебска, фалькларыст, кнігавыдавец пісаў у Лондане: «Дзвіна! Рака мае айчыны!.. Суседка блакітнага Нёмана... узгадаваная ў адной калысцы з Дняпром! Вось я — сын твой, ахрышчаны тваёй вадой, ад пялёнак да юнацтва выпешчаны тваім дыханнем, навучаны тваёй мове, вірам зайздроснага лёсу аддалены ад цябе — з далячыняў чужога свету шлю табе вітанне... Прымі яго, маці».

Як не дзіўна, але абагаўлялі Дзвіну-раку і людзі з далёкага ад нас роду-племені. У кастрычніку 1943 года верш «Да Дзвіны» напісаў татарскі паэт Муса Джаліль. Пра свой трагічны лёс ён выказаўся такою малітваю:

Мая душа не мірыцца з ярмом.
Адно толькі гняце мне галаву:
«Вазьмі мяне, нясі мяне, Дзвіна,
Ў абдымках хваль дамоў я прыплыву!..»

*(Пераклад М. Аўрамчыка)*

Ёсць звесткі, што татарскі паэт-патрыёт перш чым загінуць у Маабіце змагаўся з фашызмам на прыдзвінскай зямлі.

Дзвіна мая!
Сустрэчы я чакаў
З тваёю чысцінёй і глыбінёю.

Ты у мяне адна, хаця ў вяках
Усе вітаюць і Дняпро і Нёман.
А я тваёю сціпласцю сагрэт,
Тваёю ласкай, то жывой, то строгай.
Маёй душы ты — тайна, ты — сакрэт,
Маё каханне, першая трывога,—

піша Сяргей Законнікаў у «Сустрэчы з Дзвіной».

З гістарычнай пранікнёнасцю, з сардэчнай увагаю заўсёды будуць углядацца ў Дзвіну людзі датуль, пакуль рэчышча яе будзе паўнаводным, пачуцці паўнавартаснымі. А што сказана паэтамі да нашага часу, якія па Дзвіне, быццам па пульсе, адчувалі здароўе народа, вы прачытаеце ў анталогіі гістарычнага Прыдзвіння ў канцы гэтага зборніка.

*Укладальнік.*



# «МЕЧ УЗНІМАЮЦЬ РАГВАЛОДАВЫ ЎНУКІ...»

## Старонкі Полацкага летапісу

*Падарожжа ў сівую мінуўшчыну можна параўнаць з захапляючым падарожжам у далёкую і малавядомую краіну. Сустрэча з незнаёмым і незвычайным заўсёды глыбока хвалюе і ўзбагачае цікаўнага чалавека. Такую магчымасць даюць нам і гістарычна-літаратурныя помнікі даўняга пісьменства, якія ва ўсходніх славян называюцца летапісамі і хронікамі. Яны дапамагаюць нам прыадчыніць акно ў далёкі і таямнічы, суровы і экзатычны, але родны свет нашых продкаў, час значных падзей, ратных подзвігаў герояў, свет іншых уяўленняў і звычаяў, іншага ўзроўню цывілізацыі.*

*Гэтыя творы данеслі да нас непаўторны водар тых далёкіх эпох, жывыя галасы нашых суайчыннікаў, якія калісьці жылі тут, змагаліся, працавалі і стваралі тую каштоўную духоўную спадчыну, што і сёння жывіць нас. У летапісах і хроніках — велічная і гераічная, драматычная і самабытная гісторыя беларускага народа.*

*Як сведчаць змешчаныя ніжэй урыўкі з старажытнарускіх летапісаў, пачыналася яна ў слаўным горадзе Полацку, які даў Беларусі цэлую плеяду выдатных людзей. Гэты спіс адкрываюць легендарныя Рагнеда і Усяслаў.*

*Ужо амаль цэлае тысячагоддзе (Рагнеда памерла ў 1000 г.) многія пакаленні людзей не перастае хваляваць незвычайная гісторыя непакорнай полацкай князёўны, якой давялося вынесці нечалавечыя выпрабаванні, але яна*

*змагла захаваць сваю жаночую годнасць. Яркі і запамінальны вобраз высакароднай палачанкі-патрыёткі, варты пяра Шэкспіра, і сёння захапляе нас, людзей касмічнай эры. Падзеі, пра якія апавядаецца ў «Паданні пра Рагнеду», адбываліся ў 70—80-ыя гады X стагоддзя.*

*Не менш велічнай і гераічнай, яшчэ больш загадкавай асобай быў яе праўнук, полацкі князь Усяслаў (1044—1101), празваны Чарадзеем. Яго больш чым паўвекавое валадарства стала перыядам росквіту Полацкага княства. Пры ім будаваліся новыя храмы і гарады, а прыбалтыйскія плямёны плацілі Полацку даніну. Гэта ён смела кінуў выклік магутнаму Кіеву, імкнучыся адстаяць палітычную незалежнасць сваёй дзяржавы. Усяслаў перамагаў і цярпеў паражэнні, ратаваўся ўцёкамі і трапляў у палон, але вызваліўшыся і вярнуўшыся ў родны горад, зноў з ранейшай настойлівасцю і зацятасцю працягваў сваю незалежніцкую палітыку. Сапраўдны рыцар свайго часу, вялікі патрыёт бацькоўскага краю Усяслаў карыстаўся ўсенароднай павагаю і міжнародным аўтарытэтам. З вялікай сімпатыяй і цеплынёю, як героя з «вешчай душою ў храбрым целе» намаляваў яго аўтар славутай паэмы XII ст.— «Слова пра паход Ігаравы». Кіеўскі ж летапісец XII ст. непрыхільна ставіўся да Усяслава Чарадзея, але і яго скупыя звесткі, што змешчаны ніжэй, захавалі нам праз многія стагоддзі памяць пра гэтага выдатнага полацкага князя, нястомная дзейнасць якога закладвала падмурак нашай дзяржаўнасці на раннім этапе беларускай гісторыі.*

*Яркія, як бы выхапленыя з самога жыцця малюнкі сярэднявечай Беларусі эпохі феадальнай раздробленасці пададзены ў шэрагу запісаў Кіеўскага летапісу пра полацкія падзеі сярэдзіны XII ст.*

*Бурліць жыццё ў гарадах. Грамадскія страсці, сімпатыі і антыпатыі выяўляюцца, як правіла, адкрыта, на плошчы, на вечы, у бойцы. Княскія міжусобіцы, няспынныя сваркі князёў за ўдзелы, зацятая барацьба за ўладу асобных княскіх груповак і дынастый, а палітычных цэнтраў за лідэрства былі тыповай з'явай тагачаснага палітычнага жыцця. Асобныя спробы аб'яднаць землі сучаснай Усходняй і Цэнтральнай Белаусі ў адно вялікае княства не прынеслі тады поспеху, бо яшчэ не надышоў час для ўсебеларускай палітычнай і этнічнай кансалідацыі.*

*Нейкі рок стагоддзямі вісіць над гісторыяй беларускага народа. З самага пачатку надта шмат было ў ёй драматычнага і трагічнага. Нашым продкам прыходзілася ня-*

*спынна змагацца за сваё існаванне і незалежнасць, з усіх бакоў абараняцца ад розных заваёўнікаў. І як сведчаць крыніцы, яны нярэдка маглі пастаяць за сябе, за сваю родную зямлю. Іх перамогі і паражэнні — вялікі ўрок для нас, пра які мы ніколі не павінны забывацца, бо народ без гістарычнай памяці і нацыянальнай самасвядомасці — народ без будучыні.*

## ПАДАННЕ ПРА РАГНЕДУ

Калі Рагвалод трымаў уладу і княжыў у Полацку, тады Уладзімер быў яшчэ юнаком і язычнікам і жыў у Ноўгарадзе. І быў у яго дзядзька Дабрыня, храбры ваявода і спраўны мужчына. І паслаў ён да Рагвалода і прасіў яго аддаць дачку за Уладзімера. Спытаў у сваёй дачкі Рагвалод: «Ці хочаш за Уладзімера?» Яна ж адказала: «Не хачу разуць рабыніча, а Яраполка хачу». Гэты Рагвалод прыйшоў з-за мора і трымаў уладу ў Полацку. Уведаўшы гэта, раззлаваўся Уладзімер ад тых слоў дзяўчыны, якая сказала «не хачу я за рабыніча», і пажаліўся Дабрыні. І раз'юшыліся яны, сабралі вояў і пайшлі на Полацк. І перамаглі [Уладзімер і Дабрыня] Рагвалода. Сам жа полацкі князь уцёк у горад. І паланілі Рагвалода, яго жонку і дачку. І прыгадаў Дабрыня яму і яго дачцэ «рабыніча» і загадаў Уладзімеру быць з ёю (згвалціць — В. Ч.) перад бацькам і маці. Пасля Уладзімер забіў яе бацьку, і яе самую ўзяў за жонку. І назвалі яе Гарыславаю. І нарадзіла яна Ізяслава. Уладзімер жа пасля меў шмат іншых жонак і стаў ёю грэбаваць.

Аднойчы, калі ён прыйшоў да яе і заснуў, яна хацела яго зарэзаць нажом. І надарылася яму [у той момант] прачнуцца, і схапіў ён яе за руку. І сказала яна з жалем: «Ты бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцём». І загадаў ёй прыбрацца па-царску, як у дзень шлюбу, і сесці на белай пасцелі ў палацы, а ён прыйдзе і заб'е яе. Яна так і зрабіла. І дала ў рукі свайму сыну Ізяславу аголены меч і сказала: «Як увойдзе твой бацька, выйдзі наперад і скажы: «Бацька, не думай, што ты тут адзін». [І зрабіў так Ізяслаў.] Уладзімер жа сказаў: «А хто ведаў, што ты тут». І апусціў ён свой меч, склікаў баяр і расказаў ім [усё гэта]. Яны ж параілі яму: «Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, а аднаві яе

бацькаўшчыну і дай ёй са сваім сынам». І пабудаваў Уладзімер горад, аддаў яго ім і назваў гэты горад Ізяслаўлем. І з таго часу меч узнімаюць Рагвалодавы ўнукі супраць Яраслававых унукаў.

## АПОВЕСЦЬ ПРА УСЯСЛАВА ПОЛАЦКАГА

У год 1044... У той жа год памёр Брачыслаў, сын Ізяслава, унук Уладзімера, бацька Усяслава, і Усяслаў, сын яго, сеў на яго [княскім] стале [у Полацку]. Маці ж яго нарадзіла ад чарадзейства. Калі маці яго нарадзіла, на галаве яго была сарочка. І сказалі вешчуны яго маці: «Гэтую сарочку навяжы на яго, няхай носіць яе да смерці». І носіць яе на сабе Усяслаў і сёння, таму і нялітасцівы ён на крывапраліццё.

У год 1066. Прыйшоў Усяслаў і ўзяў Ноўгарад, з жанчынамі і дзецьмі, і званы зняў са святой Сафіі. О, вялікая бяда была ў той час!

У год 1067. Узняў раць у Полацку Усяслаў, сын Брачыслава, і заняў Ноўгарад. Трое ж Яраславічаў — Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад,— сабраўшы вояў, пайшлі на Усяслава ў люты мароз. І падышлі [яны] да Менску. І зачыніліся мяняне ў горадзе. Браты ж узялі Менск, перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей узялі ў палон і пайшлі да Нямігі. І пайшоў Усяслаў супраць іх. І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў 3-ці дзень, быў снег вялікі, і пайшлі адзін на аднаго. І была лютая сеча, і многія палеглі ў ёй, і перамаглі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, Усяслаў жа ўцёк.

Пасля гэтага месяца ліпеня ў 10-ы дзень Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, пацалаваўшы крыж святы Усяславу, сказалі яму: «Прыйдзі да нас, не ўчынім табе [нічога] злога». Ён жа, спадзеючыся на іх крыжацалаванне, пераехаў да іх у лодцы праз Днепр. Калі ж Ізяслаў увайшоў першы ў шацёр, тут схапілі Усяслава, на Ршы каля Смаленска, пераступіўшы крыжацалаванне. Ізяслаў жа, прывёўшы Усяслава ў Кіеў, пасадзіў яго і двух яго сыноў у турму.

У год 1068. Прыйшлі іншапляменнікі на Рускую зямлю, мноства полаўцаў. Ізяслаў жа, Святаслаў і Усевалад выйшлі супраць іх на Альту. І ноччу пайшлі адзін на аднаго. За грахі нашыя наслаў Бог на нас паганых, і пабеглі рускія князі, і перамаглі полаўцы.

...Калі Ізяслаў з Усеваладам пабеглі ў Кіеў, а Святаслаў у Чарнігаў, тады кіяўляне прыбеглі ў Кіеў, сабралі веча на рынку і паслалі да князя сказаць: «Вось полаўцы рассеяліся па ўсёй [Рускай] зямлі, дай, княжа, зброю і коней, і мы яшчэ паваюем з імі». Аднак Ізяслаў не паслухаў гэтага. І пачалі людзі наракаць на ваяводу Каснячка, пайшлі на гару з веча і прыйшлі на двор Каснячка і, не знайшоўшы яго, сталі ля двара Брачыслава і сказалі: «Пойдзем вызвалім дружыну сваю з турмы». І падзяліліся [яны] на дзве часткі: адна палова пайшла да турмы, а другая палова пайшла па мосце і прыйшла на княскі двор. Ізяслаў жа ў гэты час на сенях раіўся з дружынаю сваёю. І пачалі спрачацца з князем [людзі], стоячы ўнізе.

Калі князь глядзеў з акна, а дружына стаяла ля яго, сказаў Ізяславу Тукі, брат Чудзіна: «Бачыш, княжа, людзі загулі, пашлі, няхай Усяслава павартуюць». І пакуль ён гэта казаў, другая палова людзей прыйшла ад турмы, адкрыўшы яе. І сказала дружына князю: «Злое ўчынілася; пашлі да Усяслава, няхай, паклікаўшы падманам да акна, праткнуць яго мечам». І не паслухаў гэтага князь. Людзі ж закрычалі і пайшлі да турмы Усяслава. Ізяслаў жа, убачыўшы гэта, пабег з Усеваладам з двара. Людзі ж вызвалілі Усяслава з турмы ў 15-ы дзень верасня і праславілі яго пасярод княскага двара. Двор жа княскі разграбілі, безліч золата і срэбра, у манетах і злітках. Ізяслаў жа ўцёк да ляхаў.

...Усяслаў жа сеў у Кіеве. Гэтым Бог паказаў сілу крыжа, таму што Ізяслаў цалаваў крыж, а пасля схапіў яго (Усяслава), з-за гэтага і наслаў Бог паганых. Усяслава ж яўна выратаваў святы крыж, бо ў дзень Узвіжання Усяслаў, уздыхнуўшы, сказаў: «О святы крыжу! Я верыў у цябе, таму ты і выбавіў мяне з гэтай турмы». Бог жа паказаў сілу крыжа дзеля навукі зямлі Рускай, каб не пераступалі святога крыжа, пацалаваўшы яго; калі ж хто пераступіць, то і тут (на зямлі) будзе пакараны і ў будучым прыме кару вечную. Вялікая сіла святога крыжа: крыжам бываюць пераможаны сілы д'ябальскія, крыж князям у бітвах дапамагае, крыж аберагае ў бітвах, веруючыя перамагаюць супастатаў, крыж хутка ратуе ад напасцяў тых, хто просіць яго дапамогі веруючы. Нічога не баяцца чэрці, толькі крыжа. Калі з'яўляюцца д'ябальскія прывіды, то, перахрысціўшыся, іх праганяюць. Усяслаў жа сядзеў у Кіеве сем месяцаў.

У год 1069. Пайшоў Ізяслаў з Баляславам на Усяслава,

Усяслаў жа выступіў насустрач. І прыйшоў Усяслаў да Белгарада, ноччу ж ён патаемна ад кіяўлян уцёк з Белгарада ў Полацк... Ізяслаў жа выгнаў Усяслава з Полацка і пасадзіў свайго сына Мсціслава; ён жа неўзабаве памёр там. І пасадзіў [Ізяслаў у Полацку] на яго месца яго брата Святаполка, Усяслаў жа ўцёк.

У год 1071... У той жа год выгнаў Усяслаў Святаполка з Полацка. У той жа год перамог Яраполк Усяслава каля Галацічаска.

У год 1101. Памёр Усяслаў, князь полацкі, месяца красавіка ў 14-ты дзень, у дзевяць гадзін дня, у сераду.

## «КНЯЗІ НА СЯБЕ САМІ КРАМОЛУ КАВАЛІ»

У год 1116. Прыходзіў Уладзімер [Манамах] на Глеба [Усяславіча], бо Глеб ваяваў дрыгавічоў і Слуцк папаліў і не каяўся аб учыненым, не скарыўся, а [яшчэ] болей на Уладзімера гаварыў, дакараючы яго. Уладзімер жа, спадзеючыся на Бога і на праўду, пайшоў к Смаленску са сваімі сынамі і з Давыдам Святаславічам і з Ольгавічамі. І ўзяў Вячаслаў Оршу і Копысь, а Давыд з Яраполкам здабылі Друцк. Сам жа Уладзімер пайшоў к Менску. І зачыніўся Глеб у горадзе. Уладзімер жа пачаў ставіць хату ў сваім стане насупраць горада. Калі Глеб убачыў гэта, то яго апанаваў страх. І пачаў ён прасіць літасці ў Уладзімера, шлючы [да яго] сваіх паслоў. Уладзімер жа зжаліўся, што кроў пральецца ў дні вялікага посту, і даў яму мір. Глеб жа выйшаў з горада з дзецьмі і з дружынаю пакланіцца Уладзімеру, і гаварылі яны прамовы пра мір. І абяцаў Глеб ва ўсім слухацца Уладзімера. Уладзімер жа, супакоіўшы і строга папярэдзіўшы Глеба, даў яму Менск, а сам вярнуўся ў Кіеў. Яраполк жа пабудаваў горад Жэлдзі для檢 дручан, якіх паланіў.

У год 1119. Уладзімер узяў Менск у Глеба Усяславіча, а яго самога прывёў у Кіеў. У той жа год памёр у Кіеве Глеб Усяславіч 13-га верасня.

У год 1127. У той жа год паслаў князь Мсціслаў сваіх братоў на крывічоў чатырма шляхамі: Вячаслава з Турава, Андрэя з Уладзімера, Усеваладка з Гародні, Вячаслава Яраславіча з Клецка — гэтым загадаў ісці к Ізяслаўлю, а Усеваладу Ольгавічу загадаў ісці са сваімі братамі на Стрэжаў к Барысаву, Івана Вайцішыча паслаў з торкамі, сына ж свайго Ізяслава з Курска са сваім атрадам паслаў

на Лагожск, а другога сына свайго Расціслава паслаў са смалянамі на Друцк. І сказаў [ён] ім у адзін і той жа дзень, 11 жніўня, усім пачаць напад. Ізяслаў жа пачаў на дзень раней, чым браты, пераняў людзей ад горада, яны спалохаліся і здаліся [яму]. Ізяслаўцы ж пачалі біцца з Вячаславам і Андрэем. Ізяслаў, пачакаўшы два дні каля Лагожска, пайшоў к Ізяслаўлю да свайго дзядзькі, ведучы з сабою і Брачыслава, зяця свайго, які пайшоў быў да свайго бацькі, але на паўдарозе збаяўся і не мог ісці ні наперад, ні назад, і прыйшоў да свайго швагра, і лагажан прывёў, што быў вывеў з Лагожска. Ізяслаўцы, убачыўшы князя свайго і лагажан, якіх без шкоды захапілі, здаліся Вячаславу, сказаўшы [яму]: «Пакляніся Богам, што не аддасі нас на разрабаванне». Вечарам Варацілаў Андрэеў, тысяцкі, і Іванка Вячаславіч паслалі сваіх отракаў у горад і так на світанні, увёўшы сваіх вояў, здабылі Ізяслаўль, ледзьве Мсціслаўны набытак збераглі, з вялікай цяжкасцю б'ючыся. І так вярнуліся дамоў з багатым палонам. Пасля і ноўгарадцы прыйшлі з Усеваладам Мсціславічам і Неключу. І тады палачане, змовіўшыся, выгналі Давыда з сынамі, узялі Рагвалода Усяславіча і пайшлі з ім да Мсціслава, просячы ўзяць яго за князя. І выканаў іх волю Мсціслаў. Узялі яны Рагвалода і павялі ў Полацк.

У год 1129. У той жа год саслаў Мсціслаў полацкіх князёў з жонкамі і з дзецьмі ў Грэцыю за тое, што пераступілі крыжацалаванне.

У год 1139. У той жа час вярнуліся з Царграда два [полацкія] княжычы, якіх саслаў быў Мсціслаў, вялікі князь кіеўскі, за тое, што не пакарыліся яму і не паслухалі яго, калі клікаў іх у Рускую зямлю на дапамогу, і, больш таго, жадалі здароўя шалудзіваму Баняку. І з-за гэтага раззлаваўся на іх Мсціслаў і хацеў на іх пайсці, але нельга было, бо тады [моцна] былі налеглі полаўцы на Русь. І калі Мсціслаў вызваліўся ад раці, успомніў ён ранейшае і паслаў па крывіцкіх князёў, па Давыда, Расціслава, Святаслава і двух Рагвалодавічаў (Васіля і Івана), пасадзіў іх у тры лодкі і саслаў у Царград за непаслушэнства, а сваіх мужоў пасаджаў па іх гарадах.

У год 1143. У той жа год прывёў Усевалад, вялікі князь кіеўскі, свайму сыну Святаславу [за жонку] Васількаўну, [дачку] полацкага князя.

У год 1144. У той жа год Ізяслаў [Мсціславіч] аддаў сваю дачку ў Полацк за Рагвалода Барысавіча, і Усевалад, князь кіеўскі, прыходзіў з жонкаю і з усімі баярамі на

вяселле. У той жа год прызначылі Полацку епіскапам Кузьму.

У год 1151. У той жа год схапілі палачане Рагвалода Барысавіча, князя свайго, і паслалі ў Менск і там трымалі [яго] ў цяжкай няволі, а [Расціслава] Глебавіча прывялі да сябе [у Полацк]. І прыслалі палачане [сваіх паслоў] да Святаслава Ольгавіча, выказваючы сваю дружалюбнасць, і абяцалі слухацца яго, як бацьку, і крыж яму цалавалі.

У год 1158. У той жа год ідзе Рагвалод Барысавіч ад Святаслава Ольгавіча [князя чарнігаўскага] шукаць сабе воласці, узяўшы [на падмогу] полк Святаславаў, бо не літасцівы былі браты яго: [яны] адабралі ў яго воласць і ўвесь набытак. Прыехаўшы к Слуцку, ён паслаў [сваіх пасланцоў] да driучан. Дручане ж былі рады яму і, прыязджаючы да яго, вабілі да сябе [у Друцк], гаворачы: «Прыязджай, княжа, не марудзь, рады мы табе: нават калі нам з дзецьмі [сваімі давядзецца] біцца за цябе, з радасцю будзем біцца». І выехалі насустрач яму больш 300 дручан і палачан, і ўвайшоў [Рагвалод] у горад [Друцк] з вялікай пашанаю, і рады былі яму людзі. Глеба ж Расціславіча выгналі і двор яго разрабавалі і дружыну яго, і прыйшоў Глеб да [свайго] бацькі [у Полацк].

Вялікі мяцеж быў [тады] у горадзе сярод палачан, бо многія хацелі Рагвалода. Ледзьве супакоіў людзей Расціслаў, адарыў многіх падарункамі, прыводзіў іх да крыжа [цалаваць], а сам пайшоў з Усеваладам і Валадаром і з усімі братамі на Рагвалода к Друцку. Рагвалод жа закрыўся ў горадзе. І моцна біліся, і шмат з абодвух бакоў палегла. Дручане ж шмат дакаралі [братоў]. І ўчыніў мір Расціслаў з Рагвалодам, і цалавалі яны крыж адзін аднаму, і аддалі воласці Рагвалоду. І вярнуўся Расціслаў з братамі дамоў [у Полацк].

У тое ж лета ўчынілі змову палачане супраць свайго князя Расціслава Глебавіча і пераступілі крыжацалаванне, бо яны [раней] цалавалі яму крыж, [гаворачы], што «ты наш князь і дай нам Бог з табою пажыць, ніякай здрады не ўчыніць аж да крыжацалавання». І так адступілі [ад прысягі на крыжы], як я казаў, і паслалі патаемна да Рагвалода Барысавіча ў Друцк, гаворачы яму: «Княжа наш, саграшылі мы перад Богам і перад табою, што выступілі супраць цябе без прычыны, набытак твой увесь і тваёй дружыны разрабавалі, а цябе самога, схапіўшы, выдалі Глебавічам на вялікія пакуты. Калі ж ты не прыпомніш нам усё тое, што мы, неразумныя, табе ўчынілі, і крыж нам

пацалуеш, то мы людзі твае, а ты наш князь. Расціслава ж, схапіўшы, аддамо табе ў рукі, і што ты захочаш, тое і зробіш з ім». І Рагвалод прысягнуў [палачанам] на крыжы, што ён не прыпомніць ім усё тое [дрэннае, што яны яму ўчынілі], і адпусціў іх назад.

Сярод палачан былі прыхільнікі Расціслава, [яны паведамілі яму], што яго хочуць схапіць. І пачалі [палачане] ліслівa клікаць Расціслава на братчыну да старой [царквы] святой Багародзіцы на Пятроў дзень, каб там схапіць яго. Ён жа паехаў да іх, схаваўшы зброю пад адзенне, і не пасмелі [змоўшчыкі] напасці на яго. Назаўтра [зноў] пачалі яго вабіць да сябе, гаворачы: «Княжа, прыедзь да нас, ёсць у нас да цябе [важная] справа, прыедзь жа да нас у горад» (быў тады князь у Бельчыцах). І сказаў Расціслаў паслам: «Я ж учора ў вас быў, чаму не гаварылі мне, што ў вас была да мяне справа?» І нічога не падазраючы, паехаў [Расціслаў] у горад. І тут паімчаў з горада яму насустрач слуга: «Не едзь, княжа, веча [сабралася] супраць цябе ў горадзе і дружыну тваю збіваюць, а цябе [самога] хочуць схапіць». І тады вярнуўся [Расціслаў] назад у Бельчыцы, сабраў усю сваю дружыну і адтуль пайшоў да брата [свайго] Валадара ў Менск. І шмат шкоды ўчыніў [ён] Полацкай воласці ваюючы, [забіраючы] скаціну і чэлядзь. І паслалі палачане па Рагвалода ў Друцк. І увайшоў Рагвалод у Полацк месяца ліпеня [8-га дня] і сеў на [княскім] стале дзеда свайго [Усяслава] і бацькі свайго [Барыса] з вялікай пашанаю, і так былі рады палачане.

Пасля Рагвалод сабраў шмат вояў палачан, і Расціслаў Мсціславіч [князь смаленскі] прыслаў яму двух сыноў на дапамогу, Рамана і Рурыка, і смалян, ноўгарадцаў і пскавічан, ды і сам [Расціслаў] пайшоў бы, але [яго] вярнуў [назад] Аркадзь, епіскап ноўгарадскі, ідучы з Кіева. І пайшлі [усе] на Расціслава [Глебавіча] к Менску. Спачатку прыйшлі да [горада] Ізяслаўля на Усевалада. Усевалад жа зачыніўся ў Ізяслаўлі, і аблажылі горад. Усевалад вельмі любіў Рагвалода і, на тую любоў спадзеючыся, выехаў яму пакланіцца. Рагвалод жа аддаў [горад] Ізяслаўль Брачыславу, а Усеваладу даў Стрэжаў. І адтуль пайшоў [Рагвалод] на Менск, і стаяў каля горада 10 дзён, і ўчыніў мір з Расціславам, і крыж цалавалі. Валадар жа не цалаваў крыж, бо [ён] хадзіў [тады] па лясах каля Літвы.

У год 1159. У той жа год Глебавічы Валодшу і Бра-

чыслава паланілі ў Ізяслаўлі і пасадзілі Валодшу ў цямніцу, а Брачыслава закавалі.

У год 1159. У той жа год хадзіў Рагвалод з палачанамі на Расціслава Глебавіча к Менску. Паслаў Рагвалоду Расціслаў [Мсціславіч] з Кіева падмогу — 600 торкаў [на чале] з Жыраславам Нажыравічам; але яны, змораныя голадам, вярнуліся пехатою назад, не дачакаўшыся міру. Рагвалод жа прастаяў каля горада 6 тыдняў і ўчыніў мір з Расціславам па сваёй волі, вызвалiў Валодшу з цямніцы, а Брачыслава з аковаў, і цалавалі [яны] крыж адзін аднаму.

У год 1160. У той жа год хадзіў Рагвалод к Менску на Расціслава Глебавіча і ўчыніў з ім мір і вярнуўся дамоў.

У год 1161. У той жа год прыходзіў Рагвалод з палачанамі на Валадара к Гарадку. Валадар жа не ўступіў з ім у бой днём, а ноччу [раптоўна] напаў на яго з горада разам з літоўцамі. І шмат бяды ўчынілася ў тую ноч: адных [палачан] забілі, а большасць рукамі палавілі. Рагвалод жа ўцёк у Слуцк і, прабыўшы там тры дні, пайшоў у Друцк, а ў Полацк не пасмеў вярнуцца, бо вельмі шмат загінула палачан. Палачане ж пасадзілі ў Полацку [Усяслава] Васількавіча.

У год 1166. У той жа год хадзіў Валадар Глебавіч к Полацку ваяваць. Васількавіч жа Усяслаў пайшоў супраць яго з палачанамі. Валадар жа, уведаўшы, што ідуць супраць яго, не даў ім злучыцца і ўдарыў па іх знянацку і шмат іх пабіў, а іншых рукамі палавіў. Усяслаў жа ўцёк у Віцебск. Валадар жа ўвайшоў у Полацк, цалаваў крыж з палачанамі і пайшоў к Віцебску на Давыда [Расціславіча] і на Усяслава. Прыйшоўшы, [ён] спыніўся ля рakі, і пачалі біцца праз раку. Давыд жа не ўступіў з ім у бойку, бо чакаў брата свайго Рамана са смалянамі. І тут дзіва здарылася апоўначы: моцны гул пачуўся, быццам бы воі пераходзяць раку. І страх напаў на вояў Валадаравых, і сказала яму [яго] дружына: «Што стаіш, княжа, не ідзеш прэч; вось тут Раман пераходзіць раку, а там Давыд». І пабег Валадар з-пад Віцебска. Назаўтра Давыд, убачыўшы, што Валадар уцёк, пусціў за ім пагоню, і не дагналі іх, але па лесе шмат палавілі; Усяслава ж паслаў у Полацк.

У год 1181. Змовіліся Яраслаў з Ігарам і пайшлі к Друцку, узяўшы з сабою полаўцаў, а Усевалада, брата Ігара, і Алега Святаславіча пакінулі ў Чарнігаве. На стрэчыны (2-га лютага) прыйшлі і полацкія князі, каб

памагчы Святаславу: Брачыслаў Васількавіч з Віцебска, яго брат Усяслаў з палачанамі, з імі ж былі лівы і літоўцы, Усяслаў Мікуліч з Лагожска, Андрэй Валодшыч і яго пляменнік Ізяслаў і Васілька Брачыславіч. Калі ўсе сабраліся, пайшлі міма Друцка насустрач Святаславу. Давыд жа, князь смаленскі, з усім сваім войскам увайшоў у Друцк і злучыўся з Глебам Рагвалодавічам. І хацеў Давыд Яраславу і Ігару даць бой да [прыходу] Святаслава. Яраслаў жа з Ігарам не рашыліся пачаць бітву з Давыдам без Святаслава. Выбраліся яны на сухія мясціны і стаялі тыдзень абапал Друці насупраць адзін аднаго. Ад Давыдавага войска прыязджалі стральцы, і моцна з імі біліся [нашы]. Затым прыехаў Святаслаў з ноўгарадцамі, і рады былі яму яго браты. Перагацілі Друць, збіраючыся ісці на Давыда, аднак ён зняўся ноччу і ўцёк у Смаленск. Святаслаў жа падступіў да Друцка і спаліў астрог; адтуль адпусціў [дамоў] ноўгарадцаў, сам жа пайшоў да Рагачова, а [illegible] Рагачова паехаў па Дняпры да Кіева.

У год 1186. У той жа год зімою пайшоў на Полацк Давыд Расціславіч са Смаленска, а сын яго Мсціслаў з Ноўгарада, з Лагожска Васілька Валадаравіч, з Друцка Усяслаў. Уведаўшы [пра гэта], параіліся палачане і сказалі: «Не можам мы выступіць супраць ноўгарадцаў і смалян, бо калі пусцім іх у сваю зямлю і нават мір заключым з імі, то яны [усё роўна] шмат бяды нам наробяць, спустошаць нашу зямлю, ідучы да нас, пойдзем [лепш] да іх на сумежжа». І пайшлі да іх, і сустрэлі іх на пагранічы з паклонам і з пашанаю, і паднеслі шматлікія падарункі, і [так усё] уладзілася. І разышліся кожны ў свой бок.

## Францішак Скарына

# НАПІСАНА ГЭТАЯ КНІГА ДВАІСТА[1]

### 1

Біблія — слова,
узятае з грэцкай мовы,
і азначае,

[1] Падборка ўзята з «Кнігі вершаў», якую ўклаў Алесь Разанаў. Яна ўяўляе сабой своеасаблівую рэканструкцыю, паэтычнае і філасофскае ўзнаўленне, перастварэнне тэкстаў прадмоў, пасляслоўяў, казанняў, акафістаў, іншых твораў з літаратурна-перакладчыцкай спадчыны «доктара Францыска, Скарыніна сына з слаўнага горада Полацка». *(Заўвага ўклад.)*

калі яго перакласці: кніга.
Напрыклад, святы Мацвей
кнігаю радаводу
Ісуса Хрыста
пачынае Хрыстова Евангелле:
у ім
першы радок па-грэцку
так і чытаецца:
«Біблос генесеос Ісу Хрысту».

2

Гэтая назва таксама
стасуецца да ўсяго
Святога Пісьма — да кніг,
якія змяшчае
у зборы сваім Стары
і Новы Закон:
праз вартасць,
ім уласцівую, і яна
сама набывае адметную вартасць
і адмысловы сэнс.

3

Піша пра гэтую кнігу
евангеліст, спадарожца Хрыстовы,
у сваім аб'яўленні:
«І бачыў
я ў правай руцэ
у Таго, Хто сядзіць на пасадзе,
кнігу,
напісаную знутры
і знадворку».

4

І праўда,
напісана гэтая кніга двойчы:
знутры для тых,
хто мае духоўныя вочы
і можа ўбачыць
вялікія Божыя таямніцы,
што запячатаны ў ёй.

Апостал Павел уражваецца:
«О, бяздонне
багацця і ведаў
і мудрасці Божай!
Як неспасціжны яго суды
і як неспаследны яго дарогі!»

## 5

Для ўсіх астатніх
напісана гэтая кніга знадворку,
каб не адны дактары
і людзі вучоныя ў ёй разумеліся,
а каб усякі
зямны чалавек, што будзе
яе чытаць альбо слухаць,—
добра
змог зразумець, што трэба
рабіць для збавення душы.

## 6

Сам Збаўца
сведчыць, гаворачы:
«Ойча,
Госпадзе неба й зямлі,
уславўляю цябе,
што гэта
схаваў ты ад мудрых і ад разумных,
а дзецям малым адкрыў».

## 7

Адмыслова
пра гэтую кнігу піша
Грыгоры Вялікі,
настаўнік усечалавечы:
«Святое Пісанне пераўзыходзіць
іншыя ўсе навукі,
бо пад звычайнымі словамі
зберагае
вялікія таямніцы».

## 8

Гэтая кніга
дзецям і простым людзям —
навука,
а мудрацам і вучоным —
дык дзіваванне.
Яна, як рака цудадзейная,
адначасова
плыткая —
можна па ёй і дзіцяці брысці —
і незвычайна глыбокая —
слон плысці мусіць.

## 9

У гэтай кнізе
пачатак і завяршэнне
усёй чалавечай мудрасці:
Бог-уладар
у ёй адкрываецца для спазнання,
і ўсе законы,
якімі людзі
у жыцці кіравацца мусяць,
напісаны ў ёй,
і ўсе лекі,
якія гояць душу
і ацаляюць цела,
у ёй сабраны.

## 10

Тут — філасофія,
што падымае
пытанне
і на пытанне шукае адказу:
як маеш
дзеля самога сябе
любіць Бога
і блізкага — дзеля Бога.

## 11

Тут — права і правіла
для ўсялякай

людской грамады і ўсялякай
людской сялібы,
каб людзі,
якія ўваходзяць у грамаду
і насяляюць сялібу,
дбала
супольнаю згодаю,
вераю
і любоўю
дабро паспалітае памнажалі.

## 12

Сем вызваленых навук
тут маюць сваё карэнне
і ўвасабленне сваё,
і калі ты хочаш
валодаць граматыкай,
ці папросту
кажучы, граматай,
каб адмыслова
умець чытаць,
гаварыць
і пісаць,—
спаткаеш
увогуле ў Бібліі ўсёй,
і ў Псалтыры прынамсі,
належныя ўзоры.

## 13

Калі ты хочаш
спаразумецца ў логіцы,
што навучае
адрозніваць праўду ад крыўды
пры дапамозе
доказаў і развагаў,
тады чытай
кнігу святога Іова
ў Законе Старым,
а ў Законе Новым —
пасланні святога апостала Паўла.

## 14

Ну а калі
надумаешся практыкавацца
ў рыторыцы, што інакш
называецца красамоўства
і вучыць
прыгожа і складна
перад людзьмі прамаўляць,—
чытай
Саламонавы кнігі.
Разам
гэтыя тры навукі —
граматыка, логіка і рыторыка
прыналежаць
да слоўных навук.

## 15

Калі ж вабіць
душу тваю музыка —
ці, інакш, пеўніца,
альбо гудзьба —
знойдзеш усцяж у кнізе
вялікае мноства
вершаў натхнёных
і песняў святых, якімі
усцешаны будзеш.

## 16

Калі ж у цябе
наўме арыфметыка,
каб навучыцца
хутка і непамыльна лічыць —
чытай
чацвёртую кнігу Майсееву:
мае
яна адпаведную назву —
«Лічбы».

## 17

Калі даспадобы
тваім вачам

геаметрыя — ці навука,
якая інакш называецца землямер'е,—
глядзі
кнігу Ісуса Навіна.

18

Калі ж займае твой розум
і вабіць твой позірк звяздарства,
ці астраномія,—
у гэтай кнізе
знойдзеш багата
сведчанняў і назіранняў:
так, на пачатку кнігі Быцця
пішацца пра стварэнне
сонца,
месяца,
зорак,
а ў кнізе Ісуса Навіна
гаворыцца, як стаяла
сонца на месцы адным нерухома
і не магла настаць ноч.

19

Натрапіш
у кнізе Царстваў на роспаведзь,
як адступіла
сонца па Божым загадзе
на колькі ўступцаў назад,
а ў Святым
Евангеллі знойдзеш звестку
пра новую зорку,
якая заззяла ярка,
калі нарадзіўся наш Збаўца
Ісус Хрыстос.

20

Далібог,
чытаючы гэтыя звесткі,
роспаведзі,
назіранні,
урэшце, больш дзівавацца мусіш

моцы бязмернай Божай,
чым навучыцца.
А гэта ў зборы —
сем вызваленых навук,
пра якія
я скоратку распавёў.

## 21

Калі ж маеш
ахвоту ўведаць
пра справы ваярскія
і волатаўскія ўчынкі —
чытай
Макавейскія кнігі
і кнігу Суддзяў:
у іх адшукаеш
выдатнейшае ваярства
і справядлівейшае валатоўства,
чым нават у «Трої»,
чым нават у «Александрыі».

## 22

Калі захочацца распазнаць,
што было на зямлі
у колішнія часы,
якія людзі жылі,
што рабілі,
што мелі мэтай —
чытай
кнігі летапісу «Параліпаменон».
У іх, пачынаючы ад Адама,
самага першага чалавека,
і завяршаючы Седэкіяй,
апошнім царом Іудзейскім,
распавядаецца —
род за родам —
пра чалавечы шлях.

## 23

Калі ж ты аматар вучонасці,
любіш мудрасць

і добрыя норавы паважаеш,
вазьмі,
разгарні
і чытай
кнігу Ісуса Сірахава
і «Прыпавесці» Саламона.

24

Але перш за ўсё
мы, хрысціяне, прагнем
справы збавення
і ставім навуку Хрыстову
вышэй за ўсё іншае,
ведаем бо,
што ўсе справы
і ўсе навукі,
якімі багаты свет,
немінуча
мінаюць разам з уявай свету.

25

Чытайма ж, браты, заўсёды
Святое Евангелле
і пераймайма, чытаючы, справы
Нашага Збаўцы Ісуса Хрыста!
І гэтак, з яго дапамогай,
увойдзем
у вечнажывое жыццё
і ў Нябеснае Царства,
што ўгатавана
абранцам Божым.

## «МЫ, МУЖИ ПОЛОЧЯНЕ, ДАЕМЪ ВЕДАТИ...»

***(Старажытныя беларускія граматы)***

*У пісьмовай спадчыне нашых продкаў, створанай у перыяд фарміравання і развіцця беларускай народнасці, асобае месца займаюць помнікі справаводства. Гэта разнавіднасць пісьменнасці, найбольш блізкая па мове да жывой народнай гаворкі таго часу, дайшла да нас у выглядзе*

*шматлікіх грамат, дагавораў, судзебнікаў, статутаў, прывілеяў, інвентарных вопісаў, актавых матэрыялаў судоў, гарадскіх упраў і магістратаў, узораў дыпламатычнай і прыватнай перапіскі.*

*Сярод самых ранніх справаводных дакументаў вылучаецца разрад грамат і дагавораў, якія адлюстроўваюць гандлёвыя зносіны Полацка, Віцебска і Смаленска з прыбалтыйскімі немцамі. У ліку іх Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г., Дагаворная грамата літоўскага князя Гердэня з Рыгай, Полацкам і Віцебскам 1264 г., Дагаворная грамата полацкага князя Ізяслава з Рыгай 1265 г., Грамата полацкага епіскапа Якава рыжскаму епіскапскаму намесніку аб гандлі хлебам каля 1300 г. Яны сведчаць, што ўжо ў XIII ст. камерцыйная справа ў паўночна-ўсходніх беларускіх гарадах дасягнула высокага ўзроўню, а іх узаемаадносіны з прадстаўнікамі іншых народаў адбываліся на раўнапраўных умовах.*

*Гандлёвыя кантакты беларускіх купцоў з заходнімі суседзямі працягваліся і ў наступным стагоддзі (сведчаннем могуць служыць, напрыклад. Дагаворная грамата полацкага князя Глеба з Рыгай каля 1340 г., Грамата вялікага князя літоўскага Вітаўта рыжскаму гарадскому савету з патрабаваннем аплаціць гандлёвыя страты палачанам 1397 г., Даравальная грамата вялікага князя літоўскага Вітаўта рыжскаму бургамістру на свабодны гандаль рыжан у Полацку 1399 г. і, нарэшце, такі важны дакумент, як Гандлёвы дагавор Полацка з Рыгай 1407 г.), але па-сапраўднаму беларускае купецтва ўключылася ў міжнародны гандаль толькі пасля разгрому нямецкіх рыцараў пад Грунвальдам (1410).*

*У гэты час для актыўных міжнародных гандлёвых зносін стварыліся і іншыя спрыяльныя ўмовы. На тэрыторыі Беларусі хутка раслі гарады. У большасці з іх развіліся рамёствы, сфарміравалася мяшчанскае саслоўе. Гарады і некаторыя буйныя мястэчкі сталі цэнтрамі лакальных рынкаў. Узніклі цэхі і купецкія арганізацыі, развіліся таварна-грашовыя адносіны. Многія купцы заняліся выключна замежным гандлем. З беларускіх зямель вывозіліся мёд, воск, футра, рамесныя вырабы, прадукты сельскай і лясной гаспадаркі. З заходнееўрапейскіх краін беларускія і замежныя купцы ўвозілі тканіны, адзенне, абутак, зброю, прадметы раскошы, вырабы з металу і шкла, соль, розныя гатункі він, прыправы і фрукты. Разам з прывазнымі тава-*

*рамі замацоўваліся і іх арыгінальныя назвы, што садзейнічала ўзбагачэнню слоўнікавага складу беларускай мовы.*

*Дагаворныя, дарчыя, духоўныя, ахоўныя, арэндныя, купчыя, пацвярджальныя, укладныя, устаўныя і іншыя граматы, напісаныя ў старажытнасці на тэрыторыі Полаччыны і Віцебшчыны, а таксама многія дакументы, якія паходзілі з вялікакняжацкай канцылярыі, з'яўляюцца каштоўнай крыніцай і для вывучэння ўнутранага жыцця гэтых зямель. У іх ахарактарызаваны сацыяльна-эканамічныя працэсы, што адбываліся тут на працягу XIII — XV стст., адлюстравана палітыка князёў і феадальнай знаці, паказана маёмаснае становішча і ўзаемаадносіны розных грамадскіх слаёў, пададзены звесткі аб асобных беларускіх гарадах, вёсках, маёнтках, манастырах, аб культурным узроўні, коле заняткаў і паўсядзённым быце сялян і мяшчан, рамеснікаў і духавенства, прадстаўнікоў заможных класаў.*

*Многа цікавага знойдзе ў даўніх граматах гісторык, эканаміст, этнограф, фалькларыст, мовавед, пісьменнік. Так, напрыклад, з Граматы караля Уладзіслава князю Скіргайлу на Троцкае, Мінскае і Полацкае княжанне, дадзенай у 1387 г., мы даведваемся, што ў канцы XIV ст. цяперашняя сталіца нашай рэспублікі называлася не Мінск, а Менеск, горад Бабруйск фіксаваўся ў пісьменнасці (і, відаць, і вымаўляўся) як Бобрўеск, Лагойск меў форму Логожеск, Полацк выступаў у варыянтах Полоцк і Полтеск, Каўнас і Тракай мелі назву Ковно і Трокі. А з Прывілея вялікага князя літоўскага Аляксандра, датаванага 1498 годам, вынікае, што Полацк услед за Брэстам, Слуцкам і Гродна (прывілеі па гэтых гарадах датуюцца адпаведна 1390, 1441 і 1496 гг.) атрымаў магдэбургскае права, паводле якога гараджане вызваляліся ад феадальных павіннасцей, ім гарантаваліся свабодныя заняткі рамяством, гандлем, земляробствам і дазвалялася выбіраць свой орган улады — магістрат, суд, ствараць рамесныя аб'яднанні — цэхі.*

*Ніжэй змяшчаюцца найбольш характэрныя беларускія справаводныя дакументы XIII — XV стст. з захаваннем тагачаснай арфаграфіі, але сучаснымі графічнымі сродкамі.*

## ДАГАВОРНАЯ ГРАМАТА ЛІТОЎСКАГА КНЯЗЯ ГЕРДЭНЯ З РЫГАЙ, ПОЛАЦКАМ І ВІЦЕБСКАМ 1264 г.

Князь Герденъ кланяеться всемь темь, кто видить сую грамоту, тие люди, што ныне живи суть, а темь, кто напосле приидуть, темь ведомо буди, какъ миръ есмы створили промежи местеря и с ратьманы рижьскыми, и с полочаны и видьбляны тако, како грамота написано, тако имъ надо всею землею отступити, што есть Лотыгольская земля, какъ не въступатися на тую землю, што князь Костянтинъ далъ местерю съ своею братьею, съ своею грамотою и съ печатью, како боле того на ту землю не поискывати. Верху того, про ту пакость, што ся в розмирьи створило, какъ имъ отъ обою сторону отступити, што руськая земля словеть Полочькая, отъ тое земли местерю и братьи его отступити с всею правдою. Верху того, немечькому гостю в Полочьскую волно ехати торговати, купити и продати, тако ж полочаномъ и видиблянину волно гостити в Ригу и на Готьскы берегъ. А где будеть кто кому виноватъ, в томь городе правити, где тотъ человекъ живеть, инде судъ ему не искати, в которой волости человекъ извиниться, ту ему правда дати, или вина его. А старому миру стояти князя Герденя, князей тыхъ и кто по немъ будеть. Што поклепани на резне и што словеть Лотыгольская земля, отъ того ся отступили с всею правдою местерь, также братья его, отступили, што словеть Полочьская земля, со всею правдою.

Сию грамоту тогды напсана ■ Ризе, коли богъ былъ 1000 летъ, и 200 летъ, и 60 летъ, и 4 летъ по роженьи божии за три дни.

(Рыжскі гарадскі архіў, ф. 673, № 4)

## ГРАМАТА ПОЛАЦКАГА ЕПІСКАПА ЯКАВА Ў РЫГУ КАЛЯ 1300 г.

Поклонъ и благословленье отъ Якова, епискупа полотьского, бровстови наместьнику пискуплю ■ детемъ моимъ ратманомъ.

Былъ есмь не дома, во отьца своего митрополита, а ныне есмь на своемь месте, оу Святое Софье. А ныне есмь оуведалъ: любовь ваша правая съ сыномъ моимъ с Вите-

у грыдніцы Святаслававай.
Тут немцы і венедзіцы,
тут грэкі і маравы
пяюць славу Святаславу,
каюць князя Ігара,
што на́быці, а нямала патапіў на дне Каялы,
ракі Палавецкай,
рассыпаў золата рускае.
Тут Ігар-князь перасеў з сядла залатога
у сядло нявольніцкае.
І ад стогну засмуціліся ў гарадоў забаролы,
а весялосць маркота забрала.

*

А Святаслаў мутны сон бачыў
у Кіеве на горах.
«У гэтую ноч звечара мяне апраналі,— гаворыць,—
чорным акрывалам
на ложы цісавым;
чэрпалі мне сіняе віно,
змяшанае з горам;
з пустых калчаноў паганцаў
буйным жомчугам абсыпалі мяне
і ласкаю суцяшалі.
Ужо без князька дошкі
у маім залатаверхім цераме.
Усю ноч звечара
ля Плесеньска на балоні граялі вароны шэрыя
і крылялі з-пад лесу да сіняга мора».
І князю бая́ры сказаць схацелі:
«Ужо твой розум запала́ніла гора,
бо гэта два сокалы зляцелі
з прастолу бацькоўскага залатога
здабыць Тмутараканя-горада,
альбо напіцца шаломам з Дону.
Ужо сакалам паганых шаблі
крылкі падсеклі без жалю,
а саміх спуталі жалезнымі путамі.
Бо цёмна было ў трэці дзень:
два сонцы прыцьмелі,
абодва барвяныя слупы пагаслі,
і з імі два маладзікі ясныя
цемраю завалакліся
і ў мора абнізіліся,

і вялікую дзёрзкасць паганцам дазволілі.
На рацэ на Каяле цемра над святлом сілу займела —
па Рускай зямлі распасцерліся полаўцы,
    быццам гайно гепардаў.
Ужо на славу апала пагарда;
Ўжо насела сіла на волю;
Ўжо дзіў зямлю разбудзіў.
Бо гоцкія красныя дзевы
на беразе сіняга мора запелі:
звонячы золатам рускім,
часіну ўслаўляючы Бусаву,
пялегваючы помсту за Шарукана.
А ўжо нам, дружына, няма весялосці.

Тады вялікі Святаслаў
сказаў залатое слова, са слязамі змяшанае:
«О сыноўча мае, Ігару і Ўсеваладзе!
Рана вы пачалі зямлю Палавецкую
    мечамі цвяліць,
    а сабе славы шукаць.
Ды не па чэсці адолець змаглі,
не па чэсці кроў пралілі.
Харобрыя вашыя сэрцы
    з цвярдога булата каваны
    і ў смеласці гартаваны.
Што ж нарабілі вы з маёй срэбранай сівізною?
А ўжо не бачу ўлады
    магутнага,
    ды багатага,
    ды мнагавоіннага
брата майго Яраслава,
    з чарнігаўскімі асілкамі,
    з магутамі,
    і з татранамі,
    і з шальберамі,
    і з тапчакамі,
    і з равугамі,
    і з альберамі.
Бо тыя без шчытоў, з нажом за халявай,
палкі клікам перамагаюць,
звонячы ў прадзедаўскую славу.
Ды вы сказалі:
«Памужэем самі:
даўнюю славу сабе прысвоім,

а наступную самі падзелім!»
А ці не дзіва, братове, памаладзець старому?
Калі сокал пер'е мяняе,
высока птушак збівае:
не дасць гняздо сваё ў крыўду.
Ды зло найшло — князі мне не дапамагаюць:
насталі часіны ганебныя.
Пад шаблямі палавецкімі крычаць у Рымаве,
    а Ўладзімер пад ранамі.
Туга і гора сыну Глебаву!»
Вялікі княжа Ўсеваладзе!
Ці ж і думкай табе здалёку прыляцець не змагчы
бацькаў стол залаты паберагчы?
Бо можаш ты вёсламі распырскаць Волгу,
а Дон выліць шаломамі!
Калі б быў ты тут,
    дык была б раба па нагаце,
    а раб па рэзані.
Бо лацвей табе посуху страляці
    жывымі стрэламі —
    адважнымі сынамі Глебавымі.

Ты, буй Рурыча, і Давыдзе!
Ці не вашых вояў слаўных
    залочаныя шаломы па крыві плавалі?
Ці не ваша дружына харобрая
    рыкае, як туры,
    параненыя калёнымі шаблямі
    на полі незнаёмым?
Дык уступіце ж, імасці, ў залатыя страмёны
    за крыўду дня нашага,
    за зямлю Рускую,
    за раны Ігара,
    буйнага Святаслававіча!

Галіцкі Асмамысл Яраславе!
Высока сядзіш як належыць
    на сваім з золата кутым прастоле,
падпёр горы Угорскія доле
    сваімі палкамі жалезнымі,
заступіўшы шлях каралю,
зачыніўшы Дунаю вароты,
цераз воблакі перакідваючы цяжары,
суды радзячы да Дуная.
Цякуць па землях грозьбы твае цяжкія,

адчыняеш вароты Кіеву,
страляеш з бацькоўскага залатога прастолу
    здалёку ў султанаў.
Страляй жа, імасць, у Канчака,
    кашчэя паганага,
    за зямлю Рускую,
    за раны Ігаравы,
    буйнага
    Святаслававіча!

А ты, буй Рамане, і Мсціславе!
Харобрая думка ўзносіць на подзвіг ваш розум.
Ты крыляеш высока ў адвазе грозны,
сокалам раскашуешся на вятрах,
хочучы птушку збіць у быстрым лёце.
Бо у вас жа панцыры жалезныя
    пад шаломамі лацінскімі.
Ад іх зямля задрыжэла,
    і краіны многія —
    Хінава,
    Літва,
    Яцвягі,
    Дзерамела,
і полаўцы суліцы свае пасклалі,
    а галовы свае пасхілялі
    пад тыя харалужныя мечы знямела.
А ўжо, княжа,
Ігару сонца ўначэла ў святле,
а дрэва не на дабро лісце скінула:
    па Росі і па Суле гарады падзялілі.
А Ігараў харобры полк не ўваскрэсіць!
Дон цябе, княжа, кліча
і просіць князёў на падмогу.
Ольгавічы, князі харобрыя, на раць паспелі...

Інгвар, і Ўсевалад,
і ўсе тры Мсціслававічы,
сокалы шасцікрылыя гнязда неблагога!
Вам не кідала жэрабя перамога —
    самі пераскрадалі ўладанні!
Дзе ж вашыя залатыя шаломы
    і суліцы ляшскія
    і шчыты?
Загарадзіце дзікаму полю вароты неаслабла

сваімі вострымі стрэламі —
за зямлю Рускую,
за раны Ігаравы,
буйнага Святаслававіча!

*

Ужо срэбрам цячы перастала
Сула Пераяслаўлю,
і Дзвіна ўчарнела цячэ
грозным тым палачанам
пад клікам паганых.
Толькі адзін Ізяслаў, сын Васількаў,
сваімі мечамі вострымі быў у сіле
пазваніць аб шаломы літоўскія.
Прыбіў ён славу дзеда свайго Ўсяслава,
а сам пад шчытамі чырвонымі
на траве крывавай
быў прыбіты літоўскімі мечамі
і ўчуў голас вешчы;
«Дружыну тваю, княжа,
птушкі крыламі ўбралі,
а звяры кроў палізалі».
Не было тут брата Брачыслава,
ні другога — Ўсевалада.
І адляцела яго душа жамчужная
з харобрага цела
праз залатое аплечча.
Зажурыліся галасы,
весялосць панікла,
трубы трубяць гарадзенскія.

Яраслававы ўсе ўнукі і Ўсяслававы!
Абнізьце сцягі свае зрэджаныя,
схавайце мечы свае вярэджаныя.
Выпалі вы з дзедаўскай славы, як сокалы голыя.
Бо вы сваімі крамоламі
пачалі наводзіць паганых
на зямлю Рускую,
на Ўсяслававу нажыць.
Вашыя ўсобіцы прывялі
гвалт ад зямлі Палавецкай!

На сёмым веку Траяна
кінуў жэрабя Ўсяслаў маўкліва

на любую сваю абраную.
Ды хітрасцю асядлаў коней рана
і скочыў да горада Кіева
і дакрануўся дзідаю
да залатога прастола кіеўскага.
Скочыў ад іх лютым зверам
апоўначы з Белгорада,
сінім воблакам ахінуўся.
Паспытаў тры разы ён удачы,
адчыніў вароты Ноўгарада,
разбіў славу Яраславу,
скокнуў ваўком хутка
да Нямігі з Дудутак.

На Нямізе галовы сцелюць снапамі,
харалужнымі малоцяць цапамі,
жыццё кладуць на таку злюцела,
веюць душу ад цела.
Нямігі крывавыя берагі
не збожжам былі засеяны зноў —
засеяны касцьмі рускіх сыноў.
Усяслаў-князь людзям чыніў суды,
радзіў князям гарады,
а сам уночы ваўком рыскаў,
з Кіева паспяваў да пеўняў да Тмутараканя,
Хорсу вялікаму шлях перацінаў.
Яму ў Полацку пазвоняць ютрань рана
ў званы ў святое Сафіі,
а ён той звон чуе ў Кіеве.
Хоць і вешчую меў душу ў дзёрзкім целе,
ды часта ад бедаў цярпеў ён.
Яму вешчы Баян
прымаўку мудрую даўно склаў:
«Ні хітраму,
ні спрытнаму,
ні чарадзею дасціпнаму
суда боскага не мінуць».

О, стагнаць Рускай зямлі,
ўспамінаючы часіны мінулыя
і першых князёў!
Таго старога Ўладзімера
нельга было прыкуць да гораў Кіеўскіх:
цяпер жа сталі сцягі Рурыкавы,
а другія — Давыдавы,

ды ў розныя бакі палошчуцца ў іх палотнішчы.
І дзіды пяюць па-рознаму.

*

На Дунаі чуцен голас Яраслаўны,
самотнай чайкаю кігіча рана:
«Палячу, кажа, чайкаю па Дунаю,
абмачу белшаўковы рукаў у Каяле,
абатру князю крывавыя яго раны
 на целе яго крамяным».

Яраслаўна рана плача
 ў Пуціўлі на забароле, прыгаворваючы:
«О ветру, вятрыла!
Чаму, валадару, вееш проці?
Чаму імкнеш палавецкія стрэлы згубныя
 на сваіх лёгкіх крылах
 на воінаў майго любага?
Ці ж табе пад аблокамі не стала прасторы,
 караблі люляючы на сінім моры?
Чаму, валадару, весялосць маю
 па кавылі развеяў?»

Яраслаўна рана плача
 ў Пуціўлі на забароле, прыгаворваючы:
«О Днепра Славуцічу!
Ты прабіў каменныя горы
 праз зямлю Палавецкую.
Ты люляў на сабе насады Святаслававы
 да Кабяковага стану.
Дык прылюляй, валадару, да мяне мой лёс,
каб не слала я да яго слёз
 на мора рана».

Яраслаўна рана плача
 ў Пуціўлі на забароле, прыгаворваючы:
«Светлае і трысветлае сонца!
Усім ты цёплае і яснае:
чаму, валадару, паслала свае гарачыя промні
 на воінаў любага?
У полі бязводным спёкай ім лукі сцягнула,
 бядою ім калчаны затнула?»
Пырснула мора апаўночы,
хмары ад смерчаў стогнуць.

Ігару-князю бог шлях кажа
    з зямлі Палавецкай
    у зямлю Рускую,
    да бацькавага залатога прастола.
Пагаслі вечарніцы.
Ігар спіць,
Ігару рупіць,
Ігар думкаю поле мерае
    ад вялікага Дону да малога Данца.
Свіснуў Аўлур апаўночы на каня за ракою ледзь:
князю загадаў разумець:
князю Ігару не быць у палоне!
Гу́кнула,
грукнула зямля,
зашумела трава,
палавецкія вежы рухацца сталі.
А Ігар-князь паскакаў
    у чарот гарнастаем,
    на ваду белым гогалем.
На борздкага каня ўскочыў
і саскочыў з яго ваўком шэрым.

І пабег да лукі Данца,
і паляцеў сокалам пад аблокамі,
б'ючы гусей і лебедзяў
    на сняданне,
    і абед,
    і вячэру.
Калі Ігар сокалам паляцеў,
тады Аўлур ваўком пабег,
трусячы сцюдзёную расу сабою,
бо загналі сваіх борздкіх коней абое.

Данец кажа:
«Княжа Ігару!
Не мала табе велічы,
а Канчаку нелюбі,
а Рускай зямлі весялосці».
Ігар кажа:
«О Донча!
Не мала табе велічы,
што князя люляў на хвалях,
слаў яму траву зялёную
    на берагах срэбных,
апранаў яго цёплымі туманамі

пад засенню зялёнага дрэва;
ты сцярог яго гогалем на вадзе,
чайкамі на бруях,
чэрнядзямі на вятрах».
Не такая яна, кажа, рака Стугна:
скупую брую маючы,
паглынуўшы чужыя ручаі і патокі,
шырэйшаю ў вусці стала
і юнака князя Расціслава схавала
на дне ля цёмнага берага.
Плача Расціславава маці
па маладым сыне.
Ад жалобы кветкі абнылі
і дрэва з тугою да зямлі схілілася.

А не сарокі затраскаталі —
следам Ігаравым Гзак з Канчаком едуць.
Тады не граялі вораны,
галкі знямелі,
сарокі не траскаталі,
толькі поўзалі змеі.
Дзятлы стукам шлях да ракі кажуць,
салаўі вясёлымі песнямі
світанне вітаюць.

Кажа Гзак Канчаку:
«Калі сокал да гнязда ляціць,
расстраляем саколіча
стрэламі сваімі залочанымі».
Кажа Канчак да Гзы:
«Калі сокал да гнязда ляціць,
дык сакалца апутаем
краснаю дзеўкаю».

І сказаў Гзак Канчаку:
«Калі яго апутаем краснаю дзеўкаю,
ні сакалятка ў нас,
ні краснай дзеўкі не стане,
і пачнуць нас птушкі біць
у палавецкім стане».

Сказалі Баян і Хадына,
Святаслававы песнятворцы
старых часін Ярослава,
Алега-князя ўлюбёнцы:

«Цяжка галаве без плячэй,
важка целу без галавы —
Рускай зямлі без Ігара».

*

Сонца свеціцца на нябёсах —
Ігар-князь у Рускай зямлі;
дзеўкі пяюць на Дунаі —
галасы ўюцца цераз мора да Кіева.
Ігар едзе па Барычаву
    да святой багародзіцы Пірагошчай.
Рады сёлы, гарады вясёлы.
Пяяўшы славу князям старым,
потым пяяць і маладым.

Слава Ігару Святаслававічу,
    буй туру Ўсеваладу,
    Уладзіміру Ігаравічу!
Будзьце ў здароўі, князі і дружына,
баронячы хрысціян
    ад паганай чужыны!
Князям слава і дружыне!
    Амін!

## Максім Багдановіч

# ПЕСНЯ ПРА КНЯЗЯ ІЗЯСЛАВА ПОЛАЦКАГА

*(З «Слова о полку Игореве»)*

Ізяслаў, сын Васількоў,
Даўнымі часамі
Аб літоўскія шаломы
Пазваніў мячамі;
Адняў славу у сваго
Дзеда, у Ўсяслава,
І улёгся нерухома
На траве крывавай
Пад чырвонымі сваімі
Роднымі шчытамі,

Ўвесь іссечаны, ізбіты
Ворагаў мячамі.
Усхапіў ён тую славу
І прад смерцю кажа:
«Скрыдлы птах тваю дружыну
Прыадзелі, княжа,
І звяры кроў палізалі...»
У баі крывавым
Не было ні Ўсевалода,
Ані Брачыслава.
Ураніў самотна з цела
Ён душу ўдалую
Цераз пацерку на шыі,
Цераз залатую.
Засмуцілася вясёласць,
Песні замаўкаюць,
І жалобна, сумна трубы
У Гародні граюць.
І праслаўляюць мазалямі
Парабаціцеляў сваіх,
Сябе згубіўшы між людзямі,
Паміж мучыцеляў глухіх.
Няма нікому заступіцца,
Збудзіць заснуўшыя званы,
Прызваць к жыццю жывой расіцай
Нямыя сведкі-курганы.
Так растачыла зніштажэнне
Сваё ўладарства ў старане,
Што воляй рдзела неадменне,
Як тое сонца ў вышыне.
Адно падчас у сумнай песні
Або у казцы дзе якой
Край праўды выгляне з-пад плесні
І ўскалыхне жывой душой.
Нямыя вербы над ракою
Зашалясцяць сухім лістом,
А далей дрэме ўсё ў спакою,
Ўсю спіць магільным рабскім сном.
Калі ж, калі ты, родна маці,
Старонка бедная мая,
Пачнеш ізноў выводзіць раці,
Да нова збудзішся жыцця?..

*1911 г.*

# АПОВЕСЦЬ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ СВЯТОЙ І БЛАЖЭННАЙ І НАЙПАДОБНЕЙШАЙ ЕЎФРАСІННІ, ІГУМЕННІ МАНАСТЫРА СВЯТОГА СПАСА І НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ЯГОНАЙ МАЦІ, ШТО Ў ГОРАДЗЕ ПОЛАЦКУ

## БАГАСЛАВІ, ОЙЧА!

Быў у горадзе Полацку князь Усяслаў, і меў жа ён многа сыноў. І быў у яго меншы сын імем Георгій, ад якога і нарадзілася шчаснае тое дзяўчо. І ўзрадаваліся бацькі яе нараджэнню разам з усімі роднымі. А праз колькі дзён наказалі хрысціць яе, і хрысцілі яе ў імя Айца, Сына і Духа Святога. І гадавала яе карміцелька, і расло дзень за днём немаўля, жывячы малаком цела, а душу напаўняючы Духам Святым. І дзяўчына была вельмі здольная да кніжнай навукі, нават не дасягнуўшы яшчэ паўналецця, і было гэта плёнам малітвы. Так любіла вучэнне яна, што дзівіўся бацька яе з любові такой да навук. І па ўсіх гарадах разышлася слава пра яе мудрасць, і добрыя здольнасці да навук, і красу цялесную, бо была яна прыгожая надта абліччам. Хараство ж яе многіх слаўных князёў прыводзіла да бацькі яе: хацеў кожны з іх заручыць яе сыну свайму. І многія часта прасілі згоды на гэта ў бацькі яе, але адказваў той: «Няхай спраўдзіцца воля Госпада!»

Адзін жа з князёў, найбольш слаўны княжэннем сваім і багаццем, паслаўшы да бацькі яе, папрасіў выдаць дачку за сына свайго. І калі споўнілася дзяўчыне дванаццаць гадоў, пачаў казаць бацька яе да княгіні: «Варта аддаць ужо за князя Прадславу» (так бо назвалі яе да хрышчэння). Яна ж адказала: «Хай спраўдзіцца воля Бога і твая, княжа!» Прадслава ж, пачуўшы ўсё тое, падумала,— ці скажу болей: Святым Духам напоўніўся розум яе,— і сказала сабе: «Што будзе, калі бацька надумае аддаць мяне замуж? Калі здарыцца так, смутку гэтага свету нельга будзе пазбыцца!» І яшчэ казала сабе: «Што ж учынілі нашыя роды, якія былі да нас? Жаніліся, і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі; жыццё іх праплыло, і загінула іхняя слава, быццам прах, горай за павуцінне. Затое жанчыны, што жылі раней, і ўзяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім Жаніхом, і целы свае аддалі на

пакуты, і паклалі галовы пад меч, а іншыя хоць і не схілілі шыі свае пад жалеза, але мечам духоўным адсеклі плоцкія асалоды, аддаўшы целы пасту, чуйнаванню і малітоўнаму кленчанню, і зямельнаму ляжанню — тых памятаюць на зямлі, іх імёны напісаны на нябёсах, дзе яны з ангеламі Бога ўсхваляюць. А слава гэтая — пыл і попел, быццам дым разыходзіцца і нібы пара водная гіне!» Так яна думала ў сэрцы сваім, а розум яе больш узмацняўся на любоў Божую. І адзіная думка легла на сэрца яе, бо казала сабе: «Ці не было б лепей за гэтае жыццё пастрыгчыся ў манашкі і быць пад ігуменняй, і слухацца сёстраў, і вучыцца, як Божы страх сцвердзіць у сэрцы сваім і як скончыць жыццё?» І гэтак вырашыўшы, пайшла ў манастыр пакрыёма ад бацькі і маці і ад усіх родных.

У тыя гады ігуменняю была княгіня Раманава. Прыйшоўшы да яе, Еўфрасіння прасіла, каб дазволіла тая прыняць ёй ангельскі воблік і далучыцца да інакіняў, што жылі там, і быць пад Хрыстоваю ўладай. І ўгледзела шчасная тая жанчына яе маладосць і квітучы ўзрост, і сумелася, і стала пакутаваць целам, і сэрцам жахнулася, і схіліла твар да зямлі, і надоўга ўкленчыла, і ўздыхнула, і плачучы гэтак сказала: «Дзіця! Як магу я такое ўчыніць? Твой бацька даведаецца і гнеў свой абрыне на маю галаву. Ды і маладая ты яшчэ векам, каб несці цяжар манаскага жыцця. І як здолееш ты пакінуць княжанне і славу гэтага свету?» І адказвала ёй шчасная тая дзяўчына: «Панна і маці! Усё відочнае на гэтым свеце прыгожае і слаўнае, але хутка мінае, як сон, альбо вяне, бы квет; вечнае ж і невідочнае ў вяках жыве, як гаворыць Пісанне: «Вока не бачыць, і вуха не чуе, і на сэрца чалавеку не прыйдзе, што рыхтуе Бог тым, хто любіць Яго». Ці дзеля бацькі майго не хочаш пастрыгчы мяне? Не яго бойся, панна мая, а Бога пабойся, які ўладарыць над усімі стварэннямі; не пазбаў мяне ангельскага чыну!»

Княгіня здзівілася розуму дзяўчыны і яе любові да Бога і загадала выканаць волю яе. І абвясціў яе іерэй, і пастрыг яе, і даў ёй імя Еўфрасіння, і апрануў яе ў чорныя рызы. І багаславіла яе ігуменне багаславеннем святым айцоў, гэтак мовячы: «Наследуй, дзіця, жанчынам, што жылі раней цябе: Фяўронні і Еўпраксіі і многім іншым, якія цярпелі дзеля Хрыста, і дасць Господ табе перамогу і сілу на супраціўніка нашага д'ябла!» І так ёй сказаўшы, адпусціла яе ў сваю келлю.

І калі ўведаў усё тое бацька яе, адразу ж пайшоў у ма-

настыр, і ў роспачы рваў на сабе валасы, і цалаваў дачку замілавана, і казаў: «Гора мне, дзіця маё! Што ж учыніла ты мне, прынёсшы душы маёй смутак! Што ж раней не сказала ты мне намеру свайго? Дзіця маё салодкае, жаль агортвае сэрца маё! О гора мне, дзіця маё мілае! Як абміне тваё хараство спакусы варожыя? Ужо трэба мне плакаць душою маёю аструпянелай да Госпада Бога майго, каб увайшла ты ў Царства Яго!» І смуткаваў па ёй увесь дом яго. Найпадобнейшая ж Еўфрасіння не зважала на смутак бацькі свайго, але, як добры ваяр, узброілася супраць ворага свайго д'ябла, і стала жыць у манастыры ў паслушэнстве ігуменні і ўсім сёстрам, і ўсіх пераўзыходзіла ў посце, малітвах, чуйнаванні начным. І з таго часу яшчэ руплівейшаю стала, збіраючы дабрачынныя думкі ў сэрцы сваім, як пчала — мёд у соты.

Так жыла яна нейкі час у манастыры, а пасля папрасіла епіскапа Іллю, што кіраваў пасадам Святой Сафіі ў Полацку, каб той дазволіў ёй жыць у царкве Святой Сафіі ў мураванай келлі. І ён дазволіў ёй жыць там. І яна ўвайшла туды, і ўчыніла найпадзвіжнейшы подзвіг посту, і пачала пісаць кнігі сваімі рукамі, і прыбытак ад продажу іх аддавала тым, хто папросіць.

Так жыла яна там пэўны час. І ў адну ноч легла яна адпачыць пасля доўгіх стаянняў на малітве да Бога, і ўбачыла праяву: узяў яе ангел і навёў туды, дзе была цэркаўка Святога Спаса, метохія Святой Сафіі, што людзі завуць Сяльцом. І паказаў яе ангел Госпадавы, кажучы так: «Еўфрасіння! Тут належыць быць табе!» Яна ж, абудзіўшыся, вельмі здзівілася, кажучы: «Што гэта значыць?» І ў тую ж ноч бачыла гэтае тройчы. І ўзнялася са страхам, славячы Бога й гаворачы: «Слава Табе, Божа, слава Табе, што даў мне ў гэтую ноч бачыць светлае аблічча ангелава!» І пачала пасля чытаць псалом: «Гатовае сэрца маё, Божа, гатовае сэрца маё! Зноў да Цябе прыбягаю ад чэрава маці маёй! Ты — Бог мой; паводле жадання Свайго ўчыні мне, рабе Сваёй!» І скончыла ютрань.

Той жа ночы явіўся ангел епіскапу Іллю, кажучы: «Увядзі рабу Божую Еўфрасінню ў цэркаўку Святога Спаса на святым месце, званым Сяльцом, бо яна вартая Царства нябеснага; як духмянае міра, узыходзіць да Госпада малітва яе, як вянец на галаве царавай, спачывае на ёй Дух Святы, і як сонца ззяе над усёю зямлёю, так праззяе жыццё яе прад Божымі Ангеламі!» Епіскап жа ўзняўся хутка са страхам і трымценнем і прыйшоў да Еўфрасінні.

Тая ж, пабачыўшы епіскапа, пакланілася яму і сказала: «Багаславі, святы ўладыка!» А ён адказвае: «Бог няхай багаславіць цябе, дзіця, і надасць табе цярпення і сілы на ўсіх ворагаў відочных і невідочных!» Яна ж пакланілася і сказала: «Амін. Хай учыніцца мне паводле слова твайго, святы ўладыка!» І села.

А епіскап Ілля пачаў з ёю гутарыць пра ратунак душы. Шчасная ж Еўфрасіння прымала словы яго ў жытніцу душы сваёй, быццам насенне, якое радзіла: адно — 30, другое ж — 60 альбо 100. І доўга гутарыў з ёю епіскап, пасля сказаў так: «Дачка! Хачу слова мовіць табе; ты ж прымі з любоўю яго!» Яна ж кажа: «З радасцю, найпадобнейшы ойча, прыму слова твае, быццам дар шматкаштоўны!» І гаворыць епіскап: «Ведаеш, дзіця, што царква, дзе жывеш ты,— саборная; тут усе людзі збіраюцца, і нядобра табе быць тут. Але ж ёсць цэркаўка Святога Спаса ў Сяльцы, дзе брація наша ляжыць — епіскапы, што былі да нас. Калі Бог успаможа, дык малітвамі іх і працай тваёю ўзвялічыцца гэнае месца!»

Еўфрасіння, пачуўшы словы епіскапа, узрадавалася душою і ўзвесялілася сэрцам, веры даўшы яўленню ангела і таму, што бачыла і чула ад яго. І прамовіла да епіскапа: «Хай паможа мне Бог тваімі святымі малітвамі, ойча!»

І паклікаў тады епіскап князя Барыса, дзядзьку яе, і бацьку яе Георгія, і найпадобную Еўфрасінню, і пачэсных мужоў і, зрабіўшы іх сведкамі, мовіў: «Вось, аддаю Еўфрасінні месца Святога Спаса пры вас, каб пасля маёй смерці ніхто не судзіўся за гэты дарунак мой». І чулі гэта абодва князі і баяры ўсе ад епіскапа, і пакланіліся яму, кажучы гэтак: «Сапраўды, уладыка святы: сам Бог уклаў у твае сэрца клопат апекавацца над гэтай дзяўчынаю». Еўфрасінні ж казалі: «Ідзі і паслухай епіскапа, учыні, што ён табе скажа, бо ён усім нам бацька, і трэба слухаць яго». Еўфрасіння ж, узняўшы з усмешкаю твар на іх, мовіла: «Іду з радасцю; як Бог мне накажа, так і будзе; хай будзе на мне воля Госпада!»

Князі ж і баяры ўсе, пачуўшы гэтыя словы найпадобнае Еўфрасінні, узрадаваліся і, атрымаўшы багаславенне епіскапа, пакланіліся Еўфрасінні, пацалавалі з любоўю яе і раз'ехаліся па дамах. А Еўфрасіння, памаліўшыся ў царкве Святой Сафіі, атрымаўшы багаславенне епіскапа, тае ж ночы, узяўшы з сабою адну манашку, прыйшла на месца, званае Сяльцом, дзе стаяла царква Святога Спаса.

І ўвайшла ў царкву, і пакланілася, і прамовіла так: «Ты, Госпадзе, даючы святым Сваім апосталам запавет, казаў: «Не насіце з сабою нічога, апрача посаха». Я ж, слухаючыся слова Твайго, прыйшла на гэтае месца, нічога не ўзяўшы з сабою, маючы ў сабе толькі слова Тваё: Госпадзе, памілуй! А з маёмасці ўсяе ёсць у мяне адно гэтыя кнігі, з якіх мае ўцеху душа і ўзвесяляецца сэрца».

Сёстраў жа так павучала: «Вось, сабрала вас, нібы птушанятаў, пад крылы свае і на пашы, нібы авечак, каб вы пасвіліся ў Божых наказах. А я з лёгкім сэрцам стараюся вучыць вас, бачачы плён вашай працы, і такі дождж вучэння на вас праліваю! Але ж вашыя нівы стаяць, не ўзыходзячы і не ўзрастаючы ўгору, [redacted] год ужо завяршаецца, і лапата ляжыць на гумне. І баюся, што будзеце вы пустазеллем і аддадуць вас агню непагаснаму. Пастарайцеся ж, дзеці мае, пазбегнуць яго, і ўчыніце сябе вы пшаніцаю чыстай, і змяліцеся ў жорнах уміранасцю, малітвамі, постам, каб чыстым хлебам прынесціся на трапезу Хрыстову!»

**Янка Купала**

# ГАРЫСЛАВА

«Не хочу разути рабынича,
[redacted] за Ярополка иду!»
(З адказу Рагнеды — княжны Полацкай,
Уладзіміру — князю ноўгарадскаму».)

## ПРАДМОВА

Гэй, павейце, разгуляйцеся,
Ветры вольны, легкакрылыя,
Над старонкай над крывіцкаю
Зашуміце, неўгамонныя.
Паміж небам і зямліцаю
Віхрам-птахам пранясіцеся,
Леты, даўна прамінуўшыя,
Уздымайце з чорна попелу.
Ўскалыхніце сэрцам каменным,
Звонам-вечам ды ўсё полацкім —
Хай звон звонка разгамоніцца

Дый раскажа быль бывалую.
Быль бывалую пра доч князеву,
Ту красавіцу ненаглядную,
Пра ту княжну пра свабодную,
Што Рагнедай называлася,
А пасля, што з гора горкага
Стала звацiся Гарыславаю,
А гардыняй недаступнаю
Кругом-вокала праславілась.
Пра яе вы, звоны вечавы,
Ветры буйныя, свабодныя,
Раскажыце свету цэламу
Быль бывалу ў землях Полацкіх.

## I

Даўно-даўно было ўжо гэта,
Як там у запісах стаіць,
Дзе пішуць: вось такога лета
Было, павінна тое быць.
Шмат хмары вылілі вадзіцы,
Навек заснуў бор не адзін
І шмат павысахла крыніцаў
За гэты час. Патомак-сын
Бацькоў, застыўшых у магіле,
Забыўся ўжо аб іх жыцці —
Аб тым, як дома лад вадзілі,
Як на вайну умелі йсці
І як у славе уміралі
За чэсць і волюшку сваю.
Забыўся сын аб быўшай хвале,
Ў прыгон прадаў сябе, сям'ю.
Расою здоблючы чырвонай
Свае загоны і лугі,
Прыблуднай чэрні б'е паклоны,
Куе сабе сам ланцугі.
На батракоў здаліся ўнукі
На вольнай прадзедаў зямлі,
Пайшлі ў няволю без прынукі,
Як па вяровачцы пайшлі.
І праслаўляюць мазалямі
Парабаціцеляў сваіх,
Сябе згубіўшы між людзямі,
Паміж мучыцеляў глухіх.

Няма нікому заступіцца,
Збудзіць заснуўшыя званы,
Прызваць к жыццю жывой расіцай
Нямыя сведкі-курганы.
Так растачыла зніштажэнне
Сваё ўладарства ў старане,
Што воляй рдзела неадменне,
Як тое сонца ў вышыне.
Адно падчас у сумнай песні
Або у казцы дзе якой
Край праўды выгляне з-пад плесні
І ўскалыхне жывой душой.
Нямыя вербы над ракою
Зашалясцяць сухім лістом,
А далей дрэме ўсё ў спакою,
Ўсё спіць магільным рабскім сном.
Калі ж, калі ты, родна маці,
Старонка бедная мая,
Пачнеш ізноў выводзіць раці,
Да нова збудзішся жыцця?..

*1912 г.*

## Сяргей Тарасаў

# КРЫЖ

«Офросинья же раба Христова сътяжавъши крест сии прииметъ вечную жизнь съ всеми святыми...»

Майстар разагнуўся, сеў, абапіраючыся на рукі. Рукі нылі, як і спіна, у вачах мільгацела ад бляску пазалоты.

Нарэшце, усё. Ігумення будзе давольна. Але як цяжка, як цяжка ў апошні час працаваць! Немалады ўжо. А чаляднiку такі заказ не даручыш.

Ён устаў, адышоўся ад стала. Прытуліўся да сцяны, зноў глянуў на крыж. Няблага, няблага выйшла. Такога ён яшчэ не рабіў.

...Сама маці ігумення разам з уладыкам Касьмом паклікалі яго да святой Сафеі. Кінуўся ім тады сівы Лазар у ногі, але падымаць яго не спяшаліся: далі адчуць, што ён — нішто, халоп бязродны. Паваляйся трохі, успомні, хто ты і дзе, набярыся цярплівасці, павагі і пакорлівасці.

Ды ён і не крыўдаваў. Розных нагледзеўся ўладык. А што халоп і гонару не мае — праўда. Дзень і ноч гне спіну над работаю. А паспрабуй іначай — з голаду, як сабака, здохнеш. Бо каму трэба яго майстэрства, апрача князёў, епіскапаў ды купцоў заможных? У каго яшчэ грошы? Мо ў абадранца Алексы, што дзярэ горла на вечы за кожнага, хто добра заплаціць? Ці ў суседа — Пятра-кажамякі? Не, яго работа не для чорнага люду. На Вялікім пасадзе і без яго ёсць каму бразготкі рабіць. Яшчэ колькі! І пярсцёнкі, і пацеркі, і бранзалеты... Ды і з Кіева вязуць! Ледзь не вазамі. Праўда, кіеўскія даражэйшыя, асабліва каляровыя. І ўсё ж не для яго гэта работа. Не можа ён разменьвацца на дробязі.

...Маці ігумення звысоку на яго паглядае. Колькі пагарды ў яе позірку! «Мы даруем табе міласцію нашай і даручаем... А калі не зробіш ці зробіш не даспадобы... і, крый божа, утаіць што...»

Ці ўпершыню ён чуе гэта? Даўно яе ведае, яшчэ з маленства. І Касьма позіркам працінае, пад Ефрасінню падладжваецца. Папярэднік яго, Ілля,— царства яму нябеснае — святы быў чалавек. А гэты — хітры і надзьмуты. Ну, ды бог з ім.

Лазар Богша прыняў заказ. Ён ведаў: акрамя яго, нікому ён не пад сілу. Ва ўсёй Полацкай зямлі.

Летась закончылі храм святога Спаса будаваць, а цяпер і крыж напрастольны яму будзе.

...Ён пільна ўглядаўся ў бліскучае тварэнне рук сваіх і каторы ўжо раз думаў пра дзівосы, якія адбываюцца з яго вырабамі. Богша не мог зразумець: ці нейкая чароўная сіла валодае ім у час работы, ці рэчы набываюць чарадзейства пасля акраплення іх святою вадою. Адкуль душа ў іх з'яўляецца?

Колькі разоў назіраў за асвяшчэннем. Не, не мяняюцца яны пасля. Ні бляску не набываюць болей, ні цеплыні. Але людзі падаюць перад імі, цалуюць і моляцца. І сам ён, майстра, цалуе і моліцца. Праўда, не без душэўнага разладу. Неяк дзіўна маліцца таму, што сам зрабіў. Гэткія думкі не раз прыходзілі ў апошні час. Відаць, стары стаў.

А былі ж іншыя часы.

Гадоў сорак назад трапіў у гэтыя мясціны малады залатар. Што тут рабілася! «Сё маё, а то маё жа!» — крычалі адзін аднаму маладыя князі. Усё ніяк не маглі падзяліць бацькавай спадчыны. Кожны трымаўся як стольны, кожны сабе ўсё цягнуў. Каб ён, Богша, падаўся тады

да Менску ці Ізяслаўля,— невядома, як склаўся б яго лёс. Але Богша цвёрда памятаў словы майстра Канстанціна з Брачыславага дворышча: «Хто б ні клікаў цябе,— трымайся галоўнага горада і Сафеі святой. Там моц і божая засцярога».

У Полцеск і прыйшоў. Тут рашыў свайго месца шукаць, бо ў Кіеве чалядніку-залатару ў людзі не выбіцца.

Хай бы яны цяпер глянулі, тыя кіеўскія падбрэхічы, на ягоны крыж! Хто калі рабіў такое? Толькі золата ды срэбра, каменняў каштоўных ды жэмчугу на сто грыўняў ды яшчэ сорак, а дрэва добрага — без кошту. Дву на дзесяць лікаў святых утварыў з абодвух бакоў, надпісам і ўзорам дзіўным упрыгожыў. Не ведалі такіх кветак ні кіеўскія, ні нават царградскія майстры. Тутэйшыя яны, Полацкай зямлі.

І што за зямля дзіўная! А людзі! Няхай княжацкая праўда князям застаецца, а ў чорнага люду яна свая. Ні мудрагелістасці ў жыцці тутэйшым, ні бяздумнага заморскага хараства. Шануюць людзі і продкаў сваіх, і багоў. Ці не таму стары Усяслаў збег з Кіева, што не прыняла яго прарочая душа кіеўскага ладу? Ходзяць чуткі, быццам князь гэты ўсё жыццё поначы на Валовае возера гайсаў, паганскаму капішчу з лесу даніну зносіў. Нават у тыя часы, калі Сафею святую будаваў. А паганскія багі заступаліся за яго, на вялікі стол саджалі. Відаць, так і было, бо жыў ён болей за 70 летаў.

Але як жа так, калі бог у нас адзіны?

— Ох, колькі ў жыцці разладдзя! — сухой, схуднелай рукою майстра пачухаў патыліцу.— Зямля каменная, неўрадлівая. Праўда, лясы багатыя. Яны і кормяць у галодныя гады, і адзяваюць. А голад — ледзь не праз год.

Богша прыгнуўся, штурхнуў рукамі дзверы. Ступіўшы за парог, паслізнуўся: — Цьфу ты! Ледзь у гразь не ўваліўся! — драўляныя плахі дворышча даўно стапталіся і цьмяна бачыліся з барвова-чорнай жыжкі. А пакласці новыя не хапала сіл.

Па начным небе, як здані, плылі аблокі, між якіх ярка зіхацелі зоркі.

Колькі летаў мінула і колькі яшчэ міне, а яны ўсё блішчаць. І нічога з імі не станецца, хоць кажуць, што зоркі, як і людзі, паміраюць. Але ён гэтага не бачыў. Мо і добра. Хай сабе блішчаць. Хто ведае, з якой яго жыццё закоціцца... І ўсё ж крыўдна: ён памрэ, а яны застануцца. А што па ім застанецца? І ці ўспомніць хто Лазара Богшу?

Мо запіша два словы пра яго, Лазараў крыж, той мніх, што ў келлі Сафейскай летапіс вядзе. Шкада толькі, што кніжны пергамен ненадзейны: і згарэць можа, і пацукі могуць з'есці. Ефрасіння — тая застанецца, бо сам напісаў па золаце: «В лето 6669 покладает Офросинья честный крест...» І манастыр вось збудавалі...

Лазар вярнуўся ў хату. Сеў на лаву, перавярнуў крыж тыльным бокам. Падліў у свяцільнік алею. Потым узяў інструмент і ў самым нізе, пад абразом святога Панцеляймона, дробненькімі літарамі пачаў выціскаць: «Господи помози рабу своему Лазорю нареченому Богши сделавшему крест сии церкви святого Спаса и Офросиньи».

## СТАСЬ І МЕЧ РАГВАЛОДА

— Гэй, дзядзька, ці далёка да Полацка?
— Калі з языком, дык да Кіева бліжэй.
А ў Полацк хто зараз ходзіць!

З гутаркі на ростанях

За няпоўныя дзевяць год жыцця Стасю ані разу не шанцавала. Ён сядзеў на ганку невялікага драўлянага дома і ўспамінаў сваіх сяброў. Дом быў стары, аднапавярховы, як і многія на гэтай вуліцы. Яго і домам не назавеш — хутчэй вясковая хата ў цэнтры абласнога горада, які, відаць, надоўга стане новым Стасевым прытулкам.

Бацьку з буйнога сталічнага горада пад прымусам «перавялі» ў гэтыя мясціны. Натуральна, ён забраў і сям'ю. Што здарылася, чаму яны тут апынуліся,— Стась так і не зразумеў.

За два месяцы да пераезду ўсё дома пайшло наперакос. Бацьку дасылалі нейкія позвы, выклікалі ў міліцыю. Часам чуліся тэлефонныя званкі, пасля якіх бацьку было не пазнаць — ён хадзіў чорны, што хмара. А ўсё пачалося пасля таго, як аднойчы яны пайшлі на могілкі да дзеда. Там сабраўся вялікі натоўп людзей, якія разганяла міліцыя. Бацьку добра надавалі пад бакі, а маме нават у вочы нечым пырснулі, і яна доўга плакала. А можа, плакала па дзеду?

Потым ён чуў пра суд і пра тое, што трэба пазычыць грошай. Але ніяк не мог уцяміць, чаму ў горадзе не будзе для іх жыцця.

Нарэшце яны пераехалі. Хлопчыку шкада было сваіх сяброў — Янку і Алесю. Яны засталіся адны, без яго. Як любіў ён вандраваць з імі па загадкавых вуліцах сівога горада! Яны шукалі стары млын на рацэ, дзе, як расказваў тата, казачны волат вялізнымі жорнамі перамолваў каменне на муку. Шукалі таямнічую раку, якую чарадзеі схавалі пад зямлёю, рэшткі загінулага горада. Стась і Янка былі то злымі, то добрымі разбойнікамі і згодна з тым, кім былі, то выкрадалі, то вызвалялі сваю сяброўку, чароўную прынцэсу Алесю. На кожным кроку няроўнай брукаванкі, у кожным куточку старога горада іх чакалі дзівосы і адкрыцці. Зараз усё засталося недзе там, далёка...

Але новае месца хлопчыку таксама падабалася. Падабалася і цёплая грубка, якая штодня палілася дровамі, і комін над хатаю, з якога заўсёды курэў шызы дымок. З'явіўся ў Стася і пастаянны мужчынскі абавязак — хадзіць у хлявок па дровы.

Побач з домам, пад павеццю за сеткаю, суседзі трымалі курэй. Чубаткам можна было пасыпаць зерня або пацвяліць іх дубчыкам. Жылі ў доме і дзве кошкі — Кацька і Фроська, якіх сусед, дзядзька Коля, называў «кумкамі». Кошкі былі хатнія, але амаль увесь час бадзяліся па вуліцы. Мо таму дзядзька Коля яшчэ называў іх «прыблудамі». На жаль, не было сабакі, хоць у двары і стаяла старая спарахнелая будка. Куды падзеўся яе гаспадар — ніхто не ведаў. Адным словам, можна было жыць. І для ягонай хлапечай цікаўнасці адкрываўся новы, нязведаны свет.

Неўзабаве Стася аддалі ў школу. Ён бегаў туды цераз вялізны стадыён, за якім пачынаўся гарадок. Калі сюды прыехалі, бацька расказваў, што гэты стадыён пабудаваны на месцы былога замка, а там, дзе зараз трыбуны, быў замкавы абарончы вал. Так яно, відаць, і было, бо прыступкі стадыёна надта высокія і стромыя.

Школьныя справы паступова наладзіліся, хоць з пераездам Стась крыху адстаў ад сваіх аднагодкаў. Даганяць даводзілася калі самому, а калі — з дапамогаю бацькоў. Адзінае, што напачатку бянтэжыла,— у новай школе ніхто не размаўляў на мове, якая была натуральнай у іх сям'і і ў тым класе, дзе ён вучыўся раней. Стась чырванеў і саромеўся, калі ў першыя дні пры яго паяўленні ў класе хтонебудзь гучна крычаў: «Смотрите, беларус пришол!» Аднаго разу ён нават уцёк з заняткаў. Адбылося гэта пасля таго, як настаўніца некалькі разоў дамагалася ад яго правільнага вымаўлення слова «день». Не разумеючы,

чаму Стась кінуўся ў дзверы, яна потым гаварыла: «Ну что ты из себя строишь?! Разве ты не такой белорус, как все?»

У школу прыйшлі бацькі. Настаўніца больш яго не чапала. Але Стасю было крыўдна, што ён «не такі, як усе». Ён спрабаваў выпраўляцца.

Аднойчы клас павялі на экскурсію ў гарадскі музей. Стась і раней быў у музеі. Праўда, тады ён хадзіў глядзець карціны. І хоць не ўсё зразумеў, што на тых карцінах намалявана, але сам паход у музей быў для яго падзеяй. Яму вельмі спадабалася суквецце вясёлкавых фарбаў, цішыня музейных залаў з іх сур'ёзнымі і маўклівымі гледачамі, соннымі бабулькамі-наглядчыцамі. Зараз яны ішлі не карціны глядзець — іх вялі ў гістарычны музей.

Будынак музея размясціўся на невялікай вуліцы, якая цягнулася ледзь не праз увесь горад. Сярод аднапавярховых мураванак і драўляных будынкаў ён адразу кідаўся ў вочы сваёй нязвыклай формаю. Гэта было дзіўнае спалучэнне спічастага, выцягнутага ўгору дома і царквы. Складзены з чырвонай цэглы, будынак, здавалася, паўтараў тыя маленькія каваныя краты на брамах і казырках-навесах, якія ўпрыгожвалі на гэтай вуліцы многія дамы. Яго ні з чым нельга было параўнаць. Ён быў адзіны і непаўторны ў сваёй арыгінальнасці. На дзіцячы розум Стася, толькі гэты будынак і мог быць музеем.

Гаманліваю чарадою дзеці ўвайшлі ў двор. Прыгожы дом гасцінна расчыніў маленькія ўтульныя залы. Іх было пяць. Тры на першым паверсе і дзве — на другім. Падлога спрэс заслана чырвоным дываном, паўзверх якога ляжала празрыстая поліэтыленавая плёнка. Уздоўж сцен цягнуліся падсвечаныя шкляныя вітрыны, дзе, як казала настаўніца, захоўваліся экспанаты. Чаго толькі не было ў гэтых вітрынах! Старажытныя прылады працы, нажы і сякеры, ганчарны посуд розных форм і памераў, шыферныя праселкі, цацкі-свістулькі. Пад асобнымі шклянымі каўпакамі ляжалі старажытныя грошы, месцкая пячатка з выявaю вершніка з паднятым мячом у руцэ.

Агульнае ўражанне ад сівой мінуўшчыны дапаўнялі выраблення з дрэва і паперы прыгожыя дыярамы горада розных часоў. У адной зале на першым паверсе Стась убачыў каваную з драбнюткіх кольцаў кальчугу ваяра, а побач вісеў раз'едзены ржою стары зазубраны меч. Стась спыніўся як укапаны. На яго быццам павеяў водар шырокага поля, змешаны з пахам конскага поту...

* * *

Зямля заставалася ззаду, патрывожаная капытамі няўрымслівага каня. Нахіліўшы галаву, конь нёсся наўгалоп, скоса пазіраючы на вершніка адным вокам. Бяльмо на воку напружанае, ажно праступілі на ім чырвоныя пражылкі. «Гэй-я! Гэй-я!» — раз-пораз крычаў вершнік, прышпорваючы каня. Але той і без таго ледзь не ляцеў у паветры, збіваючы галавою мяцёлкі кавылю. Раптам над вухам вершніка чмялём прагула страла і з усёй сілы ўпілася каню ў шыю. Ад нечаканага вострага болю конь згубіў раўнавагу і, як падкошаны, з ходу грымнуўся на пярэднія ногі. Вершнік, што камень з прашчы, вылецеў з сядла. Зрабіўшы некалькі кульбітаў, плазам бразнуўся вобземлю.

Ён ляжаў дагары і, не міргаючы, глядзеў на лёгкае воблачка, якое, быццам прышпіленае, вісела над галавою. Ён чуў, як высока ў небе спрачаліся звонкагалосыя жаўрукі, як стракаталі ў траве конікі. Было ціха і цёпла, як у сене на дзедавым гарышчы. Раптам ён пачуў шаргаценне крокаў. Яны набліжаліся збоку. Быццам ахутаныя туманам, над ім схіліліся дзве постаці.

— Глядзі ты,— жывы! Не забіўся! — губы расцягнуліся ў пагардлівай усмешцы.— Але гэта мы лёгка выправім. Дабі яго, Шчэк! Ды не забудзься меч забраць...

* * *

— Стась! — ад рэзкага вокліча хлопчык схамянуўся.— Глядзім экспазіцыю далей,— сказала настаўніца.— Не адставай ад калектыву!

Стась з цяжкасцю адарваўся ад вітрыны і ўслед за класам паплёўся на другі паверх. Тут ледзь не гадзіну экскурсавод нудна і сумна расказваў пра нейкія вялікія дасягненні, але Стась не слухаў — яму было нецікава.

Калі экскурсія закончылася і ўсе пайшлі да выхаду, Стась знарок прыладзіўся ззаду. Вельмі хацелася яшчэ раз глянуць на меч і кальчугу. Яны неадольна цягнулі да сябе. Каб ніхто не заўважыў, хлопчык стуліўся ў куточку і пачаў прагна ўглядацца ў вітрыну. У роўным спакойным святле рэчы за шклом набывалі жыццё. Самастойнае, таямнічае і прывабнае.

Музейная зала апусцела, змоўклі галасы дзяцей у двары, толькі роўна і аднастайна гудзелі кандыцыянеры. Пасля вялікага вагання Стась наблізіўся да вітрыны...

* * *

— Дабі мяне, княжа! Вось меч. Я не выканаў твайго загаду! — сівая галава ваяра з брудна-чырвонымі пасмамі засохлай крыві схілілася долу. Прайшла хвіліна, другая... Ногі воя падкасіліся, і ён асунуўся на стаптаную ботамі і капытамі зямлю.

Князь азірнуўся. За спінаю ў напружаным чаканні стаялі грыдні. «Варта мне варухнуць пярстом,— падумаў ён,— і яны імгненна кінуцца на ахвяру. Рана ці позна гэта павінна было пачацца. Але чаму так знянацку?»

Напад Яраславічаў на Менск толькі падкрэсліў даўнюю паміж імі варожасць. «Будзе, княжа! — нешта зноў варухнулася ў душы.— Ты і сам такі!» — «Не, не такі,— запярэчыў сабе князь.— Гэта зямля продкаў маіх, і гаспадар на ёй — я! За дваццаць тры гады княжання я склаў дзяржаву, як хату па бярвенцу. Яна стала наймагутнейшай ад Дзвіны да Бярэзіны. А таму толькі я маю права запрашаць гасцей ці гнаць у тры шыі няпрошаных. Ахвочых да чужога мёду напаю ад пуза — пакуль не трэсне!»

— Падыміце яго! Мой меч, Ваінег, ніколі не сек нямоглых. Гэта — меч Рагвалода-воя, а не капусны сякач. Ды і твой, здаецца, не горшы. Тое, што горад спалены, а ты жывы,— няхай будзе на тваім сумленні. Каня табе загадаю даць. А што далей рабіць, мяркуй сам.

Князь павярнуўся і ўпэўненай цвёрдай хадою пайшоў да шатра. Там палаў агмень. Цераз адтуліну зверху разам з дымам вылятали іскры. Водбліскі полымя высвечвалі падлогу, пасыпаную хвояй, кілімы, а на рагулі — сярэбраны кубак і вяндліну. Князь пацягнуўся быў да карчагі, але перадумаў і падставіў рукі цяплу. «Калі што і ратуе чалавека ад холаду,— падумаў ён,— дык добры агмень ці добрая сеча...»

Надыходзіла трэцяе сакавіка...

* * *

— Хлопчык, а-у! Ты што, заснуў? — барадаты дзядзька ціхенька крануў Стася за плячо.— Ты не згубіўся?

— Не, я тут з экскурсіяй,— уздрыгнуў Стась і ціха дадаў: — Я з класам быў.

— А-а,— працягнуў барадаты,— значыцца, цікавімся роднай гісторыяй. Цётка Маня,— звярнуўся ён да наглядчыцы, якая адна была на тры залы,— а ці даўно пайшлі нашы дапытлівыя нашчадкі?

— Ды ўжо даўно, Сяргеіч, даўно. Акурат як з другога паверха сышлі,— адказала цётка Маня, не адрываючыся ад вязання.

— Та-ак,— зноў працягнуў барадаты.— Цётка Маня ўсё ведае. А гэта значыць — табе іх ужо не дагнаць. Ты далёка жывеш?

— Ды не, тут побач, за былым валам, на замку.

— На замку, кажаш? Глядзі, якія дасведчаны! А ці ведаеш што пра замак?

— Ведаю. Там, дзе мы жылі раней, таксама калісьці быў замак, а на рачулцы побач з ім — млын стаяў. А ў тым млыне — волат жыў. А волат той каменне на муку малоў. А муку тую людзям аддаваў. Вось! — на адным дыханні выпаліў хлопчык.

— А волата таго звалі...— далучыўся барадаты.

— Менеск.

— А цябе як зваць?

— Стась.

— Таксама няблага для волата. А мяне — Васіль Сяргеевіч. Вось і пазнаёміліся.— І барадаты дзядзька працягнуў Стасю руку.— Я тут працую. Праўда, не штодня, але часцяком. А ты, кажаш, у нашым горадзе жывеш. Добра ўладкаваўся на новым месцы?

— Так.

— А ў гэтым музеі, відаць, упершыню? Падабаецца?

— Вельмі.

Васіль Сяргеевіч на хвілінку задумаўся.

— Жывеш непадалёку, у школу ўсё адно спазніўся... Можа, табе яшчэ што паказаць?

Хлопчык узрадаваўся.

— А можна? — з надзеяй запытаў ён.

— Чаму ж не? Скарбонкі гэтага чароўнага дома незлічоныя. Тут, у падземных сутарэннях, стаяць вялізныя куфры, на куфрах тых — вялізныя замкі́, а пад замка́мі — не лямпы Аладзіна, не золата а аксамітамі, а спяць зачараваныя стагоддзі. Варта да іх дакрануцца — і яны ажываюць. Ты не палахлівец, Стась?

— Не, дзядзька Васіль. Я нічога не баюся, нават уначы магу з хаты выйсці! — у голасе Стася адчувалася хваляванне, ён баяўся, каб барадаты дзядзька раптам не перадумаў.

— Ну добра. Я пакажу табе цуды. Але ведай і памятай: як толькі скажаш словы: «Ой, дык гэта ж звычайны...» — усё знікне, куфры закрыюцца і зноў будуць пакрывацца пылам.

— Я згодны, згодны! Хадземце хутчэй!

— Добра, пайшлі. Цётка Маня,— звярнуўся барадаты да наглядчыцы,— калі хто запытае,— я ў фондах.

— Але, Сяргеіч, чую,— не адрываючыся ад вязання, адказала цётка Маня.

І яны пайшлі да акаваных жалезам старых дзвярэй.

* * *

У княжанне Вітаўта ў годы найвышэйшага ўздыму
Княства Вялікалітоўскага...
Ставіў аголены меч свой, як слуп пагранічны,
Перад нашэсцямі ворагаў з поўдня і ўсходу.
Нават татарын, пакорліва ўнурыўшы голаў,
Лук свой зламаны яму аддаваў...[1]

Пыл, змяшаны з пахам крыві, вісеў у паветры, быццам чые рукі накінулі на лагчыну шэры абрус. У жнівеньскі поўдзень сонца пячэ невыносна. Тупат і скрыгат, лямант і енкі, здавалася, ніколі не сцішацца на гэтай зямлі. У напружаных сонечных промнях бліскавіцамі ўспыхвалі ятаганы, злятал перамоўжаныя галовы бунчукоў, падалі адна за адной белыя харугвы з чырвонай «пагоняй». Шалёны галоп любімага каня аддаваўся ў галаве, быццам нехта прыгаршчамі сыпаў каменне на залачоны шалом. У галаве адзіная думка: «Зараз шмаргане зубчастая татарская страла — і канец».

Князь прачнуўся ў халодным поце. Колькі ўжо год напярэдадні бітвы яму сніцца адзін і той жа сон: праклятая Варксла! І навошта тады палез ён уладкоўваць справы Арды?! Толькі таму, што збег да яго выгнаны сваякамі Тахтамыш? Дык няхай бы і сядзеў сабе да скону ў Лідзе! Дык не! «Пойдзем спустошым зямлю Татарскую і заб'ем цара Цімур-Кутлуя і пасадзім цара Тахтамыша!» — самаўпэўнена казаў ён. Вось і бег ад Цімур-Кутлуя, п болей ад свайго нахабства, як сабака падцяўшы хвост, пакідаючы за сабою на землях Вялікага княства вёскі і мястэчкі, спаленыя татарскімі туменамі. Каторы ўжо год палаюць у снах тыя вогнішчы!

Ён даўно «аддзячыў» татарам за сваё паражэнне. Самі да яго прыходзілі ў Арду на княжэнне прасіцца: Салтан, Даўлет, Махмет. Але Варксла — спагнанне да скону і боль несуцешны.

Князь падняўся, выцягнуў з похваў меч. Халодная

---

[1] М. Гусоўскі. «Песня пра зубра». Пераклад Я. Семяжона.

сталь лашчыла далонь. Меч па-ранейшаму blішчаў, быццам толькі ўчора каваль выцягнуў яго з палаючага горна. Колькі вады сплыло паўз дзвінскія і нёманскія берагі, а яны — князь і меч — неразлучныя.

Ноч. Князь выйшаў з шатра. Перадсвітальнае астылае неба буяла зоркамі-драбніцамі. На полі і ўздоўж лесу тлелі млявыя вогнішчы. Каля іх, нібыта здані, варушыліся людзі. Вогнішчы і пажары пакінулі бязлітасны след на Белай Русі. Заўтра ім нанова разгарэцца на віцебскіх, полацкіх і іншых харугвах. Заўтра... Не, ужо сёння вершнік на белым кані, званы «Пагоняй», перадасць яму свой замоўлены валхвамі і кашчуннікамі меч. «Божа літасцівы, які б ты ні быў на гэтым свеце, даруй грахі мае і дай з перамогай жыццё і волю зямлі маёй. Хай меч твой аголены будзе слупам паграні́чным».

Над вёскаю Грунвальд падымалася бязлітаснае сонца.

* * *

— А-а-пчхі! — Стасік так моцна страсянуў галавою, што ледзь не стукнуўся лбом аб скрыню.

— Што, брат, пыл стагоддзяў да пят праймае? — усміхнуўся Васіль Сяргеевіч.— Трымайся, гэта — высакародны пыл.

— А што вунь у той шафе?

— О, гэта незвычайная шафа. У ёй сабраліся ўсе рамёствы. Вось гаршчок, у якім восемсот гадоў таму варылі ежу, трымалі харчы, а калі здаралася навала — хавалі грошы і бразготкі. А гэта — нож, але не звычайны — гарбарны. Бач, які нос у яго круглы. Ім рэзалі скуру. А гэты круглячок — праселка — таксама незвычайны. На ім жанчына, якая доўгімі зімовымі вечарамі прала кудзелю, надрапала: «пататнае», гэта значыць — крадзенае. Далей — пацеркі, бранзалеты, шкляныя і бурштынавыя, радзей — з бронзы і медзі. Іх прыгажуні насілі. Наш горад быў багаты і вядомы на ўвесь свет. Сюды з'язджаліся гандляры і з поўначы, і з поўдня. Таму глядзі: вось плечкі-вагі, а побач — гіры. Любую драбніцу ўзважаць дакладна, каб хутчэй старгавацца і менш спрачацца. А якія майстры-ювеліры жылі! Чаго толькі не рабілі! Ды так, што захапляліся прыгажуні нават з далёкіх зямель.

— Дзядзька Васіль, а куды падзеліся гэтыя людзі? Яны памерлі?

— Так, Стасік. Але не быў бы гэты свет чароўны, каб

незваротна знікалі ў ім майстры-чарадзеі. Паглядзі навокал: жывём мы, жыве наша мова, наша мастацтва. Ці было б усё гэта без іх? Вось глянь на гэты крыж. На ім, у самым нізе, напісана: «Божа, дапамажы рабу твайму Лазару, якога завуць Богша, зрабіўшаму гэты крыж». Ці не тут захавалася душа майстра, ці не тут ягоныя мары і сумненні? А калі жывуць яны — жыве і сам чалавек. Ён будзе сярод нас да той пары, пакуль мы будзем яго памятаць, ганарыцца славутым земляком. Ды толькі, на жаль, не заўсёды так бывае. Забываюцца людзі, адкуль пайшлі яны. Усё больш і больш забываюцца на сваю зямлю, а пагардаю ставяцца да мовы дзядоў і прадзедаў. А яны ж жывуць разам з намі!

— Дзядзька Васіль, чаму тады смяяліся з мяне ў класе, калі я размаўляў не па-іхняму? Хіба «беларус» — гэта абразлівая мянушка?

— Вядома, Стасік, не.— Васіль Сяргеевіч паклаў сваю руку на Стасева плячо і асцярожна прыгарнуў хлопчыка да сябе.— Часам, каб захаваць сваю чалавечую годнасць, даводзіцца пакутаваць, бараніцца. Так заўсёды было і, мабыць, будзе.

— А як бараніцца? Зброяй, мячом?

Васіль Сяргеевіч не чакаў такога пытання і здзіўлена паглядзеў на хлопчыка. Але прыгадаўшы, дзе яны сустрэліся, усміхнуўся.

— Ды неабавязкова. Пускаць у ход кулакі — апошняя справа. Асабліва сёння. Гэтак нічога не дакажаш і нікога не пераканаеш. Хоць, прызнацца, краіна Гісторыя — чароўная і вялікая. Рознае ў ёй было... Хочаш, раскажу адну казку пра годнасць і сумленне, пра любоў да зямлі сваёй?

Жыў некалі князь Рагвалод, і была ў яго дачка-прыгажуня Рагнеда...

* * *

...Малады княжыч не спаў. З паўночы круціўся з боку на бок. Спрабаваў заплюшчыць вочы і ўявіць, як прыходзіць да яго Леля, дастае з торбы чароўную коўдру і разам з ёю накідвае сон на яго. Але Леля не прыходзіла. Нават маленькі і калматы дамавік Чур, які, як думаў княжыч, жыве пад прыпечкам, і той не паказваў носа. І куды яны падзеліся? Няўжо бацькава дружына напалохала?

Вятох праплыў паўнеба, калі нарэшце пачала сціхаць

у харомах гулянка. Даўно сцены замка не бачылі столькі п'яных і вясёлых ваяроў на чале з самім князем. Была нагода — удалае паляванне. У душы малога княжыча ніяк не маглі паразумецца супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, ён радаваўся, калі бачыў бацьку — прыгожага, адважнага вялікага князя Кіеўскага, ад позірку якога нізка схіляліся барадатыя грыдні. А з другога — не мог зразумець, чаму князь рэдка прыязджае да іх на Лыбедзь — раз у сонцазварот. Так рэдка, што побач з бліскучай аксамітавай вопраткай, багата ўпрыгожанай зброяй сын з цяжкасцю прыгадваў рысы бацькавага твару. Цікавасць князя да сына звычайна пачыналася і канчалася пытаннямі аб поспехах у валоданні зброяй і чытанні грэчаскага пісьма. Мабыць, гэтага ён лічыў дастаткова для выхавання сапраўднага князя.

Прайшло колькі год, пакуль княжыч зразумеў, хто ён, і пачаў аддаляцца ад бацькі, так і не наблізіўшыся да яго.

Зусім іншая была маці — цэлым светам для сына. Разам з ёю княжыч праводзіў большую палову дня. А дні складаліся ў месяцы і леты. Яны разам чыталі дзіўныя пісьмёны, разгарнуўшы сшытыя ў чвэрць, а то і ў палову лісты тонкага пергаменту. Тыя пісанні былі на грэчаскай або тутэйшай мове. Часцей — пераклады з грэчаскай. А вечарамі княжыч любіў слухаць, як маці пяяла. А пяяла яна не на грэчаскай ці тутэйшай, а на сваёй роднай мове. Гэта была мова ягоных калыханак. Маці пяяла пра далёкую краіну Рогаланд, пра глыбокія фіёрды і адважных канунгаў, пра сівыя валуны, між якіх увесну буяюць яркія кветкі. Працяглая і спакойная балада аб далёкай паўночнай зямлі змянялася светлай мелодыяй празрыстых рэк і азёр, лясоў і палёў. Там жылі вадзянікі і русалкі, там хаваліся людзі ад чорнай Мары, прыводзілі гавяду ў ахвяру Вялесу, там Зюзя на калядкі грукаў дубінкамі па дрэвах. Свет чароўны і далёкі, любы і дарагі запаўняў трапяткую душу княжыча.

Расказвала князёўна і пра далёкую зямлю сваіх продкаў, пра славутага дзеда Рагвалода — яе бацьку, які на трох ладдзях з невялікай дружынай прыплыў сюды з той самай халоднай зямлі. Тут гаспадары гэтай зямлі абралі яго ў князі, тут ён будаваў гарады і гарадзішчы, бараніў і памнажаў багацці сваёй новай радзімы. Гандляры і песняры разносілі па свеце славу пра князя, а магутныя ўладары суседніх земель шукалі ягонай ласкі.

І хлопчык палюбіў той далёкі, невядомы край. Часта

пад матчын спеў ён і сам, быццам птушка, лятаў туды ў марах. Ён ганарыўся сваім родам — родам Рагвалодавічаў. Вось толькі бацька чамусьці ніколі пра гэта не згадваў...

...Як доўга цягнецца ноч! Нарэшце сціхлі нязладжаныя песні вясёлай дружыны. Вятох прайшоў амаль усё зорнае неба. Раптам княжыч пачуў, як моцна груккнулі дзверы і ўніз па прыступках пралуналі цяжкія бацькавы крокі. Колькі хвілін было ціха. Потым зноў рыпнулі дзверы, і ўжо мяккія, амаль бязгучныя крокі наблізіліся да яго пакоя.

— Мама, гэта ты?

— Я, сынок. Ты не спіш?

— Не.

Яна падышла да ложка, прысела. Праз маленькае, у тры бервяны, акенца падала на яе твар бледна-попельнае месячнае святло.

— Запалі свяцільнік,— сказала маці,— я хачу бачыць твае вочы...

* * *

— Ведаеш, Стась, на долю кожнага чалавека ў жыцці выпадае шмат выпрабаванняў. Колькі, бывае, трэба выпакутаваць, каб у душы абудзілася пачуццё ўласнай годнасці! — Васіль Сяргеевіч разам з хлопчыкам падняўся ў музейную залу. Крыху памаўчаўшы, дадаў: — Ды адкуль табе ведаць! Бывае, чалавек усё жыццё пражыве, а што гэта, так і не зведае... А лічыць, што жыў на свеце недарма. Можа, яно і так, не нам судзіць. Толькі з цягам часу ўсё становіцца на свае месцы. Вось і гэты меч Рагвалодаў... Невыпадкова ты каля яго спыніўся.

— Дзядзька Васіль, а колькі яму гадоў?

— Многа, Стасік. Тысяча.

— Столькі год яго хавалі?

— Хаваюць ад ворагаў скарбы — золата, серабро, каштоўнае каменне. А меч ворагу паказваюць, ім б'юць, калі той кваліцца на чужое дабро. Меч у цвёрдай руцэ — куды надзейней.

— Дзядзька Васіль, а ці браў хто гэты меч пасля княжыча Ізяслава?

— І не аднойчы. Колькі квітнее наша зямля і жывуць на ёй людзі — столькі і не ведаў гэты меч похвы. У адзінаццатым стагоддзі ўнук Ізяслава, высока ўзняўшы яго, шэрым ваўкалакам рыскаў па княству, адбіваючыся ад ворагаў. Волат Якаў з Полацка ў трынаццатым стагоддзі

біў ім крыжакоў на Няве і Чудскім возеры. Князь Андрэй у чатырнаццатым сек татарам галовы на Куліковым полі. Магутны і мудры Вітаўт пад бела-чырвона-белымі харугвамі з неўтаймаванай «Пагоняю» ляцеў наўздагон рыцарам Лівонскага ордэна. То пачыналася пятнаццатае стагоддзе. У шаснаццатым ваявода полацкі Давойна адбіваўся гэтым мячом ад войска маскавітаў. У семнаццатым меч зноў узняўся пад Полацкам і Смаленскам, Мінскам і Масквою. У васемнаццатым — меч біўся са шведамі, а ў дзевятнаццатым — з французамі. За волю і гонар народа высока ўзняў яго Каліноўскі супраць рускага цара і ягоных служак. А менш чым праз стагоддзе мы адбіваліся ім з усіх бакоў поплеч з братамі нашымі і суседзямі. А зараз, бачыш, вісіць. І гэта добра. Няхай ён лепш застаецца музейным экспанатам.

— А калі раптам што здарыцца?

— Тады ён нам яшчэ паслужыць. Але, Стасік,— спахапіўся Васіль Сяргеевіч,— ужо надта позна. Цябе, мабыць, шукаюць. Трэба дадому ісці. Калі будзе жаданне — прыходзь. Буду рады. Ну, бяжы! Да пабачэння.

— Да пабачэння, дзядзька Васіль! Вялікі дзякуй!

Стась куляй зляцеў з музейнага ганка і звілістымі завулкамі ўздоўж старых цагляных хат пабег дадому. Паўз магазін, замак, стадыён.

Дома, глытаючы словы, ён з хваляваннем расказваў бацькам пра незвычайныя падзеі гэтага дня. А ўвечары доўга круціўся ў ложку, пакуль заснуў.

* * *

— Ты малы яшчэ, сыне, каб трымаць у руцэ меч, але даволі дарослы, каб пачуць мае словы,— князёўна пільна ўглядалася ў вочы сына.— Можа, не ўсё зразумееш, таму — заклінаю памяццю дзеда твайго — запамінай на будучае...

— Што здарылася, мама? Чаму я не зразумею цябе? Я магу трымаць меч.

— Трымаць можаш, але падняць высока сілы не хопіць. Гэта ноч для мяне апошняя. Я нават не ўбачу раніцы, бо зараз твой бацька, вялікі князь Уладзімір, заб'е мяне.

— Матуля!..

— Маўчы і слухай. Я расказвала табе пра нашу зямлю, пра дзеда твайго — Рагвалода. Але не сказала ўсёй праўды. Я не сказала табе, як Уладзімір заняволіў нас. Ён

прыйшоў з вялікім войскам пад Полацк, узяў яго асадаю і дашчэнту спаліў. Ён забіў тваіх дзеда і бабку, забіў маіх братоў. Я тады маладая была, у мяне быў жаніх. Князь Уладзімір зняважыў мяне, забіў майго жаніха, а княства ягонае забраў. Зніклі мары мае і юнацкія песні, зніклі мудрыя багі-абаронцы, звычкі роднага краю. Я больш не чула нашай гаворкі, показак і балад. Прайшоў час, і я зразумела: не я патрэбна была князю, а зямля мая, рэкі і азёры, лясы і лугі. Дарма столькі год я глыбока хавала абразу сваю, дарма пераконвала сябе ў любові да князя. Ён забыўся на мяне, на свайго сына. Зараз я шкадую, што не адпомсціла забойцу адразу. Потым было позна — ты з'явіўся на свет. Каму, як не табе, сынок, магу я выказаць боль і горыч сваю? Сёння ўночы я нарэшце адважылася адпомсціць князю. Але ён, хоць і быў моцна п'яны, прачнуўся нечакана і адвёў ад сябе ўдар помсты. Жанчынам гэтага не даруюць... Сёння я памру. А ты застанешся, Ізяслаў. Калі не адпомсціш за мяне, за зямлю нашу і ўсіх сваякоў,— багі не даруюць табе, пакутаваць будзеш да скону. Вось меч Рагвалодаў. Яго прынеслі мне з папялішча нашага церама. Трымай моцна і перадай у запавет дзецям сваім. Няхай ніколі не будзе ўзняты ён над галавою бязвіннаю і слабейшаю, над зямлёю і майнам чужымі. Але няхай безупынна сячэ ворагаў, якія спакусяцца на багацце радзімы нашай, на волю нашых людзей. Такое закляцце на ім. Бяры, сынок, меч і помні гэта закляцце да жывата свайго...

* * *

Маці прачнулася глыбокай ноччу. Сын неспакойна кідаўся ў ложку, плакаў і нешта мармытаў. Яна падхапілася, хуценька падбегла да яго.

— Сыночак, сыночак, што ты, дзетка? Супакойся, любы, я тут, з табою!

Хлопчык сутаргава абдымаў яе абедзвюма рукамі, глытаючы слёзы, якія ўсё мацней цяклі з-пад сонных павек.

— Мама, мамачка, не памірай... не трэба! Дай мне дзедаў меч! Уладзімір не заб'е цябе! Я не дам... цябе, зямлю нашу... Я абараню вас!..

— Цішэй, цішэй, сынку! Супакойся, родны! — павольна, у такт словам, быццам калыхала, гаварыла маці, прыціскаючы сына да грудзей.— Гэта толькі казка,— і, памаўчаўшы, дадала: — А меч Рагвалодаў, калі спатрэбіцца, ты і сам возьмеш...

## Міхась Ткачоў

# УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

### *Гістарычны нарыс*

За Дзвіною дагараў вечар. Сонца зыркімі, сыпучымі промнямі развітальна лашчыла вастраверхі церам, макавіцы драўлянага храма, асадзістыя вежы новага полацкага дзядзінца. Яшчэ нядаўна, год таму назад, Усяслаў са сваім дваром, сям'ёю і чэляддзю жыў на старым гарадзішчы. Утульнае родавае гняздо, што колькі стагоддзяў займала вяршыню высокага вострава-пагорка пасярод Палаты, стала цеснаватым. Пас абарончага вастракола да апошняй мяжы заціснуў жыццё на пляцоўцы Гарадзішча. Княскі двор, які абстаўлены невялікімі дамкамі гараджан так, што на вуліцы два вершнікі ўжо з цяжкасцю раз'язджаліся, здавалася, стаў задыхацца ад пульсуючага дзённага віру рамеснікаў, купцоў і прыезджых з паўночных зямель і нямецкага берага. «А калі, барані Бог, пажар,— усё і ўсе апынемся на небе»,— не раз з трывогай думаў малады князь. Асабліва падахвочвалі яго перасяліцца бліжэй да Дзвіны, на яе высокі і стромкі бераг знаёмыя варажскія госці. Кожны раз, ідучы па вуліцы цеснага горада да князя на паклон з дарамі, яны круцілі носам і азіраліся, бо ў любы момант з-за брамы маглі плюхнуць на маставую балею з бруднаю вадою ці выкінуць нейкія нечыстоты.

Усяслаў заўсёды іх цёпла прымаў, частаваў розным харчам і пітвом, асабліва сычаным мёдам, ад якога заморскія госці на вачах быццам плавіліся і млелі, лезлі абдымацца, зрывалі з сябе дарагія ўборы і кідалі да ног Усяслава.

— Канунт Усяслаў! — не раз гаварылі яму захмялелыя госці.— Слава пра твой Полтэскуборг ідзе па зямлі шведскай і па гатландскім беразе. Ты — магутны і багаты князь, а якая ў цябе сталіца? Яе даўжыня на адно стралянне з лука. Нашы караблі з таварам не могуць падплысці да тваіх прычалаў, бо рэчка Палата плыткая. Тавары даводзіцца лішні раз перагружаць. Купец — чалавек заняты, яму трэба спяшацца. Час — гэта золата, грошы!

Усяслаў слухаў, ківаў галавою, пагаджаўся, але было бачна, што ён сам па сабе. Разумны талмач, які перакладаў князю застольную бяседу і п'яныя парады гасцей, добра ведаў свайго гаспадара. Бачыў, што ёсць у яго на сэрцы

вялікая дума, але не падзеліцца ўслых, мусіць, ні з кім. Раз толькі, пасля доўгай размовы з госцем-арабам, які праз Царград і Кіеў з цяжкасцю дабраўся ў Полацак, прагаварыўся малады князь. А цікавая тады была гаворка...

Гандлёвы караван гэтага госця з'явіўся нечакана. Дальняя застава яго праспала, а бліжняя ледзьве паспела паведаміць, што ў Полацак рухаецца гандлёвы караван якогасьці басурманіна. Шнур гэтага каравана выцягнуўся з лесу і меў дзіўны выгляд. Наперадзе вялі на повадзе нагружаных мяхамі з таварам коней нанятыя ў Кіеве чаляднікі і дарожнікі. Затым у сярэдзіне каравана вялі таксама на повадзе нябачаную тут жывёліну: вялікую, гарбатую, цыбастую з праціўнай храпатай мордай, адвіслымі губамі, рэшатападобнымі капытамі-ступакамі і маленькім хвастом-палачкай. На гарбу гэтага страшылішча мясціўся нейкі будан з тканіны, з якога, як вараня з гнязда, раз-пораз высоўвалася галава чырванатварага чалавечка. Ён меў чарнявыя вусы, даўгаваты нос, што кручком перагінаўся праз вусы. На галаве была накручана белая тканіна. У правым вуху паблісквала залатая завушніца. Кожны раз, калі гэты дзівак высоўваўся са свайго суконнага гнязда, ён штосьці крычаў, прарэзліва і гартанна, і тады караван прыбаўляў хады.

Прыход купецкага каравана ў Полацак — заўсёды падзея. А тут такія нябачаныя дзівосы!

Пакуль паром з гарбатым страхоццем пераплываў Дзвіну, на бераг высыпаў ці не ўвесь горад. Першымі, як заўсёды, былі дзеці. Яны сыпаліся з гары да вады, як кулі. Смялейшыя — спераду, пужлівыя хаваліся ззаду. Гарадскі старац і княжацкі дворны з талмачамі выйшлі наперад. Маленькі купец, рухавы, у дарагім чырвоным халаце, прыклаў руку да лба, сэрца, пакланіўся і загаварыў. Талмачы пераглянуліся — мова ім была невядомая. Тады адзін кіянін, што суправаджаў караван, сказаў штосьці госцю і той загаварыў на іншай мове, якая нагадвала птушынае шчабятанне. Гэта талмачы зразумелі: купец прамаўляў пагрэчаску.

Госця, як гэта патрабаваў звычай, размясцілі на заезным гасцінным дворышчы. Склалі тавары ў моцную клець. Найбольш клопату было з жывёлай, асабліва з «страшылішчам», які не ўлазіў у дзверы стайні, як яго не цягнулі за повад.

Разявак сабралася вакол — і старых, і малых.

— Гэта ж трэба, такая ўродзіна,— казаў адзін здара-

венны мужчына. Расставіўшы шырока ногі і ўпёршы кулакі ў бакі, ён заходзіў і збоку, і ззаду, і спераду.— І каб табе зварухнулася,— разважаў гараджанін.— Бач, і жвачку жуе, як карова. Ну ты скажы,— не сунімаўся разявака.— А ў дзверы не лезе. А ну-ка, дайце я яго за повад пацягну.

Вярблюд нейкі час цярпліва стаяў, толькі ўскідваў высока галаву, калі мужчына шморгаў за повад. Але потым яму гэта ўсё надакучыла, і ён, пажваўшы сваімі віслымі губамі, раптам як плюнуў на настыру і патрапіў проста на грудзі.

Што тут пачалося! Люд клаўся ад рогату. Мужык, які спачатку аслупянеў ад нечаканага падарунка, ад злосці хацеў садануць па храпе гэтаму клятаму гарбаносу, але той так задраў галаву, што ўровень са страхою стайні.

— Ну што, Клімята,— смяяліся палачане з разгубленага разявакі.— Відаць, плюнуў з паўвядра на цябе. Ледзьве ўстаяў, братка. Гізуй на Дзвіну, палашчы кашулю, а то жонка на парог не пусціць. Падумае, што гэта ты сам так абслюнявіўся!

Небарака пашыўся правулкамі да вады, лаючыся і плюючыся ад злосці.

Назаўтра купец прадстаў перад князем Усяславам.

...Госць прыйшоў перад вячэрай у суправаджэнні слуг, якія папарна неслі дарункі. Гэта былі скруткі двух вялікіх тканых дываноў для самога князя і яго жонкі, сувойчык кітайкі шляхетнага пурпуровага колеру (араб ведаў, што права насіць адзенне такога колеру мела толькі княжацкая сям'я і яе род), прыгожыя халаты з атласу і адамашку. Неслі асобна вялікую залатую чару, прывезеную з Нубіі, шаблю дамаскай сталі і работы, добрую жменю самацветаў у пушачцы[1] са слановай косці. А яшчэ кораб заморскай садавіны, праўда, вяленай і сушанай; тут былі і фінікі, і разынкі, і дыні, што мядовымі скібамі яшчэ нядаўна прадаваліся на канстанцінопальскім прыморскім базары. Базар — па-арабску «справа ля варот». І сапраўды той кірмаш быў ля гіганцкіх варот імператарскай сталіцы. А спраў на ім — у кожнага купца!.. Толькі трымай у руках каліту з грашыма ды пільнуй, каб галава не абмарачылася... Адным словам, уся гэта садавіна была закуплена ў Канстанцінопалі з разлікам на дзяцей.

— Алах акбар! — склаўшы далоні лодачкай, ветліва

[1] П у ш а ч к а — невялікі карабок.

пакланіўся князю заезджы купец і хітра бліснуў вачыма.

— Слава Ісусу Хрысту! — адказаў па-грэчаску Усяслаў.

— О, вялікі султан гаворыць па-візантыйску?! — узрадаваўся араб.— Мір дому твайму, здароўя жонкам і чадам тваім, блаславенны будуць статкі твае. Алах літасцівы, памажы і нам! — Ён яшчэ раз пакланіўся і пляснуў два разы ў далоні. Слугі выйшлі наперад і паклалі перад Усяславам дарункі.

— Прымі, вялікі Сулейман, маё паднашэнне як прывітанне і падзяку за гасціннасць і надзею, што караван мой яшчэ не раз прыйдзе ў тваю блаславенную сталіцу.

Усяслаў нахіліў прыветна галаву і, усміхнуўшыся ў пшанічныя вусы, сказаў лагодна і спакойна:

— Няхай не аскуднеюць твае, госць, багацці, а душа захавае мір і павагу да ўсіх добрых людзей. Праходзь, купец, да майго стала, госцю — сядзець праваруч ад мяне.

Усяслаў сеў за цясовы стол на высокае драўлянае крэсла і побач пасадзіў купца.

— Як жа завуць цябе, паважаны чужаземец, адкуль пралёг у Полацак твой шлях?

— Я — дамаскі купец, сын купца і ўнук купца. Імя маё — Селім Мухамед,— адказваў госць, спрабуючы сесці на крэсла, падкурчыўшы крыж-накрыж ногі. Але сядзелася яму кепска, то адна, то другая нага саслізгвала. Ён ёрзаў, торгаўся, круціўся, як сарока на калку.

Усяслаў заўважыў гэта і, хітравата глянуўшы на госця, загадаў слугам:

— А пасцяліце-ка нам на падлозе адзін з тых дываноў, стаўце на дол усю гэту снедзь. Госцю трэба павагу аказаць ды і спадручней будзе весці бяседу.

Отракі-грыдні, хоць і здзівіліся загаду, але выгляду не падалі. Яны раскацілі дыван і застылі ў нерашучасці: такіх прыгожых, яркіх і чыстых колераў было гэта рукатворнае дзіва. З цікавасцю глядзеў на яго і Усяслаў — сапраўды краса незвычайная.

Купец ацаніў абстаноўку і ўзрадаваны загаварыў, радасна і хутка:

— Гэты цуд саткалі рабыні аднаго султана ў Аравіі. Вярблюджая воўна, ссуканая ў ніці іхнімі пальцамі, фарбавалася многімі фарбамі, якія прывезлі з Індыі і Цэйлона. Я сам не раз прывозіў іх. Дыван не паліняе, ён не баіцца сонца, вады. Улетку на ім прахалода, а зімою цёпла.

— Тады сцяліце, отракі, зверху абрус і стаўце туды

гэтых лебядзяў, качак, асятра, зяленіну; кладзіце хлеб. Будзем вячэраць.

На падлозе Селім адчуваў сябе куды лепей. Ён цвёрда, як уліты, сядзеў на падкурчаных нагах. Скінуўшы свае вастраносыя чаравікі, ён куляўся то на адзін бок, то на другі. Кінутая яму пад рукі падушка пераязджала, як жывая, і здавалася, яна яго неадрыўная частка. Госцю было зручна. Затое Усяслаў нібы памяняўся з ім ролямі. Сядзець, скруціўшы ногі, было вельмі нязручна. Ногі млелі. Тады даводзілася іх паціху выпростваць, але куды выпрастаць — перад табою стравы. Сядалішча пачынала дзервянець, спіна адымацца і ныць. Урэшце ён стаў на калені і гукнуў грыдню:

— Падай мне маленькі зэдлік.

На зэдліку, зробленым з расшчэпленага ствала елкі з укарочанымі сукамі, стала сядзець і гаварыць лепей. Бяседа працягвалася.

— Раскажы, паважаны купец Селім, што новага на свеце, у Канстанцінопалі. Дзе, па якіх землях пралёг след твайго каравана? Мне сказалі старцы, што тавараў ты прывёз не шмат. Значыцца, хочаш купіць нашы тавары за гатовыя грошы?

Госць, адолеўшы добры кавалак смажанага асятра, абцёр вусны, рукі і пачаў свой аповед.

— Вялікі султан Усяслаў! Купец — гэта пасланец мудрасці Алаха: ён — іголка, а яго караван — гэта нітка, якая сшывае ў адно палатно кавалкі розных зямель. Благаславенны прарок Мухамед называў гандаль соллю жыцця, без якой усе стравы будуць прэсныя і нясмачныя. Усе мае сем братоў таксама купцы. Як і я, яны бываюць у дзіўнай краіне Індыя і бязмежным людскім акіяне-краіне Сіна. Благавонь, слановую косць і пярліны мы возім з вострава Цэйлон. З Абісінскіх гор — золата і дзіўныя камяні. З земляў Куябы — футра сабалёў, куніц, бабровы струмень.

Я ж прыехаў у тваю зямлю па іншы тавар. Па ўсёй Аравіі ў гарэмах султанаў і эміраў цэняцца нявольніцы-рабыні з тутэйшых зямель. Многія знатныя людзі Усходу плацяць за такі тавар любыя грошы. Вашы рабыні — гэта неацэнныя самацветы, якія набываюць казачную цану, калі ім даць аправу з золата, серабра, апрануць у прыгожыя адзенні. Такая рабыня ў гарэме лёгка можа завалодаць сэрцам любога правіцеля. Рызыкуючы жыццём, я прабіраўся ў твой лясны край, каб за грошы — вялікія грошы — набыць два дзесяткі маладых і прыгожых нявольніц.

Справа — вартая рызыкі. Калі мне ўдасца купіць тое, што мне патрэбна, я аддзячу з усёй шчодрасцю. І потым мае караваны пракладуць сюды, у твой край, сваю дарогу.

Усяслаў спахмурнеў. Такіх купцоў ён яшчэ не сустракаў. Такім гандлем ніколі не займаўся і не будзе.

— Купец Селім! У маёй Полацкай зямлі ўсе людзі вольныя, рабоў і нявольніц няма. Нават калі ў час якога паходу і бяром паланянінаў, мы ўсім ім даём права жыць і працаваць свабодна. Паланянкі выходзяць замуж і становяцца свабоднымі.

— Але ж вялікі султан такі багаты! Ён можа пракарміць 50 жонак. Я таксама багаты, але ў мяне толькі чатыры жонкі. Больш нельга паводле Карана, і Алах мець не дазваляе.

— Наша вера, наш Бог забараняе мець шмат жонак. У нас, хрысціян, жонка адна.

Каб перавесці размову на нешта іншае, Усяслаў запытаўся пра тое, што яго вельмі цікавіла.

— А скажы, купец Селім, ці праўда, што ў тваёй далёкай краіне шмат адукаваных, пісьменных людзей. Казалі мне нашы госці, якія ходзяць з таварамі ў Царград, што нават апошні купецкі прыказчык у вас ведае пісьмо, можа лічыць, чытаць кнігі, пісаныя на пергаменце.

— О кнігі! — купец, які было трохі страціў імпэт пасля адказу князя аб нявольніцах, ажывіўся ізноў.— У нашай, блаславёнай Алахам, Аравіі кнігі чытаюцца і шануюцца бадай што ў кожнай сям'і. У нас, мусульман, у школу ходзяць усе дзеці — багатыя і бедныя, хлопчыкі і дзяўчынкі. У Аравіі шмат школ — пачатковых у малых паселішчах і большых — у буйных гарадах. З іх найбольш дасціпныя трапляюць у медрэсе, якія маюць славу на цэлым Усходзе. Там вучаць навукам мудрэйшыя з мудрых...

— Але ж ты, купец, відаць, залішне хвалішся. Няўжо і дзеці простых людзей ходзяць у школы і сядзяць разам з дзецьмі князёў і баяр? Для чаго гэта робіцца?

Араб паблажліва глянуў на Усяслава і прапусціў праз пальцы пафарбаваную хною рэдкую барадзёнку. Узняўшы вочы да столі, ён прыжмурыўся і стаў з асалодай гаварыць.

— Вялікі султан! Навука і пісьменнасць дае дзяржаве вялікую сілу. Чым больш пісьменных людзей, тым лепш ладзіцца жыццё...

— Але ж смерду, селяніну — навошта грамата? — перабіў Усяслаў апавядальніка.

— І са смерда можа атрымацца мудры чалавек, які пачне памагаць вучыць іншых людзей. Гэта добра для гаспадаркі, гандлю, гэта спатрэбіцца ў час вайны. Ваяваць жа трэба не толькі зброяй, але і галавой. Наша медрэсе Аль-Ахзар у Каіры існуе больш за два з паловай стагоддзі. А год назад у дарагім мне Багдадзе візір Нізамі-ал-Мульк залажыў медрэсе Нізамійя. У кожным з іх адразу вучыцца тысячы студэнтаў,— працягваў хваліцца госць.

— Няўжо тысячы?

— Тысячы, мой султан. І з розных зямель. Яны жывуць зямляцтвамі. І там ёсць вучні з Персіі, Пуштуністану, Самарканда, Бухары і многіх іншых краін. Яны вучаць слова Божае, свяшчэнны Каран, права, паэтыку, рыторыку, логіку і астраномію.

— Тысячы вучацца,— задуменна разважаў Усяслаў.— А хто працуе, хто іх корміць? Гэта ж такую дружыну пракарміць — вунь колькі ўсяго трэба...

— А на гэта, мой дарагі султан, даюць грошы і купцы, і імамы, і султаны. І мячэць наша грошы не шкадуе. Ды і самі яны працуюць, вучаць дзяцей па дамах. З нядаўніх часоў усім студэнтам і іх настаўнікам плацяць грошы на пражыццё, даюцца прылады пісьма, кожнаму даецца лямпа, добра напоўненая алеем. Гэта каб і вечарам можна было чытаць і пісаць. У нашым Багдадзе — хай сцеражэ гэты райскі горад міласэрны Алах — для студэнтаў ёсць спецыяльныя дамы з кухнямі, лазнямі і шпіталямі, дзе штодня служыць лекар. Там ёсць вялікая бібліятэка з мудрымі кнігамі, якімі кожны можа свабодна карыстацца. На закуп кніг даюць грошы жыхары Багдада.

— Ну як жа можна такія дарагія рэчы, напісаныя на пергаменце, з дарагімі дошкамі-акладамі, даваць кожнаму ў рукі?

— Вялікі султан,— хіхікнуў купец,— нашы кнігі ўжо даўно не пішуцца на пергаменце. Гэта вельмі дарага і патрабуе шмат працы для вырабу скуры.

— Дык на чым жа вы пішаце?

— У нас, у Багдадзе, ужо два з паловай стагоддзі пішуць на паперы, якую вырабляюць з ільняных валокнаў. Але прыдумалі гэта белае дзіва не мы, а майстры ў Самаркандзе і Бухары. З Багдада яно трапіла ў Егіпет і Марока. Я падарую табе, мой султан, дзве кнігі. Адна з іх — кніга ўсіх мусульман.

— Каран, святое слова Алаха,— і ён, дастаўшы з-пад халата, пацалаваў Каран і працягнуў Усяславу.— Каран

напісаны па-арабску. Але табе падару яшчэ адну кнігу, пісаную па-грэчаску. Гэту ты лёгка прачытаеш. А называецца кніга «Александрыя», пра вялікага палкаводца Грэцыі Аляксандра Македонскага.

І араб працягнуў другую кнігу. Яе вокладка, абцягнутая сінім адамашкам, загадкава і таямніча свяцілася і блікавала ад святла мноства свечак.

— Табе, мой султан, мужу і воіну, гэтую кнігу трэба абавязкова прачытаць. Яна надае сілы і цікавасць да жыцця і ваенных паходаў.

— Дзякую за шчодры дарунак.— Усяслаў прыклаў руку да сэрца.— Пра вялікага Аляксандра я ўжо чуў ад мудрых людзей, манахаў з Царграда, што жылі ў нас у Полацку пасля хрышчэння палачан. Цяпер з радасцю пачытаю.

Ён аддаў грыдню кнігі і загадаў аднесці ў апачывальню.

— Чытай, вялікі султан. Вялікая карысць бывае чалавеку ад вучэння кніжнага.

— У нас у Полацку кажуць: «Кнігі — гэта рэкі, якія пояць увесь свет, з іх зыходзіць мудрасць; кніга — бяздонная глыбіня...»

— А мы, арабы, яшчэ кажам, што кніга — гэта калодзеж, выкапаны іголкаю і сваім розумам.— І госць радасна рассмяяўся.

Потым яны яшчэ доўга гаварылі пра веру, пра храмы. Араб гарачыўся і казаў, што мураваная мячэць — найлепшы будынак для размовы з Алахам. Усяслаў хмурыў бровы і даказваў, што драўляны храм лепшы для дома Божага. Там больш свабодна дыхаецца, дрэва цяплейшае для вока і для душы. Але араб не здаваўся.

— Твая драўляная мячэць, вялікі султан, можа згарэць разам з усімі кадзільнямі і абразамі. Можа быць і маланка, і неасцярожнае абыходжанне з агнём. Сухое дрэва — ой, як добра гарыць!

— Ну, Бог літасцівы, ён не дапусціць,— упэўнена запярэчыў князь.

— Алах акбар, няма ў свеце прарока, акрамя Алаха! Але сцеражонага — прарок сцеражэ...

Разышліся апоўначы! А на раніцу прыйшоў заезджы купец развітацца з Усяславам. Ён ад'язджаў са сваім караванам у Віцебск, а адтуль збіраўся падацца да Смаленска. Араб усё ж не траціў надзеі купіць жаданы жывы тавар. На тым і рассталіся...

А праз дзень дзве страшныя весткі абрынуліся на Усяслава, які ад'ехаў на паляванне ў няблізкую Дрыскую пушчу. Конны служка прыляцеў у паляўнічы стан і паведаміў, што нейкія разбойнікі забілі і абрабавалі араба Селіма і яго караван. Здарылася гэта на левым беразе Дзвіны, за сяльцом Казьянкі, на ўзлеску.

Князь спахмурнеў і са злосцю секануў бічом па кусце. Такога яшчэ не было ў яго Полацкай зямлі, каб замежнага госця абабралі.

А тут яшчэ і забілі.

Усяслаў тут жа паслаў двух верных баяр правесці вышук і знайсці забойцаў хоць пад зямлёй.

Набліжаўся вечар. Сонца на захадзе імкліва зацягвала хмарамі. Усчынаўся вецер, а за ім забарабаніў па лісці дождж.

— Начуем тут,— загадаў Усяслаў.

Отракі і сакольнічыя ўмомант нацягнулі намёты, атабарыліся.

Неба пачало грукатаць. Маланкі бліскучымі пугамі паласавалі цемру над галавой. Гучна ляскатаў і біў Пярун.

Усяслаў толькі раз перахрысціўся і падумаў, што калі так Пярун жахне ў цeрам, то і выскачыць ніхто не паспее, прападуць...

Амаль цэлую ноч гневалася неба, а на раніцу ўсё сціхла, і над абмытай і прычасанай дажджом зямлёй, над далёкім лесам узышло сонца. Але бог Ярыла не прынёс радасці. Наадварот, прыскакаў новы пасланец з Полацка і, баязліва цiскаючы ў руках шапку, паведаміў:

— Княжа... Сёння ноччу маланкай спаліла царкву над Дзвіною.

«Ну вось, збываюцца прароцтвы таго арабскага госця»,— падумаў з адчаем Усяслаў. Уздыхнуў, перахрысціўся і ўскочыў на каня.

— За мной.

...Над пажарышчам яшчэ віўся дым, востра пахла залітымі вадою галавешкамі. Груда спаленага бярвення сіня-чорнымі рэбрамі тырчэла над руінамі колішняй будыніны. Купай стаялі гараджане, узбуджаныя, разгубленыя. Ігумен падышоў да Усяслава і ўзняў да яго чырвоныя ад слёз і дыму вочы.

— Бяда, сыне...

— Бачу,— Усяслаў цяжка сышоў з каня і пацалаваў ігумену руку, той блаславіў князя.— Нічога, дасць Бог,— адбудуем. Ды яшчэ лепшую паставім! Чуеце,— звярнуўся

ён да грамады палачан,— паставім новы храм, мураваны. Нічога не пашкадую, і зробім на векі вечныя, каб стаяла ад нас тут памяць будучым пакаленням. Зробім не горш, як у Кіеве і Ноўгарадзе Вялікім. І нарачом храмам святое Сафіі, Сафіі — прамудрасці Божай!

— Бог у помач! — загула грамада.— Пасобім і мы, чым здолеем. Пойдзем з шапкаю па крузе. Кожны двор дасць ад шчырага сэрца.

— Ну, калі так, то дзякую вам, мілыя палачане. Б'ю вам чалом. Будзем разам,— і ён пакланіўся грамадзе. Тая адказала дружным паклонам і праяснела тварамі.

## Сімяон Полацкі

### *[З прадмовы да «Рифмологиона»]*

... Писах ■ началѣ по языку тому,
Иже свойственный бѣ моему дому.
Таже увидѣв много ползу быти,
Славенскому ся чистому учити.
Взях грамматику прилѣжах читати,
Бог же удобно даде ми ю знати.
К тому странная сущи ей подобна,
В знании ползу бяше ми удобна.
Тако славенским рѣчем приложихся,
Елико дал бог знати научихся...

## СТИХИ УТѢШНЫИ К ЛИЦУ ЕДИНОМУ

Кто хощет людей на свѣтѣ познати,
Изволь о умных мене вопрошати.
Сам я не дурак, да блюдусь сказати,
Чтоб мене вверх не хотѣли взяти.
Видете мене, как я муж отраден,
Возростом велик и умом изряден?
Кто ся со мною может поровнати,
Развѣ из мертвых Голиафу встати?
Ума излишком, аж нѣгде дѣвати,—
Купи кто хочет, а я рад продати.
Вся глава умом велми ся наткана,
А мозгу мало, что мѣста не стало.

Времем сквозь нос разум вытекает,
Да Семен умен.— языком приймает.
А сколько силы, не можно сказати:
Лва на бумагу мощно мнѣ раздрати.
Другий то Сампсон, да нет с ким побиться:
Кого вызову — всяк мене боится.
Да кто с богатиром бороться посмѣет:
Мечем, пистолми — все Семен умѣет.
Мнози видают, как сильно борюся,
Когда с рубашки в вечер раздегнуся.

Не один недруг тогда погибает,
А кровь от ногтей и в очи плискает.
По такой битвѣ, рад я спочиваю
На мяккой лавкѣ. Так трудов збываю.
Все мне по мысли. Одно то в печали,
Что злые людѣ жениться не дали.
Зависть проклята. Гдѣ мене полюбят,
Там злые людѣ тот час мя разгудят.
Кто таков, как я,— да щастя не многа.
Оженитя мя, молю вас для бога!
Ручайте! Есть с чим молодец дороден,
Есть што есть и пить, и велми заводен.
Свое полаты за печью имѣю,
А про богатство хвалиться не смею,
Чтоб вор не окрал. А стану дарити,
Кто мя изволит скоро оженити.
И буду ему праведно служити:
Хлѣб дармо ести и вино добрѣ пити.

## Пятро Сіняўскі

*Казкі*

## ЯК ГАЎРЫЛКА ПАНА СА СВЕТУ ЗЖЫЎ

Жыў-быў Гаўрылка. Конь у Гаўрылкі — галава ды хвост, а паміж іх — рэбры, скурай абцягнутыя. Былі да каня і драбіны — колы драўляныя, спіцы саламяныя, шворан жалезны, а самі з паперы склееныя.

Запрог Гаўрылка каня ў драбіны, паехаў у поле, наклаў дзесяць мяхоў бульбы. Дзесяць бульбінак у кішэнь палажыў і дахаты рушыў. Конь нагамі пераступае, у хамут налягае — колы драўляныя, спіцы саламяныя круцяцца. І едуць папяровыя драбіны, мяхі з бульбаю вязуць. А Гаўрылка збоку ідзе, мяхі папраўляе, воз падпіхае, каню памагае, каб колы ў канёвым жа следзе не завязлі. І яшчэ глядзіць Гаўрылка, каб гужы не парваліся. Бо парвуцца гужы — трэсне дуга. Трэсне дуга — конь напужаецца, страпянецца, не ў той бок крутанецца — і хрусне аглобля. Хрусне аглобля — пераломіцца шворан. Пераломіцца шворан — драбіны аб дарогу ўдарацца, рассыплюцца. І не давязе тады Гаўрылка бульбу дахаты.

Вязе ды вязе Гаўрылка бульбу і думае: «Прывязу бульбачку, жонка набярэ ў кош, памые, насыпле ў чыгунок, вадой нальe, на агонь паставіць. Зварыцца бульбачка — дзеткі пад'ядуць». Думае так і думае Гаўрылка, а тут, адкуль ні вазьміся,— пан са служкамі на конях наляцеў. Коні ў пана — віхор, служкі дужыя, сам пан здаравенны ды вясёлы. Пытае ён у Гаўрылкі:

— Чаму пехатой ідзеш, чалавеча, ды не на возе едзеш? — А сам адным вокам, хітрым, круціць, другім, прагным, на мяхі з бульбай пазірае.

— Воз падпіхаю, каню памагаю і гляджу, каб гужы не парваліся, бяда не падкралася,— адказвае Гаўрылка.

Усміхнуўся пан у вус да служак:

— А праўду Гаўрылка кажа — цяжка яму. Дапамажыце ж чалавеку!

Наляцелі служкі, перакінулі мяхі з бульбачкай у панскі воз, свіснулі, гікнулі, зарагаталі і да панскага палаца памчалі.

Глянуў ім Гаўрылка ўслед і ні з чым дахаты паехаў. Прыехаў, дастаў з кішэні дзесяць бульбінак. Жонка іх памыла, кінула ў чыгунок, наліла вадой, на агонь паставіла. А калі зварыліся, раздала дзеткам. Кожнаму па бульбінцы і выйшла. А Гаўрылка з жонкаю не паеўшы спаць леглі.

Назаўтра чуць свет сабраўся Гаўрылка і паехаў у поле. Накапаў дзесяць мяхоў бульбы, дзесяць бульбінак у кішэнь палажыў і едзе дахаты другой дарогай, каб пана са служкамі не сустрэць.

А яны тут як тут.

Ускочыў Гаўрылка на воз — конь стаў.

Падляцелі пан са служкамі да Гаўрылкі. Пан адным

вокам, хітрым, круціць, другім, прагным, на мяхі з бульбай пазірае. Пытае ў Гаўрылкі:

— Чаго на возе сядзіш, чалавеча?

— Дамоў еду,— адказвае Гаўрылка.

Пан да служак сваіх звяртаецца:

— А і праўду Гаўрылка кажа — цяжка яму. Ну, што стаіце, дапамажыце каню.

Наляцелі служкі на Гаўрылкаў воз, мяхі з бульбаю на панскі перакінулі, з кішэні ў Гаўрылкі дзесяць бульбінак вытраслі. А потым — толькі і бачыў іх Гаўрылка.

Прыехаў Гаўрылка ў свой двор, каня адпрог, пасвіцца пусціў, а сам у хатку не ідзе — цяжка будзе дзеткам у вочы паглядзець. Яны ж так есці хочуць!

Сеў Гаўрылка на драбіны і думае, што рабіць яму: ці ў сцяну лбом ударыцца, альбо ў вір галавой кінуцца? Ды не мог ён у вір галавой. «Каб сам, дык што? А без мяне дзеткі, птушаняткі неапёраныя, прападуць».

І ўсё ж надумаўся Гаўрылка, што рабіць яму.

Дачакаўся раніцы і да панскага палаца белакаменнага падаўся. Падышоў пад тое акно, дзе спальня была, і як загаласіў па пану хаўтурную:

Скора, скора, паночку,
Стане дзень табе ночкай,
І ў дамавіне дошкі
Сціснуць пану ножкі,
Што ніколі не ўстанеш,
На Гаўрылку не глянеш
Адным вокам хітрым,
Другім вокам сквапным.

Ды так жаласна спяваў Гаўрылка, вярба побач расла, і тая заплакала. Прачнуўся пан, разгневаўся, што па ім жывым Гаўрылка хаўтурную спявае. Пан той, як і ўсе паны, вельмі смерці баяўся. Загадаў ён служкам Гаўрылку розгамі адлупцаваць. Наляцелі служкі, збілі Гаўрылку на горкі яблык. «Ну,— думае пан,— не прыйдзеш больш пад акном галасіць».

А назаўтра раніцай прачнуўся пан ад Гаўрылкавага голасу. Глянуў у акно, а пад ім Гаўрылка стаіць і хаўтурную спявае:

Назаўсёды, паночку,
Стане дзень табе ночкай...

І так жаласна Гаўрылка спявае, што дрэвы наўкола аж скрыпяць ад жудасці.

Яшчэ горш разгневаўся пан, загадаў служкам збіць Гаўрылку на горкі яблык і ў склеп пад замок пасадзіць.

Сам Гаўрылка быў невялічкі, а голас — дай божа кожнаму. Што там дзяк з яго пеўчымі! Спявае Гаўрылка па пану хаўтурную, а па ўсіх харомах пагаласкі ідуць, аж палац стогне.

Бачыць пан — не дапамаглі розгі. Кары не можа на Гаўрылку знайсці. Выраашыў па-добраму з ім пагаварыць. Паклікаў да сябе ў палац і пытае:

— Што я табе, Гаўрылка, зрабіў благое?

— Ты ж, пан, бульбачку маю адбіраеш.

Надумаўся пан абхітрыць Гаўрылку:

— Ну які я пан? Такі ж самы чалавек, як і ты.

— Па мне,— сумеўся Гаўрылка,— хто не робіць, пад'еўшы і п'ян, той і пан.

— Я не раблю?! — здзівіўся пан.— Ты ж без мяне прапаў бы. Зямля мая, ты кормішся з яе, і я над табою богам прыстаўлен. Мужык ты цёмны, без нагляду прапаў бы.

Бачыць Гаўрылка — не перагаварыць яму пана. Вучаны! І ён як грымнуў хаўтурную на ўвесь голас:

Ай, ніколі не ўстанеш,
На Гаўрылку не глянеш
Адным вокам хітрым,
Другім вокам сквапным...

Клікнуў пан служкаў, выкінулі яны Гаўрылку ў двор, аж той, бядак, у зямлю носам зарыўся. Падняўся Гаўрылка, з носа кроў цячэ, і ён хаўтурную па пану спявае.

Загадаў пан служкам вярнуць Гаўрылку.

— Добра,— кажа яму,— я пан. А жыццё такое: круль крулюе, пан пануе, а Гаўрылка бедны заўсёды гаруе. І што ты мне зробіш?! Нічога! Толькі бяды нажывеш.

Хацеў Гаўрылка хаўтурную ў адказ заспяваць, ды служка яму рот далонню закрыў. А пан падумаў, падумаў і кажа:

— Нябось, дзеткі галодныя. На вось,— і дае Гаўрылку грошы ў паперцы,— купіш селядцоў у Абрама, дзетак пакорміш.

Узяў Гаўрылка тую паперку, купіў селядцоў, дзетак накарміў. Сам не паеўшы астаўся. А як грошай не стала, да палаца кінуўся.

Пан як убачыў Гаўрылку, насыпаў мех грошай, аддае яму і кажа:

— Каб не чуў я больш твайго голасу паганага.

Ды Гаўрылка ведаў, што рабіў. «Мой ты панок, на чужы раток не накінеш платок». Але толькі так падумаў,

пану нічога не сказаў. Грошы забраў, суседзям раздаў, сабе крыху пакінуў.

А як бednякі дачуліся, што пан так Гаўрылку ўзнагародзіў, назаўтра раненька, каму трэба было, а каму і не — усёй аколіцай сабраліся каля панскага палаца і як загаласілі па пану хаўтурную, ажно ў Кіеве спыталі: па кім гэта?

Пан, вядома, прачнуўся, але не верыць вушам сваім, думае — жахі сняцца. А ў акно глянуў — і рук сашчапіць не паспеў, з упуду і памёр.

Так і зжыў Гаўрылка са свету пана.

## ФІЛЬКАВА ГРАМАТА

*Памяці Ул. Караткевіча*

Бывае здарыцца, юшка і без Дзям'яна зварыцца. Часам жа, як Тэкля ні таўчэцца,— яечня не пячэцца. Казка не яечня, казаць не канечне, а слухаць... і падаўна як хочаш, тым больш, калі на той сук, дзе сядзіш, пілу точыш.

І ўсё ж, хто казкі і бацькі не слухае, той у пальцы дзьмухае.

...Пры цары Гароху, а мо і пазней троху прыйшоў Кастусь у Лужкі на кірмаш. Там люд сабраўся не кволы: багаты, гуллівы і проста вясёлы. Купіць, прадаць, цану збіць, узняць; дзівакоў на бойку звесці і, ім жа добра зрабіўшы,— разняць.

Сідар там казу прадаваў, Агата — маліны, Ібрагім — мандарыны, Глеб — хлеб. Заблоцкі на мыле зарабляў, Каміла мяняла шыла на мыла, а Цімошка задарма аддаваў гармошку.

Словам кажучы — усяго было: пер'е з зайца, шкура з пеўня, пустое, парожняе, мёд, лёд — таксама ж не вада, але за кукіш купіш, з ім і дамоў вернешся. Пра тое і Сямён, божы чалавек, казаў. Хадзіў ён з торбай праз плячо і ўсё пад нос бубніў, але каб і людзі чулі: «Што дарага, то міла, а што дзешава, то гніла. Эх, на патэліне тлуста, у катле густа, ды ў кішэні пуста».

Дзям'ян... у яго капейка шчарбатая, затое ж і муляецца ў кішэні, дык ён з раніцы... харошы. Падышоў да Сідара і казу нахвальвае: «Добрай масці твая карова».

Вядома — кірмаш! Ніл Ягора аб'ягорыў — абадраў, як ліпку, за лапці лазовыя, Якуб Ніла абскуб за боты няно-

выя. Ды таргуюцца ж. Хочаш — глядзі, а не — вушы не развешвай, далей тупай. У рукі ўзяў — лож астатні грош!

Разглядае Кастусь дзівы кірмашовыя. Раптам бачыць: стаіць адзін, з Дзям'янам жартуе. Тэклі ўсміхаецца. Агаце падморгвае, сам жа ў Сідаравай кашулі рукой шарыць. Злодзей, і да папа не хадзі!

Злаўчыўся хлопец і цоп яго за руку. Ды не паспеў і вокам моргнуць, як той ірвануўся, крутнуўся, Кастуся ж за руку і на ўвесь кірмаш крычыць:

— Каравул... папаўся, хто ад астрога хаваўся. Гэта ж ён з нашага кішэня цягае, у клопат заганяе. Праз паганца і жыццё цяпер такое: на хлеб збярэш — на лапці не хапае, кафтан пашыеш — спаць не пад'еўшы ляжаш.

Ведаў Аўдзей-Зладзей, што і як гаварыць, каб людзі чулі.

Ягор тут жа схапіў багор. Пахом прыбег з абухом, за ім — Ібрагім. Цімошка ўжо біў Кастуся гармошкай, Заблоцкі, як певень, вакол скакаў, абяцаў карак намыліць. Не казаў толькі каму. А Тэкля словам секла:

— Каб жа цябе, зладзюгу, вадою мачыла, перуном глушыла, сонцам пражыла. А гарэць жа табе смаляком, па рацэ плысці камянём, зляцець адсюль пухам-прахам!

Што ж усемярых аднаго біць? Урэзаў поўху Цімох — збіў з ног. Аўдзей-Зладзей тут як тут. Ботам пад рабро таўхае і, каб людзі не пачулі, шыпіць: «За ўсё жыццё бяды не вытапчаш, папярок мне стаўшы. Хваробу ад пабояў табе і знахар Яроська не сшэпча, ні вадой змые, ні ў балота сашле. Вось табе... вось... не сунь нос у чужы авёс, калі не просяць!»

Збілі людзі Кастуся на горкі яблык, нібы астрожніка заклятага, самі па справах разышліся.

А куды ў той час глядзеў цар Гарох?! Ды ўсё туды, дзе рос мох. І заняты ён быў — лавіў блох, еў за трох, а што трэба ўбачыць — не мог.

І толькі жабрак Сямён схіліўся над хлопцам і кажа:

— Падымайся, гора-бяда. Не знайшоўся, відаць, на свеце такі маладзец, каб указаць, хто злодзей, хто не, хто долю ў жыцці знойдзе, каго ж бяда не міне. Табе, хлопча, да Фількі б пайсці, грамаце жыццёвай падвучыцца. Было так, ёсць і будзе, кажа Філька, хто век працуе, мазаля не чуе, дома і жыве, калі ночку начуе... а іншы — зверху кідкі, знутры брыдкі, пры блудзе, ды яго хваляць людзі. Таму хочаш жыць — умей круціцца, у крыніцу плюнуць, з яе ж і напіцца. Бо нічога не зменіш. Не станавіся ўпопе-

рак, а ідзі-плыві ўздоўж. Дзе бокам, дзе скокам, так і праціснешся праз усё жыццё да свайго апошняга дня.

— Я ж не праціснуцца прыйшоў, а каб жыць...— прастагнаў Кастусь.

— Э-э, хлопец...— пачаў быў Сямён, але ўбачыў Аўдзея, махнуў рукой і пайшоў сваёй дарогай.

Падняўся Кастусь з зямлі. Бакі баляць, і сорамна, і крыўдна, і скардзіцца няма каму. На душы цяжка, нібы бацьку спадмануў.

Пабрыў ён па кірмашы далей ад месца жорсткага. Раптам бачыць: два чалавекі тапарамі адзін у аднаго над галовамі махаюць. Нібы жартам, нібы ўсур'ёз. Нібы дзеля страху, а тапарышча рассохнецца — быць бядзе. Навокал жа людзі, справы пакідаўшы, таўкуцца, мужыкоў да міру заклікаюць.

Кастусь, да трох не лічыўшы, да людзей кінуўся і паміж імі стаў:

— Вы што! Тапор зляціць, па людзях жа і шарахне!

Тыя ад нечаканасці анямелі. Але тут жа адзін з іх Кастуся за каўнер і тузануў уверх — людзям на пацеху:

— Што яшчэ за разумнік знайшоўся! Відаць, дурман нюхаў! Ану, дыхні! Адкуль прыйшоў? Калі нарадзіўся? Хто бацькі?!

І, не чакаючы адказу, размахнуўся здаравяка і закінуў Кастуся прама ў лужкаўскі сметнік. А наўздагон крыкнуў:

— Бачна адразу — не нашага заводу!

Першы зарагатаў Пахом. За ім — Ібрагім. Захіхікала Агата. Ухмыльнуўся Заблоцкі. Цімошка ж аб зямлю гармошку, сам побач лёг і ад рогату ледзь не здох.

А Тэкля словам секла:

— Каб жа цябе, не пана, ды, як пана, на насілках насілі! Каб на твой сяннік чэрці дрот касілі!..

Засмяялі людзі Кастуся, ды так, што ў роспачы вялікай думаў ён: «Хай бы яшчэ раз білі, чым такі сорам».

І толькі жабрак Сямён паспачуваў:

— Не з малым, хлопча, розумам у сварку вялікіх пхнуцца. А ведаючы Фількаву грамату, з усімі... паладзіў бы. На людзях, братка, цяпер вушы падняўшы хадзі, недачуеш як, куды і калі ісці — правучаць.

— А сам чаму з торбай ходзіш, калі такі мудры? — пытаецца Кастусь.

Усміхнуўся Сямён, і зусім не яго голас адказаў:

— Тэорыю ведаю, а для практыкі... душа мая далікатная.

— Чаму ж мяне вучыш?

— Шкада дурняў! — раззлаваўся Сямён.— А жабрацкая торба для цябе надта цяжкая... або лёгкая. Як жыць будзеш?

Са сметніка куды цяжэй выбірацца, чым ад пабояў уставаць.

Пайшоў Кастусь далей ад месца брыдкага. Ідзе па кірмашы і думае: «Што ж, Сямён праўду кажа. Але дакуль жа будзе так, што праўда колам круціцца, а крыўда паняй на ёй едзе, ды яшчэ і ў карэце няпростай?!»

Вырашыў хлопец хутчэй адсюль ісці, ды ў каго дарогу пад Вільна ні спытае — ніхто пра такую як бы і не чуў.

А тут бачыць: стаіць на пні дубовым чалавек на плошчы і чытае з паперы так:

— Спасціг я сэрцам сваім сёння тое, да чаго вам і ў думках на вярсту не падысці і паслязаўтра. Не намі пастаўлены купал нябесны, праложаны рэчышчы жыцця: ідзі па іх не гаспадаром, а аратым, бо спытаюць, колькі заплочана за тваё з'яўленне на свет. І адказ будзе — ані граша! Калі ж аддасі доўг за гэткую міласць?! Таму сямёра павінны есці хлеб аратага і на тузін каваць грошай каваль. Не выпускай слова дзёрзкага перад старастам сваім, бо даўно ўжо рашылі і пастанавілі, што яго праўда — вартавы, а твая — палоннік. Адвярніся і глядзі ў той бок, дзе дышаль закону, калі стараставы людзі забіваюць суседа або цягнуць у свой двор авечку, якая хай сабе і не належыць ім.

Заслухаўся Кастусь — прыгожа чалавек гаворыць, мілагучна. А тут з натоўпу, што вакол пня сабраўся, хтосьці таўхель яго пад бок і шыпіць на вуха:

— На, адзень! — і падае акуляры з ружовымі шкельцамі.

— Я і так бачу,— здзівіўся Кастусь.

— Не так бачыш!

І на гэты раз так пад бок штурханулі, што больш пытацца не выпадала.

Як акуляры начапіў, забыўся Кастусь нават пра лужкаўскі сметнік. Добрае жыццё! Не жыццё, а маліны на каляды!

— А хто ён? — пацікавіўся Кастусь.

— Цішэй ты, сам Філька.

Слухаў Кастусь, слухаў словы прамудрыя, а тут нос пад дужкай засвярбеў, нібы балячка на ім села. Хацеў паправіць акуляры, а яны ні з месца. Прыраслі. Раззла-

ваўся хлопец — не любіў, каб хай сабе і нос, а тым больш вочы — пад прыгнётам былі. Ірвануў акуляры — ну, са скурай і адлупіў. Шкельцы ўдарыліся аб брукаванку, разбіліся, а з іх такая груда шкла атрымалася, нібы з воза бутэлек.

Агледзеўся навакол, а да пня людзей усё прыбывае. Таўкуцца, як тыя парабкі на панскім полі, якім сказалі, што і калі зрабіць, а пра плату змоўчалі. Тады вядома — усе працуюць, аж пот з ілба цурком, а што зрабілі — і за пяць год не адшукаеш.

У ружовых акулярах Кастусь толькі чуў і бачыў, а без іх — думаць пачаў. Ды яшчэ са злосцю — балюча ж, і муха насядае. І адчуў у сабе жаданне небывалае — Фількаву грамату перад людзьмі выкрыць. Ды не ведаў, што для гэтага многа сілы патрэбна. І не той, што дубы ламае, балоты высушвае. Тут нават Полацкі Якаў, ад якога і крыжак вякаў, не падмога. Пахом вунь як Фільку слухае, бо яго мех не смехам і не простым арэхам поўны. Агата таксама не вінавата, што яе хата Тэкліным дабром багата — то і слухае са спакойнай душой. Клім і Ібрагім таксама згодны з ім.

Кастусь, малады, жыццём не навучаны, вазьмі і крыкні на ўвесь кірмаш:

— Лжэ ваш Філька! Абяцае жыццё светлае ў будучыні, гэта значыць пасля апошняга дня жыцця на зямлі гэтай. Тады, вядома, жыві, ды не хачу! Усе ж аднолькава прыходзяць і пакідаюць гэты свет. Чаму ж тады зноў Тэкля, як цяперашняя праўда, усё жыццё колам круціцца, а Агата, як вечная крыўда, паняй на ёй едзе?!

Свет не перавярнуўся. Людзі як бы і не чулі слоў Кастуся. Тады з апошніх сіл што было духу выгукнуў хлопец сваю праўду. І зноў ніхто ўвагі не звярнуў. Толькі Пахом аперазаў яго прыхаваным на ўсялякі выпадак сёмым мяхом. Як ад мухі назойлівай адмахнуўся.

І тут з жудасцю смяротнай адчуў Кастусь, што ён паміж людзей — пустое месца. А што можа быць страшней за гэта на зямлі?

Звесіў хлопец галаву і пабрыў ад месца прамудрага куды вочы глядзяць. У каго з сустрэчных ні запытае, дзе ж выйсце,— ніхто адказаць не можа. Толькі плячамі паціскаюць: дзівак-чалавек, якое выйсце ён шукае?

А паміж людзей, якія не ведаюць, дзе выйсце, заблудзіць страшней, чым у лесе з самім Люцыпарам.

Цімошка ж ужо некаму аддаў гармошку, таму быў добры, вясёлы, ён і параіў Кастусю:

— Рабі — як Філька кажа, насі — што Філька звяжа, вось табе і шчасце-выйсце. А калі яшчэ і грамату яго пахваліш — бакі цэлыя будуць, а жывот тугі!

І раптам... Хто не паверыць, хай на сабе праверыць або пад Лужкі ў Чарапы збегае, у Яроські запытаецца.

...З Кастусём здарылася, як бывае толькі ў казцы — не на кірмашы ён, дзе паміж людзей заблудзіў, а на беразе Дзвіны. На другім жа — дзяўчына хараства небывалага.

Як гэта небывалага? Ды зусім проста — калі яна маладзенькая, не вельмі бойкая, але і не ціхенькая, з людзьмі ветлівая, з бацькамі далікатная, да працы ахвочая — то і прыгажуня.

Першы раз яе Кастусь бачыў, а нібы ўсё жыццё ведаў.

Расцвілі дзікія ружы — усміхнулася дзяўчына.

Ручай зажурчаў — загаварыла яна:

— Шчаслівы лёс — гаварыць толькі праўду, тыя словы, што людзі ведаюць, але хто сказаць не можа, хто не ўмее, а іншы не хоча. Спяваць тую песню, якую сэрцы людзей чакаюць, таго не адчуваючы.

Хвалі ўзняліся на Дзвіне, а над імі вецер нёс да Кастуся словы.

— Гаварыць праўду — і гаварыць праўду, любячы людзей і ненавідзячы ў іх тое, што яны прагнуць зжыць у сабе,— не адно і тое. Ведаеш, ад чаго захад чырванню залівае? Ці не саромеецца неба прайшоўшага на зямлі дня!?

Палынамі вецер шамацеў:

— Горкі лёс быць усюды гнаным, несучы ў руках трапяткое сэрца, аблітае крывёю праўды... не быць прарокам у айчыне сваёй...

Слухае Кастусь голас чароўны і не можа зразумець — спіць ён, трызніць ці на яве ўсё адбываецца. Як русалка, вабіць яго да сябе прыгажуня, і ён робіць крок, другі... Але колькі наблізіцца, столькі яна адступіць.

— Хто ты?

— Я свет твой і цемра. Каханне і нянавісць. Меч і шчыт. Шыпы і ружа. Я — тая, якую шукаў не адну веснавую ноч, сніў у першых юнацкіх снах,— шапацела голлем бяроза.

Адчуў, зразумеў хлопец — знікне зараз дзяўчына, растане як туман — ці ж можа такое шчасце быць доўгім, прыйшоўшы само па сабе?

— Як імя тваё?

— Я не маю імя,— задрыжэла лісцем вярба плакучая,— заві мяне Вольга... Не гэта галоўнае. Не забудзь... Няма ў абяздоленага на гэты час іншай зброі, як слова яго. Але слова трэба ўмець знайсці і сказаць. І станеш царом. Будзеш валодаць не золатам і плёткай, а сэрцамі людзей... зямлі.

— Не трэба...— у роспачы шэпча Кастусь,— толькі ты, адзіная. Ты знікаеш? Застанься... Не пакідай...

Вось ужо хлопец ледзь угадвае ўдалечыні яе развітальную сумную ўсмешку. Ёй не хочацца расставання, ёй балюча, як і Кастусю:

— Не мая віна...

Не цяклі, застылі воды Дзвіны.

— Дзе знайсці цябе?

— Людзей не мінаючы, ідзі па зямлі сваёй роднай.

— Але ж як гаварыць з імі буду, словам не валодаючы? Як навучыцца?

— Гэта і ёсць самае цяжкае на свеце.— З-пад зямлі, з-пад кургана-магілы песняру-гусляру прыглушаным выдыхам данеслася да Кастуся: — Плата за слова не золата, а кроў. Пакуты і здзекі. Песняроў шмат, а дзе ж мужнасць!

І зноў вакол хлопца навакolle гучала-гаварыла чароўнай музыкай-словамі:

— Стань першым жабраком і жабраком апошнім...

Сонцам стань, яго пякучай праўдай, што спальвае і дае жыццё. І не сонцам, хоць бы промнем яго.

Месяцам адчуй, як цяжка і сорамна яму вечна несці на сабе адбітак грэху зямнога: стаіць брат над забітым братам.

Светам зоркі стань, той, што падае, згараючы ў імгненне,— яна ж прыносіць шчасце.

У рабінавую ноч у чыстым полі стой, пакуль маланкай не прашыеш цемру... хоць бы водбліскам яе.

Стань заходам, калі меркне на зямлі святло і наступае ноч, і ты нясеш яе. Жахніся цемры сваёй і людской і тут жа стань яснай раніцай,— сілу і радасць узыходзячага сонца людзям несучы.

Плынню ракі між лугоў сенакосных праплыві і цяжкасць муці адчуй, якую Дзвіне трэба несці, ачышчаючы сабою людскія брыдоты. І стань берагам, якім сотні гадоў з надзеяй ішлі да Святой Сафіі прыгнечаныя. Стань вусцем і вытокам, рэчышчам і вірам. Крыгай сыдзі ў мора, каб там растаць, не пакінуўшы аб сабе следу.

Праз туман, якім ахутан твой край, убач святло ісціны.

Прайдзі там, адкуль ніхто не вяртаўся, не вярніся адтуль, дзе шлях пад сілу дзіцяці.

Стань канцом і пачаткам баразны. Аратым зямлі. І збіраючы багаты ўраджай, будзь галодным, ірвучы спелыя грушы, не дай з'есці ніводнай брату. І не працуючы, май поўныя скрыні дабра.

Здолееш гэта — і я з'яўлюся перад табою, каб адкрыцца. Мужнасці табе... Цярпення...

І дзяўчына знікла, як зорка на небе згарае ў адну хвіліну і назаўсёды. Толькі рэха данесла:

— Вольга я... Во...л...я...

Кінуўся Кастусь у ваду, Дзвіну пераплысці і дагнаць дзяўчыну. У вір хлопца зацягнула, закруціла — тут бы і канец, ды сама вада, нібы пашкадаваўшы, вынітурхнула з глыбіні і хваляй на бераг выкінула.

Зірнуў хлопец на сонца — вось хто ўкажа шлях да Вольгі!

Але тут жа адвёў вочы — святло сонца асляпіла і апякло, як сама праўда. Можа, яно і ўказвае шлях зблудзіўшаму, ды не кожны ўбачыць.

Спытаў Кастусь вандроўніка: дзе сцяжынка, ідучы якой прыйдзеш да Вольгі?

Не ведаў прахожы. Паспачуваў, а адышоўшы, пашкадаваў хлопца:

— Такі маладзенькі, а вар'ят.

Знясілены няўдачамі Кастусь распластаўся на сырой зямлі... Не чуць яму больш ніколі чароўнага голасу Вольгі, не бачыць яе блакітных вачэй, не крануцца рукі...

Раптам чуе над сабою словы:

— Што, хлопча, зацiснула нуда? Не ведаеш зноў выйсця? А ці не забыўся ты чаго з таго, што трызнілася?

— Не трызнілася, на яве ўсё было,— адказаў Кастусь.

— Верыш? — зазірнуў яму ў вочы жабрак Сямён.— У тым і шчасце тваё. Са мной пойдзеш?

Блізка ці далёка, доўга ці коратка ішлі яны і прыйшлі ў вёску. З аднаго вялікага і багатага дома на паўмілі ўкруг даносілася музыка. Сямён, як і належыць божаму чалавеку, стаў у парозе, шапку зняў.

Госці загаманілі:

— Сямён Вялеўскі прыйшоў... Пацеха...

— Сямён, заспявай «Дзеўкі лазеньку тапілі»! Насыплем поўную торбу гасцінцаў.

— Музыкі, урэжце, Сямён «Юрачку» паскача...

— Давай... І табе ўложым,— нядобра жартавалі хлопцы. Выхапілі ў жабрака торбу і з рогатам некуды збеглі.

...Калі Кастусь бачыў, як Сямён выкідаў з торбы камяні, нібы ўспомніў словы Вольгі.

Наваколле гучала музыкай-словамі... Дождж плакаў... Сабакі вылі...

— У горкую жабрацкую торбу не хлеба прасі — збірай радасць людскую... Не сабраць яе, як слёзы сірот і ўдоў, што сцякаліся ў брацкія магілы і перапоўнілі іх за ўсе войны, што адбыліся на зямлі па віне правіцеляў.

Выпі кубак вады, паданы тым, хто памірае ад смагі...

І калі стане торба нястрымна цяжкаю — словы ўдзячнасці людзям знойдуцца самі. З іх пачынаць жыццё, з імі жыць, іх сказаць, пакідаючы зямлю...

Так і прайшоў Кастусь з Сямёнам праз вёску: жабрак хлеб збіраючы, хлопец — хто дасць што ад шчырага сэрца.

А за вёску выйшлі, адкуль ні вазьміся, наляцелі вятры сілы небывалай. І да тла разбурылі той дом багаты, дзе над жабраком пацяшаліся.

— Ці не чараўнік ты? — насцярожыўся Кастусь, убачыўшы такое.

— Не,— супакоіў яго Сямён,— людзі ў тым доме абразілі не толькі жабрака. Каменю ніколі не быць хлебам. Вось і раз'юшыўся Пярун.

Была рабінавая ноч.

Пярун біў у Кастуся, кідаючы коп'і стрэл-маланак, але з Сямёнам страшна не было. І маланкі над самымі іх галовамі ламаліся ад смеласці людзей. І білі побач.

Імклівасць і сілу святла маланкі, што паласавала неадольную для чалавека цемру ночы, убіраў у сябе Кастусь. І ў адно імгненне здалося яму, што і сам ён можа паласнуць маланкай па цемры, ахутаўшай зямлю.

Але ў гэты час жабрак Сямён крануў яго за плячо:

— Што стаіш? Торба пустая. Трэба ісці.

Тут хмараў не стала. Навальніца пайшла бокам.

Ішлі яны праз туман.

І раптам Кастусь убачыў дзяцей. Яны гулялі ва ўсе гульні, у якія звычайна гуляюць дзеці. Толькі ў вайну не гулялі. Яны і не ведалі, што была калісьці такая гульня.

Многае бачыў і зведаў Кастусь, ідучы з Сямёнам.

...Сонца вочы сляпіла, абпальвала, а Кастусь упарта ішоў, ішоў за ім услед, каб не ўбачыць тры дні і тры ночы заходу. Глядзець на сонца — найвялікшая асалода і мука. І ўжо промнем сонца ён змог бы заглянуць у дзіцячую

калыску або памчаць па свеце ў пошуках Вольгі...

Але ў гэты час жабрак Сямён крануў яго за плячо:

— Пара...

Сонца ўжо не сляпіла вочы Кастусю. Месяц адкрыў загадкі двух братоў і кургана-магілы. Ведаў хлопец, калі грымне гром і будзе ясная раніца... Многа чаго ведаў, аднаго не — дзе знайсці Вольгу.

І вось аднойчы выйшлі да ракі.

— Гэта ж Дзвіна,— узрадаваўся Кастусь.

Глянуў на другі бок ракі — там стаяла дзяўчына хараства небывалага. Вольга!

Звесіў хлопец панура галаву — адразу ўсё зразумеў.

— Ты і ёсць ісціна? — запытаўся ён у дзяўчыны.

— Берагі Дзвіны могуць сысціся толькі ў вытоку. Назад пойдзеш?

— Не. Вечна імкнуцца да цябе і ніколі не сустрэць. Шчасце і пакута...

— Ты ведаеш цяпер назву ўсяму на свеце... Твой лёс іншы, чым каханне да адной.

І зноў загаварыла наваколле песняй-гімнам:

— Сказаць, каму трэба, як бальзаму на смяротную рану, слова спачувальнае. Іншым — мудрасці, многім — мужнасці.

І ўсім астатнім — каб хоць як мага менш прыносілі яны пакут людзям у сваёй пагоні за сіняй птушкай.

Слова спачувальнага... старому, калі яго пакінуў сын; маці, калі загінуў воін; сірацінцы...

І слова праўды...

Так, прыйшоў час казаць праўду!

І Кастусь пайшоў...

А як пад Лужкамі з каляровымі стужкамі конікі скакалі! Давезлі яны Кастуся да Яроські.

Захар, вядома, тут жа людзей склікаў.

Цімошка прынёс гармошку.

Глеб прынёс хлеб.

Ягор прынёс кагор.

Заблоцкі зварыў клёцкі.

Клім прынёс сыру клін.

Ібрагім прынёс мандарын.

Толькі Аўдзей схаваўся ад людзей.

А Тэкля сказала як адсекла: лепшага жаніха, як Кастусь, ва ўсёй акрузе не знайсці! Дзе ж нявеста?

І я там быў, нічога не піў, бо не далі.

# ЗАЧАРАВАНАЯ ГАСПАДАРКА

Казку казаць — не снапы вязаць. Языком малоць — што моркву палоць. Калі ёсць ахвота, сядай каля плота, слухай, матай на вус... Жыў ды быў адзін беларус. Багацце меў, бо стаяў ля хаціны хлеў. Тут жа пуня для сена, на дровы павець. Што яшчэ трэба мець? Во-во, здагадлівы: карову, цялушку, курэй... ну, і гэтак далей.

І гэта не ўсё. Што даражэй любой навукі? Вядома ж, здароўе і моцныя рукі. Меў Гаўрыла і тое, і другое. А яшчэ... за лесам луг, перад возерам агарод, у хаце печ, на печы кот, у святліцы калыска, у калысцы — касец. Пакуль з соскай, але маладзец. І яшчэ два сыны ў Гаўрылы: яны бацьку ва ўсіх справах падмога — і на кірмашы з цыганом старгавацца, і за камель добра ўзяцца. Работу зробяць так, што і перад суседзямі не сорамна.

З тым і жыў Гаўрыла (пад Полацкам). Ад вяселля да наваселля, ад радзін да хрэсьбін, ад свята сонца да свята марозу: з дня ў дзень, з году ў год працай славіў свой род.

Пакорны быў не толькі людзям. Бывала, дождж ідзе — ён кошык пляце. А на свята ў Гаўрылы гасцей поўна хата. Затое ж калі работа — упоцемках абуваў-разуваў боты. Сала з часнаком, з хрэнам еў, малаком запіваў, мабыць, таму на марозе пацеў і ў спякоту не млеў. Ладно, калі здаровы — усё адно, ці фасолю лушчыць, ці ехаць па дровы.

З кожным годам усё лепш і лепш жылося Гаўрылу. Нават выпадала часіна вечарком пасядзець на лавачцы ў двары і паразважаць, чаму лісце дрыжыць у асіны, а ў адлігу далёкі лес сіні, чаму камары таўкуць мак, а то на захад сонца глядзець проста так.

Ды якая ж казка, калі ўсё добра! У казцы, як і ў жыцці: добра, добра, а потым як здарыцца, хоць у бубен бі, хоць у жалейку грай, а бядзе тое, па што прыйшла,— памры, а аддай. То не ў бульбе лебяда, ■ бяда, дык бяда. Дык вось слухай: падчаравалі Гаўрылу. Што-што, а гэта даўней на Белай Русі ўмелі. Хто ячмень малаціць, хто сеяць авёс, а хто ў суседаву шчыліну ўторкнуць свой нос. Ці там ведзьма шапнула, ■ можа, нячысцік накруціў залом (такіх, вядома, калі зловяць, частуюць калом). Ды паспрабуй укараўуль, яны ж пра тое ведаюць. Ёсць жа на свеце людцы: такі ў жвіры рыдлёўкай капне, і то чарвяка парэжа! Знаць, у яго на раду шкадлівасць упісана.

І пайшло ўсё наперакос. Залом быў ці не залом, а толькі

карова ў Гаўрылы стала казой: пойдзе гаспадар карміць худобу — стаіць яна, жвачку жуе. Толькі вочы занадта сумныя, як бы што сказаць хоча і не можа. Не ўмее. А прыйдзе жонка Гаўрылава з даёнкай — у хляве не карова, а каза. З казы ж малако вядома, хоць ты яе па шэрсці гладзь, хочаш — пугай лупцуй. Падоіць гаспадыня казу, даёнку хусткай накрые і бягом дахаты, каб суседзі такі сорам не ўбачылі. Ды ніяк не народзіцца той чалавек, які б здолеў свет спадмануць: там побач з хлявом алешына расла, на ёй сарока сядзела, усё гэта згледзела і панесла па свеце: «Каза барадой трасе, а Гаўрылава жонка пустую даёнку дамоў нясе». Сарока была той пароды, калі што добрае ўбачыць, тады маўчыць, калі ж у каго бяда, тады кпіць.

Ды адна бяда не ходзіць: пасее Гаўрыла жыта — вырасце гірса. Сажне ячмень — то каласы пустыя, то зялёненькія, што і на печы пры патрэбе не прарастуць. Свіння апаросіцца — Гаўрыла тузін сысункоў налічыць. Пойдзе гаспадыня іх малаком паіць: і лічыць няма чаго — адзін ля маткі бегае і той як на чужых нагах. Косіць Гаўрыла луг — трава мядовая, духмяная, хоць чай вары. Зімой жа ад таго сена аж дух вываротвае. Квактуху гаспадыня на яйкі пасадзіць — прывядзе куранят плойму, а як у пёры ўлезуць — адны пеўні. Адкорміць Гаўрыла парсюка пудоў у дванаццаць, асвяжуе — парася. А зверху на ўсе напасці пацукі ў двары завяліся. Гаўрылаў кот Баюн сабе памаўзуе, па гаршках вяршкі злізвае, пацукі сабе ў нару цягнуць што толькі пад лапу трапіцца. Кот Баюн сядзіць на печы і чаруе сам сябе сваімі ж песнямі, а ў пацукоў у іхніх норах усю зіму паміж сабой дзяльба ідзе — муку на крупы, гарох на жыта...

З той прычыны ў Гаўрылы цяпер і плуг не арэ, то дождж у двары, то сонца пасняшаецца ўзысці, а куды ж без расы касіць ісці?!

У доме сваркі, калатня пачалася — Гаўрыла жонку ў бедах вінаваціць, яна гаспадара кляне, а на стале акраец хлеба ўсё меншы і меншы становіцца.

Сам не свой Гаўрыла — па двары бегае, ад адной работы да другой кідаецца. На ўсё наваколле святая нядзеля ў звон б'е, людзей на свята склікае, а Гаўрылу і адпачыць часу не стае. Ад гасцей цураецца, да суседа не завітаецца. Сыноў работай змучыў так, што ім і свет нямілы стаў. На худобу і тую злосць гоніць: «Каб у цябе морда не ўніз была, а ўгору, сама б зімою па лесе яды знайшла!»

Адна ўцеха ў Гаўрылы: сыны як волаты выраслі. Два старэйшыя — разумныя, і малодшы — у жыце хрышчоны, Алесем нарачоны, у лузе спавяданы, хлебам гадаваны, працай навучаны. Рукі ад зямлі чыстыя, душа ад неба светлая. Касой махане — бацькавых два пракосы займе. Ну, не два, дык паўтара, гэта ж казка! Вельмі добры толькі быў Алесь, а такому не ўсюды жыць лёгка.

Палюбуецца Гаўрыла на сыноў, душу ўсцешыць, але як уздумае, што і ім біцца-таўчыся над зачараванай гаспадаркай, як прывязанай карове на вытаптанай пожні,— месяц спаць замінае. І надумаўся ён сыноў выправіць з дому — свет вялікі, можа, там сабе шчасце-долю знойдуць.

Цяжкім было развітанне: цёмная хмара сонца закрыла, віхор узняўся, вось-вось з хаціны дах сарве, плот зваліць, ранетку-яблыню з каранямі выверне. Але тут і дождж пайшоў, шчаслівага шляху напрарочыў.

Сказаў бацька сынам: «Не ешце дармавога хлеба — бокам выйдзе. І не заставайцеся там, дзе здалёк гаварыць пачынаюць, бо чым кончаць — невядома».

Ішлі браты сцяжынкай, прасёлкавай дарогай, шырокім бальшаком. Доўга ці коратка ішлі — прыйшлі ў Полацк (даўно гэта было — яшчэ стаялі рыштаванні на храме Святой Сафіі).

Ідуць па вуліцы, аж бачаць — палац белакаменны. Над дзвярыма надпіс: «МІЛАСЦІ ПРОСІМ».

Раз просяць — чаму ж не зайсці! Ім і дзверы адчынілі. Сустрэлі ветліва, гаварылі мядова.

Век такога браты не бачылі! Людзей у палацы безліч. Скачуць пад музыку па люстэркавай падлозе ў заморскіх адзеннях. Навакол гоман вясёлы, жарты, смех... Светла і радасна тут, нібы ў лесе вясновым.

Расказалі браты людзям пра бацькаву бяду, а ім лагодна раяць:

— Заставайцеся ў нас. Не знойдзеце вы адказу на сваё пытанне. А калі і знойдзеце, не малым розумам вялікія справы вырашаць!

Агледзеліся браты: у палацы ні касіць, ні жаць — а жыць-пажываць бяды-ліха не ведаючы. Паесці захацеў — рукой узмахнуў, адкуль ні вазьміся, на стале віно — і белае, і чырвонае, мяса рэзанае, бітае, кручонае... Нагой тупнуў — музыка чароўная зайграе, і тады свет белы бачыць не хочаш — як у тумане на лузе; ды не камароў

у пракосе карміць, а абцасы-падэшвы не шкадуючы аб люстэрка-падлогу біць! Вокам мігнуў — простым людзям нябачная такая прыгажуня з'явіцца! Лашчыцца, песціцца — шукае, з якога боку да цябе падступіцца...

Прабылі браты ў палацы тры дні і тры ночы. А як адну хвіліну! Іх не гоняць, а самім куды ж ісці?!

Ды вось трэцяга дня адчуў Алесь, што рукі ў яго брудныя, а памыць не ведае дзе. Ён туды-сюды, у каго ні запытае — людзі толькі плячыма пацiскаюць і глядзяць на яго, нібы ён пацука з'еў.

Учуў хлопец душой сваёй светлай — пакуль не позна, выбірацца адсюль трэба. Стаў братоў клікаць:

— Хадзем адсюль, пакуль у багну не ўскочылі. Бацька наказваў хлеб толькі зароблены есці.

Сярэдні, Ніл, прыслухаўся, Глеб і вухам не вядзе, сам жа думае: «Бацька нас шчасце шукаць выпраўляў. Яно — тут. Няма ў мяне ахвоты ў брудным двары гліну мясіць ды гной трэсці».

Алесь з Нілам сталі падымацца з крэслаў, каб пайсці,— і не могуць. Як хто прыляпіў іх да сядзенняў! Ды крутануліся, ірвануліся — праз дзверы і ходу...

І ў добры час! Бо хто ў тым палацы чацвёртую ноч перабудзе — назаўжды там застаецца. Удзень там балі ды гулі, а ўночы такія справы рабіліся, якія лепш добраму воку не бачыць, далікатнаму вуху не чуць. Тады хоць у вяроўку лезь!

Далей пайшлі Алесь і Ніл па Полацку ўдвух. Доўга ці коратка ішлі — стаіць на іх шляху палац гранітны, над дзвярыма надпіс: «МІЛАСЦІ ПРОСІМ». Раз просяць — як абмінуць? Ім і дзверы адчынілі. Сустрэлі паважна, гаварылі мудрона. А калі браты расказалі пра зачараваную гаспадарку, адказалі так:

— Такую бяду рукамі не развесці. Але ўвечары ноч чакаюць, справу складаную не распачынаюць. А вось раніца! Як на той добры бок устанецца, то што ўчора была незрухомая бяда — стане крынічная вада. Пражывіце ў нас тысячу дзён і тысячу ночаў — мы вам чорную кніжку дадзім, чытаць яе навучым, вось там і знойдзеце, дзе той чараўнік жыве і якім спосабам перамагчы яго.

— Каб даведацца, чаму не родзіць жыта і лён,— не трэба вучыцца тысячу ночаў і дзён,— адказаў людзям Алесь.

А Ніл, як бы і марыў усё жыццё навучыцца тую кніжку чытаць,— у палацы застаецца.

— Хлеб тут не дармавы, мазгамі варушыць — не пустым аб парожняе агонь імкнуцца здабыць.

Так і развіталіся браты на прыступках палаца мудрасці. Далей Алесь пайшоў адзін.

Тут змяркацца пачало, цішыня такая — альбо радуйся, ці нягоды чакай. Ідзе Алесь, а навакол мясціны незнаёмыя, і страх яго апанаваў, як бы вось-вось злыдзень на яго з лазіны скоча і ў горла ўчэпіцца.

Раптам як ішоў, так у сцяну каменную і ўпёрся, ледзь лоб не расквасіў. Далей, уперад, шляху няма. Кінуўся Алесь у адзін бок, у другі, назад... Колькі крокаў прабяжыць — нібы выйсце блісне, а перад ім у імгненне сцяна вырастае. Пот халодны ў хлопца на лбе выступіў, па спіне мурашкі забегалі. Цёмна, жудасна — і ад каго літасці чакаць?! Маўчаць халодныя сцены.

Лабірынт гэты быў Змея Гарынавіча, і ніхто адсюль жывы не выходзіў. А калі выходзіў, быў у яго ўжо не свой розум: думаў той не сваімі думкамі, гаварыў не сваімі словамі.

Б'ецца Алесь, як шчупак у нераце, у каменным мяшку — ці ж можа маладая кроў зміры́цца з няволяй, гарачае сэрца згаснуць у адзіноце? Здаецца яму, зваяваў бы любое войска, перамог бы любога злога асілка. Але ж з кім сілаю мерацца?! З гэтымі халоднымі бяздушнымі сценамі? Спрабуе ён сцяну рукамі зрушыць-разарваць. Рукі акрывавіў, пазногці з пальцаў сарваў. Ужо і ногі яго не трымаюць, рукі абвіслі, нібы голле ў ніцай бярозы. І ўжо толькі паўзком — плячом, спіной — ірвецца хлопец на волю.

А калі зусім знямогся, распластаўся на сырой зямлі. Уверсе неба бачыць, зоркі... Месячык поўны, ясны, жывы, але вельмі далёкі. Зірнуў Алесь на месячык і зразумеў — як далёка ад яго жыццё. Тут і згінуць яму невядомым. Вочы закрыў — і... зарагаталі жудасным смехам сцены:

— Ха-ха-ха! Прапаў ты, сын Гаўрылы! Раздушым мы цябе, выціснем з твайго сэрца сок дабрыні, разбавім ім сваю хітрасць, хцівасць і сквапнасць. І будзем гэтым вінам белы свет паіць-тлуміць, каб больш такіх разумнікаў не знаходзілася парадкі свае ўстанаўляць на зямлі гаспадара нашага, найчарнейшага Змея Гарынавіча.

Адкрыў Алесь вочы: маўчаць халодныя сцены. І ўспомнілася яму рака, што ля парога бацькавай хаты нясе невядома адкуль свае чыстыя воды ў вечным спакойным задуменні. Такая плынь! Такая магутнасць! Ласкавасць, сіла і чысціня! І ён клікаў яе ў сваім перадсмяротным сне.

І яна прыйшла сваёй несупыннай плынню.

Ачнуўся Алесь ад свежасці. І нібы сілы ў яго прыбавілася ў сто разоў. А вада ўсё прыбывала, затапляючы каменны мяшок: жудасны смех непрыступных сцен ужо захлёбваўся, траціў сэнс і моц сваёй фанабэрыстай упэўненасці.

Алесь не спужаўся вады — узрадаваўся ёй. Толькі б хапіла яе сілы! Каб было яе яшчэ больш, больш... Вада ж заліла хітры каменны мяшок лютага Змея і ўзняла Алеся над ім, вынесла яго на квяцісты луг, на травы шаўковыя, мядовыя — такія адным толькі пахам сваім добрага чалавека лечаць, думкі ясняць.

Тут вада спала, вярнулася ў звыклае рэчышча, пацякла сваім спрадвечным шляхам. Разводдзе закончылася.

Алесь жа, як зусім ачнуўся, агледзеўся — ля самай Дзвіны ён. На ўскраіне Полацка. Да Святой Сафіі рукою падаць. Тут і раніца новага дня настала. Па рацэ сонца зіхатнула, кожная кропелька радасцю засвяцілася — як і не было тых неадольных для чалавека каменных сцен.

Глянуў Алесь уперад — там дарога, па дарозе воз едзе, на возе сена, на сене дзядзька ў світцы і ў лапцях лазовых. Каня паганяе, а конь і вухам не вядзе, хвастом не ўзмахне, лянíва ідзе, ногі ледзь перастаўляе, як бы ведае, куды спяшацца — усё адно сюды, а потым назад вяртацца. Але не ў гэтым цуд, а ў тым, што конь крок ступне — хамлак сена далоў валіцца.

Пытае Алесь у дзядзькі, чаму так.

— А я, брат, і сам не ведаю,— адказвае дзядзька.— А ты куды выправіўся?

Расказаў Алесь сваё гора (а то як жа! Раз у далёкі свет шукаць праўду рушыў — людзей пытай, першаму сустрэчнаму душу выкладай, не таіся!).

— Вось бы знайсці тых старцаў, што Іллю Мурамцу сілы далі, розуму прыбавілі!

— Будзеш шукаць — знойдзеш! — запэўніў чалавек.— Там даведайся, калі ў мяне сена з воза перастане скідвацца. Пакуль дадому конь давалачэ, і травінкі не застаецца. А я табе скажу, каго шукаць трэба — Перуна!

— А дзе ж яго жыллё?

— Не ведаю, брат. Пойдзеш, людзей не мінаючы,— пакажуць.

...Ідзе Алесь далей. Поле ды балота мінае, куст лазовы, гушчар яловы... Сонейка яму шлях асвятляе, хмурынка набяжыць — ад спякоты прыхавае.

Раптам бачыць Алесь — сярод поля чалавек стаіць. У фраку, на нагах чаравікі бліскучыя. І пугай шчоўкае. Узмахне пугаўём і — шчоўк. Узмахне — шчоўк.

— Што робіш? — прывітаўшыся, пытаецца Алесь.

— Хачу, каб ніва ўзаралася,— адказвае чалавек.

— Пугай жа поле не аруць?!

— Э, брат, сам ведаю. Але вось стаю ўжо каторы год і не магу адысціся. Работа ў мяне такая. Надакучыла... А ты куды?

Расказаў Алесь сваю бяду.

— То ж даведайся ў свеце, дакуль мне тут сохнуць. Але на зямлі ты не знойдзеш адказу...

Хто праўды шукаць выправіўся, таму і карты добрай гадалкі далёкую дарогу пакажуць. А ў дарозе не ў парозе — усялякіх дзівосаў — хоць у мех складай. Колькі там яшчэ вёрст адмераў — бачыць: чалавек на малых сварыцца, патрабуе, каб не займаліся пустой работай. А тыя з берага кідаюць камяні ў раку... На свайго ж апекуна нават не глядзяць.

— Што за ліха ў цябе? — пытаецца Алесь.

— Ды вось хачу, каб ішлі буракі палоць, сена сушыць, а яны ад ракі ні кроку. Знайшлі занятак: камянём у ваду — боўць, а потым бурбалкі лічаць. І ў блакнот запісваюць. А ты куды?

Расказаў Алесь пра сябе.

Многа яшчэ дзівосаў — і пешых і на калёсах — бачыў у дарозе Алесь. Ды хіба ўсе пералічыш?

Доўга ці коратка ішоў, прыйшоў да цёмнага лесу. А там на ўзлеску хатка на чатырох камянях. У хатцы той знахарка чэрствы хлеб жавала, свой век дажывала.

Адчыніў Алесь дзверы, парог пераступіў, а яна (на тое і знахарка!) кажа:

— Заходзь, сын Гаўрылы, даўно чакаю і клопат твой ведаю. Дапамагу, калі ты — і сам магу. Сядай на лаву, слухай пра сваю справу.

І знахарка расказала Алесю пра тое, як перамаглі добрыя асілкі Змея Гарынавіча, спалілі, а попел па белым свеце развеялі-распылілі. Ды ў трыдзевятым царстве-гасударстве, паміж дубам і ясенем лапік скуры яго паганай застаўся. Вось і ўзрадзіўся дармаед. Павуцінне сплёў. Ад яго цяпер усё зло па зямлі шлындае. І брат Алеся — Глеб — у яго на пабягушках.

— Здолееш прайсці да замка Змея — будзеш пераможцам. Не адзін добры маладзец спрабаваў, ды з чым вы-

ходзіў, з тым і вяртаўся — ім жа лепш загінуць было, чым такі сорам. Дарогу ж да палаца ведаюць толькі людзі адной вёскі. Але ў іх вечны разлад паміж сабой, адзін аднаму ў вочы не глядзяць. Хто зможа іх прымірыць, таму і пакажуць, дзе Змеяў палац.

Дзень і ноч — суткі проч, і апынуўся Алесь у той вёсцы, пра якую знахарка расказвала. Людзі ў ёй панурыя ўсе, нібы толькі што старасту пахавалі. Толькі Алеся заўважылі — да яго кінуліся: у пасцілцы перад сабою нясуць штосьці.

— Цябе сам бог да нас прыслаў. Знайшлі мы чужое шчасце — на ўсіх яго не хапае, а аднаму аддаць — ворагам астатнім будзе. Вось і носімся, як курыца з яйкам, днямі над ім прападаем, а поле неаранае стаіць, пожні някошаныя, печы халодныя. Ты ж чалавек прышлы, бяры яго сабе, збаў сяло ад навалы.

Глянуў Алесь на чужое шчасце, а яно такое, што ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць. Хіба толькі ўбачыць хоць разок. І не можа Алесь ад яго вачэй адвесці — прывабражыла хлопца, шэпча яму салодкім голасам:

— Кінь ты свае клопаты дробныя-непатрэбныя. Бяры мяне, будзеш маім гаспадаром. А я ўсё зраблю, чаго толькі твая душа ні зажадае.

І вяскоўцы яго ўгаворваюць:

— Бяры, хлопча, яно ж нічыё. Вось жыццём нацешышся!

І ўзяў бы Алесь, як бралі ўсе добрыя малойцы, што да Змея дабіраліся. Узяў бы, каб не быў у жыце хрышчоны, у лузе спавяданы, хлебам гадаваны, працай навучаны. У яго ж рукі ад зямлі чыстыя, душа ад неба светлая — а такім чужое шчасце воч не мазоліць.

Але як людзям дапамагчы, каб чужое шчасце і ім вачэй не мазоліла?!

Узяў Алесь каня, прывязаў да яго чужое шчасце, гікнуў — і памчаў конь у свет: там, пэўна, і знойдзецца той чалавек, які згубіў яго.

І адразу ў вёсцы нібы яшчэ адно сонца ўзышло! Не стаяла больш чужое шчасце папярок горла нікому, і не хавалі цяпер людзі вачэй адзін ад другога, не таілі зайздрасць і злосць.

Сяляне паказалі Алесю, дзе замак Змея Гарынавіча. Гэта ён падкінуў чужое шчасце, каб разлад быў, а адзін ніхто з усёй вёскі дарогі да палаца не ведаў. Маглі яе знайсці толькі разам.

Ступіў Алесь на ганак палаца і толькі падумаў: «Як жа мне такое страшылішча перамагчы?!» — а палац сам сабою і рухнуў, нібы скрозь зямлю праваліўся. На яго месцы трошкі пыл паклубіўся, а потым убачыў Алесь перад сабою луг квяцісты, а на ім сам Змей Гарынавіч ляжыць, ледзь дыхае. Вочы яго ўжо чорны свет не бачаць.

А быў той палац ліхам крыты, жорсткасцю збіты, падмуркам яму была хлусня, хітрыкі — дзвярыма, вокны на плётках віселі, сцены з нагавораў складзены, печы — з ленасці. І не мог ён устаяць хвіліны перад праўдзівым і сумленным чалавекам. Уся ж сіла Змея Гарынавіча была ў яго палацы. Палац рухнуў — і стаў Змей пакорны, нібы тая авечка.

Агледзеўся Алесь — а побач з ім і брат яго, Глеб, той, што застаўся ў Полацку есці дармовы хлеб. Абшарпаны стаіць, нібы толькі што з жабрацкай дарогі.

Скруцілі браты Змея, у мяшок укінулі і назад у дарогу рушылі. Да знахаркі зайшлі. А яна і кажа Алесю:

— Ёсць каля вашага дома крыніца з жывою вадзіцай, набяры ў ёй вады, памачы бацьку рукі, вочы прамый — ён і стане відушчы, чуць будзе.

— Ён жа не сляпы і не глухі,— запярэчыў Алесь.

— Вочы яго бачаць, але не ўсё разумеюць. Вушы чуюць, ды не тое, што трэба. А цяпер спяшайцеся, калі бацьку жывога бачыць хочаце.

Памчалі браты што духу ёсць да бацькавай хаты. Па дарозе тых дзівакоў сустрэлі.

Аднаму Алесь сказаў:

— Абвясці ты сваім малянятам, што з сённяшняга дня ў іх такая работа будзе — кідаць у раку камяні і бурбалкі лічыць, яны і разбягуцца адсюль.

Другому сказаў:

— Вось табе конь Змея Гарынавіча. Ты ж скідай фрак і чаравікі бліскучыя, абувай боты рыпучыя, каня пугай сцябай, на плуг налягай — вось і ўзарэцца тваё поле!

Трэцяму сказаў:

— Не ў той бок сена вязеш, затое і звальваецца.

Тым часам, пакуль сыны былі ў свеце, Гаўрыла дошак нагабляваў, труну зрабіў. З разладу і гора паміраць сабраўся — рукі зламсыў і ляжыць, чакае старую з касой.

Ды ў добры час Алесь з Глебам вярнуліся. Бацьку рукі, вочы жывой вадой абмылі, той і аджыў. Нарадаваўся вяртанню сыноў і моцна заснуў, бо ўжо вечар быў.

Браты ж тым часам зацягнулі мяшок са Змеем Гарынавічам на вясковую кузню і прыладзілі яго агонь раздзімаць — вось адкуль горан у кузні.

А Гаўрылу назаўтра ні свет ні зара певень разбудзіў:

— Кукарэку, кукарэку!
Уставай, Гаўрыла, ідзі за раку.
Там лён спее, жыта таўсцее —
не дастанецца лайдаку.

Дзівіцца Гаўрыла, што даўно не чуў, пра што певень па раніцах спявае. Усхапіўся з ложка, сыноў разбудзіў, і заспяшаліся яны гаспадарку спраўляць.

А певень ужо другі раз спявае, падганяе Гаўрылу:

— Кукарэку, кукарэку —
у каровы малако на языку...

Пагнаў Гаўрыла карову ў поле, прыгледзеўся — у яе пыса ўніз скіравана, вочы на зямлі шукаюць, значыць, і корм яе пад нагамі, а не над рагамі.

Так і стаў Гаўрыла зноў разумець мову прыроды — адчараваў-такі Алесь чары Змеевы.

З той пары ў Гаўрылы павялася ўзноў гаспадарка, і не была больш карова казой, а сякера — касой.

І сарока цяпер маўчыць. Хіба толькі пра Ніла ўспомніць і тады трашчыць:

— Пакуль Ніл усю навуку вывучаў, столькі папер спісаў, што не можа ў іх разабрацца. І цяпер з шафы ў шафу пераносіць, перакладае, пылам перасыпае, усё шукае, у якой запісаў, як бацькаву гаспадарку расчараваць.

Вось вам і казка, а мне лазы вязка.

## Язэп Драздовіч

# «ДУДУТКІ» І ГАРОДНЯ

І. Дзе знаходзяцца «Дудуткі» і Гародня, успамянутыя ў «Слове а палку Ігара»?

ІІ. Аб чым нам сведчаць Краснаборскі магільнік і курган-велікан?

Да пытанняў:

1. Дзе адбылася бітва на рацэ Нямізе?
2. Дзе шукаць магілы з касцьмі забітых?

Часам і песняры могуць замяніць сабою гісторыкаў-

летапісцаў. Хто б з нас ведаў аб аканчальнай гібелі горада Троі, каб не грэцкі вандроўны паэт Гамер? Археалагічныя раскопкі сцвердзілі, што быў такі горад у Малой Азіі, які, падобна нашаму Навагрудку, занімаў сабой пласкаверхую гару (сталагор'е) у 30 км ад пратокі Дарданэл, так, як і наш Навагрудак ад берагоў ракі Немна. І назва гэтага горада — Троя — якраз адпавядала ягоным трохэпохавым культурам узбудавання. Бо тры разы быў узбудованы і тройчы зруйнованы.

Хто б з нас ведаў не толькі аб Няміжскай бітве і аб пабеданосным паходзе з Дудутак праз Гародню на Нямігу Усяслава, вялікага князя Полацкага, каб не пясняр Баян, аўтар гістарычнага эпаса «Слова а палку Ігара».

Дзе знаходзіцца быстрая рэчка Няміга,— мы ўжо ведаем,— яна ў ваколіцах горада Мінска. А дзе знаходзіліся Гародня і Дудуткі, пакуль што ніхто з нас добра не ведаў. Шмат каму з нас здавалася, што «Гародня» — гэта г. Горадня або Горадна ці Гродна.

Ёсць на ўсходнім Палессі ў Рэчацкай акрузе старадаўнейшы двор Гародня, з якога, як падаюць, паходзіла жонка Дзімітрыя Самазванца Марына Мнішак. Ёсць нешта падобнае на «Дудуткі» — сяло Дудзічы, на Міншчыне. Але так як гэтыя мясцовасці не знаходзяцца ў напрамкавым парадку на паходным шляху на Мінск ні з поўдня, ні з поўначы, з Полацку, то іх нельга прызнаць за ўспомненыя Баянам у «Слове а палку Ігара» Гародню і Дудуткі.

Гародню і Дудуткі трэба шукаць не на Палессі і не на Міншчыне, а на самой Полаччыне, там, дзе найболей, найгусцей старадаўнейшых умацаваных селішчаў: гарадзішч, гарадцоў, замкавых гор або замчышчаў. А тым больш на прыблізным паходным шляху з Полацка ды на Мінск, абыходзячы дугавой лініяй труднапраходную, забалочаную на вытаках ракі Бярозы пушчу Цатавізну, якую і Напалеон у сваім паходзе з Вільні на Маскву абходзіў кругом з поўначы на Кублічы і Лепле.

Гародню і Дудуткі трэба шукаць калі не на левабярэжных прытоках ракі Дзвіны, то на правабярэжных прытоках ракі Дзісенкі, а асабліва ў іхніх вярхоўях, якімі яны перацінаюць кругавы паходны шлях з Полацка на Мінск, абыходзячы дугой з захаду труднапраходны балоцісталясны абшар пушчы Цатавізны, распаложанай паміж Мінскам і Полацкам.

Раней за ўсё шукаем мясцовасці Дудуткі — нам трэба ведаць тое, чым маглі служыць гэныя Дудуткі для

вялікага князя і для ягонага коннага войска — адкуль князь распачаў свой ваенны паход.

Мы ведаем, што ў старадаўнія часы, калі існавала ў Полаччыне вечавое права, князі полацкія ў самым горадзе Полацку не жылі, а кватаравалі разам са сваім войскам за горадам, у Бельчыцах, дзе для князя быў пабудаваны палац, а для ягонага войска казармы. Але магло быць і так, што князь мог выбіраць сабе дзеля пракармлення свайго коннага войска зімой і другія, больш багатыя на сенажаць мясцовасці на час зімоўкі — незалежна ад вызначанага яму месцапрабывання непадалёку ад Полацка ў Бельчыцах. І мог раскватароўваць сваё коннае войска хоць і дзе, абы толькі не ў самым горадзе Полацку. У Бельчыцах князь мог кватараваць толькі летам, а на зімоўку са сваёй конніцай, для якой патрабавалася нямала пашару, сена, князь мог перасяляцца і ў другія, больш аддаленыя ад Полацка мясцовасці, багатыя сенажацямі і збудаваннямі, патрэбнымі для размяшчэння ягонай конніцы. А збудаваннямі для гэтай мэты маглі служыць густа заселеныя мясцовасці з земляробскімі селішчамі і з абароннага характару гарадзішчамі. І ўспамянутыя Баянам Дудуткі былі нячымсь іншым, як месцам зімоўкі, з якой князь Усяслаў на прадвесні і рушыўся ў паход к Гародні, а ад Гародні на Мінск, на Нямігу.

Мясцовасць Гародня аднайджана па назве возера Гародня, якое знаходзіцца ў групе пяці Залескіх азёр: Карпія або Пальвіца, Бярозаўка, Бялуша, Мураўшчына і Гародня (Глыбоцкага р-на Полацкай вобл.). Возера Гародня беспраточнае, глухое. Над возерам гэтым узвышаецца высокая града гор. На адной з гэтых гор, найвышэйшай і стромай, у канцы возера ўзвышаецца гарадзішча, усеянае чарапкамі гаршкоў, вугаллем, аскялёпкамі перапаленага камення, конскіх касцей і пячной гліны. Побач з гарой гарадзішча, цераз пералог узвышаецца другая гара, якая носіць назву Царковішча.

Непадалёку гарадзішча Гародні, у трох вярстах, над возерам Пальвіца ўзвышаецца і яшчэ адно гарадзішча — Гараватня. А непадалёку Гараватні — тры старадаўныя магільнікі, два хрысціянскія і адзін дахрысціянскі, з валатовак, курганы.

16 км ад Залесся каля м-ка Лужкі ёсць і яшчэ адно досыць вялікае, калісь абнесенае высокім дубовазрубным насыпным валам гарадзішча Гарадзец у звіліне ракі Мнюты, якое, згодна з летапіссю (па Шчакаціхіну), спалена

ў часы Полацкай рэспублікі ў XII ст. літоўскім кн. Мінгайлам.

Насупраць гарадзішча Гарадзец ля дарогі ўзвышаецца курган-памятнік на пабоішчы «палкоў мужоў полацкіх» з літ. кн. Мінгайлам.

А ў 15 км ад г. Гарадца на шляху цераз Чарневічы на Полацк мы аднойдзем і ўспомненую Баянам мясцовасць Дудуткі, якая на працягу многіх вякоў пераіменавалася з Дудутак у Дадэкі. Дадуткі, Дудукі, Дадукі і Дадэкі.

Дадэкі — гэта не вёска, не сяло і не якаясь сяліба, а проста наогул як урочышча, як геаграфічная назва мясцовасці ў ваколіцах Залатога ручча і навокал Чарнеўскага млына па даліне ракі Авуты. У ваколіцу Дадэк уваходзіць цэлы рад вёсак і сяліб — такіх, як Тупічына, Зарэчча, Сіпаліна, Лагаўцы і Крукаўшчына.

Дадэкі — гэта старадаўняя назва ваколіцы, цесна звязанай з маляўнічай Чарнеўска-Авуцкай далінай, абапоненай высокімі стромымі ўзваламі касагораў, паперакраеваных глыбачознымі ярамі руччаў, над якімі то там, то сям узвышаюцца старадаўнейшыя гарадзішчы. На дзесяцівёрстным працягу гэтай даліны аж сем гарадзішч і больш дзесятка старадаўнейшых магільнікаў як хрысціянскіх, так і курганных дахрысціянскіх.

Найцікавейшы магільнік часоў хрысціянскіх на спігальскім пераездзе ў крыжоўках дарог. Гэта магільнік тыпу пераходнага з акруглястых валатовак (курганаў) у акруглястыя, умошчаныя каменнямі кругі, а з кругоў у прастакутныя, агароджаныя дробнымі каменнямі магілы з высокімі плітавастымі камянямі над узгалоўем. З валатовачных жа (курганных) магільнікаў найцікавейшы Красанаборскі, на Красным барку, у даліне р. Авуты з курганом-веліканам непадалёку, які ў сваёй аснове 150 крокаў у акружнасці. Самыя найцікавейшыя з сямі гарадзішч над авуцкай далінай тры: першае — гэта **Замкавая гара Дварэц,** якая знаходзіцца між возерам Качаноўкай і ўрочышчам Дварцом, над р. Авутай. Замкавая гара гэта прадстаўляе сабою высокую, стромую, акруглястую, з глыбокім равом адкопу ад суседняй гары і з эліпсавастым верхам гарадзішча. Памеры кароны верху гары ўдоўж 75 крокаў, а поперак — 50. У даліне побапал рэчкі непадалёку гэтай гары ў некалькіх месцах бадзяецца кавальскі шлак — дзындра, якая сведчыць аб тым, што тут былі калісь кузні.

Другое гарадзішча, **гарадзец Сквірэц,** — над вусцем рэчкі Сквірца ў р. Авуту. Гэта арыгінальнае, невялікіх паме-

раў гарадзішча. Даўжыня яго каля сотні крокаў, а шырыня каля дваццаці пяці. З аднаго боку ад рэчкі — круты абрыў, а з другога боку — штучна адкопаная тэраса. У канцы ад бору — некалькі глыбокіх равоў з валамі. У канцы ад рэчкі — жалезістая крыніца, а побач над рэчкай прызнакі, што тут стаяла калісь лазня.

На некатарай адлегласці ад гэтага гарадца на Воронкаўскім бары — курганны магільнік з расплышчаных валатовак. А ў бок Чарневіч на крыжоўках дарог — старадаўнейшы хрысціянскі магільнік пераходнага тыпу ад валатовак да прастакутных магіл.

На гарадцы гэтым археалагічнымі раскопкамі ў 1938 г. знайджан вугол падземнага муру.

Трэцяе гарадзішча — гэта **Краснаборскі гарадзец,** які знаходзіцца паміж Крукаўшчынай і Барысэўшчынай над абрывістым ярам ручча. Ад гэтага на вясёлым месцы гарадзішча мала чаго пазасталося, бо з году ў год абрываецца пад абрыў ручавога яру.

Паабапал маляўнічай і багатай сенажацямі дадэцкай даліны ёсць многа дзе прызнакаў старадаўнейшых селішчаў, якія тут існавалі ад неалітычнага каменнага веку. Магло быць, што па селішчах і гарадзішчах князь Усяслаў размяшчаў сваё коннае войска. А Краснаборскі гарадзец як самы цэнтр ваколіц служыў князю рэзідэнцыяй. На Краснаборскім магільніку ў 1938 годзе археалагічная камісія ад Віленскага універсітэта выкапала з-пад курганаў два шкілеты людзей-веліканаў двухметровага росту; магчыма, што гэты Краснаборскі магільнік служыў месцам паховін для воінаў-багатыроў князя Усяслава. А курган-велікан, які насыпаны на выпаленым вогнішчам месцы, памерам 50 крокаў у дыяметры ў аснове або 150 крокаў кругом абысці, не быў магілай, бо археалагічная камісія, абярнуўшы яго ў кратэр, нічога не знайшла.

Курган-велікан — гэта не магіла, а памятнік у чэсць нейкай гістарычнай падзеі ці ваеннай перамогі.

Гледзячы на Краснаборскі магільнік, магільнік багатыроў-веліканаў, і на Краснаборскі курган-велікан, паўстае вось якая гіпотэза. Усяслаў, вялікі князь Полацкі, зрабіўшы адгэтуль свой ваенны паход конніцай на Мінск на Нямігу і пакінуўшы ў няміжанскай бітве сваіх ворагаў, сабраў з поля бітвы забітых сваіх воінаў, згрузіў іх на санныя падводы і вярнуўся разам з імі на месца сваёй зімоўкі ў свае Дудуткі (Дудукі ці Дадэкі), дзе і пахаваў іх пад курганы на Краснаборскім магільніку без ніякіх за-

трат на гэта дарагога паходнага часу, а тым болей, калі зямля была ўмержшай, якую трэба было даўбіць пешнямі ды сякерамі.

А ў чэсць свайго пабеданоснага паходу на Нямігу князь насыпаў у дадэцкай даліне курган-велікан.

## Заўвагі

Усяслаў, вялікі князь Полацкі,— гэта быў князь-арыгінал. Калі ён не завагаўся схадзіць паходам у Ноўгарад, каб забраць сабе з тамтэйшага сабору ўспадобаны ім іканастас і перавезці яго к сабе ў Полацак для свайго новаразбудаванага ім Сафійскага сабору, то ён мог зрабіць гэта, каб сабраць з поля бітвы сваіх нябожчыкаў і адвезці іх з сабой дадому, каб пахаваць їх дома з удзелам мясцовага народанасельніцтва, урачыста.

Не зрабіў бы ён гэтага, каб не быў у няміжскай бітве пераможцам, толькі пераможца можа распараджацца пасля бітвы полем пабоішча.

Як мне здаецца, што далёка лягчэй было князю і ягонай коннай дружыне забраць з сабой пабітых, чымсць цэлай арміяй дружыннікаў затрымацца на полі пабоішча, каб даўбіць там сякерамі замёрзлую зямлю, каб накапаць над кожным воінам курган. А ў дадатку, не так многа магло быць і паўшых, можа, адна якая сотня, дый тая няпоўная.

Што сталася пасля няміжскай бітвы на пабоішчы з напастнікамі, якіх князь полацкі Усяслаў Вялікі разбіў, мы не ведаем, як не ведаем напэўна таго месца, на якім адбылася бітва, аб якім могуць сведчыць толькі косці пабітых у магілах, а магіл мы такіх не знаходзім.

Калі Мінск-горад не быў знішчан, аграблен, разгромлен і спален і жыхары Мінска сядзелі на месцы ў непарушаным стане, то гараджане-мінчане маглі і ворагу паховіны наладзіць. А калі ж не, горад быў знішчаны, то разбітыя нашэльнікі маглі пазастацца на полі бітвы і без ніякіх паховін на паяданне ваўкам і лісіцам.

Толькі пераможнікі маглі забраць з поля бітвы сваіх пабітых і адвезці іх на заветнае месца паховін.

І калі хто з паважаных маіх чытачоў не згаджаецца з тым, што я напісаў, то такога я буду прасіць аднайсці магілы пабітых у няміжанскай бітве і паказаць нам іхнія косці.

## Тадэвуш Лада-Заблоцкі

# ВАКОЛІЦЫ ВІЦЕБСКА

*(Урывак з паэмы)*

* * *

О наша Дзвіна! Калі сонца звысоку
Растопіць снягі, свет сагрэе навокал,
Твае берагі ажывуць ад той ласкі:
Як гожа засвецяцца з купінак краскі!
Мяне гэтак вабілі ў часе дзяцінным
Твае пералескі, гаі, лугавіны!
Заўсёды парой незабыўнаю весняй
Шум хвалі тваёй быў мне лепшаю песняй.
Ён мне на душу, што не знала турботы,
Яшчэ навяваў цень няяснай сумоты.
Вясна! Ты цяплом жыватворным прамення
Прыносіш прыродзе ўсёй уваскрасенне,
Уквечваеш свет наш, гаі апранаеш —
Чаму ж ты боль з сэрца майго не здымаеш?
І слёзы, што ў вочы плывуць часам мройным,
Чаму ж не асушыш ты ветрыкам гойным?..

* * *

Вось я на гары ўжо — мой Віцебск пад ёю.
Таполі густыя — тут вартай жывою.
Па схіле — хмызняк. Аж да воблакаў самых
Узносіўся колісь тут велічны замак.
Бацькі нашы бачылі замка руіны,
Пакінуўшы нам пра яго успаміны...
Тут беларусін у часы найстарыя
Не раз адбіваў войскаў зграі чужыя.
За край свой спрадвечны устаўшы сцяною,
Ён біўся адважна тут з Руссю, з Літвою.
Тут, выйграўшы бітву, ля ножак Мар'яны
Склаў меч пераможны Альгерд закаханы
(Калісь быў Геракл сваю грозную зброю
Склаў гэтак жа перад Эмалі красою).
Тут перад Літвы ўладаром найгалоўным
Схіліўся быў Віцебск з тым замкам цудоўным.
Вось тут, дзе калісьці пад небам грымелі
Забытыя сёння балі ды вяселлі,

Хіба толькі часам птах нейкі вандроўны
У голлі бяроз спеў пачне свой чароўны.
А плюшч, што смяецца з турботы людское,
Плашч смутку ўскідае на месца святое.
Я часта — ў руках быў Вергілій, Гарацый —
Тут слухаў шум Віцьбы між вольх ды акацый.
Я чуў пра асілкаў даўнейшых так многа
Тут спеваў узнёслых ад старца сівога.
Расказваў паданні ён пра чарадзеяў,
Пра голых русалак, пра рыцараў дзеі.
То мудры быў старац, меў дзіўныя вочы,
Ён з духамі знаўся і часта прарочыў,
Што з намі, з зямлёй нашай некалі стане...
Я слухаў яго, затаіўшы дыханне.

* * *

Тваёй даўнінай, Беларусь, зноў я мрою...
Дзе ж сёння твае палкаводцы-героі,
Што колісь на бітвы выстройвалі роты?
Дзе славы тваёй песняры — вайдэлоты,
Што спеўнаю лютняй шматструннай сваёю
Шляхетныя сэрцы ўздымалі да бою?..
Цяпер жа героі твае ўсе забыты,
Дый лютні тых бардаў папробуй знайдзі ты...
Апошні з іх, бардаў узнёслых, раскутых,
Быў гэтых лясоў выхаванец славуты,[1]
Што пеў Чартарыйскім, быў людам прызнаны,
Касцёлам святым пры жыцці ўшанаваны.
Ён з плёсаў далёкай ракі заімглёнай
Цябе сваёй песняю славіў натхнёнай.
Хто з нас яго лютню цяпер адшукае
І цені дзядоў ёю зноў пагукае?..
Мо там, ля Дзвіны, дзе я ў думках і мроях,
І ён за прыцемненай хваляй рачною
Не раз бачыў продкаў далёкія здані
І слухаў старцоў найсівыя паданні.
Яго у палон бралі вобразы тыя,
Адкрытыя зрокам пясняpскім, жывыя.
О бард! Беларускай краіны ты слава!
Свяціла табе Заўтра яснага ява.

[1] Маецца на ўвазе польскамоўны паэт Беларусі Францішак Князьнін (1750—1807), родам з Віцебска, служыў пры двары князёў Чартарыйскіх.

Ты думаў: вось-вось яно прыйдзе ўжо ў звоне,
І ўвенчацца лаўрам ссівелыя скроні.
Але ўсё дарэмна: хваробы навала
Надзею на шчасце зямное забрала...

* * *

Гукаючы рэха стагоддзяў былінных
Па гэтых пагорках нямых і далінах,
У строгі касцёл адчыню ў думках дзверы —
Так прагнуць там сэрцы збалелыя веры!
Калісьці ў маленстве і я ў ім, бывала,
Спагаднаму Богу маліўся нямала
І з грэшнай зямлі да нябёсаў наймілых
Не раз на нябачных узносіўся крылах...
Чаму я не ўзяў веру гэту з сабою,
Калі так, без вёслаў жыццёвай ракою
Панесла мяне да нязнаных прастораў,
Калі пад нагамі чуў грознае мора,
Калі дружбакі і каханне былое
Сплылі з туманамі, застаўшыся ў мроях,
Калі я блукаў па дарогах цярністых,
Глытаў у пустыні пыл дзюнаў рабрыстых,
Ніводная зорка не выйшла з аблокаў,
Не ўбачыў спагады ні ў водным я воку...

* * *

Яшчэ тут мне бачыцца побач з касцёлам
Святыня навукі — даўнейшая школа...
Вітаю цябе сёння з-за небасхілаў,
Мяне ты дабру, мая школа, вучыла.
Тут ранак жыцця мой імкліва прамчаўся,
Мужнеў і сталеў я тут, як і дзятва ўся.
Тут класікай дух мацаваў свой, бывала,
Тут першая дружба мяне акрыляла.
О дзе вы, маленства сябры? Як даўно вы
Адгэтуль пусціліся ў шлях свой жыццёвы!..
Пра вас, пра маленства сяброў — мае мары.
Навокал — чужыя, халодныя твары.
Каму мне боль сэрца раскрыць на чужыне?
Хто спеў мой пачуе ў далёкай краіне?
Хто мне паспрыяе тут, жаль мой раздзеліць?
І хто тут, выгнанца, мяне развяселіць?



Але гэтых скаргаў атручаных досыць!
Ад іх адпачыць сэрца беднае просіць.
Хай думка да родных ляціць далячыняў!
Вось я ў Лукішанскай шырокай даліне.
Чароўны куточак! Тут ціша і воля!
Зарослыя лесам узгоркі за полем,
Нібы веліканы, усталі сцяною
І горад адсюль засланяюць сабою.
А збоку, з-за ліп і бяроз-выхвалянак,
Адкрылася вёсачка — шчасця прыстанак.
За ёю жытамі хвалюецца ніва —
Там ветрык залётны сваволіць гулліва.
А далей — Лучоса ў траве серабрыцца,
Віруе ў затоках, між лозаў бруіцца...
Як добра, пакінуўшы горад шумлівы,
Блукаць мне было тут у часе шчаслівым.
У гэтым прыволлі, над логам, над гаем
Як вольна, раскрылена думка лунае!
Пакрыўджаны доляй спакой тут здабудзе,
На ўлонні прыроды ўсё ліха пазбудзе.
Бы трапіць ён раптам — няхай на часіну —
З будзённасці цяжкай у мараў краіну.
Адзін ён у свеце ды хмаркі нябёсаў...
Заўсёды табе буду ўдзячны, Лучоса,
За хвілі такія! Ды шкода, што ў час той
З затокі тваёй, з-пад альшыны купчастай
Не выйшла прарочая німфа якая
Сказаць, што бяда мяне ў свеце чакае...



На тых берагах нечакана, у ззянні
Мне бліснула ясная зорка кахання.
Я ўбачыў цябе на жыцця майго ранку,
Нібы незямную нябёсаў пасланку...
Вачэй тваіх промень з-пад веек агністых
Мне проста ў душу ўпаў, высокі і чысты.
Свяціў мне і ўночы — асколачкам раніц —
На шчоках каханых, бы ружа, румянец.
Высокім агнём пунсавелі спакусна
Зарою нябеснай налітыя вусны.
А косы твае эбановаю хваляй
Так вабна на грудзі тугія спадалі...



Бывай жа, Наталля, бывай, дарагая!
Навекі цябе я цяпер пакідаю.
Пад сонцам чужым, ад злой кулі чужое
Я, пэўна, ўпаду дзесь пад дзікай скалою...
І толькі прыблудны алень бесклапотны
Прыпыніцца мо ля магілы самотнай.
Схіліўшы чало прамяністае долу,
Кусты пагрызе, што паўсходзяць наўкола.
А ўсё-такі дух мой паклічуць нябёсы —
Ён вернецца зноўку на бераг Лучосы.
Сустрэўшы цябе у задуме пад дрэвам,
Абудзіць душу тваю лёгкім павевам
І, можа, адмёўшы ліхое з наскоку,
На момант асушыць слязу ў тваім воку...



Дубровы густыя, гаі і даліны!
Вякоў курганы пад шнурком жураўліным!
Прыміце ж апошні уздых пілігрыма,
Што арфу настройваў на гукі радзімы.
Шчаслівы, хто дзесь у канцы падарожжа
Заплакаць, Дзвіна, ля вады тваёй можа...

О людзі! Хто брата свайго з вас аплача,
Таго, што заручаны з доляй бядачай?..
Ды ўсё ўжо! Расстання пара наступае —
Унь бура мой ветразь ужо напінае.
І ў змрок гоніць лодку, бы пёрка малое —
Грамы нада мною, віры пада мною.
Слязіна астатняя ўпала з павекі...
Бывай жа, мой Віцебск, край родны, навекі.

*1837—1839 гг.*

**Власт**
**(Вацлаў Ластоўскі)**

# УРАЖАННІ АД ПАЕЗДКІ Ў БЕЛАРУСКУЮ РАДАВУЮ САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ РЭСПУБЛІКУ

## ВЫЕЗД З ЛІТВЫ

У пачатку кастрычніка 1925 года атрымаў я ад Інстытута Беларускае Культуры запрошаньне на Акадэмічную Канфэрэнцыю, якая склікалася ў Менску на 14 лістапада 1926 года. На гэтае запрошаньне я ахвотна выразіў сваю згоду прыбыць у Менск на назначаны час, паскольні варункі незалежнага характару не стануць на перашкодзе.

Зборы ў дарогу выклікалі, аднак, нямала ўсякіх турбот. Галоўнай прычынай да каторых паслужылі розныя крыватолкі і пострахі, якія расьлі з кожным днём, умеру таго, як разыходзілася ўсё шырэй чутка, што «Ластоўскі» едзе ў Менск. Прыходзілі людзі да мяне ў кватэру і «па прыязьні» дзяліліся такога зьместу «навінамі», што ў апошнія дні перад выездам я пачаў нэрвавацца, асабліва ў часе ўсякіх фармальнасьцяў з візамі. Але, урэшце, разам з рэдактарам часопісі «Покліч» грамадзянінам Галавінскім і Рэктарам літоўскага унівэрсытэту, прафесарам М. Біржышко, 10 чэрвеня выехаў з Коўны ў Менск на Канфэрэнцыю.

## ГАСЬЦІНА Ў РЫЗЕ

У Рызе, не глядзя на ранную пару, сустрэлі нас на вагзале прадстаўнікі беларускіх (крывічанскіх) арганізацый у Латвіі: выконваючы абавязкі начальніка беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы грамадзянін Плыгаўка, кіраўнік вучыцельскіх курсаў грамадзянін Дзямідаў, вучыцель Шчорс, паэт Масальскі і другія. Прасілі нас рыжскія крывічы (беларусы) астацца на адзін дзень у Рызе, каб азнаёміцца з іх дасьціжэньнямі ў беларускай працы. Мы, абмеркаваўшы, што час нам на гэта пазваляе, згодзіліся, і, пасьля сьнеданьня ў сымпатычным памешканьні «Рыму», дзе маюць звычай зьбірацца рыжскія беларусы, паехалі аглядаць школы і вучыцельскія курсы.

Беларускае (крывічанскае) адраджэньне даволі рана

закранула Рыгу. Ужо ў 1907 годзе тут пробавалі гуртаваць крывічанскія (беларускія) сілы Эдвард Будзька, паэта Косьцевіч і В. Ластоўскі. Апошні ў 1907 годзе чытаў у Рызе лекцыі ў беларускай мове, адзін раз для інтэлігенцыі, у салі існаваўшай у тыя часы ў Рызе польскай бібліятэкі, і некалькі лекцый для работнікаў у памяшчэньнях пачатковых школ. Зацікаўленьне было даволі вялікае, але беларусы ў Рызе сарганізавацца не змаглі, дый у хуткім часе вышэйназваныя асобы параз'яжджаліся, не пакінуўшы на сваё мейсца заступнікаў. У Рызе наступіў доўгі перарыў у беларускай (крывічанскай) працы, бо аж да 1918 году, калі прыбыла ў Рыгу Дыплёматычная Місія Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была прыхільна прынята Латвійскім Урадам і акрэдытавана як Поўнамочнае Прадстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі. На чале Прадстаўніцтва і пазьней арганізаванага Консульства стаяў грамадзянін К. Езавітаў аж да 1922 году. У 1922 годзе было ліквідавана Дыплёматычнае Прадстаўніцтва БНР на вымаганьне Прадстаўніцтва Сувязі Радавых Сацыялістычных Рэспублік, у складзе якіх ужо існавала новасарганізаваная Беларуская Радавая Сацыялістычная Рэспубліка. Астаўшыся ў Латвіі, як звыклы грамадзянін Латвіі, К. Езавітаў пачаў арганізаваць тут беларускую (крывічанскую) меншасьць. Дзякуючы шчырым прыяцелям беларускага адраджэння, якія заўсёды былі і цяпер ёсьць у Латвіі, праца грамадзяніна К. Езавітава была падтрымана з боку латвійскага грамадзянства і дала значныя вынікі: былі арганізаваны дзьве гімназіі, у Двінску і ў Люцыне, і некалькі дзесяткаў беларускіх (крывічанскіх) пачатковых школ у Латгаліі. Праўда, работа гэта ў 1924—25 гадах была крэпка падарвана стараньнем расійцаў і палякаў, якія, падбухторыўшы шавіністычную часьць латвійскага грамадзянства, утварылі беларускі палітычны працэс, вінавацячы беларусаў у жаданьні адарваць Латгалію ад Латвіі. Але гэты працэс кончыўся поўнай кампраметацыяй яго зачыншчыкаў, бо суд усіх абвінавачаных беларусаў, з паміж каторых іншыя праседзелі доўгі час у турме (прыкладам грамадзянін К. Езавітаў праседзеў гэты год), не прызнаў віннымі і апраўдаў. Гэты латгальскі працэс унёс нясмачны дысананс у добрасуседзкія і шчыра прыхільныя даўныя стасункі паміж беларусамі і латышамі. Але час, гэты найвялікшы лекар, цяпер пачынае згладжываць прыкрыя ўспаміны нядаўнага працэсу, ды на саміх латвійскіх беларусаў меў здаровы

ацьвярозуючы ўплыў ад даўнага «балтыцкага» рамантызму. Цяпер у Латвіі ідзе нармальная для недзяржаўнага народу, цяжкая праца зьбіраньня сваіх сіл і змаганьня за правы чалавека і грамадзяніна. Беларусаў (крывічоў) заліваюць як латвійцы, так расійцы і палякі. Палякі рвуць, як могуць, к сабе беларусаў-каталікоў, расійцы стараюцца захапіць праваслаўных, а латышы сваёй дзяржаўнай махінай і тых і другіх беларусаў уцягаюць у латыскае ручво. У Латгаліі, дзе жыхарства мяшанае, латвійскія школы прынаджуюць дзяцей беларускай вясковай беднаты дармовымі сьнеданьнямі і ўрадавай прыхільнасьцю да бацькоў.

Але не глядзя на ўсе труднасьці, на цяжкія эканамічныя варункі, горстка крывічанскай (беларускай) інтэлігенцыі геройска і не бяз вынікаў бароніць на ўсе староны сваіх народных і культурных пляцовак.

Прыкладам такой сызыфавай працы можа быць праца ў самой Рызе. Тут здавён-даўна, ужо з XII ст., крывічы былі сталымі жыхарамі гораду і нават мелі, у сярэдзіне гораду, свой купецкі двор з царквой. Да Рыгі, як да тарговага прыморскага гораду, доўгія стагодзьдзі што год прыбывалі вялікім тарговым шляхам, Дзьвіной, беларускія «госьці» і работнікі. А найбольш плыло крывічанскіх (беларускіх) сіл у Рыгу ў другой палове XIX ст., калі прамысловы капітал пачаў арганізаваць у Рызе ўсякія фабрыкі. Ад 1880-х гадоў кожны год плылі ў Рыгу сотні і тысячы беларусоў — фабрычных работнікаў, якія або па нейкім часе вярталіся на бацькаўшчыну, або аставаліся на заўсёды ў Рызе і, у гэтым другім здарэньні, латышызаваліся і зьліваліся з латыскім грамадзянствам. У жылах сучасных рыжан многа плыве крыві крывічанскай, і гэта апошняе адна з прычын таго, што крывічы (беларусы) заўсёды так сымпатызуюць з рыжанамі.

Вайна перарвала прыток крывічанскага (беларускага) элементу ў Рыгу. З паміж тых, што тут асталіся з перадваенных часоў, толькі соты чалавек, нават з паміж з прыбыўшых пасьля 1900-х гадоў, памятае, што ён мае, а прынамсі меў сваю асобную мову, якая, зрэшта, цяпер ніякага практычнага для яго значэньня не мае, ні ў грамадзкім жыцьці, ні ў дзяржаўным, ні ў культурным, ні ў рэлігійным. Уменьне латвійскай мовы і прыналежнасьць да латвійскай нацыі дае грамадзяніну некатарыя прывілеі, а прыналежаньне да беларускай народнасьці не дае нічога. Аднак недзе ў таемных тайніках душ гэтых пераважна самых бедных грамадзян Рыгі цепліцца праменьчык любові

да свайго роднага. Не на рэальным інтарэсе, а на гэтым неразгаданым унутраным пачуцьці будуецца ўся адраджэнчая сягоньняшняя работа ў Рызе. Гарадь агнём самапасьвяты рыжскія беларускія (крывічанскія) дзеячы, гарадь запазычаным ад іх цяплом бацькі, якія пасылаюць дзетак сваіх у беларускія школы, сьвецяцца гэтым сьвятлом, запазычаным з грудзей сваіх вучыцялёў і вучыцялек, вочкі сабраных у школы дзетак.

Школы тут дзьве пачатковыя і вучыцельскія курсы. У гэтых двох школках вучыцца да 300 дзетак, хлопчыкаў і дзяўчатак. На вучыцельскіх курсах спасобіцца на вучыцялёў 18 чалавек. Нашае азнаёмленьне са школкамі і курсамі «з птушынага лёту» не дае права высказываць катэгарычных поглядаў (бо погляды за адзін дзень не маглі злажыцца), але між рыжскімі вучыцялямі пазналі мы некаторых асоб, якія цудоўна знаюць мову і ўмеюць яе шанаваць. А то пэўная запарука, што гэтыя адзінкі «не для хлеба куса» а для ідэі працуюць і ідэйных дадуць па сабе духовых нашчадкаў. Я ня веру, каб чалавек інтэлігентны, беларус з роду-племені, ня мог адвучыцца гаварыць барбарскай расійска-беларускай чаўпнёй, слухаючы якую гадка робіцца. Гэта нічым ня вытлумачаная духовая неахайнасьць на відочнай пляцоўцы шкодзіць больш, чым інтрыгі ворагаў. Людзі, каторыя ад маскалёў не адсталі і да беларусоў (крывічоў) не прысталі, паніжаюць сябе ў вачох свайго і чужога грамадзянства. Я гэта не аб нашых рыжанах, а так, к слову прышлося...

Пасьля агляду школ вечарам сабралася рыжская беларуская (крывічанская) інтэлігенцыя на сумесную таварыскую вячэру, на якую прыбыў і адзін з найгуманьнейшых людзей сучаснай Латвіі, шырока вядомы і па-за межамі сваёй бацькаўшчыны паэт Райніс. Вечар зышоў на жывых і сымпатычных гутарках.

Назаўтрае, 12-га, наша групка ўчасьнікаў Акадэмічнай Канфэрэнцыі павялічылася: да яе далучыліся латвійскія дэлегаты: прафесар Блессэ і паэт Райніс. Ізноў ветла праводжаныя беларускім (крывічанскім) і латвійскім грамадзянствам, а такжа намесьнікам полпрэда СССР, грамадзянінам С. Баркусэвічам, які між іншым зазначыў, што чытае нашу часопісь «Крывіч» і залічае сябе да беларусаў польскай культуры,— мы выехалі з Рыгі.

# ГРАНІЦА

Стараньнем грамадзяніна С. Баркусэвіча дэлегаты атрымалі 2 выгодныя купэ ў мяккіх вагонах скорага цягніка, які ідзе з Рыгі праз Вітабск, Смаленск у Маскву. На граніцу было дадзена тэлеграфічнае павядомленьне аб пераезьдзе дэлегацый. Апошняя латвійская станцыя — Індра; першая пагранічная станцыя СССР — Бігосава. На станцыйным будынку памешчана даска з надпісамі ў беларускай (крывічанскай), расійскай, польскай і жыдоўскай мовах: «Бігосава — БССР».

На паграніччы прыйшоў у вагон прадстаўнік банку мяняць грошы. Усе дэлегаты рабілі запас на падарожу чырвонцаў (10 р.) і рублёў. Як на чырвонцах, так і на разьменнай манэце, між іншым мастацка выкананай, надпісы маюцца ў аднэй толькі маскоўскай мове. Прыкладам: «Пролетарии всех стран, соединяйтесь. СССР. Один полтинник».

Адзін з дэлегатаў, зьвярнуўшы на гэта ўвагу, сказаў: «У роўнапраўнай Сувязі Радавых Рэспублік, як відаць, няма роўнасьці моў: манэта нам кажа, што мы ўязджаем у дзяржаву, дзе пануючай мовай ёсьць мова маскоўская». Так, манэта СССР гэта не двузначна падкрэсьляе. Праўда, на рублёвых асыгнатках (адно, трох, пяцірублёвай вартасьці), у нізе маленькімі літарамі маюцца надпісы і на пяці другіх мовах, але, так сказаць, на задворках і заключаюць ня ўвесь поўнасьцю надпіс асыгнаткі а толькі — словамі — сколькі на ёй значыцца рублёў. Разумеецца, памяшчаць усе надпісы на аднэй асыгнатцы, на ўсіх мовах, якія істнуюць у Сувязі Радавых Рэспублік, не практычна і не эстэтычна. З гэтым можна згодзіцца. Але ізноў фіксаваньне аднэй маскоўскай мовы гэта ўжо прывілей для Масквы, гэта ўжо як бытцам зазначаньне, што сувэрэнам на гэтай тэрыторыі як быў, так і астаўся маскаль. Як жа практычна выйсьці з гэтага палажэньня? Па сколькі прызнаецца тэарэтычна роўнапраўнасьць Радавых Рэспублік, то тэорыю трэба стасаваць і на практыцы, падкрэсьляць і зазначаць яе, бо іначай тэорыя траціць сваю вартасьць. Хто бываў у Швайцарыі, Бэльгіі, Францыі, той ведае, што разьменная манэта ва ўсіх гэтых дзяржавах унормавана,— за адзінку прыняты франк, і ў кождай з гэтых дзяржаў можна расплачывацца манэтай любой з названых дзяржаў: у Францыі даюць вам здачу Бэльгійскімі і Швайцарскімі франкамі і вы можаце імі расплачывацца ўсюды і на кож-

дым мейсцы. Вось і ў Радзянскіх Рэспубліках трэба друкаваць і адбіваць манэту аднацэнную, але для кождай — уходзячай у склад Сувязі рэспублікі, асобна на яе мове. Няхай кождая Радзянская Рэспубліка мае грошы, друкаваныя на яе ўласнай мове. СССР прадстаўляе адзіны гаспадарчы арганізм, дык рожніцы ў цэннасьці валюты ня будзе, а гэтым зараджаньнем будзе зазначана, што тут тэорыя не пярэчыць практыцы.

Пагранічная стража, апранутая ў доўгія да костак шэрыя шынэлі і шэрыя суконныя шлыкі выглядае даволі арыгінальна, але гэта арыгінальнасьць асацыазуецца са стылям белакаменнай Масквы, асабліва шлык патварае спэцыфічныя крывыя лініі маскоўскіх царкоўных купалаў. Стража, ветла прывітаўшы дэлегатаў, нават не рабіла агляду рэчаў, здаваляючыся толькі запытаньнем — ці няма ў нас чаго да аплаты мытам.

У Бігосаве будуецца новая станцыя. Будынак дрэўляны, але даволі абшырны, двухпаверхі. Архітэктура маскоўская, з церамкамі і ганачкамі, патварае ляпідарны нясьпелы і нясмачны стыль казённых будынкаў царскіх часаў. І каму запатрэбілася і дзеля якой наўды аздабляць крывічанскую (беларускую) зямлю сарафанна-шынэльным стылям ужо не існуючай царскай Масковіі?! Праўда, пазьней, у Менску, некатарыя з тамтэйшых дзеячоў гаварылі мне, што ў Бігосаве за мільён рублёў будуецца вялікая, у беларускім народным стылю, станцыя. Або яны не бачылі будынку станцыі, або ня ведаюць, як выглядае крывічанскі (беларускі) стыль!

За пару гадзін, пасьля выезду з Бігосава, цягнік наш праходзіў праз станцыю Боркавічы. Згэтуль недалёка, у адлегласьці ўсяго 12-ці вёрст, знаходзіцца мой родны гарадок Дзісна. Цяпер ён аддзелены Польска-Радзянскай граніцай ад Боркавіч. Гэта граніца, праведзеная ганебным рыжскім мірам — найлепшы паказчык вадлівай будовы сучасных дзяржаў, якія могуць праводзіць межы свае па жывым целе жывых народаў, разьдзіраючы і дзелячы іх між сабой, апіраючыся адзіна на сваю фізічную сілу. Нашай сумнай сучаснасьцю ня выкаваны аканчальна формы дзяржавы будучыны і ня зжыты яшчэ формы і паняцьці фэадальна-дынастычна-капіталістычных дзяржаў. Сучасныя дзяржавы прадстаўляюць не аднацэльныя народныя арганізмы, не вольныя сувязі вольных грамадзян і народаў, а падпарадкаваныя сільнейшым слабейшыя адзінкі. Дзяржава будучыны павінна будзе апірацца, у процілегласьць

сучаснасьці, на двох справядлівых асновах: народна-этнаграфічнай тэрыторыі і сувязі роўнапраўных і роўнацэнных у стасунку адзін да другога тэрытарыяльных народаў.

Каля гадзіны адзіннадцатай-дванадцатай вечара цягнік стрымаўся ў Полацку. Вагзал асьветлены слаба, у горадзе такжа не відаць лішняй іллюмінацыі. Сягоньня Полацак такжа пагранічны горад: у блізкай ад яго адлегласьці, на поўдзень, праходзіць тая ж самая балюча-крывавая мяжа рыжскай умовы.

Полацак наводзіць мысьль на нашу гістарычную мінуўшчыну. Мінуўшчыну народу вялікага і слаўнага, каторы, аднак, заняпаў так крэпка, што сягоньня становіць немаль выключна клясу сялянства, з горсткай ня лішне сьвядомай сваёй інтэлігенцыі, і зьяўляецца арганізмам страшэнна слабым. Абапал разрываючай яго мяжы пачынаецца народнае адраджэньне, праўда, здаровае і сільнае, але няхай уздымецца ізноў вайсковая завіруха, і мы, трапіўшы ў яе асяродак, можам утраціць цяперашнія культурныя і палітычныя дасьціжэньні. Адна з найбольш страшных, найбольш грозных для нас візій, гэта візія вайны...

Цягнік стануў на станцыі Вітабск. Тут мелі нас сустрэць грам. Езавітаў і Пігулеўскі. Высядаем з цягніку. Ідзем у вагзальную салю. Няма нікога. Другая гадзіна ночы. Цягнік наш ужо адыйшоў. Астаемся чакаць раніцы ў вагзале. Каля буфэту з выпіўкай і закускай у даволі вялікім выбары гоптаюцца прыслужнікі. Надпісы ўнутры вагзалу, як і ўсюды, у чатырох мовах. Публіка трымае сябе ўважліва. Не глядзя на наш «загранічны» выгляд, ніхто ў нас не пытаў дакументаў. Будынак вагзалу грамадны, цяжкі, імпануючы, але апушчаны. Пасьля шостай гадзіны раніцы прыйшоў нейкі цягнік. Прыехала цэлая грамада вучняў са сшыткамі і кніжкамі. Некаторыя адразу пайшлі ў горад, а некаторыя ціханька прыладзіліся пры бакавым століку адрабляць лекцыі. Мяне агарнула цікавасьць, на якой мове вучацца гэтыя, безумоўна, нашчадкі крывічанскага племя. Некалькі разоў прайшоў міма іх, сам перад сабой баючыся глянуць у кніжкі, каб горка не расчаравацца, убачыўшы які колечы перажытак вялікарускага імпэрыялізму. Урэшце, наважыўся, падыходжу, аж хлопчык напоўголасна зубіць на памяць верш Якуба Коласа «Маці». Я аж усьміхнуўся сам да сябе: як жа, іначай і быць ня можа: у беларускай дзяржаве школы ў роднай беларускай мове! І на радасьцях павёў суседзкага дэлега-

та, каб запэўніць і яго, што тут не якая колечы там, а запраўдная беларуская дзяржава.

З вагзалу трапілі мы ў гасьціны дом аднаго са знаёмых нашага спадарожніка, у тыпова мяшчанскую атмасферу. Нас, як «знатных» чужаземцаў, прынялі надзвычайна ветла. Напаілі гарачай гарбатай і, у часе перакускі, асьвядамлялі аб «туземцах». Дом мяшчанскі заможны, і мае, відаць, у горадзе найлепшыя калігацыі з калісьці сільнымі, а цяпер горка «пакрыўджанымі» краёвымі сьвяцiламі. Першая часьць інфармацый датычыла гігіенічных, этычных і абычаёвых старон, ляжачых у аснове характару «туземцаў».

Туземцы, аказалася, з ветлай інфармацыі гаспадароў дому, пагалоўна ўсе вашывыя, яны ніколі ня мыюцца і ня маюць паняцьця аб чыстым і брудным...

Туземцы пагалоўна ўсе злодзеі: крадуць на кождым кроку ўсё, што толькі пападзе ў рукі...

Туземцы ўсвоілі сабе дзіўны абычай жыць у цесных дрэўляных хатах без памосту, спаць пераважна без падушак, есьці ўсё нячыстае... Горад увесь, дамы і вуліцы, часныком пахнуць, што вельмі непрыемна...

Ад туземцаў карысна адрожніваюцца людзі, якія прыналежаць да польскай народнасьці, і, ужо ў меншай меры, тыя, што прыналежаць да расійскай народнасьці.

На маё пытаньне, ці нашы гасьцінныя гаспадары ня чулі чаго аб беларускай народнасьці, я атрымаў сьпярша адпаведзь ад галавы дому, што такой народнасьці наагул у прыродзе няма. Ёсьць, праўда, горстка злоўмышнікаў, каторыя стараюцца такую народнасьць утварыць, але яе высілкі саўсім дарэмныя, бо ніхто на гэтае нахрапнае ашуканства з добрых людзей ня йдзе. Сочна і камічна расказаў наш часовы апякун, як нет ведама скуль нахлынуўшыя гэныя злоўмышнікі стараюцца хітра рабіць беларускую мову. Для гэтага яны бяруць жыдоўскія словы, дарабляюць да іх рускія канчаткі, крыху зьмяняюць у сярэдзіне і падаюць замучаным усім гэтым і стэрарызаваным грамадзянам як словы нейкай асобнай «беларускай» мовы, каб тыя вучылі іх на памяць. Гаспадыня дому, вельмі дыстынгаваная і глыбока асьвечаная асоба эўрапэйскай культуры, была вельмі ласкава зацытаваць за агульным сталом з «беларускага» слоўніка некалькі слоў. Яна, перамагаючы сваю прыродную саромлівась, сказала нам, што крэсла па-«беларуску» называецца «падсрачнік»... і падобныя гэтаму кур'ёзы. Сваю, вельмі павучаючую бяседу

словаахвотлівыя гаспадары закончылі запэўненьнем, што беларускую мову выдумляюць жыды, а ўвесь цягар гэтай хітрай жыдоўскай афэры павінны выносіць нічым непавінныя астаткі народаў, з роду-племені прызначаныя Богам панаваць над гэтым краем.

Гэткім чынам добры пачастунак быў ушчэнт папсаваны духовай стравай лішне «сьвядомых» у краёвых справах нашых часовых гаспадароў.

Чакаючы вечару, хадзіў я аглядаць мой родны, прыгожы Вітабск. Сьляды мінуўшай сьветавой вайны і пачародных зьмен усякіх акупацый сьвецяць пасівеўшай руінай[1]. Тратуары і брукі не папраўленыя, мабыць, ад 1914 году; тое ж самае гавораць франтоны паліняўшых і пашчэрбленых дамоў. У горадзе ёсьць некалькі і сьвежа збудаваных дамоў, але яны тонуць, як кропля ў моры, паволі, але няўклонна руйнуючыхся будынкаў, з ліку якіх ёсьць некаторыя першага гістарычнага значэньня.

У Вітабску, як і за даваенных часаў, цэлыя вуліцы магазынаў. Магазыны зьверху выглядаюць шабадрана, але ў сярэдзіне ўзасоблены ўсякімі таварамі. Рух на вуліцах даволі значны, але публіка адзета шэра і бедна. Як пазьней я пераканаўся, шэра і бедна апранаюцца тут нават і тыя, у каго хапіла бы дастаткаў на прыстойную вопратку.

Немаль на ўсіх магазынах, на вывесках, маюцца надпісы на чатырох мовах, дзякуючы чаму краёвы, беларускі (крывічанскі) колёрыт гораду не выдзяляецца. Яно праўда, што нашы гарады — гэта чужанародныя астравы сярод крывічанскага мора. Палажэньне ў высокай меры ненармальнае і нездаровае як для краю, так і для гораду. Выціснуты з гарадоў беларускі элемэнт павінен быць вернуты гарадом у постаці пралетарызацыі лішкі вясковага жыхарства, але пры стварыўшыхся варунках гэта цяжкая і доўгая работа, якая вымагае сьвядомай і пляновай сыстэмы, паложанай у аснову дзяржаўнай палітыкі. Пры нармальных варунках горад павінен адбіваць працэнтны стасунак народнасьцяў краю. Пры ўкраёўленьні нашых гарадоў вельмі лёгка было бы разьвязана пытаньне і іх зьнешняга выгляду.

Ходзячы па Вітабску, стаўляў я сабе пытаньне, які працэнт жыхарства можа вымагаць прызнаньня сваёй мовы мовай «краёвай»? І мне здавалася,— сярэдняя цыфра,

---

[1] Паводле апошніх газэтных ведамак на адбудову гарадоў у БССР асігнавана 30.000.000 рублёў.

якая дае права данай меншасьці называцца «краёвай», павінна выносіць ад чвэрці да аднэй трэцяй жыхарства і ў кождым здарэньні ня менш $^1/_5$. Але саўсім несправядліва, калі называецца «краёвай» мова, на якой гавораць адзін-паўтара працэнта аселага жыхарства. А ў гэтым акурат палажэньні знаходзіцца ў вітабшчыне польская мова. Дый наогул Беларусь мае ад 75 % да 80 % беларускага жыхарства, дык на расійцаў, жыдоў і палякаў, узятых разам, тут прыпадае ад 20 да 25 %, дык заведзеная чатырохмоўнасьць абсалютна нічым не апраўдуецца.

Патвараньне ў СССР Лігі Нацый з яе законам аб народных меншасьцях — гэта ўводжаньне безпатрэбнай блутаніны. Ліга Нацый, прыняўшы за выходны пункт імпэрыялістычную дзяржаву-памешчыка, якая абладае і ня можа не абладаць народамі паняволенымі-прыгоннікамі, не магла знайсьці іншага выхаду, як полумеру,— каб і воўк быў сыты і каза бляяла,— а прынамсі ішла бы слава, што, маўляў, ваўкі запасьцілі. Але, будуючы дзяржаву на аснове Сувязі, трэба іначай унармаваць гэтыя справы.

Агледзеўшы Вітабск, нацешыўшыся яго гарманійнымі барокавымі будынкамі і шырокімі пэрспэктывамі з гор на аколіцы, мы, вечарам, выехалі праз Оршу ў Менск.

## ДАРОГА Ў МЕНСК І МЕНСК

Цягнік аказаўся перапоўненым падарожнымі. У нас білеты цьвёрдага пляцкартнага вагону, але і там сьціск; гутарка кругом пераважна маскоўская, але чуваць час ад часу і мова беларуская. У вагоне едзе некалькі чалавек учасьнікаў Канфэрэнцыі, з якімі мы хутка пазнаёміліся. Завязалася гутарка аб Канфэрэнцыі, аб пажаданых зьменах у азбуцы і правапісьме, а ўрэшце перакінулася на палажэньне беларусаў (крывічоў) на эміграцыі і пад Польшчай. Я цікавіўся канстытуцыяй Радавай Беларусі. Мяне інфармавалі, і зьмест інформацый гэткі:

Сувязь Радавых Сацыялістычных Рэспублік зложана з незалежных і аўтаномных рэспублік. Беларусь у гэту сувязь уходзіць як незалежная рэспубліка. Найвышэйшым дзяржаўным органам СССР зьяўляецца Зьезд Рад Аб'яднаных Рэспублік, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Рад і Усесувязная Рада Народных Камісараў. Усесувязная Рада Народных Камісараў выбіраецца на супольным зьездзе Радавай Калегіі паасобных камісарыятаў, складаецца з дэ-

легатаў ад усіх увайшоўшых у склад Сувязі рэспублік. Камісарыяты распадаюцца на дзьве катэгорыі:

1. Агульна Сувязныя камісарыяты: а) замежных спраў і замежнага торгу, б) вайсковых спраў, в) лучнасьці — поштаў, тэлеграфаў, чугунак (гэтыя камісарыяты маюць сваіх упаўнаважаных пры ўрадах паасобных рэспублік, а такжа ў Радзе Народных Камісараў), г) Камісарыяты грашовых спраў, харчаваньня, працы, работніцка-селянскай інспэкцыі,— кіруюць адпаведныя камісарыяты ў паасобных рэспубліках; а іх упаўнаважаныя зьяўляюцца сябрамі ўрадаў паасобных сувязных рэспублік. Другую катэгорыю становяць аўтаномныя камісарыяты, якія функцыянуюць толькі ў паасобных рэспубліках: камісарыят сельскай гаспадаркі, судоўніцтва, унутраных спраў (паліцыя), асьветы, здароў'я і грамадзянскай апекі. Для кіравецтва аўтаномнымі камісарыятамі ў незалежных Рэспубліках маюцца ўласныя: а) Выканаўчы Камітэт Рад і б) Рада Народных Камісараў.

Дзеля таго, што кіруе ўсёй дзяржавай камуністычная парція, адзіная для ўсіх тэрыторый і народаў СССР, то на тэрыторыі кождай паасобнай рэспублікі ёсьць яшчэ прадстаўнік ад Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай Парціі, які стаіць на чале мяйсцовага Партыйнага Цэнтральнага Камітэту. Компэтэнцыя гэтага апошняга дастойніка вельмі шырокая: ён зьяўляецца кантролем партыйнай прававернасьці ўсіх партыйных грамадзян і, падлягаючых дыктатуры партыі, урадавых і грамадзкіх установ. Гэта, так сказаць, духоўная ўлада, якая стаіць збоку ад цывільнай і вайсковай улады, але якая сваім духоўным аўтарытэтам пануе над першай і другой. У выніку Сувязь Рад. Соц. Рэспублік зьвязана падвойным цэментам: улады партыйнай (духоўнай) і палітычнай (сьвецкай).

Раніцай 14 лістапада прыбылі мы ў Менск на Берасьцейскі вагзал, які быў спалены палякамі пры адыходзе іх з Менска. Вагзал заступлены, на скорую руку, часовага характару дрэўляным будынкам. Кажуць, ужо ёсьць асыгнаваны грошы на будоўлю новага, мураванага вагзальнага гмаху, які пачнуць будаваць вясной 1927 году. Пры выхадзе з цягніка нас сустрэлі даўныя знаёмыя: А. Цьвікевіч, А. Вальковіч, Паўліна Грыб-Мядзёлка, Пракулевіч і некалькі чалавек менчукоў. Перад вагзалам стаялі ўжо аўто і омнібусы, на якіх і былі дастаўлены — прыезджыя і сустрачаўшыя — у гасьцініцу, даўней званую «Эўропейская».

Падобна Вітабску, Менск мае такжа павыбіваныя бру-кі, не аднаўляныя ад пачатку вайны будынкі; толькі бу-дынкі, якія былі папалены і паруйнаваны палякамі, цяпер ужо адноўлены. Больш ёсьць такжа новапабудаваных да-моў, чым у Вітабску. Рух на вуліцах вялікі: публіка прост плыве тротуарамі і, у дадатку, апранута значна дастатней, чым у Вітабску. Ніжнія паверхі дамоў запоўнены магазы-намі, зьверху шабадранымі, у сярэдзіне поўнымі, з вы-вескамі ў чатырох мовах. Надзвычайна псуюць зьнешні выгляд гораду апушчаныя вокны магазынаў і бляшаныя вывескі ўсякіх дзікіх колераў і рознай шырыні і меры, паначапляныя як трапілася. На ўсім сьвеце ёсьць звычай, што мястовыя ўрады не пазваляюць рабіць вывесак, якія бы падымаліся вышэй карнізу, што аддзяляе ніжні паверх ад верхняга паверху. Цяпер у некатарых заходніх эўра-пэйскіх гарадох уведзены закон, які забараняе навешы-ваньня бляшаных вывесак: уласьнікам магазынаў наказа-на для надпісаў выкарыстываць паясок сьцяны, які зна-ходзіцца вышэй лініі дзьвярэй і акна і да карнізу. Менская местовая ўправа павінна была б паклапаціцца аб эстэтыцы гораду і такжа не пазволіць такой вывеснай нясмачнай оргіі, якая цяпер так шпэціць горад. Менскія крамнікі таргуюць, не глядзя на іх нарэканьні, ня горш чым да вайны, і такі малы выдатак, як перапісаць вывескі, для іх рожніцы ніякай ня зробіць. Перапіска вывесак патрэбна была бы і яшчэ з аднэй прычыны, а ласьне: на многіх вывесках знаходзяцца да непрыстойнасьці перакаверка-ныя беларускія надпісы. Для гэтай мэты, як і для павыш-шай, трэба мець пры гарадзкой управе аднаго ўрадоўца, на абавязку каторага ляжала бы правяраць граматнасьць надпісаў і зацьвярджаць пляны разьмяшчаньня над тарго-вымі ўстановамі вывесак.

Гасьцінька былая «Эўропа» стаіць пры вялікім пляцы (даўней Верхні Рынак), гэта аграмадны шасьціпаверхі будынак, які, акром усякіх установаў у ніжнім паверсе, мае звыш сотні нумароў для гасьцей. Памесьцілі нас у не-збыткоўных, але чыстых і абшырных пакоях, добра на-цепленых цэнтральным агрэваньнем. Да адкрыцьця Кан-фэрэнцыі аставалася ў нас пара гадзін часу на сьнеданьне, якое падалі ў асобны, адведзены пад дэлегацкую сталоўку, нумар. Тут мы сустрэлі раней прыбыўшых дэлегатаў: пра-фэсара Фасмэра, прафэсара Голомбэка, прафэсара Растар-гуева, этнографа Сержпутоўскага, прафэсара Максіма Га-рэцкага і другіх. На стале красавалі: слаўная менская

кумпячына, ікра, кансэрвы, сыр, масла, усяго дастатна, ва ўсходняэўрапэйскім стылю, але начыньне простае, ляпідарнае, маўляў, эстэтыка — буржуазны забабон, памятай гэта, госьцю, і ня дзьміся — еш, што ў місе.

## АКАДЭМІЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Зара пасьля сьнеданьня ў гасьцініьніцы даставілі дэлегатаў на Канфэрэнцыю. Вуліцы, якія вялі ў старану будынку Канфэрэнцыі, аж чарнеюць ад публікі, перад самым будынкам заняты народам тратуар і вуліца. Уходзім у салю (саля Маркса, раней — Дваранскае Сабраньне), усе мейсцы ўнізе і балькон біткам набіты. Саля зьмяшчае звыш 800 чалавек, удэкаравана ў чырвона-белыя барвы, барвы беларускага (крывічанскага) народнага сьцягу. Канфэрэнцыю адкрыў прэзыдыум Інбелкульту ў асобе прафэсара Ігнатоўскага (старшыня Інбелкульту) сьпевам беларускага рэвалюцыйнага гімну «Ад веку мы спалі». Пасьля чаго прафэсар Ігнатоўскі запрасіў, па сьпіску, некалькі асоб з прыезджых у Прэзыдыум Канфэрэнцыі. Пайшлі, як заззвычай, прывітаньні зьезду — тэлеграфныя, лістоўныя і асабістыя ад усякіх устаноў, аб'яднаньняў і груп. Далей ішлі спавешчаньні вучоных на тэму Канфэрэнцыі, урэшце дыскусія. На чародзе стаяла пытаньне рэформы азбукі і правапісу. Большасьць Канфэрэнцыі прызнавала патрэбным увясьці ў нашу азбуку асобныя знакі для мяккога «д» і для дыфтонгаў «дз» і «дж», а такжа прызнавалі патрэбным увясьці лацінскую іоту (і), якую было прапанавана пісаць у пачатках слоў (іон, іакі, іеду) і ў канчатках слоў (моі, твоі, своі), у сярэдзіне ж слоў гэты праект раіў пакінуць пісаньне я, е, ю, ё, як і раней. Правапісная рэформа датычыла галоўным чынам пытаньня аб «поўным» і «няпоўным» аканьні.

Наогул, не глядзя на даволі значны лік брашурак (да 10-ці), выданых Інбелкультам перад Канфэрэнцыяй у справе рэформы азбукі і правапісма, і на праведзеную дыскусію, не відаць было яснасьці ў тым, якой ласьне павінна быць гэта рэформа, як у азбуцы, так і ў правапісе. Праўда, дыскусія і разважаньні над гэтымі пытаньнямі шмат далі цікавага матэр'ялу. Дык саўсім слушнай была дэцызія прэзыдыуму, што пасьля закрыцьця Канфэрэнцыі трэба ўсе яе матэр'ялы апублікаваць асобнай кнігай і разаслаць яе як усім учасьнікам зьезду, так і паасобным вучо-

ным, а па нейкім часе склікаць другую Канфэрэнцыю, каторая ўжо астаточна павінна задэцыдаваць у гэтых справах.

Цікава пры гэтым зазначыць, што трыццаць дзевяць асоб з паміж учасьнікаў Канфэрэнцыі высказалася за замену цяперашніх «гражданскіх» літар лацінскімі.

Закрыцьцё Канфэрэнцыі адбылося надзвычайна ўрочыста. Быў пастаўлены канцэрт, хор, народныя танцы.

Да недахватаў трэба залічыць тое, што стэнаграфісткі, якія запісывалі прамовы, умелі толькі расійскую стэнаграфію, дзеля гэтага запіс беларускіх прамоў рабілі па-расійску, паводле, на скорую руку дыктаванага ім пры століку, перакладу. Пасьля гэтыя перакладныя стэнаграмы адшыфроўвалі, перакладаючы другі раз на беларускую мову. У дадатку стэнаграфісткі гэтыя спэцыяльна прыстасаваліся запісываць усякія палітычныя прамовы, але, неабзнаёмленыя з філёлёгічнай тэрміналёгіяй, перакручвалі апошнюю да немагчымасьці. У выніку атрымалася тое, што друкаваныя ў «Савецкай Беларусі» немаль усе прамовы былі паперакручваны, а некаторыя так скажаны, што ў іх ні сэнсу, ні ладу. Гэткая доля сустрэла і маю прамову, зьмешчаную ў газэце «Савецкая Беларусь». Сьпярша я абурыўся і хацеў пратэставаць, а пазней махнуў рукой.

Пры Канфэрэнцыі была ўладжана выстаўка друкаў расійскіх і беларускіх. Пры расійскіх мастацкіх альбумовых дарагіх выданьнях блеклі «вялікія» дасьціжэньні нашай кніжнай прадукцыі. Стаялі супроць сябе дзьве няроўныя велічыні: беларуская тоненькая, пераважна маладнякоўская, брашурка і тоўстая, салідная расійская кніга.

Адзін з удзельнікаў Канфэрэнцыі ўзяў мяне пад руку, падвёў да аднаго, а пасьля да другога і кажа: «Мне заўсёды гэтае параўнаньне прыпамінае ігру ў рулетку. Установа, якая трымае банк, прыступае да ігры з капіталам у сто разоў большым, чым абладае ўся акружаючая стол ігры публіка. У выніку банк выігрывае, публіка праігрывае. У нас тое самае: расійская культура мае і інтэлектуальныя і матэрыяльныя рэсурсы ня ў сто, а ў тысячу разоў перавышаючыя рэсурсы ўсіх разам узятых заняпаўшых народаў былой Расіі. Праўда, мы цяпер ставім стаўкі і маем сякітакі выйгрыш, але што будзе ў выніку гэтай ігры за якіх сто гадоў?» У гэты момант падыйшоў да нас шанаваны беларускі этнограф і, з прычыны іншай, папярэдняй дыскусіі, загаварыў: — «Чаго вы хочаце ад расійскіх вучоных, што вы ўсё на нас нападаеце?» Не памятаю, што я адказаў

яму, але, памятаю, падумаў сам у сабе: «Гэта кажа сын зямлі, косьць ад косьці і кроў ад крыві нашага гаротнага народу!» Я яго ў маёй душы прайграў ужо ў «рулетку».

## «МАЛАДНЯК»

З прадстаўнікамі «Маладняка» прыходзілася мне сустрачацца праз увесь час Канфэрэнцыі.

У аснову арганізацыі «Маладняка» паложана мысьль узгадаваць беларускіх пралетарскіх пісьменьнікаў. Арганізацыя лічыцца беспартыйнай, але знаходзіцца пад кіравецтвам і сьціслым духовым кантролем Камуністычнай Партіі. Гэта ёсьць свайго роду цэх маладых пісьменнікаў і паэтаў. Аб'еднуе пераважна школьную, падрастаючую моладзь. У «Маладняк» уваходзяць як хлапцы, так і дзяўчаты ўсіх народнасьцяў, засяляючых Радавую Беларусь, але лічэбна пераважаюць беларусы.

Маладнякоўцы маюць сваё асобнае выдавецтва і месячную часопісь пад назовай «Маладняк», якая ў 1927 годзе выходзіць ужо пяты год. Апошнія кніжкі месячніка «Маладняк» абыймаюць да двухсот балон друку; рэдагаваны даволі добра. Блізка палавіну кнігі займаюць пісьменьніцкія прадукцыі саміх маладнякоўцаў, пераважна бэлетрыстычнага зьместу, у рэшце кніжок продукуюцца кіраўнічага зьместу артыкулы пісьменьніцкай старшызны. Акром гэтай цэнтральнай маладнякоўскай часопісі, выходзяць яшчэ спарадычныя і пэрыёдычныя меншыя маладнякоўскія зборнічкі (1—2 аркушы) у правінцыянальных цэнтрах, як то: у Вітабску, Полацку, Оршы, Слуцку, Мсьціслаўлі, Гомелі, а такжа «за межамі» Беларусі ў Смаленску.

Акром пэрыёдычных і спарадычных зборнікаў і часопісаў «маладнякоўцы» друкуюць творы лепшых сваіх пісьменьнікаў асобнымі кніжыцамі, памер ад аднаго да пяці аркушаў друку, пераважна малога фармату (у 8-ку).

Як маладнякоўскія, так і ўсе іншыя менскія выданьні не прытрымліваюцца, на жаль, аднастайнасьці ў памерах выдаваных імі кніг, дзеля гэтага кніжкі наагул усіх нашых выдавецтваў вызначаюцца непрыемнай індывідуальнасьцю ня толькі ў таўшчыне (што неўнікнёна), але і ва ўзросьце. Усім нашым выдавецтвам трэба было бы прыняць так званы інтэрнаціанальны тып кнігі. Гэта ёсьць — для бэлетрыстыкі (паэзій, повесьцяў, апавяданьняў і лёгкай на-

вуковай лектуры), кніга памерам 18×13 цм. (чысты набор 28×20 цыцэро, нумэрацыя курсывам унізе), для навуковых прац і тоўстых журналаў — фармат падвойны 36×27 цм.; для альбомавых выданьняў — 54×36 цм. Гэта ёсьць тып пераважаючай у Эўропе і Амэрыцы кнігі.

«Маладняк» працуе даволі энэргічна: за апошнія годы выйшла каля сотні маладнякоўскіх кніжачак бэлетрыстычнага зьместу, выданых старанна і аздобна. Менш удатны спробы маладнякоўцаў выдаваць паштовыя аткрыткі з рысункамі.

Маладнякоўская літаратурная прадукцыя з кождым годам дасканаліцца як формай, так і зьместам.

Разумеецца, маладнякоўскую пісьменьніцкую прадукцыю трэба разглядаць як лабараторыю, школу, з якой павінны выходзіць запраўдныя майстры формы і мастакі слова. Падыходзячы да маладняка з гэтай меркай, трэба прызнаць высілкі іх здаваляючымі. У меру інтэлектуальнага разьвіцьця маладнякоўскіх пісьменьнікаў пачатковыя рамкі школьнай прадукцыі для паасобных індывідыумаў становяцца цеснымі, зьяўляюцца вымогі шырока-мастацкага палёту, неадлучна звязаныя з патрэбай сурьёзнага падгатаваньня. На гэтым грунце сярод маладняка апошнімі часамі адбыўся распад: выдзялілася група старэйшых пісьменьнікаў «Узвышша». У «Узвышша» ўвайшлі, між іншымі, такой меры маладнякоўскія пісьменьнікі як Кузьма Чорны і Дубоўка. Першы вельмі арыгінальны і запраўды глыбокі талент, які запавядае выліцца ў пісьменьніка першараднай усесьветнай вагі, другі такжа не радавы талент, ён чуткі знавец і гурман як формы, так і слова. Побач з імі ў «Узвышша» станулі іншыя, ужо больш выдомыя грамадзянству, пісьменьніцкія сілы. Гэтак, мала-памалу, з маладнякоўцаў пачынае зараджацца маладая пісьменьніцкая школа.

Склад «Маладняка», як кожнай масавай грамадзкай арганізацыі, вельмі пярэсты: побач найлепшых, найсьвятлейных душ і характараў маюцца звыклыя сабе хлебаеды з некаторымі пісьменніцкімі амбіцыямі, а такжа невядомага прызначаньня людзкі матэр'ял, але ў большасці, як кождая арганізацыя моладзі, сымпатычная, а, галоўна, бязьмерна энэргічная.

Акром партыйных, камуністычных уплываў, на «Маладняк» аказуюць уплыў вялікаруска-імпэрыялістычныя ідэі, якія ідуць да іх з дапасаваўшайся да камуністычнага ладу старой расійскай і русыфікатарскай інтэлігенцыі.

Мне здарылася сустрэцца з апошняга тыпу маладнякоўцамі. Тэмай да дыскусіі паслужыў сказ прафэсара Пічэты, зьмешчаны ў 7—8 нумары часопісі «Маладняк», дзе рэктар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту кажа: «Ужо ў XVI ст., у эпоху беларускага буржуазнага адраджэньня, беларускі нацыянальна-культурны дзеяч Францішак Скарына, разьвіваючы сваю выдавецкую і перакладніцкую дзейнасьць, прызначаў апошнюю для навучаньня простага народу расійскай мове».

На аснове гэтага сьветлага сказу грамадзяніна Рэктара, набухтораныя русыфікатарскім акружаньнем у сямі, маладнякоўцы даводзілі мне, што трэба маладому беларускаму пакаленьню ісьці сьледам сваіх найлепшых культурных прадстаўнікоў, а ласьне, кіраванцца, замест разьбіваньня, да вытвараньня аднаінтнага «рускага» народу; што сіла і будучына Беларусі заключаецца ў асыміляцыі з Масковіяй і г. п. нісянеціцу, выцягненую з архіўнага хломазду вялікарускага імпэрыялізму.

Сказаныя маладнякоўцы былі дужа зьдзіўлены маімі довадамі, што паважаны Рэктар, апэруючы няяснай тэрміналёгіяй, папаўняе недароўныя анахраністычныя спамылкі. Бо мова, каторую мы сягоння называем «расійскай», не была яшчэ злажыўшайся ў XVI ст., яна пачала тварыцца найраней, пачынаючы ад часаў Пятра Вялікага, а больш акрэсьлена можна датаваць яе ад Пушкіна, гэта значыць ад першай паловы XIX ст. Крывічанскай мове XVI ст. можна процістаўляць мову маскоўскага царства. І што дзеля гэтага Скарыну ніякім спосабам нельга палічыць да прапагатараў «расійскай мовы» сярод беларусаў. На другое, у XVI ст. не было грамадзка-палітычнай клясы, якая сягоньня носіць названьне «буржуазіі», а такжа не існавала паняцьце «нацыі». Дык залічаньне Ф. Скарыны ў буржуі і нацыяналісты таксама нічым не абаснавана, як моднае ў XVIII ст. у Францыі маляваньне мадонны ў турнюрах, гарсэце і шырокім, з струсавым пяром, капялюшы. Зрэшта, паскольні падобныя анахранізмы мілы сваёй арыгінальнасьцю ў мастацтве, дзе роўнацэнны як праўда, так і мастацкая лжа, то ў навуцы яны безумоўна нічым ня вытлумачаныя вольнасьці. Але падобнага характару маладнякоўскія расткі, як я пазьней пераканаўся ў часе маёй бытнасьці ў рэдакцыі часопісі «Маладняк» і з гутарак з паасобнымі маладнякоўскімі пісьменьнікамі, ужо зыходзячы са сцэны гатунак. На «Маладняк» напірае здаровы вясковы элемэнт, які сваімі клясавымі і сямейнымі трады-

цыямі ня мае нічога супольнага з русыфікатарствам. Паскольні ў гэтай моладзі няма патрыятычнага рамантызму, то пастольні ёсьць у яе практычнае разуменьне значэньня народнай мовы, як правадніка культуры ў шырокія народныя масы, ёсьць любоў да роднай мовы, як да аб'екту мастацкай народнай творчасьці, і тое, дагэтуль яшчэ не ўнятае ў формулу, унутраннае гарэньне, якое зьяўляецца прычынай і падставай істнаваньня народных арганізмаў.

«Маладняк» аб'ядноўвае некалькі сот маладых пісьменнікаў, і перад ім ляжыць вялікая будучына.

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

Пасьля закрыцьця Канфэрэнцыі госьці былі запрошаны, між іншымі ўстановамі, адведаць такжа Унівэрсытэт. Цяпер Дзяржаўны Унівэрсытэт ня мае свайго будынку і параскіданы па ўсім горадзе ў некалькіх рожных мясцох і канцох. Але гэта часова, бо зацьверджаны ўжо плян і сыгнаваны кошты на пабудову 16-ці корпусаў для унівэрсытэцкіх будынкаў. У мінуўшым годзе закончана будаваньне аднаго, даволі абшырнага, корпусу, але, пабудаваўшы, агледзіліся, што ён не на мейсцы: лішне блізка да вагзалу. Цяпер ідзе дыскусія, што рабіць далей, будаваць пры гэтым корпусе іншыя ці закінуць пабудаваны гмах на другія патрэбы і рэшце будынкаў знайсьці больш стасоўнае мейсца, далейшае ад вагзалу?

Перад вайной не было ў краю ніводнай вышэйшай вучэльні. Пачалі арганізаваць унівэрсытэт ужо ў часе вайны. З невялікіх зачаткаў Урад Радзянскай Беларусі, накладам аграмаднай энергіі і коштаў, утварыў сярэдняй скалі вышэйшую вучэльню, абастовіў яе навуковымі прыладамі, забясьпечыў будынкамі і навуковымі сіламі. Менскі Унівэрсытэт знаходзіцца яшчэ ў пэрыёдзе кшталтаваньня. Яго цяперашняя фізыономія будзе памалу ператтварацца пад уплывам нарастаючых краёвых чыньнікаў, якім дадзены доступ для дапасаваньня сваіх сіл у дзедзіне здабыцьця і пашырэньня веды.

Навуковыя сілы Унівэрсытэту складаюцца з 40 прафэсароў, 40 дацэнтаў, 84 асыстэнтаў і 50 ардынатараў, усяго 214 асоб. З гэтага ліку унівэрсытэцкай навуковай сілы беларускіх (крывічанскіх) сіл не шмат: на ўвесь Унівэрсытэт, паводле інфармацый рэктара прафэсара Пічэты, усяго толькі 12 % навуковых дысцыплін у 1926 годзе было

чытана ў мове крывічанскай (беларускай). Крыху лепш нашы справы на адным пэдагагічным факультэце, дзе чытаньне лекцый на беларускай мове даходзіць 47 %, але, затое, на мэдычным факультэце дагэтуль саўсім няма выкладаў у беларускай мове.

Каштарыс БДУ на 1926-ты год дасягае аднаго мільёну рублёў.

На менскім Унівэрсытэце вучыцца 2353 студэнты. Паводле народнага складу яны падзяляюцца так: беларусаў (крывічоў) 1181, жыдоў 999, расійцаў 130, палякаў 9, іншых 34; словам, называючыя сябе беларусамі становяць 50 % (палавіну), другая палавіна складаецца з так званых нацыянальных меншасьцяў, або іначай кажучы з элементаў, эканамічна і культурна пануючых у краю. Па сацыяльнаму складу студэнты падзяляюцца так: работнікаў — 273, сялян — 621, служачых — 1100, саматужнікаў — 55, іншых прафэсій — 304; словам, меншая палавіна (949) прыпадае на работніцка-сялянскія элемэнты. Але ў параўнаньні да перадваенных часаў у студэнцкім складзе надзвычайна вялікі поступ у карысьць не зрусыфікаваных беларускіх (крывічанскіх) нізоў. У даўныя часы на расійскіх унівэрсытэтах кантынгент студэнцтва складаўся немаль выключна з упрывільёваных кляс, дваранства, чыноўніцтва і мяшчанства, цяпер палавіна студэнтаў рэкрутуецца з нізоў, гэта значыць элементаў крывічанскіх (беларускіх). Гэта апошняе вельмі цэннае, бо са ўзростам культуры ў беларускага народу будзе расьці і яго народная сьвядомасьць.

У менскім БДУ, побач расійскай і беларускай, зьяўляюцца выкладовымі такжа мовы — польская і жыдоўская. Які працэнт навуковых дысцыплін выкладаецца на гэтых апошніх мовах, мне не ўдалося ўстанавіць.

Пры БДУ выходзяць асобнымі кніжкамі (20—25 аркушаў друку) «Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту». Дагэтуль выйшла 6 кніжак (№№ 1—2, 2—3, 4—5, 6—7, 8, 9—10, 11). Першыя дзьве кніжкі маюць агалоўкі ў расійскай і француэскай мовах; пачынаючы з трэцяй кніжкі ў агаловак уведзена мова беларуская, але разам з ёй жыдоўская і польская. У чацьвертай кніжцы (№ 6—7) знаходзім ужо ў тэксьце тры артыкулы ў беларускай мове (прафэсара Піотуховіча, прафэсара Воўк-Левановіча і прафэсара Дружчыца); у пятай кніжцы няма ніводнага слова па-беларуску, у шостай па-беларуску. толькі адзін артыкул прафэсара Грэдзінгера і побач (таго ж прафэсара

Грэдзінгера) артыкул па-расійску. Словам, найбольшыя поступы зрабіла беларуская навуковая думка ў Менскім Унівэрсытэце ў 1925-м годзе і зноў пала ў 1926-м годзе, здаецца да нуля, бо, паводле ўсякіх азнак, артыкул прафэсара Грэдзінгера «Думкі аб неабадкладнасьці выданьня грамадзянскага працэсуальнага кодэксу для Беларусі» — перакладны.

Разумеецца, віна таго, што ў «Працах БДУ» няма работ беларускіх прафэсароў, ніякім спосабам ня можа быць прыпісана бальшавіцкай уладзе, але толькі беларускай прафэсуры. Называючых сябе беларусамі паміж прафэсуры БДУ ёсьць людзей нямала, але, значна, мала між імі творчых сіл.

Акром «Прац БДУ», мэдычны факультэт выдае асобнымі кніжкамі «Беларускую Мэдычную Думку», якой дагэтуль выйшла каля 10-ці кніжак, але, акром агалоўку ў беларускай мове, у ніводнай кніжцы не знаходзім беларускага тэксту, хоць такжа бачылі мы ў Менску беларусаў — дактароў мэдыцыны. Тут ізноў натыкаемося на даволі загадковую духовую бясплоднасьць.

У чым крыецца прычына — ня ведаю, але недзе такі ёсьць яна!

Здарылася мне стыкацца і са студэнцтвам БДУ. Сярод студэнцтва сустрэў я дужа цікавыя элемэнты. Большасьць беларускага студэнцтва добра гаворыць беларускай мовай, але між імі, здаецца, не надта вялікі працэнт будучых дзеячоў народнага адраджэньня. Прычына ў тым, што студэнцтва знаходзіцца ў вельмі цяжкіх матэрыяльных варунках і не мае сьціслага кантакту з прафэсурай. Гэта ўнутраная разгалосіца між унівэрсытэцкай моладзьдзю і іх духовымі павадырамі не карысна ўплывае на кшталтаваньне характараў моладзі. Разумеецца, сільныя адзінкі выйдуць з гэтага гарна непашкоджана, але слабейшыя могуць даць контыгэнт вучаных рамесьнікаў, умыслова яловых і духова бясплодных.

Трагедзіяй менскага Унівэрсытэту ў даны момант зьяўляецца тое, што яго зьнешняя этыкетка не адпавядае ўнутраннаму зьместу. Яго ўкраёўленьне напатыкае галоўную перашкоду ў тым, што краёвыя маладыя сілы яшчэ не нарасьлі, а старыя, якія працуюць цяпер, лішне павольна эвалюцыянізуюць і раз-пораз завяртаюць да прывычных шляхоў думаньня, асабліва ў дзедзіне высунутых сучаснасьцю палітычных, культурных і ўзаеманародных станкаў. Калі, мо, і няма ў радох кіраўнікоў Унівэрсытэту

вялікарускага актывізму, то, безумоўна, абсэнтэізм што да беларускай праблемы і інерцыя думаньня зьвілі сабе даволі цёплае гняздо ў сьценах БДУ.

## МУЗЕІ

Да вайны і рэвалюцыі істнавалі на тэрыторыі Беларусі музэі: пры біскупскіх катэдрах — царкоўна-археолёгічная і ў паасобных памешчыкаў, нават даволі значная, прыватныя. Памешчыцкія музэі былі вывезены палякамі ў Варшаву і Кракаў, а царкоўна-археолёгічныя, пакінутыя без апекі, параскідаліся за час вайны і рэвалюцыі. Цяпер на тэрыторыі Радавай Беларусі ёсьць чатыры значнейшыя музэі, сабраныя ўжо нанова: у Менску, Вітабску, Магілёве і Гомелі, акром таго меншыя музэі маюцца ў Слуцку, Мсьціслаўлі, Полацку і, здаецца, у яшчэ некалькі іншых мяйсцох.

Мне ўдалося бачыць толькі два музэі — Менскі і Вітабскі.

Менскі музэй больш упарадкаваны і мае аддзел жыдоўскай старасьвеччыны. Музэй гэты месьціцца цяпер у быўшым архірэйскім доме і займае двохпаверхі будынак. Усякіх помнікаў старасьвеччыны сабрана тут нямала і каб іх як належыцца разлажыць, трэба было бы ўдвая-трая большае памяшканьне. У Менскім музэі маюцца цікавыя помнікі з раскопак, багаты этнаграфічны музэй і цэнная галерыя малюнкаў.

У Вітабску музэй паўстаў дзякуючы паложаным у яго аснову сабраньням віленскага зьбірача Брадоўскага і вітабскага археолёга-аматара Фэдароўскага. Тут такжа ёсьць аддзел этнаграфічны з цікавымі народнымі вырабамі, пакуль што пераважна тканінамі, а такжа зачатак галерыі абразоў. Зьвяртаюць увагу цэнныя сабраньні масонскай старасьвеччыны, рэзаныя камяні, пячаці, калекцыі гадзіньнікаў, зброі і нумізматыкі. Вітабскі музэй менш упарадкаваны, мае меншае памяшканьне, але робіць уражаньне багацейшага за Менскі. Часьць экспанатаў у Вітабску ня выстаўлены, бо не хватае мейсца.

Абодвы гэты музэі знаходзяцца ў пэрыёдзе разбудоўкі, але нават у тым стане, у якім яны цяпер ёсьць, выглядаюць імпануюча, і калі будуць аканчальна ўпарадкаваны, то сваёй удзельнай вагой ня ўступяць провінцыянальным заходняэўрапэйскім музэям.

Недастаткам абодвых гэтых музэяў, асабліва Вітабскага, зьяўляецца тое, што ў іх ня выдзелены помнікі краёвай культуры. Гэта апошняе аддзяленьне помнікаў краёвай культуры ў асобную групу надзвычайна важна для пазнаньня творчых элемэнтаў у пераламленьні псыхікі жыхароў краю.

Прыкладам у Вітабску існуе мастацкі тэхнікум, і музэй павінен быў бы служыць яму сваімі навукова ўпарадкаванымі экспанатамі для высьненьня краёвага стылю ў тканінах, кераміцы, малятурах. Праўда, вучні чэрпаюць з музэальных экспанатаў, але, бьючыся ў пацёмках, злучаюць у сваіх кампазыцыях рысункі гатыцкіх і барокавых абломкаў кахляў і геамэтрычнымі ўзорамі народных тканін і кепскага гатунку прыкладаў раманскага стылю, захаваных у жыдоўскіх падсьвечніках. Апошні, гэта значыць сапсаваны раманскі стыль, у Вітабску слыве чамусьці пад назовай «жыдоўскага».

Кажуць ня менш багаты — за Менскі і Вітабскі — музэй у Магілеве, які слыве асабліва рукапісамі, старадрукамі і царкоўнай старасьвеччынай.

Але найбагацейшы — гэта Гомельскі музэй, доўгія гады зьбіраны князямі Паскевічамі.

У маю бытнасьць у Менску гаварылі аб патрэбе ўпарадкаваньня музэальнай справы з навуковай стараны і аб расшырэньні музэальных будынкаў.

## ТЭАТРЫ

Дзяржаўныя тэатры ў Радавай Беларусі — тры. Сталыя: — у Менску і Вітабску, і — аб'язная дружына — Галубка.

Дасьціжэньні беларускага тэатру за апошнія годы — аграмадныя.

Хто бачыў толькі аматарскія выступленьні на беларускай сцэне і паглядзіць цяпер на ігру мастакоў прафэсіяналаў у беларускім тэатры, з іх навытаранай плястыкай, з мастацкімі дэкарацыямі і сьветлавымі эфектамі, той выйдзе з тэатру саўсім абваражаны.

У гэткім палажэньні апануўся і я, калі першы раз прыйшоў у БДТ у Менску. Ігралі «Каваль і ваявода» Назара Бываеўскага ў пастаноўцы здольнага тэатрала Міровіча. Ачараваньне было поўнае, уражаньне паражаючае. Клясычная ігра, мастацкія дэкарацыі, добры хор і му-

зыка вытваралі дзіўную гармонію і давалі поўнае забыцьцё.

Штука Міровіча «Кастантын Каліноўскі» была стаўлена каля сотні разоў, і, заўсёды, пры поўным зборы. І нічога дзіўнага: штука напісана з талентам, дае сільныя ўражаньні, згодная з нядаўнай мінуўшчынай.

Аткрыцьце вітабскага, другога Дзяржаўнага Тэатру, было дапасавана так, каб у гэтай урочыстасьці маглі прыняць удзел і ўчасьнікі Канфэрэнцыі. Тут іграе маладая дружына мастакоў, якія толькі што акончылі студзію ў Маскве.

Іґралі Шэкспіраўскую штуку «Сон у летнюю ноч» у Мэерхольдаўскай пастаноўцы. Гэта найнавейшы зварот у тэатральным мастацтве, дзе кожды рух, кожды жэст выстылізаваны, выпрацаваны. Затое сцэна дае запраўды ўражаньне фантастычнага сна, з-пад якога трудна выйсьці, нават пакінуўшы тэатр.

Словам, у Радзянскай Беларусі, можна сьмела сказаць, паложаны крэпкі фундамент беларускаму тэатральнаму мастацтву. На гэтым фундаманце можа і павінен ён далей разьвівацца пры дапамозе ўжо мясцовых тэатральных студзій.

Мова артыстаў, праўда, не заўсёды і не ва ўсіх, такая прыгожая, як у старога нашага тэатрала Ф. Ждановіча, але, агульна бяручы, нязгоршая. Добрая, прыкладная мова прыйдзе ў свой час, як прыйдзе і так цэнная акцэнтацыя мовы, якой на менскай сцэне абладае адзін толькі Ждановіч.

Канчаючы аб тэатры, трэба сказаць: Радзянская Беларусь стварыла беларускі тэатр.

## ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Інстытут Беларускае Культуры памяшчаецца ў асобным трохпаверхім доме, Рэвалюцыйная вуліца, № 21. Гэта ёсьць навуковая ўстанова ўсестароннага дасьледаваньня беларускае (крывічанскае) культуры,— зачатак будучай Акадэміі Навук.

У доме ІБК памяшчаецца яго галоўная ўправа, з камісіямі і секцыямі, канцэлярыямі, сабраньнямі матэр'ялаў, бібліятэкай і архівамі, а такжа рэдакцыі і саля для навуковых спавешчаньняў і сабраньняў. Інтэлектуальнае жыцьцё як Менска, так і ўсёй сучаснай Радзянскай Беларусі,

зыходзіцца ў ІБК. Жыцьцё тут бье поўным тэмпам: кожны дзень праз ІБК працякае цэлая маса народу і пакі навуковай карэспандэнцыі.

Ці ІБК зьяўляецца выключна беларускай установай? Не, ІБК абслуговуе духовыя патрэбы ня толькі беларускія, але такжа і народных меншасьцяў Беларусі. Гэта не народная беларуская ўстанова, а міжнародная ў краёвым значэньні. Тут згодна, побач беларусаў, працуюць сэкцыі і камісіі: расійская, польская, жыдоўская. Рожніца між ІБК і БДУ з боку народнага ўстасункаваньня ёсьць у тым, што, у той час калі ў першым нац. меншасьці прадстаўлены справядліва, адбіваючы сабой праўдзівае ўстасункаваньне народнасьцяў у краю, то ў БДУ меншасьці пануюць над беларускай большасцю.

Не глядзя на гэта, у Менску істнуе абывательская апінія, якая ўтрымлівае, што ІБК — гэта беларускі аазіс. І хоць, паводле фактычнага зьместу, ІБК справядлівей можна было бы назваць Інстытутам Культуры Беларусі, аднак старой інтэлігенцыі, як расійскай, так і жыдоўскай, прывыкшай бачыць беларусаў толькі ў ролі чорнарабочых, здаецца надзвычайным беларускім сукцэсам і, як бытцам, крыўдай для іх, што беларусы лічэбна тут дамінаюць.

Навуковыя сілы ІБК складаюцца з 83-х правадзейных членаў, 84-х членаў-супрацоўнікаў, 76-х членаў-карэспандэнтаў і 200 членаў-супрацоўнікаў. А ўсяго ІБК аб'ядноўвае 224-х навуковых працаўнікоў. У гэтым ліку беларусоў — 137, жыдоў — 45, палякаў — 23, іншых — 19. На чале ІБК стаіць агульна шанаваны беларускі дзеяч прафэсар Ігнатоўскі.

Гадавы каштарыс ІБК у 1926-м годзе выносіў 329 530 рублёў. На публікаваньне прац (да 200 аркушаў, лічучы па 60 руб. за аркуш друку) з гэтага бюджэту выдана каля 12.000 рублёў. Тлумачыцца гэта тым, што значная часьць коштаў ідзе на падгатоўку будучых грунтоўных прац і на арганізацыю разбураных культурных установаў у краю.

Інстытут падзяляецца на 7 сэкцый: 1. Беларускай Мовы і Пісьменнасьці; 2. Беларускага Мастацтва; 3. Гістарычна-Археолёгічная; 4. Дасьледаваньня Рэвалюцыйнага руху; 5. Прыродазнаўчая; 6. Мэдычная; 7. Сельска-Гаспадарчая. Акром таго мае два аддзелы — жыдоўскі і польскі са сваімі ўласнымі сэкцыямі.

Паўзьбежна з сэкцыямі працуюць Камісіі: 1. Слоўнікавая, 2. Тэрміналёгічная, 3. Літаратурная, 4 і 5. Гісторыка-

Архэолёгічная, 6. Прыродазнаўчая, 7. Бібліяграфічная, 8. Сельска-Гаспадарчая, 9. Краязнаўчая.

Найбольш рухавасьці апошнімі часамі выказалі Краязнаўчая Камісія, Слоўнікава-Тэрміналёгічная і Мастацкая.

Краязнаўчая Камісія выдзялілася ў асобную ўстанову, на чале каторай стаіць ЦБ Краязнаўства, якое сабрала больш тысячы супрацоўнікаў і цэлыя масы ўсякіх, пераважна слоўнікава-фальклёрыстычных матэр'ялаў. ЦБ Краязнаўства выдае сваю штомесячную часопісь «Наш край» (сшыткамі па 4—5 аркушаў друку), ведзеную апошнімі часамі даволі добра, бо рукой практычнага пісьменьніка, але, на вялікі жаль, маладога яшчэ краяведа, Зьмітры Бядулі. Паступаючыя ў ЦБК матэр'ялы паказуюць, у чым найбольш могуць палажыць карыснай працы члены-краязнаўцы, а ласьне ў зьбіраньні слоўніка і фальклёру. Тым часам на ўзгадаваньне сьведамых мовазнаўцаў і этнографаў мала ў часопісі зьвяртаецца ўвагі: няма артыкулаў, якія бы разьвівалі тэорыю мовазнаўства і этнаграфіі. Урэшце часопісь яшчэ ня мае сваёй акрэсьленай фізыяноміі, бо ў ёй друкуюцца стацьці з лесаводства, зьвераводства, паляводства, статыстыкі, гісторыі, архэалёгіі, мовазнаўства, этнаграфіі, геаграфіі і г. д., і, у канечным вывадзе, ніводнай галіны веды яна не распрацовуе, або, іначай кажучы, прымушана абслугоўваць усе Сэкцыі і Камісіі ІБК, кождую ў мініятурнай прапорцыі, наскокам, «аб усім па троху».

Такая паважная ўстанова, як ІБК, павінна або ператварыць «Наш Край» у тоўсты журнал, разьбіўшы яго на аддзелы, паводле распрацовываных ім навуковых дысцыплін, або замест аднаго журнальчыка выдаваць іх столькі, колькі істнуе паасобных Камісій. Праца ніводнай Камісіі ня будзе жывой і пляновай, дакуль яна ня будзе мець уласнага органу для публікаваньня сваіх досьледаў і вывадаў. Самая ўсільная праца навуковых сіл не пасуне наперад навукі, калі ня будуць публікаваны вынікі іх працы. Дзеля гэтага, як міне арганізацыйны пэрыёд ІБК, трэба падбаць, каб кождая Камісія мела свой бюджэт як на пэрыёдычныя, так і на капітальныя друкі.

Агулам беручы, плян працы, зарысаваны ІБК, аграмадны, ён агартае ўсе галіны інтэлектуальнага жыцьця краю і ўсе галіны веды. Дагэтуль ІБК галоўна працаваў над арганізацыяй навуковых сіл і ўстаноў, якія былі саўсім раськіданы і разбураны вайной. Калі гэтым самым пойдзе і яго дасьледчая, як ішла дагэтуль арганізацыйная праца,



Выгляд Сафійкі Полацкай у XI ст.






Я. Струпуліс. Медаль «Францыск Скарына». 1979 г.






Я. Струпуліс. Медалі «Васіль Цяпінскі», «Сімяон Полацкі». 1979 г.



Свята кнігі каля помніка Ф. Скарыну ў Полацку.



«Спаская цэркаўка, будаваная св. Еўфрасінняй, кн. Полацкай, у палавіне XII ст. у Сяльцы, каля Полацка». Малюнак з кнігі В. Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». Коўна, 1926 г.




Вокладка кнігі Л. І. Уладзімірава «Францыск Скарына — першадрукар віленскі». 1975 г.



«Дыспут». Гравюра з тытульнага ліста кнігі Ф. Скарыны «Ісус Сірахаў». Прага, 5.12.1517 г.



«Саламон і царыца Саўская». Гравюра з тытульнага ліста кнігі Ф. Скарыны «Еклесіяст». Прага, 2.1.1518 г.




План старажытнага Полацка.

# ПОЛАЦАК

Выданьне Беларускага культурна-асьветніцкага цэнтру
Клíўленд
ЗША



Вокладка часопіса «Полацак».

№7(27), 1993



Калона ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 г. у м. Лявонпаль
Мёрскага раёна Віцебскай вобл.



На Домскай плошчы ў Рызе.



С. Юдовін. З серыі «Стары Віцебск» (1921—28 гг.).



Віцебск. Вакзал.



Віцебск. Гарадскі тэатр.



Дзісна.



Росіца. Касцёл.



Абаронцы Дзвіны-Даўгавы пад Андрыянопалем (Расія): А. Сніпс, В. Якавенка, У. Арлоў. 1988 г.



В. Якавенка з В. Вераб'ёвым (Цвер) каля вытокаў Дзвіны.



Т. Страўтманіс. «Ф. Скарына».
Рыга, музей медыцыны.

*Фотаздымкі С. Панізніка.*

то, безумоўна, ІБК суджана адыграць вялікую ролю ў адраджэньні нашай культуры.

Сягоньня Менск зьяўляецца галоўным цэнтрам арганізаваньня культурных беларускіх сіл. І запраўды, Менск мае ўсе шансы стацца беларускім культурным цэнтрам, а сьцíслей кажучы, павінен стацца ім ІБК у Менску. Але гэта станецца тады, калі яго высілкі пратворацца ў тамы грунтоўных, не дылетанцкіх, а запраўды навуковых досьледаў. Ускладаныя на яго надзеі павінен Менск замацаваць сваімі інтэлектуальнымі высілкамі, каб ня толькі веруючыя, але і недаверкі паверылі. Галоўнае — свабода працы, а сродкі на працу маюцца.

Дагэтуль у дзедзіне публікацый навуковых прац у нашым Менскім Атэнэуме больш чуваць «мы зробім», чым «мы зрабілі». Гэта пакуль што галоўны недастатак першай, па абшырнасьці і адкрытых перад ёй магчымасьцях, беларускай навуковай установы. Яно ведама, пачатак заўсёды трудны. А для беларускай установы ён яшчэ труднейшы, што кваліфікаваных сіл у нас мала, дый тыя разсыпаны. На помач ІБК-ту ў яго высілках адбудаваць беларускую культуру павінны пайсьці ўсе нашы культурныя працаўнікі, якія знаходзяцца і па-за Менскам. Культура — усенародны, а не партыйны скарбец, Інбелкульт вынес галоўную арганізацыйную працу навукова-культурных сіл, і ў гэтым яго вялікая заслуга перад усім беларускім народам.

## ГРАМАДЗЯНСКІЯ НАСТРОІ

У Менску і Вітабску, у час маёй бытнасьці, на парадку дня сярод шырокіх кругоў гарадзкога жыхарства была беларусынізацыя, або, як мне зьедліва казаў адзін менскі інтэлігент, «абмужычываньне».

За «абмужычываньне» стаіць камуністычная Парція і Урад, супроць яго — у першы чарод зрусыфікаваная жыдоўская буржуазія і выйшаўшая з яе радоў зрусыфікаваная і русыфікатарская інтэлігенцыя і паўінтэлігенцыя; у другі чарод — нашы ж зрусыфікаваныя беларусы; самае апошняе мейсца займае чыстакроўная вялікаруская інтэлігенцыя, акром, разумеецца, актыўных нацыяналістаў.

Змаганьне — за і супроць беларусынізацыі — носіць ярка клясавы характар: зьнізу напіраюць, зьверху цісНуць, а ўсярэдзіне ня хочуць здаваць сваіх выроЖніваючых ад «мужыцтва» пазыцый.

Разумеецца, уся беларусынізацыя пайшла бы шмат лягчэй, каб беларусы маглі ўліць у рады гарадзкой, даволі чысьленнай, дробнай буржуазіі і гарадзкой інтэлігенцыі свае эквівалентныя сілы. Але сярод беларусаў няма цяпер, так сама як і перад вайной, ні сваей клясы таргоўцаў, ні значных кадраў працоўнай інтэлігенцыі. Дзеля гэтага буржуазна-інтэлігенцкая чужанацыянальная праслойка пакінута варыцца ў сваіх уласных соках, яшчэ і таму, што іх інтэлектуальныя патрэбы абслугоўваюцца падаўнаму расійскай мовай і культурай, бо ў беларусаў, акром некалькіх кніжок Я. Купалы і Я. Коласа, пераважна маладнякоўская пісьменнасьць. Менск дагэтуль не мае ніводнай ілюстраванай беларускай часопісі і нават гумарыстычнага тыднёвіка, не кажучы ўжо аб спэцыяльных тэхнічных і навуковых журналах, акром адзінага месячніка «Полымя», рэдагаванага даволі добра, але каторы чамусьці яшчэ не прабіў сабе дарогу ў гэту праслойку.

Разумеецца, у гэтым выпадку нічога, або саўсім мала, памогуць рэзалютыўныя пажаданьні і цыркулярныя загады, калі апорная праслойка ня на перад дакананым фактам, што ўся акружаючая яе атмасфэра насычана беларускасьцю, так як яна дагэтуль насычана расійскасьцю. Абывательска настроены інтэлігент і тарговец мае дагэтуль кругом сябе імпартаваную расійскую атмасфэру, а з беларускай ён стыкаецца толькі час ад часу, пераважна калі выяжджае з гораду на вёску. Беларушчына не займае належнага мейсца ў яго штодзённым жыцьці. Вось і кажуць у Менску: «беларусы, акром лапцей сваіх,— нічога не маюць». І гэты глупы аргумант беларусам, пры цяперашнім стане іх культуры, не надта каб ужо было чым разьбіць. Бо і эканамічна, і культурна беларуская большасьць, падаўнаму, жабракі ў параўнаньні з народнымі меншасьцямі. Гэта няроўнасьць у заможнасьці і культурнасьці і ёсьць галоўныя перапоны для беларусынізацыі. Каля іх і ідзе змаганьне.

Эканамічна пачувае сябе грамадзянства на шляху да выздараўліваньня, дык стасунковая эканамічная памыснасьць родзіць і прапарцыянальную энэргічнасьць, імкненьне наперад. Гэтаму імкненьню пакуль што няма вялікіх перашкод, дык маецца прымірэньне на эканамічнай астоі паміж жыхарствам і кіруючымі чыньнікамі. Край памалу адбудоўвуецца, палажэньне астоілася, кожны дапасаваўся, і, дзеля гэтага, галоўны страх грамадзянства, каб ня быў нарушаны істнуючы грамадзкі спакой. У грамадзянст-

ве няма імкненьня да якіх-колечы палітычных перамен, бо кождаму ясна, што ўсякі закалот, скуль бы ён не паходзіў, не прынясе нічога, акром новай руіны. Зрэшта, новыя мэтады грамадзкай працы пачынаюць пацягаць штораз шырэйшыя колы, асабліва работніцтва і сялянства, да Радавай улады, чаму паспрыяла зямельная і так званая «нацыянальная» палітыка апошняй. На імкненне зьнешніх чыньнікаў да выкліканьня закалотаў абываталь глядзіць з жахам, сяляне як на спробу вярнуць памешчыкаў, а работнікі як на паязьлівасьць на іх прывілеі.

У часе Канфэрэнцыі шмат гутарак выклікала стараньне беларускага Радзянскага Ураду аб далучэньні Гомельшчыны да Беларусі. Гэтае далучэньне было ўжо здэцыдавана, але яшчэ не было ведама, ці яно пашырыцца і на беларускія (крывічанскія) паветы паўночнай Чарнегаўшчыны, ці будзе праведзена толькі ў рамках «полумеры».

Дзякуючы аб'ектыўным зьнешнім палітычным чыннікам і мудрай палітыцы Ураду Радзянскай Беларусі, каля Менска сабрана ўжо ад Усходу тры чацьвёртых этнаграфічна-беларускіх зямель. Астаюцца яшчэ ў складзе Масковіі этнаграфічна-беларускія часьці Смаленшчыны, паўночныя часьці былой Вітабшчыны і Чарнегаўшчыны, але маецца надзея, хоць не без апору маскоўскіх «патрыятычных» чыньнікаў, з часам можна будзе дабіцца далучэньня і гэтых, пітома беларускіх, частак да Беларусі.

Аб далучэньні Смаленшчыны, паміж расійцамі, ці справядлівей — староньнікамі расійскай прэваляцыі і беларусамі — ідуць абывательскія дыскусіі. Галоўны аргумант першых, што горад Смаленск зрусыфікаваны ўжо аканчальна і безпаваротна. Другія — беларусы — кажуць, што горад ня зьяўляецца ў даным здарэньні паказчыкам. Гарадзкая буржуазія ва ўсіх беларускіх гарадох не беларуская. У Радзянскіх Рэспубліках дэцыдуючым элемэнтам зьяўляюцца працоўныя масы, а не буржуазія. Працоўныя ж масы Смаленшчыны нічым — ні мовай, ні звычаямі, ні абычаямі — ня рожняцца ад такіх жа мас у аколіцах Менска ці якога іншага беларускага гораду. Падпарадкаваньне беларускіх працоўных мас у Смаленшчыне жменцы расійскай і зрусыфікаванай гарадзкой буржуазіі — гэта ёсьць пагвалчаньне радзянскіх прынцыпаў, якія ў аснову дзяржаўнага кіравецтва кладуць дыктатуру працоўных мас, а не буржуазіі. І беларусы ўпэўнены, што слушнасьць на іх старане і што пытаньне аб далучэньні Смаленшчыны

адбудзецца ў найбліжэйшы час тым жа мірным шляхам, як цяперашняе далучэньне Гомельшчыны.

Калі гэтак ідуць справы ў межах Радзянскай Сувязі, што да зьбіраньня беларускіх зямель каля Менска, то адначасна пачынаюць аглядацца на Менск і беларускія землі, якія цяпер знаходзяцца па замежамі Радзянскай Сувязі. Што раз выразьней пачынаюць хіліцца да Менска землі Заходнай Беларусі, якія цяпер знаходзяцца пад польскай акупацыяй. Там маецца край абшарам больш 100 000 кв. кілёмэтраў, на якіх ня менш 3 000 000 жыхарства, між каторым беларусы становяць звыш 75 %.

Больш двох мільёнаў Беларусаў пад польскай акупацыяй ня маюць нічога для свайго народнага разьвіцьця, наадварот, беларусы пад Польшчай прасьледуюцца як ніводная народнасьць, нават тады, калі змаганьне беларусаў не выходзіць за межы, пазволеныя польскім правам. Сыстэматычныя прасьледаваньні беларусаў пад Польшчай і, наадварот, разбудоўка Беларусі ў межах Радзянскай Сувязі родзіць, спамянутае вышэй, натуральнае імкненьне заходных беларусаў да аб'яднаньня з Менскам. Гэтак аб'ектыўныя варункі ўскладаюць на Радзянскую Беларусь місію збіраньня беларускіх зямель такжа і ад Захаду. Практычна пакуль што, здаецца, Менск у гэтым кірунку нічога ня робіць, але сярод тамтэйшага беларускага грамадзянства што раз больш нарастаюць настроі,— распаляныя сыстэматычнымі пагромамі беларусаў пад Польшчай,— якія з часам павінны выліцца ў актыўную помач. У кождым здарэньні сягоньняшні Менск чутка рэагуе на ўсякія зьдзекі над беларусамі пад Польшчай.

Словам, адроджаны беларускі народ што раз больш выказуе волі да народнай еднасьці ў сваёй уласнай дзяржаве. І хоць яшчэ многа можна пажадаць, што да абойму дзяржаўных правоў сучаснай Радзянскай Беларусі, у якой задалёка насунута Сувязная цэнтралізацыя, залішне вялікая пасьляваенная руіна, засьвежы яшчэ ўплывы русыфікацыі, але ў даны гістарычны момант шансы аб'яднаньня беларускіх зямель па старане Радзянскай Беларусі. Пагромамі беларускага руху, прасьледаваньнямі і зьдзекамі Варшава ня можа адвярнуць вачэй заходных беларусаў ад Менска, каторы мае ўжо асновы для незалежнага народнадзяржаўнага жыцьця, мае свабоду і матэр'яльныя засабы разьвіваць сваю культуру на сваёй уласнай народнай астоі. Гэта ўсё добра разумеюць і ўчытываюць у Менску.

Вось, у агульных рысах, тыя ўражаньні, якія вывез я, пабываўшы ў Радзянскай Беларусі.

*1927 г.*

## Ігнат Храпавіцкі

# ДЗВІНА

Як прывід бледны, месяц між хмурын блукае,
Туман начны магільныя развесіў шаты,
І стогне чорны бор — віхор заклён спявае,
Вада ў рацэ заблішча і засне заклята.

У цемры схованая рэчка спачывала,
Цяпер глыбокія зноў замуціла хвалі:
Стары Рубон прачнуўся і зірнуў удалеч,
Азваўся, быццам бура громіста сказала:

«Мой дзень! Хто ж вас ад сну мярцвяцкага абудзіць?
Чакаю — шмат чакаць — лятуць гады, стагоддзі,
Канец іспытам нашым так і не прыходзіць,
Ах! Як жа безнадзейнасць мучыць тут і нудзіць.

Ля Віліі і Нёмна чутны бардаў спевы,
Над Віслаю паўсталі, расквітнелі сёлы,
А тут пустэча — цішыні глухой рассевы,
Як збеглі ад мяне гурты сыноў вясёлых.

І толькі вечна вецер песню мне спявае,
І толькі побач селянін жыве убогі,
Зямлю ўрадлівую крышталь мой аблівае,
Мае святочныя убранні любы Богу.

Далей! Далей ад ветразя, да ліры, плуга,
Натхненне піце, моц з грудзей маіх узнятых:
Для фабрык, дзе заводаў хвалі — гэта слугі,
Паэтам — моры ў хвалях плешчуцца заклятых.

Мінулыя гады барвянілі мне тоні
Пажарам замкаў, сёл — і дым разносіў вецер,
Цяпер у іх спакойна ціхі месяц свеціць,
Задумлівыя зоры плаваюць ва ўлонні.

Калі маглі б вы ведаць, што за шум тут дзікі
Кіпеў на берагах маіх у час ваенны,
Калі б вам ведаць, колькі тут задум вялікіх
У цемень тоні носяць промні зор таемных!» —

Рубон-старэча уздыхнуў, ваду суцішыў,
Што ў цвёрды чорны бераг біла нецярпліва,
Вярнуўся да спачыну, да глыбіннай цішы,
Наўкол яго туманы паплылі ляніва.

Сцякае час — тут помняцца людскія рукі,
Гучыць тут хор якісьці светлы і тужлівы,
І доўга будуць зарастаць лясамі нівы,
І вецер заглушаць усе чужыя гукі.

## Аляксей Карпюк

# ПАРТРЭТ

*Аповесць*

Каралеўскімі замкамі
Ганарацца,
Саборамі.
Мы — зямлёй партызанскай,
Перамогай над ворагам.

Пімен Панчанка.
«Горкая радасць»

### 1

Разгар лета 1942 года.

У пасляабедзенны час з Полацка ў «Дзямянскі кацёл» стартавала транспартная машына. Трохматорны «Юнкерс-52» у грузавых адвесках валок дзве тоны ладунку. У кабіне знаходзіліся: пілот — капітан Макс Ляўфэршток, бортмеханік Ганс Лебек, штурман-радыст Вільгельм Гофман і яшчэ адзін пасажыр.

Немцы былі маладыя, мелі з іголачкі мундзіры, падагнаныя да фігур лепшымі краўцамі Еўропы; рэгаліі і рамяні на іх ад бляску аж пераліваліся, па пальцах зіхацелі залатыя пярсцёнкі. З боку ад пілота тырчэла люстэрка, капітану варта было скасіць вочы, каб бачыць свой мажны

профіль і свежа накрухмалены падкаўнерык пад расшпіленым мундзірам. Бортмеханік на бакавым шкле развесіў каляровыя фота кінаактрыс...

«Юнкерс-52» лічыўся самалётам устарэлай канструкцыі, быў надта чулы да абледзянення, бо тады выходзіла са строю радыё, заклінівала хвоставое апярэнне і машына станавілася непаваротлівай. Штурмана цікавяць паказальнікі ціску паветра, ізабары, цыклоны і антыцыклоны, вятры і хмары, але ў гэты дзень надвор'е было ўстойлівае. Па ўсёй Беларусі ззяла ліпеньскае сонца, градуснікі паказвалі не ніжэй 25 градусаў па Цэльсію. Адпадала верагоднасць сустрэчы «Юнкерса-52» і з савецкімі знішчальнікамі, прынамсі, у першай палове паветранага шляху. Штурману Гофману толькі заставалася не выпускаць з поля зроку ветку чыгункі Полацк — Дно — Ідрыца, якая вяла ў напрамку «катла» і служыла арыенцірам, ды неабходна было сяды-тады ўголас паўтараць пеленг.

Вось у такіх ідэальных умовах вопытны экіпаж і займаўся сваімі справамі. Немцы пры гэтым бяспечна вялі гутарку.

Пра што яны гаварылі?

Дакладна сказаць не бяруся. Калі ж паставіць перад сабой такую задачу, то размову экіпажа ўявіць проста: пэўнага псіхалагічнага складу людзі паводзяць сябе ў пэўных умовах менавіта так, а не іначай.

Пачну па парадку.

## 2

Раніцой на аэрадроме немцы дзелавіта ўзяліся за справы. У час загрузкі самалёта яны пільна сачылі, каб салдаты з каманды абслугі не парушылі цэнтроўкі самалёта, ладавалі скрыні, мяшкі і іншыя рэчы дзе трэба.

Пры запраўцы машыны і пры старце ўсе, за выключэннем пасажыра — доктара Гайнца,— таксама былі занятыя і ўражаннямі з мінулай ночы дзяліцца не маглі.

У немцаў развязаліся языкі, як толькі машына ўпэўнена лягла на курс, уладу над ёй узялі маторы ды законы аэрадынамікі, а кіраванне палётам не патрабавала намаганняў. Словы экіпажа танулі ў густой ваце басавітага гулу матораў, а галасы ў шлемафонах былі не падобны на іх уласныя. Экіпаж ужо даўно прызвычаіўся да гэтага, яны разумелі адзін аднаго выдатна.

Спачатку «тэлеграфным» стылем — так ім дазваляла

перагаворная апаратура — абмяняліся навінамі, звязанымі нейкім чынам з рэйсам.

Знаёмы экіпаж іншага транспартніка ўчора прызямліўся не ў Дзямянску, а на фальшывым аэрадроме, змайстраваным чырвонаармейцамі. Чатыры немцы аблаялі няўдачнікаў — жыццё ім вельмі спрыкрылася.

Пілот Ляўфэршток пару гадзін таму даведаўся ў афіцэрскім казіно ад штабістаў: у «кацёл» прыбыў палкоўнік барон фон Лютцэў замяняць камандуючага абкружанымі войскамі — генерала фон Зэйдліц-Курбаха. Вальтэр фон Зэйдліц атрымаў ад фюрэра заданне — арганізаваць прарыў «катла» звонку, каб расшырыць «Рамушаўскую гарлавіну» ці, як іншыя называлі, «Рамушаўскі калідор».

Яшчэ яны пахваліліся, хто колькі выпіў, дзе з кім правёў ноч, якія навіны атрымаў з дому ці ад сяброў з іншых франтоў.

Доктар жа падзяліўся ўражаннямі ад пабыўкі на радзіме.

На перонах — маладзенькія дзяўчаты са збаночкамі, з якіх дыміцца кава для адпускнікоў: працягні з акна вагона кубачак і, калі ласка, нальюць табе.

На вуліцах яго гарадка — групкі з Hitlerjugend und BDM (Bund Deutscher Mädels)[1] са скрыначкамі, на скрыначках надпісы: *Winterhilfswehr* (дапамога салдатам усходняга фронту).

У магазінах без картачак толькі ersatzmarmolade.

Прага на весткі з фронта.

Грукат «клюмпаў» па бруку, калі канвой гоніць на работу лагернікаў.

Чаканне налётаў саюзнай авіяцыі і бамбардзіроўка.

Святое абурэнне сціснутых у бамбасховішчы цывільных немцаў: «Варвары! Ні адзін лётчык люфтвафэ не дазволіў бы сабе кінуць бомбу на невайсковыя аб'екты, як робяць гэта праклятыя Amis und Tommis!!!

Доктар ані крыху не сумняваўся ў слушнасці абурэння суайчыннікаў. З яго слоў варожыя налёты выглядалі непаразуменнем — не падвезлі якраз снарады, заснулі зенітчыкі.

Усе служачыя вермахта днём і ноччу прагна лавілі апошнія паведамленні з франтоў, захлёбваліся ад перамог і жылі імі. Экіпаж «Юнкерса-52» — не выключэнне. Чатыры немцы былі тыповымі героямі трэцяга рэйху, гэты самы

---

[1] Саюз нямецкіх дзяўчат *(ням.)*.

рэйх і яны меліся прадоўжыць на тысячу гадоў і зараз далі поўную волю сваім эмоцыям, марам і фантазіі.

Што ў той час адбывалася, паводле іх меркаванняў, найбольш значнае? Заглянем, напрыклад, у ваенны дзённік начальніка штаба сухапутных войск генерал-палкоўніка Ф. Гальдэра.

Генерал Лееб з Манергеймам збіраліся вось-вось увайсці ў Ленінград.

Пад Нордкапам караблі «субмарынэ» дабівалі караван PQ — 17 з вайсковай тэхнікай для Мурманска. За восемдзесят кіламетраў ад гэтага горада прытаіліся егеры і цірольскія стралкі арміі Дзітла ды толькі чакалі каманды для атакі.

Фельдмаршал фон Бок на чале групы армій «Цэнтр» затаіўся каля Ржэва, Вязьмы, каб захапіць Маскву.

Іншыя «непераможныя дывізіі вермахта» прарвалі ля Харкава фронт, маланкай прачыркнулі Растоў і пад камандай генерала Паўлюса ды фельдмаршала Манштэйна дзвюма імклівымі лавінамі памчалі да Волгі і на Каўказ. Над распаленай сонцам Задоншчынай узняліся хмары пылу з-пад ботаў савецкіх пехацінцаў, якія адступалі на Сталінград.

Баявыя аперацыі на ўсіх франтах разгорталіся «амаль класічна», «артылерыя праціўніка дасягнула нулявога ўзроўню», «нямецкія коні дарэшты стаміліся», але «дух нямецкіх салдат — выдатны», «войскі фюрэра ўсведамляюць сваю поўную перавагу над рускімі...».

З бальшавікамі справа для экіпажа «Юнкерса-52» фактычна была скончана, усходняя кампанія выйграна. Савецкі Саюз яны ўяўлялі сабе вялізным Ленінградам, які паміраe з голаду, развалу і неразбярыхі.

Чаму існаваў «Дзямянскі кацёл» з паўабкружанай шаснаццатай арміяй вермахта, якой яны везлі груз? Чатыры афіцэры люфтвафэ ў гэтым бачылі напэўна неразгаданую палітыку фюрэра. Гітлер, хутчэй за ўсё, каб парадаваць нямецкі народ, зноў падрыхтаваў ворагу адмысловы ход, хітрую пастку з Wunderwaffe. Цяпер толькі чакай наступнага сюрпрыза!

Сухашчавага і сіваватага генерала Зэйдліц-Курбаха чатыры немцы ведалі надта добра. Яшчэ ў званні лейтэнанта ён прымаў удзел у славутай бітве пад Лоддзю ў першую сусветную вайну, калі ля Бжэзін нямецкія дывізіі не толькі выйшлі з падобнага акружэння, але нават узялі ў «кацёл» рускіх. У 1941 Зэйдліц-Курбах ад фюрэра

атрымаў «рыцарскі крыж з дубовым лістом»...

Карацей кажучы, Усходні фронт экіпаж «Юнкерса-52» цікавіў менш за ўсё. Немцы ўжо не сумняваліся, што заваяваную да самага Урала тэрыторыю неўзабаве вермахт перадасць паліцэйскім часцям ды хлапчукам з «Гітлерюгенд», неабсяжны край паслужыць выдатным полем для гартоўкі маладых арыйцаў, выхавання ў іх furor Teutonicus (нямецкай баявой лютасці). Усё гэта для экіпажа было ўжо раз і назаўсёды вырашана.

Чатыры немцы прагнулі свежых навін, якімі жылі і іх родзічы.

## 3

Як толькі самалёт выйшаў на патрэбную вышыню і лёг на курс, і экіпаж абмяняўся інфармацыяй, штурман-радыст, вядома, зараз жа ўключыў Берлін. Магла ісці ў той момант перадача са «Шпортпляц», дзе нацысты безупынна праводзілі грандыёзныя мітынгі ды перадавалі іх у эфір. У шлемафоны экіпажа ўварваўся рэзкі віск рэйхсміністра Гебельса:

— ... Гэтая вайна — за сыравіну і хлеб! Гэтая вайна — за каўчук і жалеза! Гэтая вайна — за лебенсраўм (жыццёвы прастор) для немцаў! Гэтая вайна — за нашае пяршынства ў свеце! Гэтая вайна — за Тысячагадовы Рэйх! Дык загадвай жа нам, фюрэр, мы ідзем за табой!

У адказ рэйхсміністру з горлаў шматтысячнага натоўпу вырваліся тры здвоеныя грамы:

— Зіг гайль!

— Зіг гайль!

— Зіг гайль!

Затым мужчынскі хор апавясціў:

Мы крочым усе ў пахо-од!
Няхай валіцца ўсё ў друз!
Сёння валодаем Еўропай,
Заўтра ля нашых ног —
Цэлы свет!..

Тут спеў абарваўся — радыё пачало перадаваць чарговую зводку. Не хаваючы хвалявання, дыктар доўга пералічваў прозвішчы англійскіх генералаў ды старшых афіцэраў дваццаціпяцітысячнага гарнізона ў Тобруку, які напярэдадні здаўся Ромелю.

Пасля пераможных фанфар заігралі ўрачыстую прэлюдыю Ліста — экіпаж агарнула новая хваля ўздыму. Чаты-

ры немцы ўбачылі сябе раптам ужо ў спякотных афрыканскіх пясках пад камандаваннем нацыянальнага героя трэцяга рэйха, гэтай праслаўленай «лісы пустыні» — Эрвіна Ромеля.

Вось яны, шчасліўцы лёсу, народжаныя не раней, не пазней, а менавіта ў гэты гістарычны момант, перапоўненыя гордасцю, што належаць да нацыі Herrenvolke (звышчалавекаў), у машынах з малюнкамі бубновага туза, галавы кабана, лістка канюшыны, матылька ды іншых пазнавальных знакаў на тысячах кабін, па загаду незвычайнага генія, які даў ім мэту і крыллі, імкліва нясуцца ў прастору гісторыі па гэты самы «каўчук, хлеб, лебэнсраўм, першынство ў свеце» ды славу для вялікай Германіі.

Версаль прыдумала нахабная Англія, каб абяззброіць паўднёвую суседку-саперніцу, адабраць ад яе ўсё, што дае краіне сілу і моц — Германія калоніі свае верне з працэнтамі!

Але ж сялібы з ганачкамі ў цянёчку пад пальмамі і краявідамі на плантацыі, са слугамі-неграмі — для знямоглых старых з тылавых каманд Тодта[1]. Члены экіпажа ў баявых часцях, якія складаюцца з такіх жа адчайных зухаў, ад Тобрука раптоўна паварочваюць на Усход і маланкавым выпадам пратыкаюць Кіпр ды Суэц. Перарэзаўшы важную жылу Вялікай Брытаніі, тут жа перакідваюцца ў Казахстанскія стэпы насустрач Паўлюсу і Манштэйну, каб замкнуць кола.

«Перапоўненыя ўздымам, які спарадзіла ў нас прага крыві, лютасць і віно, мы дружна крочым у нагу, упэўнена ставячы падкаваны бот. Нястрымана набліжаемся да ворага. Дзікая прага знішчэння ап'яніла нашы мазгі. Мужчыне вядома многа ўзнёслых радасцей, але самая прыемная — асалода, адчутая пры таптанні чужой зямлі, забіванні...»[2]

Гэтай «асалоды» пад штандарамі вермахта члены экіпажа самалёта паспыталі ўволю.

Штурман-радыст, магчыма, мінулую ноч гасцяваў у афіцэраў палявой жандармерыі. «Жандармамт» Полацка размяшчаўся ў будынку новай школы. Яе кватаранты пад столь настаўніцкай вешалі савецкую карту і зараджалі парабелумы. Капітан фельджандармерыі, імітуючы папулярнага радыёкаментатара Дзітмара, крычаў:

---

[1] Тодт — арганізацыя тылавой службы гітлераўскай арміі.
[2] Словы Эрнста Юнгера. Яго раман «Стальная бура», адкуль цытата, пасля 1933 г. стаў настольнай кніжкай юнакоў Германіі.

— Альзо, ад японскіх самураяў марская пяхота ЗША драпае праз атолы, каралавыя рыфы Ціхага акіяна ў Аўстралію! Нямецкія часці з Расіі кідаюцца на дапамогу японцам! Ужо селі ў караблі! Увага, перасякаем зараз Індыйскі акіян! Падплываем да Сіднея, збіраемся высаджвацца на бераг! Вось і — п'яныя янкі! Ахтунг, падрыхтавацца! Айнс, цвай, драй,— фоер!

Уся кампанія ўскідвала пісталеты, і ў англійскі даміньён упіваліся дзесяткі куль, покуль карта не зляцела на падлогу.

Капітан загадваў дзіравую прасціну вешаць зноў.

Наступным этапам захапляючай экскурсіі была Англія, затым — Лацінская Амерыка. У ЗША разрадзілі па абойме, ад чаго школьная карта разляцелася на кавалачкі.

Хіба снілася такое салдатам Напалеона, Карла Вялікага, Гая Юлія Цэзара, Аляксандра Македонскага?!

## 4

Я да сённяшняга дня не перастаю здзіўляцца, як гэта «шалёнаму фюрэру» ўдалося ўбіць у галаву сваім грамадзянам аж так глыбокую веру ў слушнасць яго людаедскіх ідэяў, злачынных планаў, што пераважная большасць нямецкіх рабочых, сялян, служачых, інжынераў і настаўнікаў — бацькі дарослых дзяцей і юнакі — тварылі чорную справу дружна, свядома, з запалам насуперак элементарнай логіцы і агульнапрынятым нормам чалавечых адносін.

Доктар Гайнц у паўабкружаную армію пад Дзямянск вяртаўся з пабыўкі па сваёй ахвоце датэрмінова. Калі штурман, эканомячы акумулятары, выключыў радыё, доктар праз ліхтар «Юнкерса-52» паглядзеў у нябесны блакіт ды з цёплым хваляваннем, з дрыготкамі ва ўсім целе пасмакаваў ужо той шчаслівы момант, калі прызямліцца ў сваіх ды апынецца ў баявой атмасферы, што, на яго думку, толькі і варта сапраўднага мужчыны.

Ні ў каго з чатырох не ўзнікала ніякіх сумненняў, хоць перш за ўсё ім трэба было падумаць, што і на двухкіламетровай вышыні трэба быць напагатове, бо няўмольнае жыццё ўжо ўключыла іх у бяздонны расход вайны.

Бортмеханік Лебек расхіліў біноклем на бакавым шкле паштоўкі з голымі актрысамі ды пачаў разглядаць зямлю.

Пад крылом паплыла спаленая ўшчэнт лясная вёска.

На пажарышчах кешкаліся людзі — даставалі з друзу гаршкі, абпаленыя вёдры.

Дрэвы ля былых селішч стаялі з пажухлым лісцем.

Абгарэлыя пячныя каміны сумна цягнулі да неба свае куксы...

— Эх, папсавала вайна ландшафт! — тыцнуў Лебек цейсам уніз.— Паваленыя платы, сухія, як венікі, кусты!.. І гэтыя старыя ліпы не аджывуць ужо!.. Хіба праз гадоў дваццаць зелень адрасце!.. І абарыгенам-беларусам давядзіцца цярпець!..

— Вярзеце сентыментальнае глупства, Ганс! — абрэзаў бортмеханіка капітан.— Якая нам справа да гэтага? Зразумейце вы ein für allemal[1],— нам важны толькі вайсковыя аргументы! Фюрэр сказаў: «Будзьце бязлітаснымі, дзейнічайце смела і без усялякай там маралі: гэта найбольш гуманны спосаб выяваць, бо страх загоніць праціўніка ў казіны рог і нам спатрэбіцца менш крыві!» О-о, я вам скажу, гэта словы мудрага прарока! Цяпер і сляпы бачыць, што вайну вядзем справядлівую, а немцам яна прыносіць вялікую асалоду! Чым мы былі б з вамі, калі б не яна? Вядома, немцы не такія вытанчаныя ды адукаваныя, як французы, але ж лёс менавіта нас выбраў як носьбітаў грандыёзнага абнаўлення свету, якога не было з біблейскіх часоў!

— Яволь, шэф! — скарыўся бортмеханік.— Я згодзен з вамі.

Капітан, палічыўшы, што адчытаў падапечнага залішне строга, пастараўся згладзіць уражанне ад сваіх слоў. Не гледзячы, з кішэньчыка на баку крэсла дастаў пляшку «Марціні». Выняўшы зубамі корак, адхлябнуў віна ды спытаўся ў бортмеханіка:

— Спрабуеце?

— З ахвотай!

Пілот велікадушна дазволіў частавацца і астатнім. Плоская бутэлечка з бліскучай этыкеткай абышла ўсіх.

— Данке!

— Данке зеер!

— Данке шён!

Немцы адразу адчулі ва ўсім целе цяпло і лёгкае галавакружэнне. Капітан з ноткай апекуна гаварыў далей:

— Альзо, вы, Ганс, не да канца ўмееце цешыцца жыццём. Выпускаеце з-пад увагі галоўнае. Знаходзіце нейкія

[1] Раз і назаўсёды *(ням.)*.

калючкі, звяртаеце ўвагу на глупства, паддаецеся мяшчанскай жаласлівасці. Каго тут шкадаваць? — кінуў ён уніз.— Гэтых агідных шчуроў, гнойных саламандраў, выроднага племені «унтэрмэншаў», якім нейкі дурны ўладар калісьці дазволіў навучыцца чытаць і пісаць, хоць яны здольны толькі на тое, каб радзіць орды недачалавекаў?!

— Яволь, капітан!

Пілот быў малады, настрой яго хутка мог перайсці ў другую крайнасць, а віно падбівала выліваць свае крыўды.

Звяртаючыся да ўсяго экіпажа, ён ужо неўзабаве заныў:

— Безумоўна, калі глядзець з глабальных маштабаў,— мы тут рымляне XX стагоддзя, місіянеры. Аднак, майнэ кэрлен[1], гэта толькі адзін бок медаля. Калі чэсна гаварыць, то трэба прызнаць: занесла нас сюды — самому чорту ў задніцу!

І Ляўфэршток пачаў ужо скардзіцца на свой лёс:

— Што нас, нікчэмных фурманаў, на гэтай дапатопнай рыкшы, ціхаходным «Юнкерсе-52» — транспартнай машыне з часоў вайны ў Іспаніі — чакае ў смярдзючай Расіі на сумнай трасе з пастаяннай вышынёй у 2000 метраў з-за ўяўных «лясных бандытаў»? Вартуй кожны дзень, як пракляты, кнігаўчыны яйкі! [2] Во, у сонечнай Італіі бралі на борт дэсантнікаў Отта Скарцэні з самім Максам Шмэлінгам[3], вазілі нават генералаў! Са штурманам Гофманам пашэнціла везці самога фельдмаршала Герынга, калі той гасцяваў у дучэ!..

Унізе паказаліся лясы Расоншчыны. Неабсяжны дыван хвалістай зеляніны, рассечаны прасекамі, здаўся немцам мяккім, як аксаміт, лагодным і свойскім. Чыгуначная ветка пачала раптам некуды знікаць, расплывацца, потым не стала яе відаць зусім, як штурман ні прыглядаўся. Пад прамым вуглом і наўскасяк распісвалі лес прамыя, як палёт стралы, візірныя прасекі, але ўсе яны былі без рэек і тэлеграфных слупоў.

— Вас іст лёс?[4] — здзівіўся капітан ды падагнаў штурмана: — Вільгельм, пеленг!

---

[1] Эх, братва! *(Ням.)*

[2] У немцаў азначае тое, што ў нас — біць бібікі.

[3] Славуты чэмпіён па боксу (Алімпіяда 1936 — Мюнхен), у вайну быў дэсантнікам.

[4] У чым справа? *(Ням.)*

— Момэнт маль![1]

Але чыгункі штурман так і не знаходзіў. Давялося даверыцца компасу:

— Курс 46!

Што за ліха, яшчэ зусім нядаўна кантакт з зямлёй ён тут трымаў візуальна, не патрэбен быў ніякі компас! Бытта з вялізнай карты з жывым ландшафтам нехта ўпарта гумкай сціраў дзень за днём палатно дарогі, таму з кожным днём пуць з рэйкамі выявіць рабілася цяжэй.

«Няўжо брыгады Тодта пуць накрываюць маскіровачнай сеткай і галінкамі камуфляжу на такім доўгім адрэзку? Рабіць ім няма чаго!»

— У чым справа, донэрвэтэр?! Макс, вазьмі ніжэй! — кінуў штурман пілоту, з якім быў на «ты».

Незвычайную з'яву Ляўфэршток заўважыў таксама, таму адразу штурмана зразумеў:

— Вір шаўэн гляйх![2]

Няўклюдны «Юнкерс-52» пайшоў у віраж ды пачаў збаўляць вышыню. На шкале вышынямера стрэлка паказвала 1800 метраў, 1500, 1000, 200...

Ад паветранай хвалі, выкліканай прапелерамі, захісталіся ўжо і верхавіны дрэў, толькі штурмана цікавіла не гэта. Перагнуўшыся ўвесь, ён уважліва разглядаў масіў, які імкліва цёк «Юнкерсу-52» пад жывот. Пілот рабіў віраж за віражом, вёў машыну зігзагамі — страчаны арыенцір самалёт абавязкова павінен перасячы!

Нарэшце Гофман убачыў тое, чаго шукаў. Убачыў ды нічога не зразумеў.

У выразным і прамым, як вучнёўская лінейка, калідоры, што на тры-чатыры секунды паказаўся пад імі, стаялі дзесяткі, а магчыма, і сотні фурманак, наладаваных пяском і жвірам, рэйкамі ды шпаламі. Ад фурманак разбягаліся ў кусты людзі, узбрыквалі жарабяты. Ахопленыя жахам жанчыны лавілі дзяцей і таксама ляцелі ў гушчар. На пянёчках стаялі мужчыны ў напаўвайсковай форме ды энергічнымі ўзмахамі рук паказвалі на неба...

Усё выглядала на тое, што ў лес сагналі мноства сялян, каб пракладваць пуць.

Але ж чыгунка тут ужо існавала, па ёй — штурман памятаў добра — яшчэ зусім нядаўна хадзіла шмат паяз-

[1] Адну хвілінку! *(Ням.)*
[2] Зараз зірнем! *(Ням.)*

доў на Ідрыцу — Дно, ён прызвычаіўся яшчэ здалёк заўважаць дымкі паравозаў!

І чаму камандзіры, што махалі рукамі, не мелі — ён дакладна паспеў заўважыць — нямецкай формы?

Гофман з недаўменнем зірнуў на пілота. Той якраз, увесь сканцэнтраваны, браў на сябе штурвал — выводзіў няўклюдную машыну з непрывычнага для яе глыбокага піке. Штурман насцярожыўся і толькі паспеў удыхнуць у сябе паветра, як страшэнная адцэнтрабежная сіла пачала ціснуць яго ў крэсла, ад чаго ён ледзь не страціў прытомнасці.

## 5

Што адбывалася тады ў партызанскай зоне ля Дрысы, магу сказаць больш упэўнена — з многімі героямі незвычайнага выпадку давялося гутарыць, бо ездзіў на месца падзей, каб самаму разабрацца — што, дзе і як усё здарылася, ды зведаць вядомы літаратарам «эфект прысутнасці».

Ветэраны расказвалі,— сонца ў той дзень так напякло паветра ў лесе, што гарачыня стала задухай. Жаданага халадку людзям не давалі ўжо ні векавыя сосны, ні вільгаць ад блізкай ракі ды балота. Да адурэння пахла разагрэтым мохам, хвояй і багульнікам, а ўсё навокал было напоўнена трэскам стракозы і цягучым, як мёд, пчаліным гудам. У такі час людзей звычайна хіліла да сну, аднак у партызанскім лагеры на пару гадзін замерлі толькі камары; брыгады жылі звычайнымі клопатамі.

У памяшканнях напаўзямлянячнага тыпу, куды немцы, разбамбіўшы лясныя вёскі, выціснулі партызан, многія з хлопцаў дзелавіта рыхтаваліся ісці на заданне.

Вярталіся з далёкага паходу аслабелыя разведчыкі.

Перад маляўнічым жыллём мужчыны рамантавалі зброю і абутак.

Пад павеццю і каля кухні дзяўчаты ў жорнах малолі жыта з новага ўраджаю, стралялі гарэзлівымі вачыма ды хіхікалі.

Паміж дарослымі, згараючы ад цікавасці, снавалі тудысюды абвешаныя драўлянымі фінкамі ды аўтаматамі хлопчыкі з сямейнага лагера. Самае значнае, на іх думку, адбывалася ў той момант зводдаль ад зямлянак, на прыкрытым густым верасам узгорку. Узбуджаныя хлапчукі стараліся праціснуцца цераз дарослых.

Там сапраўды было на што дзівіцца.

На ўзгорку брыгадны разведчык Ладо Герашвілі маляваў карціну. Вялізная (паўтара метра на два!) прасціна з суравога палатна была нацягнута паміж бярозак, а фарбай майстру служыў разведзены газай гудрон, якім асфальтуюць дарогі. Правая частка палотнішча яшчэ пуставала, а на левай віднеўся труп амаль голай дзяўчыны. Рухавы малады грузін, макаючы пэндзлем у банку з шэражоўтай вадкасцю, то старанна папраўляў мілавідны тварык, то размашыстымі мазкамі на вольным баку прасціны спрабаваў накідаць контуры забойцы.

Вакол грузіна ўтварылася цеснае кола зявак. Людзі замерлі перад карцінай і мастаком у самых розных позах.

Пажылы дзядзька, пакінуўшы зводдаль фурманку, застыў з пугай у руцэ.

Дзве засмучоныя кабеты з Краснаполля павесілі на сагнутыя рукі кошыкі з грыбамі.

Разведчык у кубанцы трымаў на повадзе каня.

Круглатварае дзяўчо прыціскала да грудзей сіта з сушанымі ягадамі.

А чарнявы хлапец, павярнуўшы аўтамат каваным прыкладам уверх, рукаяткай нагана калоў на ім арэхі, жаваў поўныя зёрны ды таксама не адводзіў ад забітай позірку; ад нагана да пояса ў яго цягнуўся алюмініевы шнур пацерак — ланцужок ад ярша, якім немцы чысцілі вінтоўкі.

— Ах, Нінка — вылітая! — уздыхнуўшы, пацвердзіла жанчына з кошыкам.— Казалі, што надта падобная, а яна — і праўда такая!

Мужчына з пугай у руках прыехаў здалёк — аж з Сялявішч — і нічога не разумеў. Кабета на мясцовым дыялекце пачала яму тлумачыць:

— Дацка Піліпа і Волькі з Краснаполля! Немцы прыперліся нісцыць вёску. Нінка паспела з маёй больсанькай дзяўцынкай выскацыць аз за хлявы ды спахапілася — бялізны для свайго Ладо не ўзяла! Вярнулася дахаты, палезла ў куфар, а яны цераз акно яе ўбацылі ды цапнулі! Вывалаклі на двор, згвалцілі, пырнулі стыком і спурнулі ў агонь дзяўцынку — хата ўзо гарэла! Ох, і ўбівалася Волька! А ўзо грузі-ін... не еў, не спаў, месца сабе не знаходзіў ды схуднеў на трэсацку!.. Ацухаўся і адразу стаў ЯЕ маляваць! Бабы льнянога палатна яму назнасілі па кавалацку. Пассываў сабе яго, во, і выводзіць пэндзлем каторы дзень! Нацальства нават у разведку не пасылае з-за гэтага!

Малады разведчык у кубанцы, звяртаючыся да фурмана, пакпіў з кабеты:

— Адразу відаць — Расоншчына: «Кірпіцынку пад бацынку, а пясоцніцу ў кісэнь!..»

Але панылы дзядзька ў мове жанчын нічога смешнага не знайшоў. Ён адно цяжка ўздыхнуў, паківаў галавой ды сцвердзіў:

— Перажывае хлапец.

— А што думаеш?! — умяшалася другая жанчына.— Нінін брат, Васіль, грузіна ад смерці ўратаваў! Служылі разам у войску. Васіль кантужанага таварыша аж з-за Журмун на гарбу пёр!.. Ніліна маці, Вольга, грузіна выхадзіла, яе Піліп раздабыў хлапцу ў Расонах сякое-такое адзенне, шчэ і з партызанамі пазнаёміў ды за гэта абое — на́ табе, адзінай дачкой паплаціліся! Бедная Вольга, не ведала, што згіненне на сваё дзіця вылечвае!..

— Ён не вінаваты, што аж так убадзюрыўся[1]!

— Скажаш ты! Калі б грузіна не лячылі, не было б калі яму ўбадзюрыцца і Нінка засталася б жывой, кожны табе дурань гэта пацвердзіць!

— Ой, што такое?!.

Стала чуваць, як гудзе самалёт. Недзе паласнула кулямётная чарга, пачуліся адзіночныя стрэлы, а рэха грамавым раскатам паўтарыла іх у сасновым бары, дало адчуць, які лес глыбокі і неабсяжны,— бы акіян.

— Нейкі дурань па самалётах смаліць! — насцярожана прыслухоўваючыся, буркнуў нехта з мужчын.

Бабы падтрымалі:

— Іграюцца, як дзеці, толькі немцаў дражняць!

Самалёты над лагерамі пралятлі не раз, і партызаны па іх часта стралялі. Людзі пабурчэлі для парадку, сваю ўвагу на гуках затрымалі адно хвіліну.

— ...І не пацалаваў нават. У Грузіі, казуць, такая завядзёнка. Пасля вайны думаў завезці Ніну ў сваю Абхазію ды азаніцца. Бедны, як кахаў — аз дзіва!

— О-о, грузіны — ярыя! — пацвердзіла другая жанчына ды звярнулася да дзяўчыны з сітам: — А Нінін твар, кажуць, з цябе маляваў, праўда?

— Два тыдні трымаў мяне на версе,— разгубілася пуцалаватае дзяўчо і пачырванела.— Прыцоску мне зрабіў, як у ЯЕ была... Хварба ўсё разлазілася... Змые бензінам, вытра насуха ды зноў малюе...

[1] Закахаўся *(мясц.)*.

Раптоўнае гудзенне заглушыла іх словы.

Над галовамі людзей паказаўся з гафрыраванага металу жывот «Юнкерса-52». На шырокіх крылах і хвасце чарнелі крыжы ў жоўтым авале, за самалётам цягнуўся смаляністы дым. Выплыўшы з-за крон, масіўны самалёт засланіў паўнеба, запоўніў гулам і грукатам наваколле, і здавалася,— завібрыравалі ствалы сосен, вось-вось пасыплюцца шышкі.

Чубаты хлапец ад радасці выпусціў наган, ускінуў аўтамат і даў уверх доўгую чаргу. Маторы так раўлі, што аўтаматнай чаргі не было чуваць. Толькі жанчын абдало гарачымі гільзамі, і яны з жахам пападалі на верас, пацягнулі на галовы хусткі. Партызаны на кабет нават не звярнулі ўвагі.

Машына рэзка пайшла на зніжэнне. «Юнкерс-52» знік на нейкі момант за дрэвамі, а потым кіламетры за тры ад узгорка ўрэзаўся з трэскам у лес.

Адзвінела рэха. Наступіла раптоўная цішыня.

— Збіў?!. Хлопцы, далібог, збіў! — залямантаваў на ўвесь лес ашалелы ад радасці юнак, ловячы за ланцужок наган.— Бачылі, як яго я сykанyў, бачылі?!. Не, вы бачылі?!.

Фурман астудзіў хлапца:

— Гэткую махіну з твайго драбавіка так і саб'еш, а як жа!

— Не верыш? Ы-ы!..

— Ад Пераправы рубанулі па ім з «дзегцяра»! — падказаў разведчык у кубанцы.

— Вах, збылі?!.— дайшло нарэшце і да Герашвілі.— Збылі? Почыму стаім?!

Пасля кароткай разгубленасці мужчыны, хто верхам, хто на фурманцы, памчалі стрымгалоў за раку. За імі кінуліся і перапалоханыя хлапчукі.

## 6

Ладо з таварышамі прымчалі на месца: там ваўсю ішла страляніна, і малюнак перад імі паўстаў страшны.

Лес быў паламаны і разварочаны, бытта віхурай. Вялізны чаўнок «Юнкерса-52» з абрубкамі крылаў і пярэднім маторам з пагнутым, як барановыя рогі, прапелерам павіс метраў з пяць над зямлёй і блішчэў дзюралевай арматурай,— яго грунтоўна ўшчамілі дрэвы. Левую і правую

плоскасць з маторамі непадалёк заклініла ў гушчары, адтуль далятала патухаючае шыпенне газаў ды несла рэзкім смуродам перагару.

Металёвыя плоскасці сосны і елкі скасілі цэлай паласой, і абрубкі камлёў бялелі рванымі зрэзамі на розных узроўнях. Сіла інерцыі, з якой падала машына, была такая, што некаторыя елкі вывернула з карэннем.

На апошніх метрах падзення алюмініевую сценку перакошанага борта распароў камель сасны і ў баку «Юнкерса-52» выразаў вялізную пашчу, праз якую дзве тоны ладунку вылецела вон. Сярод уздыбленых абломкаў сосен і ламачча на лясным падсціле бялелі тысячы салдацкіх пісем, ля разбітых скрынь — рассыпаныя веерам банкі кансерваў, круглыя, як для гуталіну, скрыначкі шакаладу, крыжы і медалі, featured разнафарматныя пакеты і пакецікі ды мноства бутэлек з віном, сярод якіх — цяжка паверыць — валяліся нават цэлыя.

Выяўляецца,— пасля падзення экіпаж, дайшоўшы да памяці, цераз гэтую самую дзірку ў борце выскачыў на зямлю. Паблізу праходзілі разведчыкі. Немцы пачалі стральбу з пісталетаў і паранілі нашага. Партызаны адкрылі страляніну ў адказ і дваіх ворагаў забілі. Хлапец, што нядаўна шчоўкаў перад карцінай арэхі, разабраўшыся, што да чаго, аўтаматнай чаргой скасіў яшчэ аднаго. Чацвёрты немец кінуўся ўцякаць. Разведчыкі ламанулі за ім.

Доўгага і белабрысага немца партызаны абкружылі аж у балоце. Разгарачаныя і злыя за параненага, разведчыкі прыкончылі б немца на месцы, калі б не Герашвілі. Грузін абхапіў яго рукамі, залямантаваў:

— Прэч! Ён — мой! Нікому нэ аддам!.. Он мнэ патрэбны, прэч!

Разведчыкі паспрабавалі вырваць немца з учэпістых рук грузіна, абураліся:

— Ты што, фашыста пашкадаваў?

— Мо ён Косцю Балабановіча параніў, а мы будзем цацкацца з ім? Адыдзі па-добраму!

— Ён мнэ патрэбен, панымаіш? — цвярдзіў грузін сваё.— Нынку пысаць трэба, панымаіш?! Натуру фашыста ў мінэ нэт, панымаіш? Мнэ очынь патрэбін, нікому нэ аддам, панымаіш? Это — мой натура, рускым языком гавару, панымаіш?

Грузіна ў брыгадзе паважалі. Астыўшы крыху, хлопцы вырашылі:

— Ладна, чорт з ім, калі прыліп да фрыца як смала! Завядзем у штаб — нікуды ад нас не дзенецца!

Тым часам да самалёта збегліся ўжо ледзь не ўсе, хто быў у лагеры,— жарты, такое здарэнне! Людзі з жахлівым захапленнем разглядалі забітых лётчыкаў, краталі дэталі «Юнкерса-52», набіралі, хто колькі мог, трафеяў і адыходзіць не спяшаліся.

Разведчыкі, паклаўшы на сялянскую фурманку параненага сябра, пакідалі на сена рэчы экіпажа і гурбой накіраваліся ў штаб.

Высокі і выпеленгаваны немец у мундзіры лётчыка, з сінім шалікам на шыі, з рукамі, скручанымі вяроўкай за спіну, трымаўся ганарліва, на партызан глядзеў з выклікам, аднак ішоў, куды яму загадвалі. Спадарожныя хлапчукі хваліліся нямецкімі крыжамі, пырскалі адзін на аднаго адэкалонам, мяняліся трафеямі. Разахвочаныя партызаны апавядалі адзін аднаму, з чаго па самалёце стралялі. Кожны бажыўся,— менавіта ён збіў «Юнкерса-52». На хаду штыкамі адкрывалі кансервы, бутэлькі ды смакавалі віно. Злосць прайшла, абураліся на немца для парадку. Зрэдку хто-небудзь замахваўся на палоннага ды гыркаў:

— Ы-ых, шчэ воўкам глядзіш, гад?! З'еў локшыны і фанабэрышся?! Пачакай жа, фашыстоўская морда, доўга пяліць слепакі свае не будзеш!..

Ладо хлопцам крычаць на немца дазваляў, але не адставаў ад яго ні на крок.

## 7

У брыгадзе камандзіры пайшлі якраз на заданне, пакінулі за старшага мужчыну сярэдніх год, слабога здароўем, чалавека стрыманага і мудрага, камісара — Пятра Іванавіча Максімава.

Допыты палонных камандаванне лічыла карыснымі для разведчыкаў урокамі, таямніцы з іх не рабіла. Цікаўныя да ўсяго партызаны ўвялі штурмана ў штаб гурбой. У разведку бралі самых атлётаў — хлопцы адразу запоўнілі памяшканне, завалілі падлогу трафеямі. Камісар уважліва перабраў атрыбуты лётчыкаў — новенькія планшэты ды іншае, што было ў рукзаках. Спыніўшыся на «зольдатэнбух» палоннага, Максімаў адгарнуў вокладачку:

— І тут «Дзесяць запаведзяў»?! Дыпламаваныя рыца-

ры![1] От жа фашыстоўская крывадушнасць!..— Прачытаў: — «Віль... Вільгельм Гофман, год нараджэння 1917». Фота нібы яго. Ага, яму — дваццаць пяць. Гэта ты — Гофман? Хануілавіч, спытайся, калі ласка.

Сярод трафеяў партызаны знайшлі ладную нікеляваную скрыначку з наборам інструментаў для аперацыі. Прыціскаючы да грудзей каштоўны падарунак сяброў, брыгадны хірург Бергман стаў перакладаць.

Тым часам абкружаны партызанамі штурман яшчэ ніяк не мірыўся з тым, што падзея адбываецца наяве. Усё здавалася яму непаразуменнем, кашмарным сном. Ён спадзяваўся — з гушчару вось-вось вынырнуць жандары з ваўкадавамі, за імі — роты паліцыі і карныя кагорты суайчыннікаў разнясуць умомант асінае гняздо «лясных бандытаў» і вызваляць яго.

Гофман не раз думаў і пра свой канец. Яго смерць упісвалася ў рунічныя легенды і прачытаныя кніжкі, прыняць яе нарыхтаваўся як належыць нямецкаму мужчыне і салдату. Канец уяўляўся на вачах у Landser-аў, сярод сцягоў, фанфар і грукату барабанаў, калі ён з пісталетам у руцэ, выхапленым на бягу, з палаючым тварам і думкамі пра фюрэра, які яму ўсміхаўся з трыбуны, пасля стрэлу каварнага ворага асоўваецца з лёгкім паўабаротам на зямлю, пасля чаго наступае радасна-трыумфальны адыход у краіну славы, вечнага шчасця і асалоды. Агарнуў адчай, што з-за звычайнай выпадковасці — перабітай дурной куляй сяміміліметровай меднай трубкі маслапровада — ён, запраграмаваны вышэйшай воляй для грандыёзных падзей, сярод агульнага трыумфу ды перамог вялікай Германіі заканчвае жыццё так ганебна — у дзікім, прымітыўным лесе, сырой камарыльні, пра што нават ніхто не даведаецца. Мужчынскі гонар прыглушаў у ім маладушнасць. Прысутнасць тыпаў у разнастайнай вопратцы, прыставанне

---

[1] У салдацкіх кніжках гітлераўскіх ваяк змешчаны «Дзесяць запаведзяў нямецкага салдата». Там былі і такія пункты:

«1. Нямецкі салдат ваюе па-рыцарску...

2. Ворага, які паддаецца, забіваць нельга...

3. Забараняецца здзекавацца і абражаць палоннага...

6. З параненымі палоннымі трэба абыходзіцца па-людску...

7. Салдатам забаронена рабаваць цывільнае насельніцтва і нішчыць яго маёмасць. Трэба шанаваць гістарычныя помнікі ды аб'екты культуры...»

За парушэнне гэтых «Запаведзяў» Міжнародны Нюрнбергскі Трыбунал і пакараў вайсковых злачынцаў.

і кпіны прымушалі падцягнуцца, выдаваць сябе за бравага гусара.

На камісарава пытанне немец толькі крыва ўсміхнуўся пакусанымі да крыві вуснамі, а вочы яго бліснулі злымі агеньчыкамі.

— Ты бачыш, яшчэ і бычыцца, разыгрывае абражаную нявіннасць! — здзівіўся Пётр Іванавіч.

Камісар падагнаў перакладчыка:

— Няма часу нам з ім цацкацца, чакаю адказу!

Хірург паўтарыў пытанне.

Поўны злосці, палонны яшчэ крыху памаўчаў, тады загаварыў. Адказ яго быў рэзкім, як кулямётная чарга:

— Чаго ўставіліся, цікава? Не сумнявайцеся, перад вамі — сапраўдны штурман-радыст авіяцыі той арміі, што заваявала ўсю Еўропу, захапіла ўжо і палову вашай Расіі! Шайка ў вас тут сабралася шматлікая, мяне вы аднаго, вядома, адолелі, стаю перад вамі бяссільны, але вы ўсе — годныя літасці недабіткі, што пазашываліся ў лясны гушчар! Чаму не сунеце носа ў Полацк, Мінск, Віцебск, Невель?

Тут ён з пагардай абвёў усіх вачыма:

— Дык ведай жа, баязлівы рускі зброд, я — немец, ва мне палае магутная сіла германскага духу,— я гатовы да вашых прымітыўных катаванняў ды здзекаў і змагу памерці з годнасцю, як паміралі ўсе нібелунгі! Я трыумфую над вамі! Перадай гэта бальшавіцкаму тыпу, нікчэмны яўрэй, што маю яму сказаць толькі адно: не засталося ў парабелуме ні аднаго патрона, інакш жывым вы мяне, праклятыя рускія свінні, не ўзялі б!

Насцярожаныя партызаны пераглянуліся. Позіркамі хлопцы бытта казалі:

«Во, які трапіў фрукт, таварыш камісар, мы ж вам дакладвалі, а дурань грузін за яго яшчэ і заступаецца!»

— Усыпаць гаду пяцьдзесят шомпалаў! — параіў невялічкі ростам падрыўнік Лысенка.

Максімаў стрымана кінуў:

— Бізуны ў нас, Яфім, адмяніла Кастрычніцкая рэвалюцыя. Зараз мы — на тэрыторыі «Расонскай савецкай рэспублікі», і законы ў нас тыя самыя.

Не спяшаючыся камісар выняў з кабуры свой «ТТ», дастаў з яго абойму, а пісталет паклаў перад немцам на стол. Дадаючы адзін патрон, запрапанаваў:

— А ты, ваяка, на, страляйся тут!

Разведчыкі перасталі нават дыхаць і з насцярожанай цікавасцю ўставіліся на штурмана.

Немец пісталета не браў.

Ён потым і сам не разумеў, чаму пры адпаведным эмацыянальным настроі не павёў сябе згодна са сваімі прынцыпамі. Няўжо збаяўся ўсё ж такі смерці? Прапанова была занадта неспадзяванай? Узнікла надзея? Бо з учынка партызанскага камандзіра выходзіла — лесавікі якраз не мелі намеру яго прыкончыць, аб чым у Полацку пратрубілі ўсе вушы.

Палонны і далей падпіраў галавой трубыя сасновыя бярвенні з сухой карой на столі, але пыха яго некуды падзелася. Выгляд ён цяпер меў разгубленага маладога інтэлігенціка, ■ светла-сіні мундзір з чатырма сярэбранымі чайкамі на лацканах, з арлом і свастыкай на грудзях, са стужкай ад жалезнага крыжа ў пятліцы нібы пабляклі. Усе атрыбуты войск фельдмаршала Герынга, накінуты на шыю сіні шалік ды залаты пярсцёнак на пальцы ў абстаўленай па-спартанску паўзямлянцы выглядалі недарэчна, па-аперэтачнаму.

Партызаны толькі хмыкнулі.

Начразведкі Васіль заўважыў:

— Яны заўсёды так. Фанабэрацца, фанабэрацца, а дасі добра ў морду — робяцца шаўковымі!

Камісар прамаўчаў. Зарадзіўшы «ТТ» зноў ды сунуўшы яго ў кабуру, Пётр Іванавіч хвіліну глядзеў на палоннага, мяркуючы, што з ім рабіць.

— Ага, страляцца ты не хочаш — збіраешся яшчэ жыць,— павёў гутарку, каб адцягнуць рашэнне.— Тады і гаварыць са «смярдзючымі тыпамі» будзеш. Зрэшты, мы пра цябе амаль усё ведаем з тваіх жа дакументаў, што можаш яшчэ дадаць? Перакладчык, даруй яму хамства — ад гэтых вылюдкаў іншага не дачакаешся.

Адводзячы ад хірурга вочы, немец загаварыў мякчэй:

— Я ўсяго — салдат, гаспадзін афіцэр, і выконваў загад свайго начальства.

— Гэта мы ўжо чулі тут не ад аднаго цябе,— буркнуў камісар.— Загады бываюць розныя, у тым ліку і злачынныя, ты за іх не хавайся, калі трапіў нам у рукі,— нясі адказ. Сюды мы вас не клікалі.

Палонны па-хлапечаму агрызнуўся:

— Вы б мяне ніколі не атрымалі, калі б куля не перабіла маслапровад, пярэдняе шкло ў ліхтары не заліло вадкасцю ад матора, не закрыла пілоту агляд!

Ужо цалкам спакойна Максімаў паглядзеў на палоннага вачыма старэйшага на цэлае пакаленне чалавека і як бы пашкадаваў юнака:

— Так ці інакш, а — збілі. Нашы хлопцы малайчыны — з такой зброі зрабіць гэта не проста. А ты, пілот, шчаслівчык! Тарарахнуцца з трохматорнай махінай у самую гушчыню лесу на такой хуткасці ды застацца цэлым? Сам разумееш, такое бывае не часта. Давід Хануілавіч, пацікаўся, чаму яны ішлі гэтак нізка над лесам, што іх прымусіла, у немцаў жа цвёрды маршрут?!

Гофман успомніў, як папрасіў пілота весці самалёт ніжэй, і пра ўсё расказаў.

— Вашы лётчыкі не ведаюць, што адбываецца на чыгунцы Полацк — Ідрыца — Дно? — ажывіўся камісар.— Неверагодна!

З трафейнага планшэта Пётр Іванавіч выняў лётную карту, разгарнуў на нямецкіх рукзаках ды кіўнуў штурману падысці.

— Глядзі сюды! У нас тут квадратам сто на сто кіламетраў партызанскі край — «Расонская рэспубліка». Вермахт рассякаў яе на дзве часткі ланцужком бункераў: уздоўж чыгункі да самай Ідрыцы сядзелі вашы гарнізоны — часці вермахта, жандармерыі і бобікі. Гэта нам надта невыгодна, таму пуць мы ліквідуем. Шпалы, рэйкі адвозім прэч, палатно раскопваем, масты ўзрываем — на працягу ўсіх ста кіламетраў. Гарнізоны з бункераў самі паўцякалі, а месцамі вытурылі іх мы. Цяпер нямецкіх апорных пунктаў тут няма.

Гофман з заклапочаным недаверам думаў. Камісар яго зразумеў:

— Хочаш спытацца — ці пад сілу такое «лясным бандытам»? У нас ідзе вайна народная. На пуць выйшла ўсё насельніцтва і зараз — дабіваем апошнія кіламетры, нам ужо не зможа перашкодзіць нават сам ваш фюрэр. Так, ёсць чаму дзівіцца. Пра гэткі подзвіг калісьці будуць толькі чытаць у хрэстаматыях. Яшчэ хочаш спытацца: калі мы разбіралі пуць, што рабілі немцы? Ветка вам ой як патрэбная, вазіць — унь сюды, пад Ленінград, Дзямянск, Волхаў войскі, амуніцыю, харчы. Спачатку вашыя спрабавалі перашкодзіць, ды не хапіла сілы, пакінулі нас у спакоі.

Штурман стаяў перад камісарам, нібы вучань перад экзаменатарам — увесь падцягнуты, абцас да абцаса,— і слухаў. Пётр Іванавіч хвіліну яго разглядаў. Толькі зараз

кінуліся Максімаву ў вочы яго шыкоўныя чаравікі з жоўтай скуры, бліскучыя крагі ды адпрасаваныя электрычным жалязкам, мабыць у аэрадромнай гасцініцы, нагавіцы.

— Ты цяпер, відаць, будзеш ужо спяваць пра ўсё? Зрэшты, ясна і так: машына ішла ў «Дзямянскі кацёл». «Рамушаўская гарлавіна» прастрэльваецца савецкай артылерыяй наскрозь, грузы ў абкружаную шаснаццатую армію возіце транспартнай авіяцыяй. Нічога, неўзабаве дабярэмся і да Дзямянска. Але цябе ўжо гэта не датычыць.

## 8

Камісар на хвіліну змоўк. Ён ламаў галаву — што рабіць з палонным, які для партызан ствараў клопат у лесе.

Вось тут і выскачыў Ладо.

З усёй жывасцю паўднёўца грузін папрасіў:

— Таварыш камысар, дай ёго мнэ!

— Для чаго? — здзівіўся чалавек.

— Нэт з каго пысаць фашыста! Натура нэт! Он мнэ во так нужэн дла картына! Нэміц як спэцыялна для мінэ пасланы Гітлэрам, таварыш камысар, глады на ёго!

Партызаны стрымана зарагаталі.

— Зачым сміётэсь?! Ха-ха, ім смэшна!.. Пётр Іванавіч, чылавекам будзь, аддай ёго мнэ!

— Ладо, ты думаеш над тым, што гаворыш? — паспрабаваў абразуміць разведчыка Максімаў.— Хануілавіч, спытайся ў немца, ці даўно ваюе.

Штурман адказаў хірургу:

— Пяць гадоў.

— На якіх франтах служыў?

— Прымаў удзел у польскай кампаніі, у пакарэнні Францыі, Югаславіі. Вазіў дэсантнікаў на Крыт. Апошні час служыў у Афрыканскім экспедыцыйным корпусе, у генерала Рэмеля. У сакавіку перакінуты сюды. Прыпісаны да Полацкага палявога аэрадрома.

— Узнагароды?

— Жалезны крыж. За аперацыю на Крыце.

— Нацыянал-сацыяліст?

— Так точна!

— Адданы Гітлеру?

— Яволь! — штурман, не задумваючыся, шчоўкнуў абцасамі і выцягнуўся ў струнку.

— Бачыш?! Нічога, што іклаў не мае — заядлы фа-

шыст! Яму ўсяго дваццаць пяць, а вытрэніраваны, спрытны, бы Тарзан. На хвіліну мы яго тут зламалі, але гэта няважна. Пры першым зручным выпадку цябе ён, дарагі Ладо, проста заб'е ці зарэжа!

— Пачыму — «уб'е, зарэжа»?! — з абурэннем прыстаў да камісара абражаны грузін.— Які такі «выпадак»?! Пачыму ён — лоўкі, спрытны, а я не лоўкі і не спрытны?! Я — палена, курыца, не заб'ю і не зарэжу, так?! Ён мінэ будзе забіць, а я вокам гладэць, так, па-твойму?! Ён — Тарзан, а я — заіц, так? Гытлэр мінэ забіў, так?! Нэміц сылны, был на фронце, а я не сылны, на вайне не был, так?

Разведчык ірвануў на грудзях гімнасцёрку і агаліў валасатую грудзіну з ружовымі шрамамі.

— Гляды сюды, камісар! Гляды, гляды! Ён на фронце быў, а я на фронце нэ ваяваў, так?! Ён — Тарзан, бог, спартсмен, атлёт, мінэ ўб'е?! Ён і Васыля ўб'е?

Ладо кінуўся да брата краснапольскай Ніны, падняў у яго край гімнасцёркі і тыцнуў у ружовыя шрамы.

— І Васыл нэ быў на фронце, толькі адын нэміц быў?! Толькі адын нэміц — Тарзан, бог, Апалон?! Толькі фашыст спрытны?! Пачыму нэсправедлыва гаворыш, камысар, пачыму нэміц так хваліш?!

— Ладо, не псіхуй! Падкідыша з дзетдома на выхаванне просіш? Немца ж вартаваць трэба! Вам, разведчыкам, другой работы не будзе, думаеш, як толькі нянчыцца з ім дзень і ноч? Унь Аляксей Майсеевіч з Барысам Паляжаевым прывезлі з Адамава абсталяванне для другога млына. Трэба для яго тэрмінова выкрасці ў немцаў на льнозаводзе дынамамашыну ды электраматор. Ноччу пасылаю пяць разведчыкаў на льнозавод, а колькі вас застанецца? Сцерагчы такога атлёта, думаеш, проста?

Раззлаваны грузін шпурнуў кубанку аб падлогу.

— Што ты гаворыш, камысар?! Брыгадны развэдка аднаго фрыца нэ ўкараулыт, так? Па-твойму, нэ ўкараулым адын чалавек, так? Цьфу-у, таварыш камысар, пачыму нэ вэрыш нам?! Права імэіш нам нэ вэрыць?! Нэ імэіш!

Партызаны зноў зарагаталі.

Разведчык вылаяўся па-грузінску.

— Таварыш камысар, чэлавэкам будзь, Пётр Іванавіч! Ва-ай, натура какой харошый, погляды на ёго — вылыты нэміц-фашыст!

— У лагеры не можаш падабраць здаравейшага? Унь Каралёў Раман альбо Ваня Іваненка — па метру дзевя-

носта! Папоў яшчэ даўжэйшы! Апрані іх адпаведна — мундзіраў нямецкіх не знойдзеш?

— Ы-ы-ых, таварыш камандзір, што ты гаворыш?! Раман Егаровіч мундыр нымэцкі апране? Іванэнка мундыр фрыца адзэне?.. Ныхто нэ хоча пазыравать фашыста, ныкога нэ ўпрашу! Всэх, всэх просыл, трофэйны папырос даваў, самагонка сколькі хочаш — ныхто нэ згадылса, а гэты — фашыст гатовы! Таварыш камысар, ён як спецыялна Гытлэрам прысланы!

Камісар пасмейваўся над мастаком, забаўляўся, бы з малым, а сам увесь час думаў.

На самай справе, што рабіць з палонным? Пакінуць у лесе проста так? Лішні клопат. Дзе трымаць, як вартаваць? Выклікаць самалёт з Вялікай зямлі? Там засмяюць — які сэнс гнаць дэфіцытную машыну з-за фронту сюды, ставіць пад смяротную небяспеку экіпаж з-за аднаго немчыка? Штурман — не фігура.

Ды і не адпускаць жа яго на ўсе чатыры бакі — абрыдлая люфтвафэ павялічыцца яшчэ на аднаго ворага. Чакаць падыходу камандзіраў? А што прыдумаюць яны?

Найразумней — расстраляць гітлераўца з-за мільёнаў пакутнікаў, што церпяць, акрываўленыя гэткімі ж бравымі галаварэзамі, на вялізным прасцягу ад Ледавітага акіяна да Чорнага мора, ад Парыжа да Віцебска...

## 9

І ўсё ж такі камісар аддаў немца разведчыку.

Супакоены Ладо павёў штурмана да сябе.

Насуплены палонны да самага вечара прасядзеў на нарах, не могучы забыць выпадку з пісталетам. Не ўзяўшы «ТТ», ён потым стаяў перад партызанскім начальнікам, як з голым азадкам, адказваў завучана на пытанні ды гарэў ад няёмкасці. Колькі ў штабной зямлянцы было той размовы? Мінут з трыццаць. І гэтага хапіла, каб Гофман назаўсёды запамятаў, што такое сорам. Не цешыла ўжо, што не прыкончылі.

К канцу дня кацялок з вячэрай прынеслі з партызанскай кухні і палоннаму. Елі моўчкі.

Герашвілі на правах галоўнага мастака ў брыгадзе меў асобнае памяшканне і цяпер задумаўся, як удвух будуць начаваць. Намерыўся паабразаць палоннаму гузікі ў нагавіцах, ручніком звязаць рукі і ногі ды пакласці немца спаць паміж сабой і печкай, але потым перадумаў.

Герашвілі вывеў палоннага на расчышчаны ад лесу ўзгорак, дзе выстраіліся радочкі накрытых яловай карой буданоў ды цягнуліся пасыпаныя жоўтым пясочкам дарожкі. На мешаніне грузіна-беларуска-рускай моваў, ублытваючы нямецкія словы, дапамагаючы сабе яшчэ рукамі і мімікай твару, Ладо растлумачыў немцу: уцякаць няма чаго і думаць — зловяць усё роўна, тут не акупаваная тэрыторыя, а — зона вольнай «Расонскай рэспублікі» з Савецкай уладай, майстэрнямі зброі, млынамі, пякарнямі, шпіталямі, сістэмай сувязі ды варты.

Немец выслухаў свайго збаўцу моўчкі.

Завёўшы палоннага ў суседні пакой, дзе былі прылады да малявання, Герашвілі загадаў яму класціся на салому, папярэдзіў: пры падазроным руху — страляе праз сценку. І цераз акно няхай, барані бог, не думае ўцякаць — на вуліцы застрэліць кожны партызан.

Палонны пакорна вымавіў:

— Яволь!

## 10

Раніцой да іх зазірнуў Нінін брат — Васіль. З трывогай адчыніўшы дзверы, спытаўся:

— Ці хоць жывы тут гэты дурань, ці не задушыў яго фашыст?

— Не бойся! — супакоіў Герашвілі.

— Ха, ты глядзі — жывы!.. Айда снедаць!

У кухонны будан Ладо павёў і палоннага.

Сустрэчныя партызаны інстынктыўна ад іх шарахаліся. Хлопцам было цяжка зміры цца з тым, што па іхнім лагеры зусім сабе звычайна ходзіць самы сапраўдны гітлеравец — гладкі, у новенькім мундзіры ды з ненавіснымі адзнакамі — арлом і свастыкай на грудзіне. Гэтае дзіва ўсе праводзілі з недаўменнем вачыма ды ківалі галавой.

Палонны ўжо схіліўся над кацялком з партызанскім «ратутуем», як у будан увайшоў камісар Максімаў. Немец адразу выцягнуўся перад ім на струнку.

— Ужэ выслужваешся?! — раззлаваны Ладо тузануў яго за рукаў.

Але немец не паслухаў Герашвілі. У паставе палоннага і намёку не было на салдафонскае выслужванне. Самавіты яго твар і сур'ёзныя вочы выказвалі адначасна пачуццё ўласнай годнасці і пашану да начальства.

— Прывітанне, хлопцы! — кінуў Пётр Іванавіч ды паспачуваў: — Што, і сёння суп без солі?

Дружны хор адказаў:

— Зусі-ім прэсная вадзіца!

— Прызвыча-айваемся памалу, таварыш камісар!..

Максімаў уздыхнуў:

— Давядзецца пацярпець, покуль вернуцца нашыя з Латвіі.— І толькі цяпер убачыў выцягнутага на струнку немца, здзівіўся: — Ха, бы ў сябе ў афіцэрскім казіно ў Полацку!

— Пасадзілі б яны нашага за стол разам з сабой, таварыш камісар! — заўважыў Васіль.

— Гэта ўжо іншая справа... Ладо, ты ў яго хоць свастыку спароў бы!

— Намалюю патрэт, камысар, тады! — непарушна заявіў той.

А палонны стаяў да той пары, покуль камісар не сеў.

Пятру Іванавічу прынеслі снеданне. Камісар нахіліўся над сваім «рататуем», узяўся за ежу і немец. Ён еў без апетыту, але рабіў выгляд, што бытта знаходзіцца ў люксовым рэстаране і ў пагнутым кацялку быў суп з марской чарапахі, а не навар з каніны.

Паводзіны палоннага не засталіся без увагі.

Разведчыкі адразу прыціхлі, нібы прысаромленыя. Стараліся не сёрбаць, не шпурляць, куды папала, касцей, пачуліся жарты — хоць і з «барадой»:

— Набірай, братка, у сябе, набірай: што ў цябе ў жываце, не адыме і цёшча!

— Ешце, хлопцы, ешце тут, на тым свеце не дадут!

Толькі на Герашвілі гэта ўражанне не рабіла. Думаючы нешта сваё, Ладо старанна падчысціў посуд, выцер рукой вусны. Спахапіўшыся, кіўнуў немцу:

— Ком!

## 11

Покуль разведчык вешаў на бярозкі карціну, немец уважліва прыглядаўся да намаляванай дзяўчыны. Паспрабаваў кіпцюром фарбу, палатно. Нечакана загаварыў, дапамагаючы сабе жэстамі ды мімікай твару.

Штурман з недаверам у голасе спытаўся:

— Алё, гэта намаляваў — ты?

Герашвілі якраз чапляў на сучкі раму, паварочваў яе бокам да ветру, так і гэтак прыкідваў, ці роўна вісіць

карціна, ці будзе яму зручна падступіцца з пэндзлем, глядзеў, адкуль падае святло.

Немец не адставаў.

— Слухай, рускі, ты — мастак? Гэта работа — твая? Скажы,— твая?

— Нэ мая! Нэ мая! Нэ мая!.. Гэта — ваша работа, фэрштэен?! Такога дзікунства мы рабыць не змаглы б, фэрштэен? На такую работу здолны толькі вы са сваім Гытлэрам!

Іронія партызана да немца дайшла.

— Я-а...— праказаў ён вінавата.

Падлятаючы ад палатна з кулакамі, Ладо пачаў са злосцю крычаць на ўвесь лес па-грузінску. Немец пакорна яго слухаў, нібы ўсё разумеў, ківаў галавой ды ўсё цвярдзіў:

— Ах, зо, зо-о!.. Я, я-я!.. Іх фэрштэ-эе!..

— Ужэ — фэрштэіш?!

— Зо-о!..

— Атрымаеш у нас шчэ не адну навучку, рыхтуйся фэрштэіць далей!

— Я, я-а!..

Вакол іх умомант сабраўся вялізны натоўп. Маляванне карціны цяпер абяцала яшчэ больш моцныя ўражанні. Людзі чулі, як Ладо адукоўваў немца, пазіралі на незвычайную пару ды насцярожана чакалі, што ж будзе далей.

А мастак нібы не заўважаў нікога. Замацаваўшы палотнішча і ўволю пакрычаўшы на гітлераўца, узяўся за «натуру».

Першым чынам Ладо з-за халявы выняў даўзёрную, пазычаную ў хлапчукоў драўляную фінку ды піхнуў яе ў рукі немцу. Затым, выбіраючы адпаведныя ракурсы, пачаў ставіць немца да сябе то спіной, то ў профіль, то ў фас, а кулак з пафарбаванай чырвонымі ягадамі фінкай прымушаў трымаць так і гэтак.

Людзі моўчкі сачылі за кожным рухам грузіна. Малыя аж елі немца і мастака вачыма,— бытта хацелі наглядзецца на ўсё жыццё.

К таму часу зняволеныя ворагі ў лагеры ўжо бывалі.

Пасля разгрому Дутчынскага гарнізона партызаны прыгналі ў лес нават адзінаццаць немцаў. Адзін з гэтых ахвотнікаў заваяваць Маскву і ўсю Расію хварэў на курыную слепату і бездапаможна тыкаўся то на сценку, то на дрэва, то на сваіх сябрукоў, выклікаючы ў партызан задаволены рогат.

Падчас другога разгрому Дутчына прывялі ў лагер дзевяць уласаўцаў. У жаўтаватых мундзірах чужога крою напалохана тоўпіліся звычайныя славяне з кірпатымі насамі, а сярод іх — рускі фельдфебель з трыма кубарамі. Наткніся на такіх сваячкоў ля гарнізона, калі яны са зброяй ды іх многа!

Другім разам партызанскаму раз'езду трапіўся нямецкі танкіст. Разведчыкі ўзялі яго жывым, звязалі і — у штаб на допыт...

Прадстаўніка ж авіяцыі, з якой усе мелі асабістыя парахункі, бачылі ў лагеры ўпершыню.

Вось ён — адзін з той агалцелай зграі, што ганяла іх, як зайцоў, пры адступленні па палях і кюветах, што разносіла ўшчэнт жыллё і машыны, паліла жыты, тарады і вёскі. Нямецкі капітан з двума сябрукамі, аблепленыя мурашкамі і мухамі, яшчэ валяюцца ў гушчары, а гэты рызыкант — перад табой. Глядзі сабе на яго колькі ўлезе. Можаш нават і рукой пакратаць. Калі ж маеш ахвоту, схадзі яшчэ і ў лес ды пакратай знявечаную трохматорную махіну...

Толькі здалёк яны здаюцца непераможнымі ды страшнымі, на самай справе ўся іхняя люфтвафэ не такая!

Над лагерам ад золаку да вячэрняй зары вісела «рама», і да яе гудзення партызаны прызвычаіліся, як да камарынага дзынкання. «Рамы» пачалі ганяцца ўжо і за адзіночнымі партызанамі. На разведчыка Іваненку нахабніца пульнула каністру гаек і цвікоў. Але сёння злавеснага ценю над соснамі адразу не стала. Адна машына пасля абеду ўсё ж такі з'явілася, аднак забралася высока, ледзь не ў стратасферу.

У наступны дзень «рамаў» уверсе снавала ўжо нават па некалькі. Сляды інверсій ад матораў адмысловымі стужкамі распісалі ўвесь небасхіл, бытта невідочны павук закінуў на купал неба вялізную з шалёнымі выкрутасамі павуціну ды рыхтаваў ужо засаду. Не, з лагера покуль што да іх туды не збіраўся ніхто. Але ж злавесны павук з такой вышыні і партызанам не мог нічога зрабіць.

## 12

Паставіўшы нарэшце «натуру» як яму хацелася, Ладо ўзяў за вочапку вядзерца з разведзеным гудронам, пэндзлік і на пустое месца палатна размашыстымі мазкамі пачаў наносіць контуры забойцы сваёй нявесты. Партызаны глядзелі на яго работу з суровай пашанай. Каб не перашка-

джаць мастаку, заўвагамі абменьваліся шэптам. Толькі часамі не вытрымлівалі — расчулялі адны адных ды ўзбуджвалі сябе да такой меры, што пераходзілі на крык.

З драўляным малатком у руцэ ішла якраз ад батарэі гаўбіц гарбаносенькая прыгажуня. Падышоўшы да бярозак, уражаная, замёрла.

Аляксандра Папляцяева, што цудам уцалела ад расстрэлу ў Пакоціне, падкалола артылерыстку:

— І ты на яго заглядваешся?

— Хіба нельга? — агрызнулася тая.— Чаму не падзівіцца,— ён жа таксама мужчына!

Кабеціна завялася:

— Глядзі, глядзі!.. Паголены, гладкі, ладны, з залатым пярсцёнкам на пальцы, праўда? Во такія заганялі народ на расстрэл у нашай вёсцы! Да адзінага чалавечка сагналі пад бярозкі! Дамавін нават не было каму нарабіць! Заглянулі вечарам у сяло партызаны, а — ні жывой душанькі! Мужчыны паклалі сясцёр ды мацярок у шафы, куфры ды гэтак, бедных, пазавальвалі ў яры! Памру, а на такую сvalату дзівіцца не стану, хіба як заб'юць!

На падмогу Папляцяевай прыйшлі іншыя.

— А над Нінкай хіба не такія здзекаваліся?! І трэба ж — дзеўку жывую рэзаць, каб ваўкі вас парэзалі! Паказвай ідзі свой спрыт на партызанах ці на фронт валяй, калі так свярбяць рукі, а не — на бабах ды дзецях!

— Шчэ і вучыцца калісьці хадзілі, школы канчалі, настаўнікаў сваіх мелі!

— Такія бандыты перад вайной адно ў вялікіх гарадах гарцавалі! У газетах пісалі, як міліцыя іх ловіць!..

У Настусі з Краснаполля сын пад Лідай трапіў у палон. Цётка з перадачай хадзіла аж пад Гродна, ды той лагер з палоннымі немцы вывезлі ўжо ў Германію. Цяпер яна з далёкім прыцэлам, што ў Нямеччыне якая-небудзь пажылая немка гэтаксама будзе апекавацца яе Міколкам, заступілася за немца:

— Бабы, навоста на яго нападаеце?! У Пакоціне і Краснаполлі зусім інсыя народ мардавалі! Гэты нават і не чуў, пэўне, пра тое! Ён узо і так пакараны — адзін сярод цузых, з неба, нясцасны, падаў!

Жаласлівасць Насці толькі разварушыла астатніх. На бабку накінуліся з усіх бакоў:

— І ў тых на лобе не было напісана, што звяры!

— Паплач над ім, паплач!

— А каторыя Краснаполле нішчылі! Калі ўпершыню

прыйшлі ў сяло, мы і паверыць не маглі, што такія здольны жывых людзей у калодзеж кідаць!

— А ты, дзед, чаго маўчыш? Архіп, раскажы, хто цябе ў агонь піхаў — ці не такія ладныя гіцлі? Раскажы, дзед, што вычаўплялі ў тваёй Баканісе, покуль да нас, у Пакоціна, не адправіліся!

З абязвечаным апёкамі тварам «дзед» меў усяго пад пяцьдзесят. Калі ў яго вёсцы падпалілі перапоўнены народам дом, мужчына ўціснуўся пад канапу, дзіўным трафам не згарэў ды не задыхнуўся — адзіны сведка жудаснай гісторыі. Уражаны смерцю жонкі, Архіп паўгода праваляўся то ў сялянскіх хлеўчыках, то ў партызанскім шпіталі. Зараз чалавек і праўда выглядаў на знямоглага старога.

Аднак Архіп цяпер не слухаў, што гаворыць жанчына. Дзядзька ўпарта глядзеў спадылба на немца з драўлянай фінкай, цяжка соп ды нешта сваё, надта цяжкое думаў.

А гаваркія бабы бытта ўсё чыталі і чыталі палоннаму абвінаваўчы акт.

— Шчэ і шкадуеш іх! — папракнула самая жвавая кабета бабку Насцю.— А што яны з Фадзеем-музыкантам зрабілі?! Сляпы Фадзей, бывала, перакіне цераз плячо свой гармонік і ходзіць з хрэсьбін на вяселле босы. Чалавек быў добры, рахманы. Спытаеш яго, чаму не абуваецца, а ён: «Так зямельку лепш адчуваю — бачыш, без кіёчка хаджу!» Нехта данёс у камендатуру, што музыкант — партызанскі сувязны. Прыехалі ў нашыя Малыя Асеткі немцы і давай сляпога бізунамі караць. Тады сагналі ўсю вёску, каб усе глядзелі, што нас чакае за сувязь з партызанамі. Запіхнулі Фадзея ў хлявок ды падпалілі. Музыкант з сенавала вывалак гармонік і ўрэзаў «Інтэрнацыянал», а такі во малады афіцэр нямецкі, бы гэты лётчык, спахапіўся — фотакартка будзе надта добрая! — пабег да машыны за апаратам. Калі вярнуўся, нельга ўжо было нічога разабраць: хлеўчык вышчараўся чырвонымі кроквамі, паміж імі шугала полымя, хоць яшчэ і чуваць было слабенькі голас гармоніка. Мы, бабы, усе, як адна, галосім, а немец, каб на яго халера, злуе — упусціў, бачыце, надта добры здымак!

— Ах, бо-ожа, мо і майго старэйшага, што ў войску, такія вылюдкі таксама зні-ішчылі!

— Мая ты Ве-ерацка, а з цябе таксама недзе здзеекаваліся, белыя руцанькі выкру-уцвалі, мілы тварык твой паганы бру-удзілі, а я нават магілкі тваёй не ве-едаю! — ужо мацней загаласіла цётка з Пакоціна.

Жанчыны бытта чакалі каманды. Кожная мела сваё гора, бабы ўзнялі жудасны лямант, дзе ўжо не разабраць было слоў.

Збіраючы факты для гэтай гісторыі, папрасіў я і Герашвілі апісаць той самы момант.

З пісьма Ладо выходзіла — лямант з толку мастака не збіваў. Вось што ён напісаў мне:

«Бабы — сваё, а мяне якраз апанавалі камары, заразы, бо яшчэ не прыпякло сонца. Ніхто з цётак не здагадаўся ўзяць галінку ды зганяць з мяне крывасмокаў. З лютасцю клаў я на палатно гудрон, ляпаў сябе, куды мог дастаць далонню, размазаў па твары кроў, а праклятыя крывапійцы насядалі яшчэ больш. Але ж ва мне было столькі лютай энергіі, што звяртаць увагу на такое глупства не было калі.

Спачатку камарыны звон гучаў ва ўнісон бабскаму лямапту. Паступова да мяне іхняе выццё стала даходзіць як цераз імглу ці праз сон — якраз вырысоўваўся вобраз. Бытта з усяе сілы трымаў я ўжо загрудкі забойцу, бытта я ў сваёй Калхідзе на пахаванні Ніны, бытта з маёй вёскі збегліся ўсе бабы ды над вухам у мяне прычытаюць над нябожчыцай па-грузінску:

— Ва-а-а-ай!..»

Паступова жанчыны супакоіліся.

Цётка Насця прынесла з кухні саганчык з новай бульбай. Калі разгарнула з цёплай хусткі ношу, з саганчыка яшчэ валіла пара. Разумеючы добра, што аднаму немцу пачастунак даваць не выпадае, старая схітрыла:

— Ладо, ты ўсё малюес і малюес — адпацні крыху! Адпацні-і! Вазьміце, хлопцыкі, мае бульбацкі, паспрабуйце, свезанькай!.. Ноццу хадзіла ў Краснаполле капаць... Сцэ не надта, але ўзо мозна есці... Са свайго агарода...

Усім стала няёмка, а найбольш — немцу.

Аднак Ладо не раздумваў. Выцершы рукі аб верас, зачарпнуў жменяй бульбіны — маленькія, бы галубіныя яйкі. Загадаў свайму падапечнаму:

— Эсэн!

Яшчэ нядаўна так разлютаваных жанчын цяпер бытта хто падмяніў. Пабурчэўшы на сваю дабрату, учынак бабкі Насці яны ўхвалілі.

— Вільгельм, эсэн! — паўтарыў Ладо.

— То вазьмі, калі яна наварыла — гэтак старалася! — асцярожна параіла нейкая цётка.

— Еш, сынок, еш! — падагнала бабка.

Палонны вінавата падпарадкаваўся — няўпэўнена тыц-

нуў у бульбіну драўляным нажом з засохлымі слядамі чырвоных ягад, няўпэўнена паднёс пачастунак да рота.

Прырода чалавека такая, што кабеты з прыемнасцю глядзяць на мужчын, якіх яны кормяць. Праз хвіліну яны ўжо дружна прыставалі:

— Еш, што ўжо зробіш, калі так выйшла! Чаго ўжо там...

— Наядайся, калі даюць, бо як яно там будзе, невядо-ома!

— Ніцога! Усё, дасць бог, у цябе нала-адзіцца! — падбадзёрвала яго асмеленая бабка.— Вайна хутка скончыцца, і ты к сваім дабярэсся! Дабярэ-эсся, ніцо-ога!.. Толькі цярпі, сынок, не задзірайся тут, барані бог, з нацальствам, партызанам саступай даро-огу!

## 13

Праз два тыдні палонны схуднеў, а ўвесь яго лоск еўрапейскага турыста з вайсковай фірмы «Вермахт» некуды падзеўся. Аднак скардзіцца на кепскія адносіны да сябе не мог. У лагеры бліскалі ў яго бок злоснымі вачыма, аднак адкрыта не насміхаліся.

Гофман за партызанамі прызнаваў права на такое абыходжанне і павёў сябе ў палоне лаяльна. Што ж, у яго і тут праявілася рыса характару людзей яго нацыі.

*Хто калі чуў, скажыце, пра бунт нямецкіх палонных?!*

І Гофман скарыўся сіле, пачаў трымацца прынцыпу: калі папаўся ўжо, буду цярпець ды несці свой крыж. Пасля ж таго, як на працягу паўгадзіны некалькі разоў развітваўся з жыццём, паспеў адчуць яго вартасць і стараўся адносіцца да яго з разважлівасцю сталага мужчыны.

Цяпер, вярнуўшыся ад карціны, немец браўся калоць дровы. Крышыў іх на кухні і меркаваў, чым яго накормяць — супам з мясам ці голым крупнічкам, пасоленай стравай ці без солі.

Вечарам змагаўся з машкарой, перад сном так і гэтак укладваў пацёртую на сечку салому ды масціў сабе ложак.

Насцярожана сачыў, ці разведчыкі не гавораць пра яго кепскае.

А на душы ўвесь час яго мучыла загадка — што з ім будзе, калі грузін гэтую самую карціну намалюе. Назаўтра ля палатна, застыўшы зноў з драўлянай фінкай у руцэ, не падаючы і віду, пільна лавіў рэплікі зявак, вольнай рукой адбіваўся ад камароў, а ў ачышчаных жудасным страхам

мазгах яго бурліў складаны працэс ацэнак і пераацэнак.

Тым часам навіна, што Ладо на ўзгорку малюе з жывога гітлераўца забойцу сваёй нявесты, паступова партызанам прыелася. Іх сталі займаць больш важныя клопаты. Толькі часамі воддаль ад палоннага застывалі ненасытныя ў сваёй цікаўнасці хлапчукі.

Яшчэ ля бяроз затрымліваліся партызанскія «інтэлектуалы». Тады пачынаўся разбор вайны, паводзін немцаў, ліхадзея Гітлера ды яго нацыстаў. Гэты разбор адбываўся, як бы мы сёння сказалі, па «вялікім рахунку».

Удзельнікам такой дыскусіі не трэба было вышукваць яскравых і рэдкіх фактаў, архіўных ці бібліятэчных матэрыялаў: тое, што перажылі жыхары лагера над Дрысай, што яны бачылі, і лягло потым у гэтыя самыя архівы, запоўніла бібліятэчныя фаліянты, музеі.

Дакопваючыся да метамарфозы, якая адбылася з захопленым партызанамі Расоншчыны нямецкім штурманам-радыстам з «Юнкерса-52», я апытаў столькі ўдзельнікаў тых падзей, сабраў такую колькасць успамінаў і дакументаў, што адну такую сцэнку бяруся нават апісаць.

## 14

Міма бярэзінкі з незвычайнай карцінай праходзіў хірург з начальнікам медслужбы Паповым, камандзірам узвода Антонавым ды начальнікам разведкі — Нініным братам. Грузін лячыўся ў хірурга ад кантузіі, цяпер яму ўзрадаваўся.

Партызаны прыселі на верас.

Захоўваючы субардынацыю і насцярожанасць, бытта баючыся, што нехта яго знячэўку ахлабучыць, палонны апусціўся на бервяно непадалёку. У гушчары елак сумна цінькала сінічка. На балоцечку ля Дрысы, якое аж кішэла жабамі ўраджаю 1942 года, пахаджвалі сабе мажныя буслы, нявінна сохлі свежыя пракосы, а далягляд закрываў масіўны грэбень сіняга лесу, куды ён грымнуўся з трохтоннай машынай.

Палонны акінуў позіркам усё, нібы звычайнае і так чужое, а душа ад суму па радзіме аблілася крывёю — хацелася завыць. Каторы раз падумаў:

«Навошта такая недарэчнасць, чаго я тут?!»

— Шчэ не ўцёк? — пакпіў Папоў, разглядаючы панылую фігуру немца, яго начышчаныя боты.

— Толькі паспрабуе! — запэўніў мастак.— Во всэ стораны — нашы люды!

Вялізны і павольны камузвода Антонаў буркнуў:

— Колькі часу тут, а мы мірна ўжываемся — хто б мог падумаць?!

Загаварыў не меншы ростам студэнт Ленінградскага медінстытута Папоў — уцякач з Дзвінскага лагера палонных:

— Не напрыкрыць вам, разведчыкам, кожную секунду быць з ім начаку?!

— Я бачу ў такой сітуацыі і карыснае,— растлумачыў начальнік разведкі.— Пастаяннае сутыкненне з такім тыпам стварае атмасферу небяспекі, трэніруе, абвастрае ўвагу, не дае маім хлопцам закіснуць.

Грузін стукнуў сябе па лбе.

— Ха, успомніў, што ад цябе, Хануілавіч, хацеў! Панымаіш, брашу па-іхняму тое-сёе, але аб складаных справах дамовіцца шчэ нэ магу. Пацыкаўся ў штурмана, што ведае пра сучасных сваіх мастакоў.

Палонны гаварыў па-англійску, французску, італьянску. У лесе абставіны прымусілі паліглота схапіць ужо сотні руска-беларускіх слоў, асвоіць цэлыя звароты — для яго шмат гаварылі інтанацыя ды выраз твару. Цяпер ні адзін гук не праходзіў міма насцярожанай увагі немца. Невядомы былі асобныя словы, але Гофман улоўліваў іх сэнс па агульнаму напрамку гутаркі, перападу настрояў.

Покуль што ён ніякай пагрозы не адчуваў і ахвотна загаварыў:

— О, жывапіс у нас — каласа-аль, створана многа! Дзякуючы свабодзе, якую мастакі ў нас заўсёды мелі! Цяпер жа атрымалі люксовыя ўмовы — іх нават да войска не бяруць! Атрымліваюць раскошныя пайкі, маюць па дзве-тры машыны!.. Самае вядомае палатно зараз — Ганса-Шмітца-Віцдэнбрыка «Рабочы, селянін і салдат». Ага, яшчэ Пауль Маціс Падуі выставіў у Берліне новую работу «Жанчына і лебедзь». Едучы ў адпачынак цераз сталіцу, я заходзіў глянуць на яе. О-о, вундэрбар!

Ладо аж ускочыў з вераса, пачаў пляваца:

— А ты ведаеш, што ў нашым Вытэбску радывся Марк Шагал і был камысарам ад мастацтва па губерні? Па загаду Луначарскага адкрыў нават Акадэмію мастацтва ў Вытэбску! Всэх вашых мастакоў Гытлэр у канцлагэрах душыць, у іх там «каласа-аль» вілы ды пайкі! Ведаю і эты картына Матыса: лебідзь і голая баба, вай — мастацтва!

Вясной захапілі нашыя гарнізон у Расонах, эты картына был у кожны нямецкі пакой! — Разведчык кінуўся ў памяшканне, вынес абшарпаную супроцьгазавую сумку з выразкамі з «Берлінэр ілюстрыртэ»: — Во, гытлэравіц, твой «Лебідзь і жанчына»! Пра эты картына гаварыў? Гэты — култура, так? Жарабцы могуць любіць эты картына!

Дарэмна Ладо прымаў усур'ёз словы палоннага.

На допыце Гофман фанабэрыўся яшчэ і тым, што супраціўляўся недобразычлівай атмасферы, што яго абкружала. Калі ж не стала варожасці, немец пачаў хіліцца, бы той слуп, з-пад якога выбілі падпорку. Вырваны з напружанай атмасферы дзелавітасці, грандыёзных планаў, Paradenschriett[1], пераможных фанфар, лозунгаў аб велічы германскай нацыі ды неперgranможнасці нардысцкай зброі, недурны ізгой паволі тапнеў, вяртаўся да першаасноў і карэнняў, пераўтвараючыся ў чалавека, які займеў толькі рукі, ногі, страўнік ды нанова стаў пазнаваць холад і голад, святло і цемру, дабро і зло.

Гофман і сам адчуваў, што пляце пра нямецкае мастацтва без перакanання, а другім паверхам мыслення нагадаў сотні карцін, што праглядзеў у Рыме і Амстэрдаме, Бруселі ды Варшаве. Успомніў ён і натоўпы салдат у берлінскім «Шпортпаляцы» ля палатна «Жанчына і лебедзь» і ў душы згадзіўся з ацэнкай грузінам палатна Маціса. На сваё здзіўленне, з ранейшымі поглядамі на творчасць безапеляцыйнага аўтарытэта трэцяга рэйха развітваўся абыякава.

Чарнявы лесавік яму напомніў пра тое, што Гофман ведаў і сам, але з-за фальшывага пафасу, у якім дагэтуль штурман купаўся, веды свае стараўся заглушыць. Штурман добра памятаў, як перад самай вайной папулярныя мастакі Бекман, Нольдэ, Кірхнер, Какошка, Файлінгер, Клее кудысьці раптам зніклі, а іхнія карціны — сам чытаў потым у французскіх газетах — прадстаўнікі Германіі прадалі ў Швейцарыі на валюту.

Тым часам партызаны палоннаму спакою не давалі.

Васіль пацікавіўся:

— Хануілавіч, ён заяўляў, што адданы Гітлеру. Спытай, за што?

— Гітлер — ратавальнік свету ад бальшавізму і англійскай плутакратыі — раз,— не так ужо ўпэўнена немец пачаў загінаць пальцы, адчуваючы сам, як яго словы гу-

---

[1] Парадната марша *(ням.)*.

чаць зараз фальшыва і ўсё ж такі не могучы пераадолець у сабе нейкага шаблону.— Ён навёў у нас парадак, даў людзям мэту, упэўненасць у сабе — два. Перамог беспрацоўе — тры. Фюрэр дазволіў немцам забыць аб уніжэнні Версальскай умовы — чатыры. Пабудаваў аўтастрады, зліквідаваў сацыяльныя грані — пяць. Узняў крыжавы паход на Усход у імя заходняй культуры — шэсць...

— А што іншых утапіў у крыві, яго не цікавіць — от, дубіна! — абарваў немца Антонаў.— Зараз заспявае яшчэ аб чысціні германскай крыві, міфічнай зямлі продкаў!..

— Ха, яны ратуюць сусветную културу! — выбухнуў Ладо зноў.— І грузынам нясеце културу? У Кахэціі універсітэт дзейнічаў, калі вы яшчэ хадзілі ў бараніх шкурах! Чуў, што такое дэлымэны? Каменныя збудаванні, раўеснікі егіпецкіх пірамід! У дэлымэнах на Каўказе хавалі нябожчыкаў, калі вы яшчэ людаедамі былі! Чыім коштам робіце «веліч нацыі»? Чый у вас бензін, самалёты? Чэшскія, бельгійскія, хлеб — украінскі! Чэхам і французам културу нясеце? Рабунак нясеце, бы ваўкі! У вас і штаб знаходзіцца ў «воўчым логаве», падводныя лодкі на караблі палююць па прынцыпу «воўчай зграі»!

Бергман безнадзейна махнуў рукой:

— Наслухаўся я ад такіх дэмагогіі ў першыя дні вайны шчэ ў Свянцянах. Зрэшты, ужо выдыхаюцца. Загразлі ў нас, бы некалі японцы ў Кітаі і канца не відаць.

— У Германіі моцная авіяцыя і танкавыя часці! — не здаваўся Гофман.

— Мінулай восенню хто пад Кашырай абсёк ваш танкавы «клінок» і зрабіў капут Гудэрыяну? — прыпіраў палоннага камузвода.— Кавалерыйскі корпус генерала Бялова!

Сябры ўжо страцілі да ворага цікаўнасць, перайшлі да лагерных навін і вывадаў. З пункту гледжання сённяшняга дня тыя вывады ды ўспаміны — банальныя, але ж для партызан Расоншчыны лета 1942 яны былі адкрыццём, а размова палоннага кранала за жывое.

## 15

Самая значная падзея ў той дзень — паводзіны абкружанай роты СС у Краснаполлі.

Немцы ўварваліся ў гэтую вёску на світанні распраўляцца з астаткамі насельніцтва, але яно паспела ўцячы ў лес. Брыгады з трох бакоў абкружылі карнікаў, а з чац-

вёртага — мініравалі поле. Бергман чуў у штабе — абкружаныя галадаюць. Раніцой, пераапрануўшыся ў жаночую вопратку, эсэсавец выйшаў у расспелае жыта нарваць каласкоў. Назіральнікі заўважылі пад кофтай аўтамат, карніка скасілі.

Размова перайшла на першыя дні вайны, калі прысутным даводзілася таксама харчавацца каласкамі, пераапранацца.

З пакуначкам набліжалася бабка Насця — зноў несла пачастунак падапечнаму. Ладо кіўнуў, каб не перашкаджала, ды расказаў пра першыя гадзіны трагічнага чэрвеня 1941 года пад Журмунамі.

— Панымаіш, прачынаюся — грукат і зэмлатрасенне! Вылатаім з палатак — склады гарацъ, танкі гарацъ, усюды паныка, нэразбэрыха! Бяжыць са страйбата салдат з нэмэцкай пылоткай у руцэ, крычыць: «Ай, братцы, тыкайтэ, нэміц валіць на нас! Валам валіць і стрэляіт з чагосъ! Кулі сыплюць, як гарохам, я аднаго фрыца сякерай забіў, ай, братцы, тыкайтэ!..»

Папоў расказаў, як у Дзвінскім лагеры суцэльную масу байцоў расстрэльвалі з аўтаматаў, забівалі адзіночнымі стрэламі — проста так, без прычыны. Астатніх палонных вадзілі на савецкія склады паліць зімовую вопратку. З тэхнікумаў, інстытутаў і школ прымушалі выносіць бібліятэкі, кідаць у агонь, а прабіркі з лабараторыяў — у ямы.

Хлопцы дзівіліся: дзе ж славутая нямецкая ашчаднасць, прадбачлівая гаспадарлівасць, дзе адзнакі таго, што немцы — народ філосафаў, вучоных? Тое, як вялі вайну і абыходзіліся з людзьмі, не ўкладвалася нармальнаму чалавеку ў галаве. У Полацку, Віцебску салдаты вермахта на рынках мяняюць на самагонку коўдры, бялізну, шынялі з вайсковых складаў, прадаюць амуніцыю і нават зброю. Ледзь не кожнага «амтс-», «крайскамісара» можаш купіць за залатую манету, сярэбраную лыжку, адрэз сукна ці кавалак шоўку. Каго бяруць у старасты, паліцыю, на службу ва ўправу? Мясцовых крыміналістаў, бандзюгаў, алкаголікаў і люмпенпралетарыяў — людзей без прынцыпу і маральнага стрыжня, уладу будуюць на даносах, інтрызе, падмане і тэроры.

Фанатык штурман гаворыць пра культуру і цывілізацыю, ха!

Немцы прынеслі Еўропе разбурэнне, пакуты, яны поўныя сярэдневяковай пыхі і чванства, высакамернасці і душэўнай глухаты. Спальванне ў будынках ашалелых ад

гора жанчын з дзецьмі, закопванне для забавы жыўцом у ямы палонных камісараў ставіць нацыстаў за той мяжой, калі жывая істота завецца «пляць!», «фэрфлюхтэ гунд!», «русішэ швайн!», «млека, маслё, шнапс!» — увесь набор слоў, якія за год акупацыі чулі тут ад «цывілізаваных» арыйцаў. Людзі без падказак атаясамілі нацыстаў з «псамі-рыцарамі», бо і тыя нішчылі, рабавалі, палілі...

Хірург расказаў смешны анекдот, прынесены са Свянцян.

Адзін яўрэй вышмыгнуў з гета, каб здабыць ежы для сваіх дзетак. Затрымаў яго патруль, здаў жандармерыі. Аднавокі баварац павёў няшчаснага на агарод расстрэльваць ды аб'явіў: даруе жыццё, калі яўрэй адгадае, каторае вока ў немца шкляное. Злоўлены адразу адгадаў. На пытанне ж, як яму ўдалося, чыстасардэчна прызнаўся:

— Уй, пане жандар, як жа я мог памыліцца?! Яно ж гэтак па-людску на мяне глядзела! Уй, пане жандар, памыліцца я не мог!

## 16

А гэтым часам палонны размову партызан перажываў па-свойму.

Прыслухоўваючыся да гутаркі сяброў аб пераапранутым у жаночую вопратку немцу, Гофман цяпер асэнсоўваў па-новаму паводзіны суайчыннікаў. Пасмяяўшыся з эсэсаўцаў, пяць партызан гаварылі ўжо пра іншае, а палонны з пачуццём балючай віны кагосьці ў душы папракаў:

«На які чорт у гэтае самае Краснаполле зноў палезлі нямецкія салдаты? Што за ідыёт выдумаў бязглуздую авантуру — пасылаць дасціпных ды бывалых, дасканала абвучаных і добра экіпіраваных хлопцаў з-над Рэйну і Баварыі, Гамбурга, Сілезіі і Памераніі на такую справу, што не прыносіць гонару ні аднаму немцу і прыніжае Германію?!

Вайсковыя нямецкія ведаюць, як сервіраваць стол, якія ўжываць бакалы да якіх він. Іх грунтоўна вучаць, як сябе трымаць нават у бардэлі. Кожны нямецкі салдат і афіцэр дома такі сціплы ды стрыманы, ветлівы і карэктны, ціхі ды рахманы. Ніхто з іх не заглянуў бы да суседа на падворак, не сказаўшы «Guten Tag», не зайшоў бы без дазволу да чужога чалавека ў дом, тым больш — не сеў бы за стол; яму і ў галаву не прыйшло б сарваць з чужога дрэва грушу. Чаму ж столькі бесчалавечнасці, эгаізму і фанабэрыі

ў іхніх паводзінах на акупіраванай тэрыторыі?! Чаму ўсе — нібы падмененыя за межамі Германіі?!»

Тады ён і спахапіўся, што не спачувае ні зарубленаму сякерай пад Журмунамі суайчынніку, ні забітаму пад Краснаполлем эсэсману, ні — экіпажу свайго самалёта.

Гофман не лічыў сябе знаўцам мастацтва, аднак ведаў напэўна: расцягнутае паміж бярозак палатно — твор мастака, бо нараджэнне яго папярэджвалі мукі, цярпенне і боль.

Перад ім была праўда — зусім не падобная на тую, да якой ён меў дачыненне. Яна жыла ў спартанскіх умовах, бядзе, прымітыве і голадзе, аднак жыла, крычала, хапала за душу. Разумны і здольны да сuперажывання чужынец адразу скеміў — незвычайны твор служыць лесунам апорай, іх зброяй.

Пастаяўшы пару тдняў з выпацканым суніцамі драўляным нажом, Гофман вярнуўся да ранейшага пытання. Паказаў на забітую ды спытаўся ў грузіна цяпер ужо вінавата, са спачуваннем:

— Лядо, даст іст алес ва-ар?[1]

Грузін маўчаў.

— Лядо-о! — ён ужо тузануў мастака за гімнасцёрку.— Заг маль — даст іст алес ва-ар?[2]

Партызан перастаў маляваць, пачаў тлумачыць, як мог, падрабязнасці смерці сваёй нявесты. Немец уважліва слухаў, сяды-тады кідаў кароткія рэплікі:

— Ах, зо-о!.. Фэрфлюхтэ!.. Дас іст шрэкліх, до-онэр-вээтэр!.. Ніхт цур гляўбэ!..[3]

Ці таму, што Ладо ўпершыню меў магчымасць перад уважлівым слухачом і чужым чалавекам выказаць сваё гора, ці з-за сваёй чуллівасці, ён давёў сябе да таго, што ледзь не расплакаўся.

Немец спахапіўся:

— Лядо, але ж я з усім гэтым свінствам нічога не маю агульнага! Я ж ні ў каго не страляў, не гвалціў, не рабаваў!

— Дзядзьку свайму скажы!

— Але ж — праўда!

— Чым ты займаўся пяць гадоў? Вазыў такім злачынцам шакалад, шнапс, патроны, пошту! Ты — іхні саў-

---

[1] — Ладо, усё гэта — праўда? *(Ням.)*
[2] — Скажы, усё — праўда? *(Ням.)*
[3] — Ах, так!.. Чорт вазьмі!.. Жахліва, нельга паверыць!.. *(Ням.)*

дзельнік, памагаты! Вы ўсе — з адной шайкі!

— Дас іст вар!..

Праз хвіліну немец спахапіўся:

— Але ж я нічога пра гэта не ведаў!

— Всэ так кажуць, калі вас зловяць партызаны!

— Я!.. Нас, Лядо...

Праз хвіліну немец загаварыў зноў:

— Нас, Лядо, агарнула нейкае адзічэнне. Я на ўласныя вочы бачыў, як у 1939 прымалі капітуляцыю польскага гарнізона Вэстэрплятэ на ўзбярэжжы мора. Нямецкі генерал палякам аддаў чэсць, загадаў свайму салдату пачысціць нават польскаму камандзіру[1] боты. П'яныя салдаты тады ў Беластоку спалілі сінагогу з людзьмі. Адразу была створана камісія і гітлераўцаў перадалі трыбуналу! А зараз — оу, оу-у! — усё гэта — анекдот! Донэрвэ-этэр, куды мы так дойдзем?!

Стала відочным — у гэты дзень мастаку над карцінай не працаваць.

Выліўшы душу, Ладо цяжка ўздыхнуў ды загадаў:

— Ладна, Вілгэлм. Здымай палатно, бяры фарбу — айда дамоў!

Такім чынам, няхітрая зброя ўдар нанесла першаму Гофману. У малюнку ён успрыняў імпульс сумлення і адрасаваную яму пагрозу. Дзіўныя лесуны нават прымітыўным гудронам, навэдзганым на прасціну, сшытую з дзесятка анучак, бараніліся супроць страху, прыніжэння і грубой сілы чужынцаў.

Уражаны немец адчуў: у праціўніка дастаткова падстаў, каб у парыве апраўданай злосці сцерці яшчэ аднаго служаку фельдмаршала Герынга з зямнога твару. І калі праціўнік пакінуў яго жывога, то зрабіў гэта толькі з-за пачуцця ўласнай сілы. Што ні гавары, такое можа сабе дазволіць толькі вораг дужы, а Гофман, як кожны радавіты немец, сілу і ўстойлівасць паважаў перш за ўсё.

## 17

Не давала спакою і бабка Насця. Разоў з дзесяць на дзень кабета прыставала са сваёй дробязнай клапатлівасцю. Ён аж занадта прыглядаўся да савецкіх палонных у Германіі і наглядзеўся, як з імі абыходзіліся немкі, аднак гэта яго тады зусім не кранала.

---

[1] Маёру Сухарскаму (гістарычны факт — *А. К.*).

«Чаму мы такія бессардэчныя?!» — толькі цяпер спахапіўся немец.

Гофман багатварыў кожную жанчыну і, бы старажытны рыцар, меў звычку выбіраць сабе даму сэрца ды на яе маліцца.

Зараз на памяць яму прыйшлі нявольніцы, што абслугоўвалі нямецкія сталовыя, гасцініцы, шпіталі. Успомніў іхнія твары — поўныя цярпення, суму, затоенасці. Нават у рухах тых мілавідных славянак (іх расавую прыналежнасць ён беспамылкова вызначаў па носе) прабіваўся нямы плач ды заглушаны крык ад гора, прычыненага чужынцамі; думкі іхнія луналі далёка, самі ж яны чагосьці чакалі, чакалі, чакалі...

Нагадаў Гофман і дзяўчат, што жылі побач з ім у лагеры. Спачатку ён шукаў у іх яўрэйскіх рысаў — так было прынята апісваць у газетах палонных — «бальшавіцкіх бандытак»,— якіх «brave Kerlen aus dem Polozker mütige Jagbkommando»[1] пасля допыту вялі на плошчу да шыбеніц. Брахня і гэта: яны таксама — мясцовыя сялянкі.

Ды і наогул, якія тут бандыты? Хіба паўстаць супроць чужынцаў — бандытызм?

Дзе сказана, што жыхары акупаванай тэрыторыі абавязаны паводзіць сябе лаяльна і любіць акупантаў?!

Над чым бы цяпер Гофман ні задумваўся, заўсёды натыкаўся на супярэчлівасць лозунгаў, якімі кіраваліся немцы, бачыў неадпаведнасць афіцыйнай лініі з элементарным пачуццём меры ды разумнага сэнсу.

Мелі рацыю партызаны,— бачыў ён.

Немцы прынеслі народам адно бяду, гора і жахлівы лексікон: «расстраляць, павесіць, дай масла, шнапс!..» Гофман сам з сябе пачаў дзівіцца — чаму, пакуль трапіць у глухі лес беларускі, не нараджаліся ў яго такія думкі?!

Паступова Гофман пачаў разумець: ён — вартая жалю ахвяра адпаведнага выхавання і спрытнай маніпуляцыі прапаганды, якая даводзіла немцаў часамі да таго, што чалавек пачынаў ужо захапляцца нават сваім захапленнем, а згодна з яе тлумачэннем тое, што думалі тубыльцы, немцаў не павінна цікавіць. Для зводак у газетах і радыё слова «партызан» стала забароненым — выкрэслена зусім з ужывання, а яму ўбілі ў галаву: «насельніцтва вызваленых ад «крывавых бальшавікоў» вёсак і гарадоў вітае

---

[1] Бравыя хлопцы з адважнага знішчальнага батальёна, што стаяў у Полацку *(ням.)*.

немцаў з энтузіязмам і толькі ў глухіх кутках, гушчарах сям-там валэндаюцца групкі брудных, няголеных і тупых камісараў-абармотаў яўрэйскай нацыянальнасці». Ужо і паводле Гофмана выходзіла,— тубыльцы не мелі права на звычайную абарону, павінны былі радавацца: атрымалі «новы парадак».

Адным словам, як гаворыць старажытная мудрасць,— каб спазнаць ісціну, чалавеку трэба хоць раз у жыцці вызваліцца ад засвоеных уяўленняў ды пабудаваць нанова сістэму сваіх поглядаў. Так атрымалася і з палонным.

## 18

З кожным днём у Гофмана расла цікаўнасць да незвычайных лесавікоў, павага.

Перад ім пульсавала і шырылася вольніца, аб якой ён чытаў толькі ў кніжках пра казакоў, мушкецёраў ды вольных стралкоў. Тут і намёку не было на тое, каб хто каго-небудзь прыціскаў, не адчувалася абрыдлага яму за вайсковую службу рабалепства ды нізкапаклонства перад начальствам і чынамі, не заўважалася педантызму, фельдфебельшчыны, што раз'ядала нямецкую армію. Тут усе паважалі сваіх камандзіраў, елі з аднаго катла, разам спалі ды называлі адзін аднаго па імені, старэйшых — яшчэ і па бацьку, затое ў дзеянні...

О, Гофман наглядзеўся на вольналюбівых хлопцаў і ў баі, калі на лагер наляталі самалёты, а партызаны рассыпаліся хто куды! Бачыў ён, як зашываліся ў балоты пад час блакады. Назіраў, калі разведчыкі ішлі на заданне, аб чым яшчэ будзе гаворка.

Не сто, не трыста чалавек,— цэлая Савецкая армія за дзве сотні кіламетраў ад «Га-Ка-Эль»[1] — у глыбокім нямецкім тыле, бяспечна жыла, дзейнічала і кпіла сабе з цэлага вермахта, войск СС, люфтвафэ, амтскамісараў, паліцыі ды жандармерыі з іх «гундбатальёнамі».

Столькі ён лётаў над імі, нічога не заўважаючы. Успомніліся размовы пра партызан Югаславіі, Грэцыі. І там такое? Стала Гофману страшна за Германію.

Практычны немец адразу ацаніў і выпадак з чыгункай Полацк — Ідрыца — Дно. Гэта ж трэба — пад бокам у нямецкай арміі разбурыць сотні мастоў і мосцікаў, разваляць і схаваць тысячы рэек ды шпал, раскапаць палатно на

---

[1] Так немцы называюць перадавую (Die Hauptkampflinie).

магістралі даўжынёй сто кіламетраў пуці, якая так патрэбна тылавікам вермахта!

Гофману даводзілася хадзіць з партызанамі па выцерабленай трыбе.

Густая, зарослая травой і свежымі кусцікамі вербалозу прасека — тое, што засталося ад пуці. Партызаны паміж сабой малолі глупства, на хаду зрывалі арэхі, іншыя проста валакліся з апушчанымі галовамі, затое Гофман пазнаваў пад нагамі сляды чыгуначнай магістралі, знаходзіў свежыя пянёчкі ад тэлеграфных слупоў, ківаў галавой ды ўслых дзівіўся:

— Оу, оу-у, оу-у-у, донэрвэ-этэр! Лясныя ваўкалакі нават самі не ведаюць, якія яны магутныя! Оу, оу-у, колёса-аль!..

Лагер існаваў ва ўмовах, калі Савецкая рэгулярная армія недзе вяла жорсткія баі, цярпела паражэнні. Штурман не раз заўважаў, з якой трывогай хлопцы і дзяўчаты, сталыя і пажылыя збіраліся вечарамі ля радыстаў, з якімі тварамі слухалі перадачы пра баі на Доне ці зводкі пра адступленні сваіх на Кубані і Стаўраполлі.

Франтавыя няўдачы яшчэ больш людзей яднալі.

Лесуноў трымалі самыя моцныя сувязі, што існуюць у прыродзе,— сувязь даверу ды магутнае жаданне перамогі над ворагам. Разумелі яны адзін аднаго з паўслова, аднаго позірку. Гэтая маса людзей — розных па ўзросту і звычках — зладжана рабіла сваю справу, бытта канчала спецыяльныя школы.

— Оу-у, Лядо, вас не перамагчы! — з перакананнем казаў Гофман.

І паведаміў пра выпадак у Полацку, калі перад ім па разбітым вайсковымі машынамі асфальце два ланцугі салдат з мясцовай «Jagdkommando» вялі на расстрэл пад царкоўны мур трох барадатых хлопцаў і дзяўчынку. Глядзеў ён тады на вулічную сцэнку ў тылавым горадзе і, акрамя звыклай цікаўнасці, падагрэтай нездаровымі дрыжыкамі, нічога не адчуваў. Толькі цяпер спахапіўся,— у вачах тых няшчасных смяротнікаў была зацятасць і блішчэлі тыя самыя агеньчыкі. У зямлянцы гаварыў ён пра расстраляных, ківаючы галавой:

— Оу-у, колёса-аль!..

У афіцэрскім казіно ў Полацку камандзір знішчальнай роты аднойчы стаў перад лётчыкамі выхваляцца, колькі за дзень расстраляў бандытаў ды ўзарваў грозных бункераў (выяўляецца, у адным з іх і з такімі ж «бандытамі» Гофман цяпер жыў!).

«Чаму ж растуць іх шэрагі, калі вы агідных бандытаў нішчыце, бы прусакоў?» — спытаўся тады нехта ў афіцэра.

Адно цяпер Гофман заўважыў падкавыку ў пытанні незнаёмага немца ды задумаўся — мабыць, суайчыннік даўно бачыў тое, на што яго вочы адкрыліся з такім спазненнем.

І гэта быў не адзін выпадак.

## 19

Ранняй вясной Гофман вёз поўны борт параненых з «Дзямянскага катла». Суайчыннікі адкрыта заяўлялі, што бяздарны галоўнакамандуючы кінуў на пэўную смерць шэсць дывізій шаснаццатай арміі — шэсцьдзесят тысяч салдат і афіцэраў. Забінтаваны пажылы ветэран абураўся:

«Ад яфрэйтара Адольфа што яшчэ можна было чакаць?»

Другі — з распухлым ад марозу тварам — дадаў:

«З-за гэтага дурня Іван цяпер задаў нам жару — аж іскры з задніц пасыпаліся!»

Развязаліся языкі і ў іншых салдат:

«Якая ў іх артылерыя, майнэ лібэ!.. А як пойдуць у атаку, закрычаць «ура!» — вар'ятам становішся! Не-е, у рускіх ёсць штосьці такое, аб чым мы раней і ўяўлення не мелі!»

Дыскусію падсумаваў паранены лейтэнант з Вялікіх Лук:

«І вулічнаму бою таксама трэба ў іх павучыцца. Умеюць, чэрці, трымацца за кожны выступ, выкарыстаць найменшую ямку — паспрабуй, дастань тады Івана!.. Калі гэтага ад бальшавікоў не пяроймем, савацца ў Маскву няма чаго!»

Аднойчы штурман ляжаў на ложку ў аэрадромнай гасцініцы. Побач на другім — лейтэнант з «фізелершторха»[1]. Незнаёмы адно што прыляцеў з разведкі. Па рэпрадуктары перадавалі зводку «оберкомандо дэр вермахт»[2], і дыктар узахлёб пералічваў мясціны, дзе знішчылі рускіх — апошнія рэзервы Чырвонай Арміі.

«Чуеш гэтага брахуна? — звярнуўся да штурмана разведчык.— Чырвоная Армія знішчана, ха-ха! Рускі мядз-

---

[1] Марка аднаматорнага разведчыка *(ням.)*.
[2] Галоўнае камандаванне вермахта *(ням.)*.

ведзь толькі прачынаецца і развівае свае каласальныя рэзервы! Учора ля Балагога назіраў калону машын даўжынёй — не паверыш, камрад! — сто кіламетраў! Разумееш, штурман, што гэта такое? Камандаванню далажыў, але ж штабныя пацукі з люфтвафэ мой рапарт напэўна затояць, ты ж іх выдатна ведаеш,— усе яны вартыя свайго вялікага везіра Герынга!»

«І праўда — везір!»

У канцы зімы Герынг гасцяваў у дучэ Мусаліні, і Максу Ляўфэрштоку з Гофманам давялося везці ў Рым ахову фельдмаршала. Нейкі князь даў урадавай дэлегацыі раскошны баль. У час п'янкі італьянская «чорная арыстакратыя» перамяшалася з немцамі, і Гофман не раз натыкаўся на выфранчаную па-блазенску тушу шэфа.

Апаламлялльнае футра, а пад ім сіне-фіялетавае кімано. З залатымі бірулькамі туфлі, усыпаны перламі гальштук ды ўтыканы рубінамі шырокі пояс. Твар Герынга быў густа напамажаны, на кожным пальцы бліпчэў пярсцёнак з вялізным брыльянтам. Галоўнакамандуючы германскімі паветранымі сіламі пры гэтым рагатаў з усялякага глупства ды какетнічаў.

Да дзвюх гадзін ночы ішло ў іх абжорства, затым пачаліся оргіі з голымі дзеўкамі з «клуба» сеньёры Сандэлі...

Гофман расказаў новаму знаёмаму пра ўсё, што бачыў у Рыме, але разведчык усё гэта і сам ведаў.

Якраз па рэпрадуктары перадалі: над возерам Ільмень знішчальнік Мэльдэрс на М-109 за адзін вылет збіў 13 самалётаў. На персанальным рахунку нацыянальнага героя трэцяга рэйха цяпер ужо значылася — 216 машын. Да канца года лік перамог ён плануе давесці да 300.

Разведчык схапіўся з ложка, выключыў рэпрадуктар ды выбухнуў:

«Банда гэтага Дзітрыха[1] забрахалася зусім! За дурняў нас маюць! У «мессершміта-109» малы радыус вылету, столькі Мэльдэрс не мог збіць, каб страляў нават па самалётах няўзброеных! Ты ж разумееш, штурман, на кожную машыну трэба зрабіць складаны манеўр: развярнуцца, прыстроіцца да яе! Ды і Іван са сваімі кулямётамі не будзе, як баран, чакаць, пачне манеўраваць ды агрызацца! Цьфу, адзін брахун далажыў, другі на ўсю Германію раструбіў перамогу, а мільёны ідыётаў у экстазе захаплення верацы!»

---

[1] Дзітрых — кіраўнік друку і радыёперадач гітлераўскай арміі.

Гофман яму заўважыў — немцы нічога не ведаюць, бо няма дакладнай інфармацыі.

«Нявінныя авечкі! — разведчык раззлаваўся яшчэ больш.— Самім хочацца гэтай славы, крыві ды перамог! Усім гэтым бюргерам, чыноўнікам, каўбаснікам, крамнікам ды парабкам маёнткаў не церпіцца паспытаць таксама перамог любым коштам, але, жывучы ў глыбокім тыле, мроі свае ўсклалі на прыдуманых герояў! «Ах, нашыя штукасы, ах, фоке-вульфы, крыгс марынэ! Ах, нашыя панцэртрупэн, адчайныя кэрлэн з Га-Ка-Эль!..» Такая з'ява ў псіхолагаў называецца самарэалізацыя праз чужыя ўчынкі. Ты не быў чэмпіёнам у спорце? Куміра, напэўна, меў — баксёра, бегуна. Гэтым ты сябе супакойваў: каб не перашкодзілі, каб захацеў, дасягнуў бы такога самага поспеху і быў бы ў такой жа пашане! Кожны раз, калі ствараем ідала, як бы ўваходзім у долю з яго ўчынкамі, становімся пайшчыкамі яго славы і аўтарытэту!»

Перабіраючы сваё жыццё над Дрысай, Гофман не без сімпатыі да лётчыка нагадаў і бунтарскую яго тыраду. Яшчэ падумаў: слова «чаму» гучыць дзіўна там, дзе стагоддзямі чутны былі адно «ja» і «nein», таму немцы няздольныя зараз нават кінуць у твар свайму самаму ідыятычнаму начальніку, што ён дурань. Але вось мільёны іх атрымалі каналы, па якіх маглі выладоўваць свае страсці. З усёй энергіяй, арганізатарскім спрытам страсці пачалі выліваць. Рабіў гэта і Гофман.

9 лістапада 1938 года ў «Крышталёвую ноч» разам з тысячамі сабе падобных у Гамбургу з лютасцю і маладым запалам Гофман біў вітрыны, выкідаў з абжытых кватэр дзяцей і жанчын, паліў на пляцы скірды кніжак і скандзіраваў:

«Здох-ні, яў-рэй!»

Выбух карычневага псіхозу, юнкераўская «дзікая прага знішчэння і крыві...» агарнулі мільёны суайчыннікаў, аб'ядналі ды запусцілі ў рух. І Гофмана агарнула ўжо шаленства ад нішчэння Польшчы, разгрому Бельгіі, Францыі, Югаславіі і Грэцыі. Штурман, нібы страціўшы галаву, стаў адчуваць, як кожны спалены горад, знішчаная дывізія чужых танкаў, затоплены карабель, забітая тысяча салдат, новы мільён палонных лесцяць яго самалюбству, павялічваюць ва ўласных вачах ці, як сказаў бы лётчык з «фізелершторха»,— самасцвярджаюць. Паступова і ў яго зарадзілася ўпэўненасць у выключнасці немцаў, у неперамажнасці вермахта, покуль ён не грымнуўся ў беларускі лес.

Да новага грамадства палонны зараз прыглядаўся са здзіўленнем.

Тутэйшыя людзі пайшлі ў лес, як ідуць на памост гімнасты ці баксёры, дзе нельга сябе схаваць за спіны сяброў. Гэтыя хлопцы былі на віду, паказвалі мужчынскія якасці там, дзе чалавеку натурай дадзена выявіць іх найбольш — у абароне свабоды і змаганні за Радзіму. Яны сабраліся не па мабілізацыйнай позве, як створана вялізная нямецкая армія, а — па загаду сэрца.

## 20

Праз месяц Гофман пачаў ужо вылучаць камандзіраў у некаторых партызан.

Першым чынам запалі яму ў душу хлопцы-арыгіналы.

Вось той самы Антонаў — высокі маўчун з абыякавым, бы ў сіямскага ката, выразам твару і вачэй, аднойчы паказваў лесавікам прыёмы штыкавога бою. Рускі афіцэр апантана адбіваўся адзін ад дзесяці чалавек!

Начальнік брыгаднай разведкі — Нінін брат, Васіль, быў выдатным інструктарам. Аднойчы хлапец з'явіўся з камандзірамі ля разведчыцкай зямлянкі, трымаючы ў руках чамаданчык, у якім гармонікам складвалася рэльефная карта з макетамі. Партызан расхіліў адмысловую ношу — і перад сабранымі паўстала тэрыторыя з лясамі, рэчкай, мастамі, кулямётнымі гнёздамі, мінамётамі і гарматнымі батарэямі. Прысутныя выразалі ўказкі з ляшчыны і расселіся на спілаваныя сосны.

— Чаму мы не ўзялі гарнізон у Нішчы? — пачаў камандзір разведкі разбіраць баявую аперацыю.— Бо прымянілі нямецкую тактыку.

На бярвеннях рогат.

— Чаго рагочаце? Часамі фрыцы абкладуць нас з чатырох бакоў ды пачынаюць малаціць з усіх відаў зброі. Вось і мы абкружылі іх і не далі магчымасці адступіць. Які ў гарнізона выхад? Толькі адзін — каму хочацца паміраць? Боепрыпасаў да д'ябла — сядзі ды адстрэльвайся, покуль прыйдзе падмацаванне. У нас жа часу мала і страляць не стала чым. Патыркаліся, патыркаліся, а блакаду Нішчы давялося здымаць. Калі б немцам пакінулі адзін бок адкрыты, напэўна драпанулі б у Расоны! У «Вайне і міры» як Талстой разважае пра Напалеона? Параўноўвае яго з быком, што шалее на падворку, і раіць біць не па лобе,

а ў зад, каб звер убачыў адчыненую брамку і вылецеў! Вось такія справы, рагатуны.

— О, боеприпасаў у іх да халеры! — ажывіўся адзін з камандзіраў.— Наткнуўшыся на нас ля бальшака, карнікі ўзнялі такую страляніну, што ўсе кусты пасеклі! Такога густога агню яшчэ за ўсю вайну не спатыкаў, а нас — хоць бы каго драпанула! Палілі ледзь не ва ўпор, ды богу ў вокны!

— А ты — матай на вус! Гэтыя тысячы акупантаў навокал п'юць, жаруць, гуляюць ды лянуюцца праявіць самую нікчэмную цікаўнасць да кутка, дзе сядзяць, ды разабрацца, што тут адбываецца. Для нацыстаў усе мы — тыпы, што ў лес пахаваліся. Немцы заўсёды нас недаацэньваюць, а тады кідаюцца ў крайнасць. Як толькі сутыкнуцца з арганізаванай баявой групай партызан, ад нечаканасці іх агортвае жах. Што з таго, што смаляць ґуста ды зблізку? Не ў сілах авалодаць сабой, таму і страляюць кепска. Для вядзення прыцэльнага агню патрэбен час, а яны смаляць, каб сябе падбадзёрыць! Аднак вернемся да Нішчы. Вось тут,— Васіль павёў па макеце ўказкай,— той самы пракляты лужок. За ім — узгорак з кулямётнымі кропкамі. Тут — батарэі мінамётаў у іх...

Затоены ля палатна палонны немец назіраў за сцэнкай, прыслухоўваўся да размовы і дзівіўся: вучэнне на макетах — нямецкая прывілегія? Аказваецца,— не. Ужываюць яго нават тут, у глухім беларускім лесе. Баявыя аперацыі разбіраюць — унь на якім узроўні. Умеюць нават зірнуць на сябе вачыма праціўніка.

Гофману чамусьці нагадаліся п'яныя суайчыннікі ў полацкай школе, калі яны, мадэлюючы высадку нямецкіх войск у Аўстраліі, палілі з пісталетаў па школьнай карце...

А жыццё ўсё падкідала яму матэрыял для роздуму.

## 21

Аднойчы Гофмана вялі да разбітага самалёта, і на лужку група натрапіла на стрыножанага каня і чубатага партызана. Валяючыся на траве, хлапец калупаў былінкай у зубах, сумна пазіраючы ў неба. Над імі ляніва праплывалі дзве вароны.

Каб парысавацца перад сябрамі, хлапец раптам схапіў самазарадку, амаль не цэлячыся, даў два стрэлы. З птушак адно пасыпалася пер'е.

Гофман потым бачыў, як такія зухі ездзілі зімой на

разведку. Адзін кіраваў добра дагледжаным канём, а другі, паклаўшы сябру на плячо аўтамат, цікаваў уперад. Увесь у яблыках гняды аж шалеў ад застою, і баявыя сані імчалі, бы калясніца рымлян,— лепей з ёю не сустракацца.

Што «лясныя бандыты» ўмелі закладваць міны, Гофман наслухаўся яшчэ ў Полацку. Майстэрства і спрыт лясных падрыўнікоў яму давялося назіраць і зблізку.

Пад камандай групэнфюрэра войск СС фон дэм Бах-Залеўскага акупанты распачалі блакаду «Расонскай рэспублікі» — аперацыю з кодавай назвай «Нюрнберг». Каб немцы не перапраўілі ў партызанскую зону танкі і мотапяхоту, лесавікі вырашылі знішчыць у Саколішчы мост. Яго дзень і ноч вартавалі тры батальёны салдат і паліцаяў, подступы старанна немцы замініравалі, абгарадзіўшы яшчэ шасцю палосамі калючага дроту. Перацягнулі дратамі з абодвух бакоў і рэчышчы. Затым абарона наёжылася кулямётнымі ды гарматнымі ствaламі — паспрабуй, падступіся.

Невялічкі юркі партызан — Яфім Лысенка — выззаўся знішчыць грозную пераправу. Спатрэбіліся цеслі. Да работы ўзялі і былога штурмана «Юнкерса-52».

Пад наглядам Лысенкі за адзін дзень партызаны, схаваўшыся пад навесам кустоў над ракой, змайстравалі на плыце высокі стол. Плошча яго ўзвышалася на 6 метраў — на столькі ўзнімаліся над вадой пралёты моста (сакалішчанскія хлапчукі вышыню вымералі вудачкамі з дакладнасцю да сантыметра!). На стале партызаны паклалі цэлую тону буйнакаліберных снарадаў і прыладзілі хітры баёк, які выбухаў нават ад лёгкага дотыку. Меншыя плыты падрыхтавалі супроць калючага дроту, які таксама шэсць разоў перасякаў раку і перашкаджаў асноўнаму. Такіх канструкцый цеслі з падрыўнікамі — па прынцыпу «маслам кашы не сапсуеш» — нарыхтавалі дзесяць штук.

Караваны плытоў ноччу пусцілі ў адпаведнай чарговасці па цячэнні. Подступы да моста вартавыя асвятлялі час ад часу ракетамі. Падазроныя сілуэты на Дрысе заўважылі здалёк і адкрылі па іх агонь...

За паўгадзіны, покуль караван нясло да мэты, немцы паспелі падняць на ногі ўвесь гарнізон.

Дарэмна нямецкія афіцэры і фельдфебелі надрывалі глоткі ды гналі на пазіцыі салдат.

Спачатку да агароджы даплылі малыя канструкцыі і адна за адной разнеслі драты, расчысцілі фарватэр. Затым дакладна на вызначанае месца прыбыў асноўны плыт.

Баёк здэтаніраваў снарады, і на вачах наёжаных ствaламі трох батальёнаў мост як пушынку падняло ў паветра і разнесла ўшчэнт!

Гофман быў упэўнены — адзін гэты выпадак падрабязна апішы ў газетах, і немцаў у Германіі, выхаваных на знявазе да ворага з Усходу, агорне жах.

Найбольшае ўражанне на яго рабілі партызанкі.

## 22

Праз пару месяцаў Гофман ведаў аж занадта: выпадак з краснапольскай Нінай — самы звычайны. Слухаючы падобныя гісторыі, яму заўсёды рабілася няёмка, што ён немец. Яго ўражала, з якім стараннем маладзіцы і дзяўчаты хацелі ва ўсім не адстаць ад мужчын.

У разгар блакады «Нюрнберг» Гофман з разведчыкамі сядзеў ва ўкрыцці ды назіраў за работай гаўбічнай батарэі.

Перад ім — агнявая пазіцыя стодвaццацiміліметровых гармат. Незразумела, як гаўбіцы пасля першага ж стрэлу не разляталіся на кавалкі. Паваротнымі механізмамі ім служылі прымітыўныя каркасы малатарань і трактараў, замест панарам — аптычныя прыцэлы снайперскіх вінтовак, а колы — самаробныя.

Гарматы не мелі нават байкоў. Кемлівыя лесуны прыладзілі ў казённікі металёвыя стрыжні.

Каля бліжэйшай гарматы несла службу стройная сінявокая славянка з драўляным малатком у руках, і немец не зводзіў з яе вачэй. У сімпатычнай «бандыткі» з гарбінкай на носе быў рызыкоўны занятак. Калі наводчык нарыхтоўваў гаўбіцу, дзяўчына па камандзе «агонь!» ударала бярозавым малатком па стрыжні ды спрытна ўвільвала ад металёвай аграмадзіны, каб магутная сіла адкату яе не зваліла.

У наступны дзень некуды ішлі.

Ужо злёгку падмарожвала. Месцамі ляжаў распісаны зайцамі сняжок. Галодныя і адубянелыя разведчыкі прывалакліся к абеду ў апусцелае Бухава, каб чым-небудзь пажывіцца. Лазіць адразу па вёсцы не рызыкнулі, покуль што зашыліся ў крайні хлеўчык ды пачалі разглядацца.

Насільшчык-палонны валок на сабе кілаграмаў з сорак разведчыцкага дабра, натрудзіў плечы, а салёны пот, як нашатырны спірт, грыз яму вочы. Немец з асалодай прыткнуўся да сцяны, адчуваючы, як змардаванае цела памалу прыходзіць у норму, як цяпер яму хочацца паесці. Праз

адчыненыя дзверы віднеліся бліжэйшыя будынкі і спакойны бераг Дрысы з голымі дубцамі лазняку. Разведчыкі прыцішана заспрачаліся, каму адпраўляцца ў апусцелыя хаты.

Раптам з-за вугла выскачыла маладзіца з дзіцем. Убачыла штосьці, акамянела.

— Таня Лысенкава! — пазнаў яе хлапец з Бухава.— Напэўна, прылятала дамоў пажывіцца таксама!

Тут хлявочак захадзіў хадуном. За сценкай загуло, нібы там уключылі малатарню.

Партызаны толькі паспелі ўскінуць аўтаматы, як з-за хлеўчыка высунуўся вялізны танк з зеніткай на прычэпе. Машына дапаўзла да маладзіцы, загамавала.

Партызаны зашапталіся:

— Дзеўбануць бы адгэтуль супроцьтанкавай — падставіў бок і аж просіцца, эх!

— Наклікаць бяду на сваю галаву?!

— Сціхніце, героі!..

Штурман паспеў разглядзець, што на танку, старанна ўхутаны плашч-палаткамі, выгодна разлёгся ўвесь гарматны разлік — восем артылерыстаў. Суайчыннікі трымаліся за спецыяльны абруч, і было такое ўражанне, бытта ўсе яны падперазаліся гэтым абручом ды, як на печцы, разлягліся адпачываць — што ж, камарады з вермахта ваяваць любілі з камфортам, пра гэта ўсім вядома. Яшчэ штурман паспеў заўважыць: ад раптоўнага гамавання дубец антэны ніяк не ўстабілізуецца, надульнік у зенітцы зачахлёны новенькім брызентавым рукавом, адзін з артылерыстаў пад абручом трымае звязаных у вяночак жывых курэй, а фарба на гармаце — свежанькая, яе адценне да болю знаёмае па самалётах.

З верхняга люка высунуўся да палавіны малады афіцэр у шлеме, чорным мундзіры і паклікаў маладзіцу:

— Галё, паненка, брот!

Перапалоханая жанчына яшчэ больш прытуліла да сябе дзіця. Афіцэр крыкнуў уніз, каб вадзіцель выключыў матор. Спытаў ужо ў поўнай цішыні:

— Во іст брот?

Кабета здзівілася:

— Броту німа, паночку! Брот увесь з'елі! Блакада, пан!.. Грэчкі для малога на кашу ў кадушцы наскрабла, во! — паказала пузаты рукаўчык.— А брот увесь — ням-ням!

Афіцэр нарэшце зразумеў камізм сітуацыі і ад душы

засмяяўся. Размову з сялянкайператлумачыў салдатам. Артылерысты як бы папрачыналіся, лянівa прыўзнялі галовы, стрымана зарагаталі.

— Паненка — нікс брот! Ням-ням — нікс!.. Во іст брот дурх Дрыса?[1]

І з усяе сілы пастараўся ўталкаваць маладзіцы, што яму трэба. Паказаўшы на дзве схопленыя марозікам сцежачкі, бы каляіны, што беглі да самага берага і губляліся ў вадзе (іх пратапталі гусі), немец спытаўся:

— Ехаць — там? Брот — там?

— А-а, хочаце раку перабрысці-і? А я, дурная, падумала зусім іншае!

Маладзіца ва ўсмешцы паказала белыя зубы ды заахвоціла афіцэра:

— Канечне, перабрыдзеце праз рэчку тут, брод там, а як жа!

— Гут! — з маладой бяспечнасцю кіўнуў ёй камандзір танка. Зірнуўшы на карту ў планшэце, загадаў з бравадай вадзіцелю: — Ёган, наперад!

Матор загуў зноў. Лязгнуўшы гусеніцамі, танк раптоўна ірвануў да рэчкі, узнімаючы за сабой веерчыкі смалянай гразі, пакідаючы выразныя сляды на слабым сняжку.

Разведчыкі ведалі — тут глыбокае месца. Усе аж прыўсталі.

Матор з магутнасцю ў паўтысячы конскіх механічных сіл лёгка падкаціў вялізную сталёвую пачвару да берага, і танк раптоўна баўтануў у прорву. На адно імгненне з фіялетавай і цяжкой, як волава, плыні яшчэ раз паказаўся афіцэр — на гэты раз без шлема. Немец роспачна замахаў рукамі, бытта хацеў адпіхнуць ад сябе штосьці і набраць паветра, але знізу яго нешта як бы тузанула за ногі, і ён гэтак жа імгненна знік другі раз.

За танкам, вільнуўшы даўзёрным ствалом з зачахлёным надульнікам, у цёмную прорву нырнула і зенітка.

Ні танк, ні гармата не ўзнялі нават пырскаў. На ракавым месцы ўзнялася невялічкая хваля, успучыліся два віры, але імклівая фіялетавая плынь усё гэта ўмомант злізала, і рэчка зноў паплыла роўна.

Выглядала на тое, што тут увогуле не было ніякага танка з экіпажам, ні прыціснутых абручом да брані артылерыстаў, ні даўгаствольнай гарматы. Адно крокаў праз

---

[1] — Дзе брод? — Тут ігра слоў. Падобна да нашага «брод» гучыць па-нямецку слова «хлеб».

сорак уніз па цячэнні выплыла пярэстая плашч-палатка ды трапяткі вяночак курэй, імклівая плынь іх пакруціла, пакруціла вакол сваёй восі ды шпарка паперла ў лазняк.

— Таня, што ты нарабіла?! — жахнуўся бухавец.

Перапалоханай маладзіцы было не да разведчыкаў. Прыціскаючы да грудзей дзіця, яна прыгнулася ды трушком памчала ў хвойнік.

Яшчэ нейкі час партызаны насцярожана назіралі за рэчкай — ці не выплыве хто, ды раптам спахапіліся: калі з'явіўся танк адзін, напэўна, будуць і другія — трэба даваць драла. Лаючы маладзіцу, што застаюцца зноў галоднымі ды яшчэ невядома, чым усё гэта скончыцца, хлопцы сталі паспешліва ўзвалакаць на спіны ладункі. Подзвігам яе яны як бы і не захапляліся.

Гофман прабурчэў сабе пад нос:

— До-онэрвэ-этэр, оу, оу-у, ман гот, фэрфлюхтэ!..

— Што, немчыкаў сваіх шкадуеш?! — спагнаў злосць бухавец.— Хто іх сюды прасіў, хто іх клікаў на Дрысу? Хай бы не лезлі! Ляжаць зараз на дне з выцягнутай антэнай і па рацыі крычаць свайму Гітлеру: «Алё, фюрэр, ратуй нас!..» Выратуе, як жа!.. Жабы ім цыцкі даду-уць, адхочацца ім нашага шнапса і сала!.. А ты паплач па іх, паплач!

Гофман думаў зусім пра што іншае.

Па ўрыўках фраз, што запамяталі ўдзельнікі таго выпадку, Вільгельм, мне здаецца, сказаў прыкладна так:

— Для аперацыі «Нюрнберг» нашыя бонзы падрыхтавалі літаральна ўсё. Генерал войск СС фон Бах-Залеўскі з цэлым сваім штабам прыдумаў ёй грозную назву. Усё, як па нотах, распісалі. Выдалі загады. Вызначылі напрамкі па карце: «Ді колёнэ. А маршырт ін рыхтунг Краснаполле, ді колёнэ Б фэрт ін рыхтунг Бухава...» Падвезлі боепрыпасы. Раздалі пайкі. Вызначылі пункты канцэнтрацыі. Раздалі на кожны дзень паролі ды пазнавальныя знакі. Вызначылі частату хваль для радыёсувязі і дакладную колькасць ват радыёўстаноўкам. Прадбачылі з сотню іншых выпадкаў... А тут — імправізацыя! Такая сабе звычайная вайбхэн — галодная, з дзіцём і мяшэчкам крупы на руках ды баязліва-баязліва — ноччу сама, напэўна, не адважыцца выйсці на двор — раз! — і вывела з баланса вермахта 30-тонны танк з крупаўскай сталі, з камплектам боепрыпасаў; вывела экіпаж з афіцэрам, зенітку калібра 88 і цэлы разлік вы-датных артылерыстаў, якія, мажліва, бралі Варшаву і Па-

рыж,— кройц унд сакрамэнт! І ніхто тут не бачыць у гэтым нічога незвычайнага, оу, колёса-аль!..

## 23

Гофмана з малых год упарта выхоўвалі ў знявазе да ўсяго, што ўсходняе. Над Дрысай выхаванне паступова выветрылася, а прабыванне ў партызанах з кожным днём дадавала яму матэрыялу для роздуму.

Аднойчы Вільгельма павялі да разбітага самалёта.

К таму часу з «Юнкерса-52» застаўся адзін арматурны шкілет ды маторныя вузлы,— астатняе партызаны пусцілі ў работу. З дзюралю нарабілі грабянёў і партсігараў, лыжак і місак, чаранкоў да фінак ды скрыначак для дзіцячых цацак, дзяўчатам на ніткі і іголкі, гума пайшла старым на абутак. Бартавой абшыўкай выклалі сценкі ў зямлянках. Амперметры ды іншыя вымяральныя прыборы з інструментамі перакачавалі ў майстэрню зброі. Адзін рухавік ужо даваў святло ў партызанскія бальніцы. Немца вялі, каб выманціраваць яшчэ што прыгоднае для другога рухавіка.

І вось яны прыбылі на месца. Лесавікі адразу пачалі кешкацца ў маторы, пра палоннага забыліся.

Пад нагамі ля самалёта валяліся тысячы пісем ды размоклых ад дажджу пакетаў і пакецікаў. Вільгельм папрасіў дазволу падабраць Біблію. Затым сабраў некалькі соцень адрасаваных салдатам канвертаў і бандэролей, што захаваліся пад трантамі, напіхаў імі торбу. Адчуваючы нясцерпную прагу да чытання, дастаў з гнілога брызенту пару разлезлых газет,— узяў таксама.

У той вечар, напаліўшы добра ў печцы, Гофман сеў на калодку перад агнём, расклаў сабе на калені салдацкую пошту і ўзяўся чытаць. У канвертах знайшоў службовыя пісьмы і звычайныя пасланні родных на фронт сыну, брату ці мужу. Сярод інтымных запісак штурман напаткаў і такія, што перад тым, як брацца за наступны канверт, крадком азіраўся, ці не заўважаюць партызаны.

Якраз з Дворышча прыйшла да аднаго з партызан сястра і апавядала навіну. Немцы ў мароз пакінулі ля гумен на агнявой мінамёты і зашыліся ў дворышчанскія хаты грэцца, а ў гэты час сямідзесяцігадовы Іван Сідоркін паналіваў у іх вады. Калі блакіраваныя партызаны пабеглі праз поле, афіцэр падаў каманду накрыць рухомыя фігуркі навесным агнём. Мінамётчыкі дружна хапіліся за міны,

а ствалы — замарожаныя. Сувязная зараз апавядала, як расстрэльвалі старога Сідоркіна, як па вёсцы лавілі яго дзяцей, унукаў і жонку ды кідалі ў калодзеж.

Партызаны ўважліва слухалі, да немца не было ім справы.

Гофман углыбіўся ў паперкі.

«Я нічога яшчэ не пісала пра сто марак, прысланыя табой у маі,— дакладвала на фронт мужу фрау з Шарфэнвізэ.— Я іх адразу аддала тваёй маці, каб купіла сабе ваеннапалоннага. Цяпер яны танныя. Нядаўна фрау Марта заплаціла групэнфюрэру Отта Носке грошы і той дазволіў выбраць кандыдатку з новай партыі жанчын, прывезеных толькі што з Расіі. Але работніца захварэла. У мінулую сераду фрау Марта пахавала дзве рускія бабы і цяпер баіцца, што адправіць на могілкі трэцюю, кажа: «Навошта было такіх здэхляў цягнуць сюды? Лепш пазабівалі б іх у Расіі, падлы ў нас рознай хапае!»

«Мой палонны будзе, напэўна, мацнейшы, бо яго, калі бралі да войска, аглядалі дактары. Як думаеш?»

Другая жонка папракала свайго мужа:

«Генрых, ты сабе ўявіць не можаш, як табе не пашанцавала! Салдаты, што служаць у Нарвегіі, Даніі ці ў Заходняй Еўропе, шлюць і шлюць харчы, тканіну, бялізну, шаўковыя сукенкі, касцюмы, выдатны абутак. Едучы ў адпачынак, валакуць рукзакі, чамаданы, баулы, паўнюткія дабра. Гіта не мела да вайны нават звычайных панчох — цяпер фарсіць у дарагім футры нават у гарачыню і за свайго мужанька не дрыжыць так, як даводзіцца мне...»

Брат пісаў брату:

«Еду ў Растоў на работу па кантракту з фірмай Крупа. Падпісаў умову на 10 гадоў. Кажуць, на Доне тэрмін такі можна выцерпець, нездарма тылавікі выгледзелі там месца на дачу для фюрэра. Наш Вілі адправіўся ў Днепрадзяржынск па кантракту з фірмай «Сімэнс» на тры гады. Я завербаваўся надоўга, бо хачу прыгледзець сабе маёнтачак...»

Зноў ішло пісьмо нечае жонкі:

«У першых словах свайго паслання дакладваю Табе — пасылкі з вопраткай рэгулярна атрымліваю. Нічога, што заплямленая,— кроў лёгка змываецца звычайным мылам і не пакідае ніякага следу. На бурыя плямы не звяртай увагі, пакуй усё...»

Сястра:

«Дарагі Фрыдрых! Нарэшце, на вакзале я хапнула

буфет Вэбэра! Грубы Ганс некуды пераехаў, спадчыну яго перадалі мне! Мацер божая, вялікае табе дзякуй, нябесная царыца і святая Барбара!.. Кажуць, сын яго ў арміі вёў недазволеныя размовы, Алекса забралі ў канцлагер. Грубы Ганс пачуў і драпануў, але якая мне да гэтага справа, праўда?! У буфеце дапамагаюць муцці і стрыечная Грэта.

Ведаеш, чаму Вэбэры так збагацелі на сваім інтарэсэ? Ніколі не здагадаешся. Паслухай!

Яшчэ прадзед Грубага Ганса пад прылавак насыпаў пяску з-пад плахі, на якой адсякалі на рынку галовы асуджаным на смерць! Ты хваліўся,— расстрэльваеш бальшавікоў. Падбяры для мяне і прышлі ў мяшэчку жменю такога пясочку. Толькі не забудзь, гэта важна! Мяшэчак пашыла і кладу ў бандэроль. Няхай цябе царыца нябесная і святая Барбара трымаюць пад сваёй апекай».

За тытульным лістом Бібліі штурман знайшоў прыклееную стандартную паперку, надрукаваную разборлівым готыкам, каб мог прачытаць кожны салдат. Тут быў зварот царкоўнай ерархіі:

«Браты! Цяпер ніхто ўжо не сумняваецца, што мы, немцы,— вышэйшая раса Еўропы ў тым разуменні, якое выходзіць за рамкі геаграфічных і геапалітычных катэгорыяў! Сёння, як ужо не раз было ў гісторыі, Германія стала зноў ратавальніцай Еўропы, воінам, што ахоўвае яе фарпосты! Божа, блаславі наш вермахт, які нрызваны ахоўваць свет, блаславі нам любімага фюрэра! Хайль Гітлер!!»

Франтавыя навіны ў газетах былі даўнія і для Гофмана здаліся смешнымі. Пачаў глядзець «Зюд дойчэ цайтунг» з апошняй старонкі. Адразу натрапіў на аб'яву:

«53-гадовы арыйскі доктар, ветэран з-пад Танэнбэрга, хоча мець нашчадка-мужчыну законным шляхам шлюбу са здаровай маладой арыйскай дзяўчынай — сціплай, працавітай, без завушніц, набожнай, найлепш без маёнтку, а галоўнае — без пасрэднікаў. Прапановы загадвае накіроўваць па адрасу...»

Гофман узняў вочы з-над папераў і азірнуўся.

Па-ранейшаму на яго не звярталі ўвагі. Дзяўчыне з Дворышча брат масціў месца нанач з саломы. Грузін маляваў плакат: на паперы са шпалераў віднелася свастыка ў выглядзе ні то кратаў, ні то павуціння, і на іх мастак выводзіў якраз контуры фізіяноміі Гітлера. Ля стала начразведкі Васіль калупаўся над радыёпрыёмнікам. За печкай гутарылі партызаны:

— Іваненка, каго ты днём у штаб вёў?

— На раўнапольскай дарозе злавіў. Налез на сакрэт.

— Ён жа — стары, барадаты дзед?!

— А на руцэ — сляды ад пярсцёнка і гадзінніка. Нейкую пілюлю хацеў праглынуць — ледзьве яе выбіў я!

— Фі-іў!..

— Зноў, мабыць, блакаду рыхтуюць — пасылаюць субчыкаў у разведку!

— А, думаеш, чаго ён ішоў? Усё разнюхаць! Цяпер толькі глядзі ды глядзі!..

Гофман думаў, што рабіць з Бібліяй, пісьмамі і газетамі.

Яму захацелася ўсё гэта з гідлівасцю пакідаць у полымя. У апошнюю хвіліну змяніў намер. Нішчыць дакументы з пункту гледжання практычнага немца здалося не пагаспадарску.

Нейкі час папяровы пакет палонны насіў з сабой, як той манах, што награшыў, а потым носіць вярыгі, і ўсё думаў: як людзі павінны не любіць немцаў, якая павінна быць іх нянавісць, якія яго суайчыннікі хворыя, якая Германія нешчаслівая.

## 24

Быў усяго канец лістапада, а лясы над Дрысай пакрыла ўжо тоўстая коўдра снегу. Маразы скавалі азёры, і на адным, каля вёскі Сялявішчы, партызаны наладзілі пасадачную пляцоўку.

Прыляцелі першыя «дугласы» з цюкамі зброі, зваротным рэйсам забралі параненых, хворых ды свежыя «языкі». Былому штурману-радысту ў расонскім лесе не было ўжо чаго рабіць, камандаванне вырашыла адправіць яго пры аказіі на Вялікую зямлю.

Настаў дзень, калі Герашвілі прыляцеў са штаба ды аб'явіў:

— Ну, всэ, Вілгэлм, едыш у Маскву! Павязуць тыбэ на арыдром з нашымі хлопцамі! Хватыт возытса з табой, рыхтуйса!

Гофман якраз сядзеў на калодзе перад печкай, у банку з газай крышыў гудрон ды кіёчкам памешваў бардовую жыжку. Блакіраваныя з усіх бакоў брыгады галадалі, таму і ў палоннага твар асунуўся, пайшоў шэра-зялёнымі плямамі і шалушыўся, але вочы глядзелі жыва, з мудрай

іскрынкай, ад чаго малады немец выглядаў на мужчыну сярэдніх год.

Выслухаўшы навіну, палонны дамяшаў раствор, выняў кіёчак, разглядзеў на святло тоненькі, як саломінка, струменьчык жыжкі, абцёр мяшалку аб край банкі, шпурнуў у печ. Калі кіёчак успыхнуў яскравым полымем, немец узняў на разведчыка вочы, буркнуў:

— Ага!..

— Чаго не радуешса? Вы, нэмцы, так пэрлыса: «Нах Москаў, нах Москаў!» Абіцалі — праз тыдзень-два ўвойдзеце ў яе, не маглі дачакацца, калі ўбачыце, і — во, паглядзіш першым!

За чатыры месяцы жывы і дасціпны Ладо паспеў з палонным перагаварыць пра ўсё на свеце і зараз развітваўся са шкадаваннем, а ў голасе адчувалася самая звычайная крыўда: Ладо яшчэ сам не бываў у сталіцы.

— Загадана збыраць цябе ў дарогу! — падганяў ён.— Паперы твае вжэ пэрадалі! Шнэль, збырайса!

— Я гатоў.

Неўзабаве прыехалі і сані. У трафейным кажусе з баварскіх мерыносаў, з пугай уваліўся ў зямлянку вялізны партызан з чапаеўскай брыгады.

Збегліся астатнія разведчыкі, са штучнай бадзёрасцю сталі развітвацца: немец ляцеў у сталіцу, зайздросцілі яму таксама.

Гофману далі падношаны чырвонаармейскі шынель. Знайшлі вушанку са следам ад зорачкі. На рэчы Ладо падараваў яму абшарпаную сумку ад процівагаза, вытрасшы на салому пашматаныя ілюстрацыі. Былы штурман дастаў з кішэні сіняе кашнэ і абматаў грузіну шыю. Старанна падбіраючы словы, растлумачыў:

— Прэзэнт ад мінэ на памяць. Это — падарунак ад мой стары оцец.— Паказваючы на скручаную ў сувой карціну, што стаяла ў кутку, нявесела дадаў: — Яшчэ пакідаю свой партрэт. Будзеш рабіць пасля вайны персанальную выстаўку, прышлі — не забудзь — мне запрашэнне.

Назіраючы гэтую сцэнку, чапаевец выбухнуў:

— Развялі тут анцімонію са сваім фрыцам, маць вашу распературак! Дземех Віцька ў санях мерзне! Не калупайцеса! Немцы з вамі так цацкаліся б? Даю мінуту часу, пасля павезяце самі — мяне тут не будзе.

Чапаевец са злосцю плюнуў, рашуча сунуў пугаўё за халяву, скінуў з пляча нямецкі карабінчык ды заклацаў замком — праверыў, ці не застыла ў магазіннай каробцы

масла. Дземех напароўся ў Зачэпічах на засаду, яму прастрэліла жывот, Бергман аперыраваць не браўся.

Разведчыкі заварушыліся і ўмомант скончылі зборы.

## 25

Вечарам у зямлянцы партызаны спахапіліся — чагосьці не хапае. І не падазравалі, што так паспелі зжыцца з палонным. Некалькі чалавек збіраліся па соль у Латвію, але і яны гаварылі толькі пра Гофмана.

Нінін брат, Васіль, заўважыў:

— У разводдзе хвалі Дрысы часамі могуць загнаць на адзін плыт зайца, дзіка і ваўка. Яны таксама тады не грызуцца, нават не спіхваюць адзін аднаго ў ваду. Толькі ж ідылія — да першага берага ў іх, а мы, ахламоны, чагосьці немца шкадуем і зараз.

Хтосьці ўспомніў:

— Кажуць, гэтак следчыя зжываюцца са сваімі арыштаванымі: цікавяцца потым яго здароўем, перажываюць сямейныя беды, а калі скончаць допыт і злачынцу перавядуць у іншую турму, следчы сумуе, не знаходзіць сабе месца...

Васіль не здаваўся:

— Не, хлопцы, што ні кажы, а — лягчэй стала дыхаць у пакоі. Прасцей, не так душна. Праўда-праўда!

Ведаючы яго непрымірымасць, партызаны прамаўчалі. Усе раптам схамянуліся — апошні час пачалі ўжо як бы і забываць, што сярод іх жыў нацыянал-сацыяліст, самы сапраўдны гітлеравец, які ў сваім самалёце вазіў нават фельдмаршала Герынга.

У наступны дзень разбушавалася дзікая завея. Лес хістаўся і гуў, яго песня без слоў то нарастала грозным акордам, то сумна цішэла,— бытта якісьці волат выказваў свой боль над змучанай акупантамі Беларуссю ды не мог аніяк ні выказацца, ні супакоіцца. Дробны, прамерзлы, як асколкі шкла, снег мяло з дрэваў, падымала з зямлі, секла ім па тварах людзей. Раптоўныя парывы віхуры пераносілі сумёты з месца на месца, завальвалі дарогі і ўваходы ў зямлянкі. Над дрэвамі цераз імклівыя рваныя хмары сярэбранай сцёртай манеткай кацілася халоднае сонца.

Не сціхала завея, біла па дрэвах ды выла віхура і вечарам.

Сабраным у паход партызанам было загадана чакаць світання. Разведчыкі доўга рэзалі ў карты, заганялі «каз-

ла», травілі анекдоты ды меркавалі — дзе ж цяпер можа быць іхні «фашыст». Што самалёту вецер? Узніміся вышэй хмар — і ляці сабе. Вядома, гэты шчасліўчык ужо ў Маскве. Ці будзе суджана сваю сталіцу бачыць таксама і ім?

Хлопцы ўспаміналі, як бралі немца ў палон, як ён, зараза, агрызаўся і які быў пыхлівы, як абражаў хірурга, аднак — уціхаміраўся. Спачатку прызнаваў толькі камісара і Ладо, затым — іншых, а нарэшце прызнаў і Бергмана.

Пастуцова немец стаў карэктным і зважлівым, правіў ім вопратку ды абутак, мыў посуд, наводзіў у памяшканні парадак.

У блакаду разам уцякаў ад карнікаў, пакорна валок на спіне партызанскае дабро — цярпеў усе нягоды.

Вечарамі на пару з Ладо забаўляў партызан ігрой на мандаліне, гітары. Калі ж далучаліся са сваім інструментам браты Гарчаковы, на канцэрт збягалася паўлагера.

Больш ніхто ад яго не чуў грубага слова...

— Хаця б па дарозе не ўцёк ад фурмана,— сказаў хтосьці без пераканання — для парадку.— У такім тоўстым кажусе чапаевец непаваротлівы, бы мядзведзь, немец жа — у шынеліку. Юркне паміж ядлоўцу ды паляціць у Расоны да сваіх!..

— Каб меўся ўцячы, зрабіў бы гэта пад Бухавам, калі танк затануў,— няўпэўнена заступаўся Ладо, бо трывожыўся і ён.— У тую гарачку часамі аднаго пакідалі і не ўцякаў...

За размовай праляцеў час.

## 26

Раніцой разведчыкаў разбудзіў рэзкі стук. Герашвілі прыслухаўся: хтосьці са двара біў, бы малатком, у дошкі, адчайна стагнаў:

— Лядо-о!.. Лядо-о!..

Адчыніўшы дзверы, грузін спачатку сваім вачам не паверыў.

Перад ім стаяў Гофман.

Немец так замерз, што больш не змог вымавіць і слова, а бязладным кулём зваліўся на парог. Грузін схапіў яго ўполкі, павалок у памяшканне.

Выяўляецца, з-за надвор'я самалёт усё ж такі прыйсці не здолеў. Параненых адправілі ў Сялявіцкі лазарэт. У неразбярысе чапаевец пра немца забыўся — ратаваў Віцьку Дземеха. Пакінуты палонны патаптаўся нейкі час сярод

партызанскіх фурманак, нагрэўся ля коней ды адправіўся ў брыгаду.

Падзея падняла разведчыкаў на ногі. У печцы неўзабаве весела забушавала полымя. Пасадзіўшы Гофмана на калоду перад дзверцамі, хлопцы ўжо здзіралі з яго абледзянелую вопратку, сцягвалі замерзлыя на косць боты, снегам расціралі пальцы ног, сыпалі пытанні:

— І ты адзін мясіў суміёты цераз лес аж з Сялявішч, усе трыццаць пяць кіламетраў?

— Як жа ты партызанскія заставы праходзіў? Ты ж не ведаў пароляў!

Аслабелы ад недаядання, змардаваны дарогай і адубянелы ледзь не да страты прытомнасці, немец моўчкі соп ды нягнуткімі пальцамі стараўся ададраць са шчаціння пад носам лядзяшкі.

— Чаму ж ты ў гарнізон які не махнуў, не звярнуў з дарогі да сваіх фрыцаў? — пакпіў Ладо.

— Каб эсэсаўцы сцапалі мяне за тое, што ў палоне быў? — выбухнуў штурман.— Мяне на радзіме ўжо даўно пахавалі! Рэчы з полацкай гасцініцы адправілі дамоў, хлапчукі з «гітлерюгенд» паклалі іх на атласную падушку пад партрэтам фюрэра!..

Немец аж устрапянуўся, а яго глыбока запалыя вочы бліснулі злосным абурэннем:

— Думаеш, я табе няпраўду гаварыў? Чаму вы мне ўвесь час не верыце?!

І з той жа злоснай перакананасцю, дапамагаючы сабе жэстамі, мяшаючы ад хвалявання рускія, беларускія і нямецкія словы, усім аб'явіў:

— Гітлер — шайсэ, даўно вайну прайграў, пераканаюцца неўзабаве ўсе мае суайчыннікі! Я не хачу належаць да яго шайкі! К д'яблу ўсё — я не маю нічога агульнага з іх злачынствамі! Альзо, застаюся з партызанамі нават і тады, калі захочаце мяне расстраляць! Лядо, мэльдэн біттэ, камісару! Я ўдзячны свайму лёсу, што мяне закінуў сюды на пакуты і нягоды — з прыемнасцю іх буду несці і далей!

Апошні час Гофман бурчэў на суайчыннікаў, але партызаны ўпадазравалі фальш: маўляў, лесціць, нягоднік, каб шкуру ўратаваць. І — на табе, такі ўчынак!

Раніцой у шалашы-сталоўцы адбылася такая сцэнка.

За сталом з грубых дошак сядзела з пятнаццаць партызан. З распаранымі ад гарачай стравы тварамі яны лыжкамі цягалі мясны булёнчык без солі ды не зводзілі з немца вачэй.

Гофман быў яшчэ злы — усё не мог адагрэцца. Яго разумелі і спачувалі. Здарылася б падобная сітуацыя ў Сялявішчах з кім-небудзь з іх, і кожны хлопец прыдумаў бы сем прычын збегчы ў якую-небудзь халупу ці зямлянку, каб пагрэцца ды папрасіць гарачай стравы. Немец жа баяўся, каб не прычапіліся да яго, не пазналі ў ім палоннага, не западозрылі лазутчыка. Мусіў цярпець і двое сутак на такім холадзе нічога не браў у рот. Лёгка было сабе ўявіць, як ён таўчэцца ля запрэжаных коней, прыкідваючыся, што іх корміць ды накрывае дзяругамі, затым паныла валачэцца трыццаць пяць кіламетраў па снежнай цаліне ў лагер, стараючыся перахітрыць брыгадныя заставы.

— Вілгэлм, табе мідаль трэба даць за гэта! — пахваліў яго грузін, падносячы лыжку да рота.

— Ад камандавання! — дадаў яго сусед.— А мы, покуль што, давайце пачэпім яму самаробны!

Немец быў у дрэнным настроі і раздражнёна гыркнуў на гумарыста:

— Што ты сярбаеш, як паравоз, не можаш есці пачалавечы?!

Хлопцы дружна зарагаталі.

Грубыя лесуны, якія не аднойчы заглядалі смерці ў вочы, сэрцам бывалых людзей адчулі значнасць падзеі,— кавалер жалезнага крыжа, мацёры акупант, што ўсіх тут абзываў бандытамі, з іх дапамогай пераўтвараецца ў саюзніка.

## 27

Завея памалу сціхла.

Як звычайна бывае ў такіх выпадках, за буранам ударыла адліга. Атрады санямі адправіліся таптаць снег на партызанскі аэрадром, але калі прыляціць у Сялявішчы самалёт зноў, ніхто, ніводзін чалавек толкам не ведаў.

Чакаючы паўторнай адпраўкі, немец цяпер адчуваў сябе зусім прывольна. Адаспаўшыся ў цяпле, у наступныя дні хадзіў куды толькі хацеў, а хлапчукі з сямейных зямлянак, убачыўшы яго здалёк, крычалі:

— Унь рускі немец!

Аднаго вечара разведчыкі з Гофманам адправіліся на канцэрт самадзейнасці ў доўгую будыніну — партызанскі клуб. Калькі ў блакаду самалёты кідалі бомбаў, секлі з бартавой зброі. Дзіркі дзяўчаты замазалі глінай, залу і сені Герашвілі з напарнікам упрыгожылі зноў лозунгамі

ды карыкатурамі на немцаў — будыначак і далей служыў свайму прызначэнню. Сотні людзей з вінтоўкамі між кален, з аўтаматамі на шыі зараз у ім з аднолькавым запалам прытупвалі хвацкім танцорам, слухалі ігру на цытрах братоў Гарчаковых, дэкламацыі з твораў Шолахава і Талстога, упіваліся пераборамі баяна сляпога Васіля Мураўёва. Рэакцыя была шчырай, жывой і бурлівай.

Ледзь не апаўночы ў абкружэнні партызан Ладо з немцам дабіраліся дамоў.

Хто такі быў Гофман?

Ён не пусціў пад адхон поезда, не ўратаваў з-пад шыбеніцы патрыёта — нават сам шкодзіў партызанам. Аднак чалавек гэты таксама зрабіў подзвіг — перамог сябе, даставіўшы партызанам прыемныя эмоцыі, таму зараз быў цэнтрам увагі.

Стары Архіп з Баканіхі — равеснік майго бацькі. Яны нават падобны адзін на аднаго характарамі. Як і майго старога, Архіпа тады не адзін дзень, мабыць, мучыла адно. Лічачы ўжо немца цалкам сваім, бытта папракаючы ўсіх астатніх яго суайчыннікаў, дзядзька Баканіхі выпаліў:

— Слухай, лётчык, адкажы мне на такое. Твае немцы, халера іх не брала, людзі не дурныя. Навошта ж тады пайшлі на нас? Вайна — мукі, раны, кроў...

Дзядзькава пытанне Гофман прыняў усур'ёз.

— Яшчэ ніколі, фатэр, жахі не ўтрымалі людзей ад вайны. Кожны думае: на такой бойні памрэ не ён. Зрэшты, войны цяпер плануюцца асобнымі дэмагогамі. Такія тыпы іграюць на патрыятызме сваіх народаў ды ўводзяць людзей у зман.

Партызаны не спадзяваліся павароту гутаркі на гэткі ўзровень, з павагай прыціхлі. Цемра не давала бачыць, ці дзядзька зразумеў немца. Стала чуваць — нехта баўтануўся ў глыбокую лужыну, вылаяўся:

— Япо-онскі бог!.. І так было поўна ў боце вады, шчэ налілося праз халявы! Дзіва, што фашысты нас б'юць! У лагеры парабіць чалавечыя пераходы нельга?!

Гофман доўга не мог прызвычаіцца да слова «фашыст». Толькі ў Італіі шайка Мусаліні так называлася, немцы ж — не макароннікі якія. Тым не менш тэрмін існаваў, даводзілася мірыцца.

Немец падхапіў партызана:

— Неразбярыхай вы якраз і дужыя. У нашых усё спланавана і прадбачана. Вымерана, колькі масла, шакаладу есці салдату, калі ехаць у адпачынак, колькі цвікоў

насіць на левай падэшве, на правай і колькі мець у запас, калі ўставаць і класціся... Вы ж не па статуту — трах, бах! — па якой-небудзь часці — і ўсе нашыя планы з тэрмінамі ляцяць да д'ябла. Бо выбухі вашага гневу, зацятасць у планы не ўпісваюцца. Такой імправізаванай неразбярыхай і вайну ў немцаў выйграеце!

Партызаны выбухнулі здаволеным рогатам.

— Оу-у, вы, рускія, майстры на імправізацыі. У такіх суровых умовах — канцэрт, як у сталічнай зале кансерваторыі. Сем-восем самадзейных артыстаў класічнымі творамі цэлы вечар увагу слухачоў трымалі, до-онэрвэтэр!

— У нямецкай арміі канцэртаў не наладжваюць?! — дзівіліся партызаны.

— Наладжваюць, але такія, што выклікаюць зубаскальства ды жывёльны рогат. Карысна для здароўя салдат — сцвярджаюць урачы. Яшчэ ў нас чамусьці ў пашане гумар вісельніка. Вашыя ж канцэрты тонкія, а смех — ачышчае душу і прымушае перажываць. Падобнае я назіраў у Францыі, Італіі. Толькі там дадалі б яшчэ сексуальнай афарбоўкі.

— Камісар не дазваляе! Паказалі б такі табе секс, што французам і не снілася, праўда, хлопцы? — заўважыў бліжэйшы хлапец, і ўсе зарагаталі зноў.

— Ты разумееў адценні дэкламацыі? — дапытваўся грузін сваё.— У Кахэціі з малых год даводзіцца гаварыць з армянамі, рускімі, туркамі. Мовы даюцца мне лёгка. Але за чатыры месяцы н нэ здолеў бы гаварыць так па-тутэйшаму!

— З парашутам ніколі не скакаў? Каб раскрыць яго, калі нырнеш за борт, дастаткова затраціць паўтары секунды. За гэты міг павернешся ў паветры, тузанеш за ручку ды яшчэ пару маніпуляцый зробіш. Ва ўмовах вучэбных хутчэй за шэсць секунд парашута яшчэ ніхто не адкрываў! Альзо, у стрэсавай сітуацыі складанасці асвойваеш хутчэй. Лепшы спосаб вывучыць мову — поўнасцю акунуцца ў моўнае асяроддзе, не мець магчымасці нават перакінуцца па-свойму словам, пачаць ужо і думаць на чужы лад і нават — сніць. Сам ведаеш — усё якраз я тут меў.

Вярнуўшыся з канцэрта, хлопцы і не думалі класціся спаць. Пад Сталінградам ішоў разгром абкружанай арміі Паўлюса, узбуджаныя партызаны загаварылі пра наступленне. Нехта знайшоў у сябе трафейную газету «Фолькішэр бэобахтэр», папрасіў былога штурмана перакласці,

што яго суайчыннікі пішуць пра «кацёл» над Волгай.

У партыйным органе Гофман знайшоў пералік падзей за мінулы тыдзень, зроблены галоўным аглядальнікам прэсы — самім генералам Дзітварам. Высакапарнымі словамі гітлеравец паведамляў нямецкаму народу аб скарачэнні ля Дона лініі фронту, пра голад у Ленінградзе ды высмейваў лютыя атакі чырвонаармейцаў на нямецкія кулямёты пад Вязьмай без танкавага і авіяцыйнага прыкрыцця. Пералічыў яшчэ затопленыя падводнымі лодкамі караблі ў Атлантыцы і намаляваў разгром японцамі амерыканцаў на выспах Ціхага акіяна...

Спакойна, шчыра і без падлізвання, за што разведчыкі так яго паважалі, Гофман ахвотна растлумачыў:

— Першы шок, выкліканы абкружэннем найлепшых нямецкіх дывізій, у нашых фанабэрлівых задавак мінуў. Сталінградскую сітуацыю партыйныя бонзы лічаць покуль што не трагічнай — усё яшчэ не адвучацца глядзець на падзеі вачыма пераможцаў. Нічога, галоўнае вамі ўжо зроблена, патрэбен толькі час. Дасягнеце Германіі, і справа пойдзе хутчэй — дарогі ў нас выдатныя.

Успомнілі лужыну, у якую трапіў партызан, парагаталі.

Спаць нікому не хацелася. Грузін узяў мандаліну, разведчыкі — балалайку, бубен, а немцу далі гітару. Пачалі настройваць інструмент і думаць — што б такое сыграць.

Выручыў Ёган Штраус, якога хлопцы ведалі «тры каленцы». Штурман узяўся вучыць вальс «Над сінім Дунаем» на «восем кален»...

## 28

У наступны дзень Ладо памяняўся з Гофманам абуткам ды пакрочыў з разведчыкамі аж за Расоны, пакінуўшы немца аднаго. Разведчыкі ведалі — у яго завялася сімпатыя.

Гордую прыгажуню з гарбінкай на носе немец заўважыў яшчэ ў час блакады. Драўляным малатком яна лупіла па металёвым шпяні казённай часткі гарматы. Цяпер яе гаўбіца, разам з іншымі трыццаццю пяццю гарматамі, мерзла ў Заазер'і, а маладзіца вучыла сірот.

Гофман і хвіліны не сядзеў без занятку — нешта чысціў, выразаў, свідраваў, скрэбаў, і неяк атрымалася само сабой, што сталі яго пасылаць настаўніцы на падмогу.

Неўзабаве ён змайстраваў бачок для вады. З кавалачкаў шкла ўставіў шыбы. Адрамантаваў швейную машыну. Насіў сухія дровы...

Аднойчы з Прорубі Гофман прынёс для сімпатыі такі падарунак, што ў лесе загаварылі ўсе жанчыны.

Хадзіў ён тады з хлопцамі па харчы ў лясную вёсачку. Вяртаючыся ў лагер, усе заўважылі адтапыраны на грудзях у палоннага шынель і дружна загаварылі:

«Ха, немец наш таксама абарахоліўся!»

«Мабыць, кіслай капусты ў гладышку напіхаў і беражэ!»

«Глядзі, як хутка акліматызаваўся!..»

«Захацеў бы жэрці, акліматызаваўся б і ты!»

Тым часам у лагеры ён выняў з-за пазухі ды ўручыў настаўніцы гліняны вазончык з кветкамі кітайскай ружы.

«Ой, няўжо — мне-е?!.» — толькі ўскрыкнула ў захапленні яна, удзячна бліснуўшы белымі зубамі, але зараз жа ўзяла сябе ў рукі: бытта нічога не здарылася, панесла гаршчочак да акна.

Партызаны здзівіліся: як ён умудрыўся прыперці расліну цэлай, у якой хаце раздабыў?!.

Пакінуты цяпер штурман пачысціў старанна рудыя і дзіравыя боты Герашвілі, давёў да ладу вушанку, зацыраваў прапалены ля вогнішча шынель ды праверыў, ці выгарала ў печы. Больш рабіць не было чаго, ён абвёў памяшканне вачыма.

На стале блішчэў пакінуты Васілём радыёпрыёмнік.

Гофман падключыў батарэі, навёў апарат на Берлін. З першых гукаў, што ўварваліся ў памяшканне, стала зразумелым — трапіў на «хвіліну нацыі»[1].

Гучэў якраз любімы Гітлерам «Badenweilermarsch». Гофман заўважыў раней,— нямецкія маршы хоць і халодныя, але абсалютна дасканалыя: у чалавека на працягу хвіліны прымушаюць забываць на стому і ты чуеш толькі рытм, які разыходзіцца па целе ды прыводзіць цябе ў рух. Вось і «Badenweilermarsch» праз пару секунд паланіў ужо і штурмана — ён і не згледзеўся, калі стаў выбіваць такт.

Музыка раптоўна абарвалася, эфір запоўніў крыкун.

Упэўнены, добра пастаўлены голас загаварыў пра татальную мабілізацыю, пачаў будзіць у несвядомых скандынаваў, халодных датчан ды галандцаў кліч нардысцкай

---

[1] Вызначаны тэрмін, калі па радыё нацысты перадавалі нешта важнае.

крыві, заклікаць іх дружна станавіцца пад пераможныя штандары фюрэра.

Недзе пад кожным рэпрадуктарам на плошчах Германіі застылі зараз на смірна па два абмундзіраваныя юнакі з «Hitlerjugend», астатнія ж немцы на поўным сур'ёзе слухалі брахуна. Уявіў сабе ўсё гэта Гофман і апарат выключыў.

Намерыўся схадзіць у школу — проста так, каб зноў зірнуць на сімпатыю. Не вытрываў, на палове дарогі завярнуў да кухні чым-небудзь пажывіцца.

Убачыўшы незвычайнага госця, дзве маладыя кухаркі запрапанавалі немцу сырую бульбу. У лагеры, Гофман даўно заўважыў, панаваў якісьці, невядомы яму дагэтуль, клімат у адносінах паміж мужчынамі і жанчынамі. Яму нават цяжка вытлумачыць, у чым справа: смех казаць! — толькі з гэтымі жанчынамі ён не ведаў, як сябе паводзіць, хоць не ўзнікала праблемы, калі бываў сярод італьянак ці француженак. Звярталася да яго партызанка — і ён ужо адчуваў збянтэжаную няўпэўненасць. Атмасфера такіх сустрэч была па-новаму заманлівай, прасякнута чароўным сэнсам.

На кухні Гофмана не пакідала знаёмая нясмеласць.

Дзве дзяўчыны, што зараз былі перад ім, учора на сцэне дробна выстуквалі абцасікамі «Крыжачок», хвалявалі паўтысячную аўдыторыю мужчын, а вось цяпер, пачапіўшы ля лозунга на абсмолены сучок карабіны, з наматанымі на галовы, па мясцоваму звычаю, цёплымі хусткамі,— рыхтавалі атраду абед. Ад незразумелага самім дзяўчатам вясёлага неспакою яны мітусіліся паміж катламі, плюхалі без патрэбы ў вар апалонікі ды бразгаталі нажамі.

Дзяўчат немец адчуваў кожнай клетачкай свайго цела. Спёкшы на прысаку пару бульбін, пагрэўшы рукі, ён буркнуў некалькі руска-беларускіх слоў у адказ на залётнае пахіхікванне гарэзніц ды пакрочыў далей.

## 29

Каб зберагчы некаторыя будынкі ад нямецкіх самалётаў, позняй восенню перавезлі іх у лес ды паставілі пад векавыя елкі і сосны. Так узнік партызанскі клуб, потым — будынак школы.

Яшчэ не ў зусім уцепленай хаце маладзіца, абвязаная гэтаксама ваўнянай хусткай узорыстай вязкі, вяла заняткі.

На старых партах цюпіліся захутаныя хлопчыкі і дзяўчынкі. Перад імі на чорнай дошцы каліграфічным почыркам было напісана:

«СМЕРЦЬ НЯМЕЦКІМ ЗАХОПНІКАМ!!!»

Малы ў растаптаных валёнках ніжэй выводзіў каракулі:

«Мой тата ўчора забіў двух фашыстаў...»

Напісанае немцу здалося поўным вялікага сэнсу. Ён перавёў позірк на артылерыстку.

Гофман ужо меў магчымасць звыкнуцца з тутэйшым спосабам быту. Ого, што было б, калі б беларус ці рускі, так як немец, запатрабаваў у сваёй кабеты пачысціць яму боты! Прызвычаіўся штурман і да мясцовага спосабу апранання, якое, як раней яму здалося, абязлічвала ды рабіла жанчын шэрымі. Наадварот. Грубая хустка на галаве і жакет настаўніцы для яго цяпер яшчэ больш падкрэслівалі жаночую прывабнасць. У немца зачасціў пульс, яго пацягнула да настаўніцы, як магнітам.

Гофман выразна бачыў — яна адразу заўважыла, хто пазірае з сяней, выдатна разумее, што робіцца ў яго на душы, аднак не павяла і брывом, а з той жа мацярынскай клапатлівасцю рабіла вучню заўвагу. Ён падумаў: у немкі сардэчнасць была б службістай, па абавязку, і засумаваў менавіта па такой — цёплай, натуральнай, чалавечай.

Зноў агарнула немца збянтэжанасць, падумалася — покуль сюды ішоў, напэўна, сачылі дзесяткі пар цікаўных вачэй за кожным яго крокам. Ад агалёнага намеру немцу зрабілася няёмка. Пару хвілін ён патаптаўся ў сенцах, праверыў пазногцем, ці шчыльна сядзіць шкло ў шыбіне, і пашукаў на падаконніку вазон.

Кветкі ад холаду паморшчыліся, сталі падобны на макаўкі.

Немец заглянуў у скрыню, куды ўчора паставіў адрамантаваную машыну «Зінгер». Пуста. Настаўніца вечарам забрала ў зямлянку,— адразу яму пацяплела на сэрцы. Пару хвілін паназіраў яшчэ за класам і асцярожна павярнуў. У сенцах пачуў — нехта з малых паддобрываўся:

— Галіна Мікалаеўна, а да нас рускі немец чагосьці прыходзіў!

— Няўжо?! — разыграла яна здзіўленне.

— А-га-га! — пацвердзіў дружна дзіцячы хор.— Шыбы чамусьці правяраў!

— І ў скрыню заглядваў!..

— Ладна, дзеткі, працягваем урок! Да дошкі цяпер пойдзе...

На вуліцы Гофман напаткаў стомленых партызан. Два каржакаватыя хлопцы валаклі на сабе па мяшку солі.

Партызан убачылі праз цьмяныя акенцы вучні, і ўсе, як адзін чалавек, сыпанулі на двор. Малыя ўмомант абступілі хлопцаў, загаласілі:

— Дзядзя-а, дай со-олі!

— І мне-е!..

— Дайце, дзядзя-а!..

— Хоць кры-ышачку!..

Камандзір групы загадаў:

— Мішка, выдай ты ўжо ім, хай не прыстаюць — выхаванцы Галі з гаўбічнай!

Пярэдні партызан гупнуў мяшок на пень, крыкнуў:

— Хто просіць, ты, Света? «Сіні платочак» праспяваеш?

З грымасай, бытта сапраўдная артыстка, малая смехам праспявала і кінулася да развязанага мяшка. За ёю рынулі вучні. Перакрыжаваны рамянямі, абвешаны гранатамі, пузатымі сумкамі, біноклем і аўтаматам, хударлявы хлопец вялым ад стомы голасам прабурчэў:

— Не ўсе адразу, падшыванцы, не трапятацца так!..

Неўзабаве кожны з вучняў атрымаў па жменьцы шэрай солі. Малыя адразу пачалі набіваць яе ў рот і смактаць з прагнасцю, бытта цукар. Камандзір жа з-за халявы дастаў дзюралевую лыжку і, асцярожна набіраючы, кожнаму адмераў яшчэ і ў ануучкі. Затым ададраў лапінку, насыпаў порцыю зноў. Завязаў рагі ды падаў палоннаму.

— Паеш, фрыц, салёненькага і ты. Дам яшчэ — настаўніцы занясеш!

Але тут падышоў дзяжурны і палоннага забраў.

## 30

У штабным памяшканні Гофмана чакаў Бергман з канваірам і Ганс Ёдке — лётчык з «хейнкеля», збітага партызанамі цёплай восенню, калі немцы бамбілі пераправу. Ёдке таксама адпраўлялі ў тыл. Камандаванне партызан рыхтавала на палонных лётчыкаў паперы.

— Сядай, начальства зараз з'явіцца! — запрасіў Бергман штурмана.

Гофман павітаўся з хірургам, падаў руку і канваіру,— з ім летам збіваў платы на сакалішчынскі мост. Невялічкі, з рабенькім тварыкам і тонкімі вуснамі суайчыннік руку працягваў неахвотна. Ёдке задзіраўся з партызанамі, і

толькі дзіва брала, што да гэтай пары з ім цацкаюцца.

Сустрэча абодвух палонных павінна быць радаснай.

«Ты адкуль?»

«А — ты?»

«Што будзе з намі, не чуў?»

«Не. Як там нашыя, не ведаеш?..»

Тым часам лётчык-бамбардзіроўшчык з ходу наваліўся на свайго земляка:

— Цябе, Гофман, маслам, вядома, і сёння кармілі?

— Што далі, тое і еў,— штурману не ўпершыню даводзілася агрызацца ад прыдзірак суайчынніка, якога ўвесь час трымалі пад строгай аховай.

— Думаеш, не пакаўзнешся на ім! Ха, яшчэ як! Афіцэр, верны кодэксу гонару, першым чынам падумаў бы менавіта пра гэта!

— Ведаю, што скажаш яшчэ. Ordnung muss sein! Befehl ist Befehl! Meine Ehre heist Treue[1],— пустыя фразы для гітлерюгенд, Ганс.

Вільгельм паблажліва зірнуў на дробненькага суайчынніка, нявесела ўздыхнуў:

— Ох, гэтыя сумленныя ды верныя кодэксу гонару афіцэры заўсёды служылі гаспадару — усё роўна якому!

Сведка спрэчкі паміж нямецкімі авіятарамі хірург Бергман мне расказваў,— штурман і адзывацца не хацеў, але Ёдке яго справакаваў.

У памяшканне якраз увайшла бабка, пачала насыпаць у каску сушаных грыбоў для кухні ды насцярожана цікаваць на палонных. Бамбардзіроўшчык, як певень, насядаў на суайчынніка:

— А як будзе з тваёй прысягай, як? Маўчы-ыш, шавец дратвай табе рот зашыў?! Глядзіце, не пачырванее нават! Прытупіў ты, Гофман, у сабе сумленне нямецкага афіцэра! Абяцаю: трапім да сваіх, і загаворыш ты ў мяне праз дзіркі ад зубоў! А дома — на мыла цябе пусцім, я ж ужо пастара-аюся!

Гофман не вытрываў:

— Што ты вярзеш, ідыёт! Што сунеш мне сваю прысягу, што ты ў ёй разумееш! Прачніся, дуралей, як прачнуўся я! Вайна стала безнадзейнай авантурай! Прадаўжаць яе — дзейнічаць у інтарэсах Гітлера і твайго тоўстага шэфа і марфініста Герынга! Фюрэр і праўда, як казалі

---

[1] Мусіць быць парадак! Загад ёсць загад! Гонар мой — вернасць *(ням.)*.

ў Германіі,— выпадак параноя ў сусветнай гісторыі! Яго бязглуздыя ідэі гіпнатызуюць такіх, як ты, дуралеяў ды робяць паслухмяных марыянетак!

Гофман паказаў на бабку і канваіра:

— Што мне кепскага зрабілі гэтыя людзі, каб я ваяваў супроць іх? Чым дзеці, што ядуць жменямі соль, правініліся перад Германіяй? Толькі тым, што сталі паміж ашалелым Гітлерам ды яго дзікунскай ідэяй «лебенсраўма»!

— Майн гот! І гэта гаворыць нямецкі афі...

— Слухай! Калі думаць па-твойму, то няхай загіне Германія, толькі я быў чысценькі — захаваў вернасць прысязе! У даным выпадку падпарадкаванне не прыносіць мне гонару, таму я выбраў непадпарадкаванне! Звязаныя з прысягай учынкі, што прыносяць бліжняму шкоду, паводле хрысціянскай маралі чалавека ад яе вызваляюць!

— А-а, цябе ўжо і праўда купілі бальшавіцкія камісары за пахлёбку?! — схапіўся Ёдке з месца ды кінуўся на Гофмана.

Канваір зарагатаў. Бабка закрычала:

— Міша, шчэ пазабіваюць тут немцы адзін аднаго, а ты зубы будзеш скаліць?

— А ну, фрыцы, маць вашу... замаўчыце! Разышліся тут! — зароў вартавы ды замахнуўся прыкладам.

## 31

Каб даць які-небудзь занятак палоннаму да адпраўкі, хірург пратрымаў яго потым цэлы тыдзень у сябе. Немцу давялося такім чынам пабыць у расонскім лесе і санітарам, пазнаёміцца яшчэ з адным бокам партызанскага жыцця.

«Жываты» хірург адкладваў для эвакуацыі. Затое звычайнай нажоўкай, працёртай самагонкай, адпілоўваў параненым хлопцам рукі ці ногі.

У першы дзень санітар-палонны адвалок у яму вядро з абрубкам васковай нагі — з драпінамі ды чорна-сінімі пражылкамі. Тое, што Бергман рабіў, не мела нічога агульнага з аперацыяй і ўяўленнем аб дапамозе медыка. То была цяжкая фізічная праца з нажом ды пілой у руках. Гофману прыйшло на памяць прачытанае ў кніжках, як некалі вымалі з грудзей рыцараў гроты: чаплялі бердышам, нагой упіраліся параненаму ў жывот ды з усяе сілы цягнулі канец стралы; альбо нагіналі бярозку, прывязвалі верхавінку да абломка стралы, што тырчэў з цела, і бярозку адразу ж адпускалі...

І ў падобных умовах хірург Бергман ухітраўся вылечыць хлапцоў ды нават вяртаць у строй.

Лагер цярпеў ад бамбёжак, блакад, вечнага неўладкавання і чакання вестак пра смерць ці калецтва блізкіх, якія жылі па вёсках, а туды часамі прарываліся карнікі. Але найбольш людзі пакутавалі ад таго, што не мелі чым пасаліць страву. Убачыўшы ля школы згаладнелых па солі дзяцей, немец стаў яшчэ больш уражлівы і з цікавасцю прыслухоўваўся да размовы ўрачоў.

Выяўляецца, «саляная праблема» зводзіць людзей даўно.

Ненавісны саляны падатак быў адной з тых прычын, якая запаліла агонь Вялікай французскай рэвалюцыі.

Напалеон праз 13 гадоў падатак аднавіў, і лёс яго сурова пакараў. Адступаючы з-пад Масквы, войска перажывала саляны голад, які да рэшты аслабіў супраціўленне людскіх арганізмаў: раны, што праз тыдзень-два звычайна зажывалі, цяпер былі смяротнымі, салдаты гінулі тысячамі...

А ўсё таму, што натрый мае ўплыў на работу мускулаў і сэрца, прымае ўдзел у імпульсах нерваў, усваенні бялка ды рэгулюе абмен паміж клеткамі.

І шэрасць твараў, шалушэнне скуры, слабасць, што назіралася ў партызан пасля блакады, ішла ад салянога галадання, не давала спакою лекарам. На кожным кроку медыкі даводзілі камандаванню — людзі ў лагеры трымаюцца толькі на сіле духу, гэтым злоўжываць нельга.

Брыгады адпраўлялі па соль групы за сотню кіламетраў аж у Латвію, дзе яе здабывалі з баямі. Ва ўсіх партызанскіх буданах-кухнях дактары вывесілі лозунгі:

«ПАРТЫЗАН, НЕ ХАВАЙ СОЛЬ У СКЛАДКАХ АДЗЕННЯ. ПАДЗЯЛІСЯ З ТАВАРЫШАМ!!»

У Шнітаўцы прывязаныя каля хлеўчыка партызанскія коні з такой заядласцю грызлі сцены, што ледзь можна было іх адцягнуць. Нехта спахапіўся:

— Да вайны тут быў саляны склад сельпо!

Даведаліся медыкі і адразу загадалі: хлеўчык разабраць, бярвенні парэзаць на кавалачкі і кідаць у катлы. Для нарыхтоўкі «пасоленага дрэва» ў шпітальную кухню накіравалі санітараў з Гофманам.

Сёрбаючы потым з хірургам пасолены такім дрэвам «рататуйчык», немец расказаў Бергману, як на яго вачах бедныя дзеці жменямі набівалі рот соллю ды смакталі, бы цукеркі. Са злой перакананасцю дадаў:

— Не ведаю, Давід, ёсць на небе бог, ці — не, але я ўпэўнены, што ў прыродзе нічога дарам не прападае. Усе гэтыя пакуты вашага народа вылезуць нацыстам бокам, пабачыш!

То было апошняе выказванне Гофмана, якое запомнілі ветэраны.

## 32

Вярнуўшыся з Расонаў, разведчыкі ўжо Гофмана не засталі.

У тыл немца адправілі на гэты раз з аэрадрома ў Роўным Полі. Герашвілі ў спадчыну засталася брызентавая сумка з Бібліяй, газетамі і з пісьмамі да нямецкіх салдат ад іх сваякоў (некалькі штук з якіх і прыводзіў я ў гэтым тэксце).

Неўзабаве з Цэнтральнага Штаба Партызанскага руху прыйшла на Расоншчыну радыёграма-паквітаванне. Пасланне тое разведчыкаў надта здзівіла. Судзіце самі.

Змест радыёграмы быў прыкладна такі:

«ДЗЯКУЕМ ЗА ШТУРМАНА КРОПКА ВІЛЬГЕЛЬМ ГОФМАН АКАЗАЎСЯ МАЦЁРЫМ ФАШЫСТАМ І НЕБЯСПЕЧНЫМ ВОРАГАМ КРОПКА ЁН КАШТОЎНЫ ДЛЯ ШТАБА КРОПКА».

Што ж, у вайне намячаўся пералом, але гэта ўсё яшчэ быў 1942 год, і кожны немец выклікаў перабольшаную насцярожанасць. Хочацца верыць,— потым, пры допыце, справа са штурманам высветлілася, ён заняў адпаведнае месца ў шэрагах нямецкіх антыфашыстаў.

# ЭПІЛОГ

## 1

Нядаўна пабываў я на сустрэчы партызан, што дыслацыраваліся над Дрысай. Спатканне арганізавалі ў Бухаве, якраз там, дзе рэчка выбіла глыбокую яміну.

Да мяне прыстала касавокая бабуля.

Навокал кіпелі страсці, гучэлі охі і ахі, а ў настырнай цёткі свой клопат — сын у турму трапіў. Злачынства зрабіў агіднае — згвалціў падчарыцу і атрымаў законныя дзесяць год, але маці, як маці, мірыцца з прысудам не магла. Гарачымі просьбамі бабка, мабыць, абрыдла ўсім

знаёмым «начальнікам», а зараз з наіўнай верай упарта прыставала да прыезджага «пісацеля».

— Тава-арышу, у мяне ж ён адзінае дзіця-а! — ныла.— Бацька на міне падарваўся, калі хлопчыку стукнула толькі паўтары годзіка, расло сіраці-іначкай, без цвёрдай рукі-і, што я, кабета, адна магла-а?! Дапамажы-ыце, таварыш пісацель, вы ж вучаны, усё мо-ожаце!..

— Ладна, Тацяна! — бесцырымонна перабіў старую ветэран Каралёў.— Скажы лепш іншае. Слухай, твой нямецкі танк з зеніткай на дне так і ляжыць?

Бабка паказала ва ўсмешцы ўстаўленыя бліскучыя зубы:

— А куды ім падзецца, Раман?

Адно цяпер да мяне дайшло,— Лысенкава Таня, што паказвала нямецкаму афіцэру брод!! Гм, звычайная бабуля, ды з такой асабістай трагедыяй?!

Убачыўшы, што кіем тыкаю ў ваду, бухавец растлумачыў:

— Э, каб што-небудзь нашчупаць, трэ тычыну добрую! Глыбіня тут мераная — 14 метраў! Прыязджалі нават з «Масфільма», хацелі танк з прычэпам з ямы вывалачы, але іл засмактаў усё — як цэментам заліў! Памучыліся масквічы — аж шкада іх было! І трактары сюды загналі калгасныя, і людзей склікалі, лябёдкі прымянялі, калаўроты майстравалі, так і гэтак падступаліся, а ўсё дарма. Магілу выбралі сабе немцы пэўную.

І ніякай злосці да гітлераўскіх салдат — бытта гэта суседскія хлапчукі, што палезлі ў садок па яблыкі і сарваліся з дрэва, другі партызан са спачуваннем прамовіў:

— Паслухаліся дурной бабы, паперлі ў чортава месца. І п'яныя, здаецца, не былі. Мабыць, збілі з толку дзве сцежачкі, а ты, Тацяна, выскачыла адтуль з-за рога. І хлопчык на руках у цябе, памятаю, быў, праўда?

— Але,— падтакнула кабеціна з вінаватай разгубленасцю.

Раптам успомніла, уся аж устрапянулася:

— Ва-анечка, зо-олатца, то мо ты паможаш яму? Сам жа ве-едаеш, як яго бацька загінуў! Хто за бедную сіраціначку засту-упіцца, хто з тае турмы яго цяпер вы-ыцягне! Ды й віна яго невялікая! Прыйшоў пасля палучкі п'яны, жонцы не было куды яго прыткнуць, паклала з падчарыцай, а потым, гадаўка, шчэ і сама ў суд падала на чалавека, ці ж гэта справядліва, скажы, так рабіць?!

Божа мілы, арыштантам якраз і быў той хлопчык, якога маладзіца трымала на руках!

Я пастараўся знайсці ў кабеціны хоць што-небудзь з мінулага, але як ні прыглядаўся, а бачыў адно зруйнаваную жыццём вясковую бабулю.

Гэтым часам ветэраны ўсё прыбывалі. Былыя адчайныя разведчыкі, танцоры і гулякі — людзі цяпер пажылыя ды самавітыя — раптам парабіліся зноў такімі, як былі некалі, а эмацыянальным выкрыкам ды радаснаму здзіўленню не было канца. Стараючыся нічога не ўпусціць, я ледзь паспяваў натаваць сабе ў блакнот размову.

Белы, як лунь, грузін здзівіўся:

— Гэта — ты, Касы?! Другі нумар з «дзегцяра», што збіў летам «хейнкеля» ля Перавоза?

— Я, Ладо. Прывітанне!

Сябры кінуліся ў абдымкі. Пра грузіна сёе-тое я ўжо чуў, расказвалі пра яго, мяне чалавек зацікавіў, і я застыў.

— А памятаеш, як тады бабы сцапалі твайго лётчыка?

— Яшчэ б не памятаць!..

— Сцапалі нават шчэ з парашутнымі лямкамі на плячах ды ледзь не акалечылі!

— Ну!.. Наш Раман Ягоравіч кажа на допыце яму: «Памятаеш, фрыц, 1812 год?» А той: «Цяпер — 1942!» Падляцеў Пецька кухар ды на яго: «Стараста з Перавоза табе рабрыны паломіць — навошта пеўня бомбай забіў? Адзін быў на цэлую вёску, і ты ўгробіў — куры вырадзяцца цяпер!» Немец яму: «Мы ведалі, што людзі ў лес паўцякалі, апрача курэй у вёсцы нікога няма, але загад ёсць загад!» Урэдны такі зараза немчык трапіў!

Грузін не вытрываў, дапамог:

— Тады Ягоравіч загадаў: «Насця, вазьмі яшчэ каго з дзяўчат і адвядзі лётчыка ў штаб!»

— Бо нашыя хлопцы па дарозе хлопнулі б нацыста ды заявілі б — уцякаў. Затое бабы нашы былі надта службістыя — ніякіх вольнасцей сабе не дазвалялі! Немец і праўда трапіў паганы!

І тут Герашвілі спахапіўся:

— А дзе наш «рускі нэміц»? Той штурман-радыст з «Юнкерса-52», з якога я натуру пісаў для краснапольскай Ніны — сястры Васіля? Пайшоў на заданне за Расоны, вяртаюся, а яго ўжо адправілі ў Роўнае Поле з дзяцьмі-сіротамі. Перад заданнем памяняўся абуткам з ім. «Табе, Вілгэлм,— кажу,— у Маскве выдадуць боты са склада, а я тут на заданні па балотах пахаджу ў тваіх нымэцкіх!»

О, што і цяпер у міне ляжыць яго брызентавая торба з салдацкімі пысмамі ды газетамі!..

Размова адразу перайшла на Гофмана. Успомнілі тэлеграму, прыціхлі, а [redacted] насцярожыўся.

Ветэраны пачалі ўспамінаць, як штурман-радыст ратаваўся работай, які быў акуратны, з якой няўклюднай упартасцю заляцаўся да настаўніцы, вучыў грузіна на мандаліне іграць Штрауса, як з бабскай жаласці партызанкі падкармлівалі немца і жаласць пакрысе перадалася мужчынам...

Нехта выказаў нават думку: следчыя, мабыць, пераблыталі штурмана з лётчыкам Ёдке з «хейнкеля» — той і на Вялікую зямлю паляцеў заядлым гітлераўцам.

— Нічога не пераблыталі, хлопцы,— цяжка ўздыхнуў самы пажылы ветэран.— То быў час — не дай бог. Нават нас, савецкіх людзей, тылавыя разумнікі пасля вызвалення колькі цягалі і дапытвалі — дзе быў, як з лагера ўцёк, чаму не загінуў як іншыя!.. У «Жывых і мёртвых» Сіманава ўсё гэта праўдзіва апісана!.. Сабе ўяўляю, як да немца тады чапляліся!..

Хвіліну маўчалі.

Вінаваты Ладо прызнаўся:

— Калі я даведаўся пра тылілграму, мяне доўга грызла сумленне: навошта шчэ і боты ў яго забраў!

Ветэраны сталі меркаваць: што ж з тых дзён немец запамятаў найбольш? Усе былі ўпэўненыя — былога штурмана, вядома, не раз, не два цягнула на шматпакутную Віцебшчыну, дзе з партызанамі паспытаў радасць і бяду, дзе адкрыліся яму вочы і ён скінуў з сябе налёт карычневай чумы.

## 2

Агульнавядома — у Вялікую Айчынную вайну загінуў кожны чацвёрты беларус.

Прапорцыя гэтая не адносіцца да Віцебшчыны.

Там склаў галаву — кожны другі ці трэці. Былы штурман, калі яшчэ недзе жыве, напэўна страціў бы спакой, даведаўшыся,— яшчэ і зараз насельніцтва шматпакутнага краю над Дзвіной і Дрысай не дасягнула і блізка даваеннага ўзроўню.

Праз Віцебшчыну месцамі можаш ехаць трыццаць, а то і ўсе сорак кіламетраў і не толькі не ўбачыш ні аднаго

дома — не спаткаеш звычайнага ўказальніка, што побач, праз кіламетр ці два ад асфальта ляжыць такі і такі населены пункт. Толькі астаткі прысад, здзічэлы куст бэзу напомняць часамі, што вось, дакладна ў гэтым месцы, жыла некалі і любіла кветкі сям'я, а там, дзе размытыя дажджамі контуры шматлікіх падмуркаў ды кавалкі цэментавага круга ад калодзежа — жыў цэлы род.

У гэтым шматпакутным і святым закутку краіны ёсць зараз цэлыя раёны, дзе існуе толькі па некалькі вёсачак, а чыгунка Полацк — Дно — Ідрыца дагэтуль так і не адбудавана — няма каму і для каго аднаўляць пуць.

Хто палічыць сляпых, бязрукіх ды бязногіх віцяблян і тых духоўных калек, што, падобныя да сына Лысенкавай Тацяны, раслі пасля вайны, як прыдарожны лапух — сіратамі, у нэндзы ды брудзе, без належнага кантролю, покуль мацяркі, запрэжаныя ў бараны, гаравалі на полі, ад чаго псіхіка дзіцяці давала нечаканы зігзаг.

Часамі адзін аднаму скардзімся, што многа ў нас хуліганаў ды злачынцаў, маладых гультаёў і абібокаў, ды яшчэ дзівімся — адкуль яны ўзяліся. А ці не прычына ўсяму тое, што няшчасныя гэтыя хлопцы былі пазбаўлены здаровага і жыватворчага мікраклімату, які б напэўна стварылі для іх мільёны бацькоў і дзядоў, калі б тыя мужчыны не склалі на вайне свае галовы.

Але гэта ўжо іншая тэма.

## 3

Некаторая насцярожанасць ды аўтарскі вопыт прымусілі мяне пры напісанні гэтай невераготнай гісторыі прозвішча нямецкага штурмана замяніць. Рабіў я гэта з вялікай неахвотай і шчыра спадзяюся — пры першай магчымасці з'езджу ў Падольск, пакапаюся ў вайсковых архівах, выяўлю сляды свайго героя, навяду кантакт, даб'юся ад яго дазволу ды ананімнасць асобы ў творы пры наступнай публікацыі ліквідую.

Бо хоць аж пяць гадоў штурман-радыст насіў на сабе ненавісны нам мундзір лейтэнанта люфтвафэ, у адным з музеяў шматпакутнай Беларусі вісіць (і будзе вісець не адно пакаленне!) жахлівая карціна з краснапольскай Ніпай, дзе з правага боку ад яе — партрэт нацыста з акрываўленай фінкай, спісаны грузінам менавіта з Гофмана (яшчэ адзін парадокс вайны!), аднак гэтаму немцу сваіх

паводзін сярод беларускіх партызан саромецца няма чаго, а гісторыя яго перараджэння — не простае замілаванне лёсам нямецкага палоннага.

*1976—1980 гг.*
*Гродна — Віцебск*

## *«ГЭТАК І ЛЮДЗІ: ДЗЕ НАРАДЗІЛА ІХ МАЦІ, ЛАСКУ ДА МЕСЦА ТАГО БЕРАГУЦЬ ЗАЎСЯГДЫ»*

### *(Да 480-годдзя выдання першай Скарынавай кнігі. Прага чэшская, 5 жнiўня 1517 г.).*

Пажадаю Вам, палачане і палачанкі, каб тая першая падумка Вашага Славутага продка, ураджэнца г. Полацка, вялікага вучонага Ф. Скарыны, што для «люду паспалітага» трэба пісаць кнігі на яго простай, зразумелай для яго мове, была заклікам да працы над эканамічным і нацыянальным адбудаваннем нашай многапакутнай бацькаўшчыны.

*Янка Купала. З «Ліста да палачан», 1926 г.*

### Змітрок Бядуля

## ПАХОДНІ

На плітах алатырных залатых вякоў,
На сочнай глебе сказаў з княжацкіх учынаў,
На красках простых спеваў простых мужыкоў,
Над плоймай струнных гукаў гучных адпачынаў
Агнеюцца паходні.

Іх водблескі рунеюць многа соткаў лет.
Квітнеюць, як лілеі казачнай крыніцы.
А кожная з паходняў — сонца-сяміцвет,
Якое мкнецца ўвышку, з яркай заранiцай
Спрачаецца удодні.

Адвечныя скрыжалі роднае зямлі
Хаваюць нашы скарбы, носяцца над краем,
Паказваюць жыва, як дзяды жылі,
Гаворыць нам яскрава, што мы мелі, маем
Ад песняроў-прарокаў:

Баянаў сын-наследнік — Ігара гусляр —
Пакінуў нам на славу песні залатыя.
Праз восем праў сталеццяў з краю ценяў, мар
Прыйшлі да нас, як госці, птахі-гуслі тыя,
Бы ззянне праз аблокі.

Пад попелам, пад пылам манастырскіх крат
Знайшлі стары пергамент песняў пад заховай.
Народы і плямёны, кожны на свой лад,
Гардзіліся знаходкай Ігарава Слова,
Евангеллем славянаў.

Пад месяцам, пад сонцам Полацкіх капліц,
Пад спеўнымі званамі залачоных вежаў,
Пад паляўнічым рогам ў явах таямніц
З'явіўся наш Скарына кветкай родных межаў,
Вясёлкай з-пад туману.

На мове паспалітай простых пастыроў
Тлумачыў ён прарокаў сказы-святапісы.
Жыў твор яго ў народзе, нібы ў жылах кроў,
Праменіўся над краем сонечнаю рысай,
Аздобаю нябёснай.

Пад замкам Гедыміна над ракой Віллёй
Яшчэ адзін тастамант славіў нашу долю:
То быў Літоўскі Статут. Праўдаю святой,
Імпэтнаю Пагоняй мкнуўся ён па полі
І па даліне роснай.

Яшчэ было паходняў па дарозе шмат,
Якія нам свяцілі ў цемры доўгай ночы:
Вянок народных песняў хварбамі багат,
І хмеліць сэрца, ззяннем слепіць вочы
Вянок наш мятарутны.

Ці помніце вы песні аб сваіх дзядох?
Ці бачыце паходні, родныя саколы?
Ці пойдзеце наперад па святых слядох?
Ці будзеце свяціцца ў родным творчым коле?
Ці будзеце магутны?

*1922 г.*

## Алесь Дудар

# СКАРЫНА

*(400-годдзю беларускага друку)*

Не люблю, калі з роднай краіны
птушкі рвуцца ў далёкі вырай...
Я успомніў Францішка Скарыну,
што ў Полацку княжацкім вырас.
Ужо няма такіх настрояў,
як былі калісь даўно,—
бо сягоння над новай Дзвіною
перакінуўся новы мост.
Што Дзвіна!.. Для яе ўсё роўна,
хто пяе над яе берагамі.
Не яна мужычую мову
аправіла ў гнуткі пергамент.
О, Францішак... Францішак Скарына,
што над гранкай друкарскаю гнуўся!..
Ведай, праца твая пакарыла
новы свет для сівой Беларусі!
Бо сягоння співаюць баяны,
бо ужо разгарнуліся крыллі...
Перамогі вяселлем п'яныя,
мы успомнім Францішка Скарыну,
што радзіўся калісь над Дзвіною,
вандраваў над яе берагамі;
што аправіў мужычую мову
ў неўміраючы гнуткі пергамент.

*1925 г.*

## Валянцін Лукша

# АПОШНІ СОН ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Віруе недзе жыццябуйствам Прага —
Ніхто прыроды не змяніў закон.
І ходзіць,
Бы ў дубовай бочцы брага,
З жаданнем неспатольным маладзён.

Ледзь сашчамлю прымружаныя вочы—
Прыгадваецца Полацк,
Родны дом,
Дзвіна лускою срэбнаю плюскоча,
У човен б'ецца галавою сом.

Крыжы Сафіі вогненна іскрацца,
За Палатой пастух гудзе у рог...
Напэўна, людзям трэба нараджацца,
Каб несці шчодра па зямлі дабро.

А да дабра яшчэ даўмецца трэба,
Стаць у жыцці надзейна на крыло
Пад кракаўскім
І падуанскім небам,
Запасіць веды,
Спрыт
І рамясло.

Людское сэрца радасцю уразіць
Адразу змог адзіны шчасны міг,
Як са станка плылі у злата-Празе
Цаглінкі першых беларускіх кніг.

Няма на свеце справы непасільнай,
Хоць у паднеб'і кропля з кропляў мы...
Яшчэ ўспамін —
У войстрадахай Вільні
Кладу у кайстру новыя тамы...

І бачу праз нядоўгія стагоддзі,
Як над маёй свяшчэннаю зямлёй
Рэй кніжны уладарна карагодзіць
І чысцінёй адорвае сваёй...

Праходзіць сон цяжкі,
Балючы,
Тонкі,
На ранак зоркі пачынаюць браць,
І белымі пялёсткамі старонкі
На дол ляцяць,
Ляцяць,
Ляцяць,
Ляцяць...

## У ПОЛАЦКІМ МУЗЕІ КНІГАДРУКУ

Маўчыць Дзвіна,
Ці злосна трушчыць крыгі,
Ці хоча човен хваляй захліснуць,
Не спяць ў музеі кнігадруку кнігі,—
Свой дыялог з гісторыяй вядуць.

З гісторыяй,
Што не сышла ў адрыну,—
Дух беларуса ставіць на крыло...
І са старонак томікаў Скарыны
Прамяніцца свяшчэннае святло.

Яно душу і сэрца наталяе,
Яно дае надзею людзям жыць...
Хоць пустата і глухата гуляе,—
Яго не патушыць,
Не засланіць.

Хоць дзікая разбэшчанасць наўкола,
Хоць правіць баль хапуга і ілжэц,
Стаіць,
Нібы мудрэц,
Разважны Полацк —
Памкненняў і высокіх дум вянец.

Пранізліва ўзіраецца ў высі,—
Не зразумець старому аднаму,
Як тыя,
Што КПСС кляліся,
Цяпер клянуцца ў вернасці яму.

Цяпер клянуцца ў вернасці народу...
Не помніць іх дрыжачая рука,
Што столькі кніг падводзіла да зводу.
Як гэта даравань былым кручкам?

Іду ў музей.
І на душы — адліга.
Як запавет гучыць ў Сафійцы хор...
Так,
Будзе жыць
Яе Вялікасць Кніга...

Над ёю —
Богаяўленскі Сабор.

*12.07.94 г.*

## Пятро Сушко

# СКАРЫНАВА ЛАСКА

Казаў
Сын Лукаша з Полацка
Вучоным мужам у Падуі:
— Дзякуй
За ведаў нязгаснае полымя,
Пайду
Землякоў ім радаваць.
Усе да мясцін тых,
Дзе нарадзіліся,
Вялікую ласку
Маюць...
Мужы вучоныя
Пагадзіліся,
Што так
Сапраўды бывае.
Белая Русь
Славу займела
З ласкі
Свайго вандроўніка.

Кладуць славяне
Пашану белую
Да высокага
Помніка.

# «НЕ ЗАРАСЦІ ПРАКЛАДЗЕНАМУ СЛЕДУ!..»

## *(З паэтычнай анталогіі Віцебшчыны)*

У мяне сваё, радаводнае, прыцяжэнне да Надзвіння. Адразу пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкай акупацыі мой Мёрскі раён уваходзіў у Полацкую вобласць. Пасля Бабышак, Лявонпаля, Мёраў — Полацк быў маёй сталіцай. Стольным горадам творчасці ён застаецца і да гэтага часу. Таму і літаратурнае прыцяжэнне да Надзвіння — асаблівае, сыноўскае. Любоў пачынаецца і здзяйсняецца спаўненнем абавязку. Мой клопат і доўг перад велікароднаю Віцебшчынай штодзённы. Таму я ніколі не змагу назваць мясціну нараджэння «малою радзімаю». Яна ў мяне была і ёсць — толькі вялікая, толькі высокая, толькі глыбінная. І гэты агляд літаратурнага мацерыка Надзвіння — як душэўны добраахвотна-прымусовы шарварак: яго адраблялі, памятаю, мае бацькі, каб не зарасталі дарогі, не абрушваліся масты, не губляліся далягляды. Таму і святлю я сваю дзянніцу над былым бацькоўскім полем, да слоў былых, ранніх, далучаючы толькі што вычутыя пад нябёсамі Віцебшчыны:

— Ветлы ветах укленчаны перад яснымі зоркамі. А на гладкіх парэнчынах усміхаюцца золакі. Асачыначкі гонкія — прыбярэжніцы звонкія: і са мною вітаюцца, і вірам адгукаюцца.

— Рэчка кладку зазыбала. Пожня росы рассыпала; як пярліна — расініна! Рэха гулка качаецца. З лесу лось калываецца да туманных асінінак...

— Тут — усё! — пачынаецца. Тут — зямля Еўфрасініна.

А раз я па волі лёсу аказаўся «прышчэплены» да Дзвіны, то і запрашаю вас на пагасціну, на высвед не вадазбору, а словазбору Дзвіны.

Бог у помач!

* * *

Паглядзіце на карту Беларусі. Усю поўнач заняла Віцебская вобласць. А ўсю прастору вобласці — Дзвіна і лясы...

Лясы, наддзвінскія лясы!
Не знаю большае красы,
Як ваш убор і гонкі стан,
Як ваш зялёны акіян!

Хто не святлеў сэрцам, як і Пятрусь Броўка, чые радкі тут прыгаданы, сустракаючыся з дзіўнымі краявідамі Наддзвіння! Сяргей Законнікаў, пішучы аднаго разу пра Панчанку, прыгадваў: «Бачыў я, якім прасветленым быў твар Пімена Емельянавіча ў час нашага падарожжа на Віцебшчыну па плыні «бягомельска-ўшацкага шляху ў прысадах рабін і бяроз», ягонага любімага шляху, што вядзе ў слаўны горад Францыска Скарыны, Сімяона Полацкага, па роднай дарозе Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна».

А што сам Рыгор Барадулін? Віцебшчына, Ушацкі край «начуе» у кожным яго вершы...

Віцебшчына!
Ты лёсам
Не выпешчана —
Ты войнамі
Выпесчана.
Вораг
Крыжачыў
Твой небасхіл,
Спакой твой
Нішчыў.
...пясок магіл...
...пясок папялішчаў...

Алесь Асіпенка з вёскі Пушкары Віцебскага раёна, як празаік, больш стрыманы ў выказванні сваіх пачуццяў: «Азёрны край — Віцебшчына! Тут кожны куток зямлі натолены непераўзыдзенай паэзіяй хараства, эпічнай веліччу прастораў і светлай адвечнасцю верасовых бароў».

Каб хоць збольшага агледзець літаратурны мацярык Віцебшчыны, уявіць яго неабдымнасць, дазволім сабе пакарыстацца яго жывой артэрыяй — Дзвіной. Уявім сабе, што мы плывём на паэтычным плыце, азіраючыся то на правы, то на левы бераг старажытнай зямлі і добра памятаючы запавет Рыгора Барадуліна: «Пільней глядзі і нерушы знаходзь!»

Асабіста маім першым нерушам на самым пачатку

віцебскай Дзвіны была вёска з гаваркой назваю — Будзіслава, дзе мне пашчасціла быць на вясельных урачыстасцях і дзе абудзіліся вось такія радкі:

Будзі слова, Будзіслава,
ад Дзвіны — да зорак,
немата каб не заціснула
расяных разораў.
Каб вяселля мова спеўная
на двары ірдзела.
Над Дзвіной каб чайка смелая,
як песня, ляцела:
«Выкацілі, выкацілі
дубовую бочку.
Выманілі, выманілі
у суседа дочку...»
Будзі слова, Будзіслава,
ад Дзвіны да зорак.
Днямі ведаў адну песню,
ну, а сёння — сорак!

Наш плыт-ганок хвалі Дзвіны гоняць да Віцебска. Але паўглядаемся напачатку ўлева. Недзе праз лясістыя ўзгоркі прабіваюцца дахі Лёзна. На маёй радзіме, у Мёрскім раёне, ласкавага, лагоднага, дабрадушнага, няўпырлівага чалавека, якога «хоць да раны прылажы», завуць — лёзным. Мо і ў Лёзна такія людзі жывуць? А пра гэта можна дазнацца з вершаў Уладзіміра Лісіцына (1944—1973). Маці паэта паходзіць з вёскі Пагосцішча Лёзненскага раёна, а сам ён нарадзіўся ў канцлагеры каля нямецкага горада Флігегорт. У Пагосцішчы Уладзімір настаўнічаў, пазней — працаваў у райгазеце...

Завітаў бы я ў Пагосцішча,
У лясочку б пагасціў.
Я б да той рачулкі госцейкам,
Як да маці, зачасціў.
У траве залее месячык,
Што [redacted] падковай конь згубіў.
Адшукаць бы тое месцейка,
Пра якое не забыў!..
Ой, Пагосцішча, Пагосцішча!
На пагосце узрасло...
Ці яшчэ за мною гоніцца
Жураўлінае вясло?!

У сваіх вершах паэт славіў і Выдрэю і Крынкі, у якіх, дарэчы, настаўнічаў паэт Давід Сімановіч і так знаёміў чытачоў са сваім прыстанішчам: «Крынки — это станция такая, маленькая, [redacted] зелени садов, где курьерский, мимо пролетая, не заметит редких огоньков».

Але як не прыкмеціць у Крынках агеньчык, запалены

тут імем Міхася Лынькова (нарадзіўся ў Зазыбах Лёзненскага раёна). У школе, якая носіць імя пісьменніка, ёсць музей. Побач школы — помнік аўтару знакамітай кніжкі «Міколка-паравоз».

Праваруч нашага шляху па вірах Дзвіны ўбачым Здраўнёва, асвечанае імем І. Рэпіна. Крышку далей на поўнач, у Гарадку, нарадзіўся празаік Цодзік Даўгапольскі (1874—1959). У вёсцы Віры Гарадоцкага раёна нарадзіўся ў 1936 г. празаік Мікола Воранаў, у вёсцы Тамашы — паэт-гумарыст Ігнат Бяляеў, а ў вёсцы Першамайка — Генадзь Дзмітрыеў.

Хто з дзяцінства не ведае лёгкіх, усмешлівых радкоў, прамоўленых нібыта да кожнага з беларусаў:

Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса,
У палясоўшчыках што быў?
На Пуцявішчы, у Панаса,
Ён там ля лазні блізка жыў.

Віцебскі краязнаўца Мікола Плавінскі выведаў, што тыя Пуцявішчы сапраўды існавалі да вайны на тэрыторыі Зароўнаўскага сельсавета Віцебскага раёна. Знесены ў 1939 г. падчас узбуйнення вёсак.

А што сёння вядома пра аўтара паэмы «Тарас на Парнасе»? Усё яшчэ без аўтарскага подпісу выдаецца гэты цуд нашае літаратуры, народжаны на Прыдзвінні. Але ў апошнія гады даследчыкі называюць імя магчымага аўтара паэмы — Канстанціна Вераніцына, які нарадзіўся ў 1834 г. у вёсцы Астраўляны (Гарадоцкі раён). Першапачатковае прозвішча — Васільеў, з гарадоцкіх мяшчан. Вучыўся ў Гарадоцкім прыходскім вучылішчы, Віцебскай губернскай гімназіі, у Пецярбургу. Калі верыць рукапісам А. Рыпінскага, К. Вераніцын, якому прыпісваецца аўтарства паэмы, скончыў яе ў Гарадку 15 красавіка 1855 года. А яшчэ адну сваю паэму «Два д'яўлы» — 7 красавіка 1860 г. у Маскве. Вось некалькі радкоў з астатняга твора К. Вераніцына:

Сатане было заўгодна
З пекла нас дваіх паслаць:
Цябе — ў Віцебск, мяне ў Гродна
Душы п'яніц самушчаць.

І ўсё ж перш чым трапіць у старажытны Віцебск, згадаем яшчэ адно паэтычнае племя, якое з'явілася на Прыдзвінні яшчэ ў XV — XVII стст. Гаворка пойдзе пра вясёлых, пявучых цыганоў, якія сярод нашага люду па сённяшні дзень захавалі свае звычаі, мову. У Віцебску ёсць адзін з іх культурна-асветных цэнтраў. А ў перакладзе на

беларускую мову мы зведаем некалькі ўзораў паэзіі цыганоў. Слыннейшым з іх з'яўляецца Вальдэмар Калінін:

Вялікдзень, абудзі ты згадкі зноў
І запалі агонь ля Боскай маці
Пра тых дачок цыганскіх і сыноў,
Што выраслі ў старой бацькоўскай хаце.
Не гандлявалі конямі ў той дзень,
Не варажылі ля сяла пад дубам,
І грэла свята сэрцы у людзей,
Рабіла весялейшымі іх душы.

*(Пераклад Навума Гальпяровіча)*

Або:

Паеду ў вёску, дзе красуе збожжа,
Дзе цыганы літоўскія ў шатрах
Жывуць, мяняюцца раз-пораз коньмі
І робяць за сумленне, не за страх.

*(Пераклад Лявона Баршчэўскага)*

Але як бы не былі мы зачараваныя песнямі вольных прастораў, ніяк не мінуць нам муры Віцебска, тым больш што яны ніколі не зацяскалі, а толькі ўзвышалі таленавітае слова продкаў. Летапісныя варыянты напісання горада — Відьбеск, Вітбск, Відебск, Вітепеск, Вітбек, Дбеск, Вітебско. Ёсць меркаванне, што Віцебск, заснаваны крывічамі, ад самага пачатку зваўся Крывіцебскам. Уладзімір Скарынкін так уяўляе воблік продкаў:

Аб сваёй адвазе не крычалі,
гаварылі праўду толькі ўслых...
І з якой прычыны крывічамі
летапісцы ахрысцілі іх?
Родны бераг
ад прыблудаў стойка
крывічы спрадвеку бераглі —
і крыві праліта ў войнах столькі,
што назваць інакш іх
не маглі.

Ларыса Геніюш жыла ў Зэльве, далёка ад муроў старажытнага горада, але не магла прамінуць тэмы Віцебска:

Нескароны ў крутой барацьбе,
акрыяў, ажыў, пакалечаны.
Нашы сэрцы імкнуцца к табе,
як калісь на забытае веча.

(«Віцебск»)

Ґэтаму гораду прысвячалі вершы Пятро Глебка («Гораду на Дзвіне»), Мікола Хведаровіч («...Прыгожы наш Віцебск. Ён ранняй вясною...») Максім Танк («У Віцебску»). Ратаю і ратніку, рупнаму працаўніку падарыў свой

твор Рыгор Барадулін («Земляку ў дзень тысячагоддзя»). У паэтычную анталогію Віцебска ўнеслі свой уклад Сяргей Законнікаў, Навум Гальпяровіч, Юрась Свірка, Давід Сімановіч... Усмешлівы верш з доўгаю назвай — «Рандэву па мемарыяльным Віцебску ў дзень адкрыцця помніка Уладзіміру Караткевічу» напісаў Васіль Зуёнак.

«Плешча ў сэрца Дзвіна». Гэты верш Генадзя Бураўкіна стаў з дапамогаю Эдуарда Зарыцкага папулярнай песняй, якая яднае ў адну плынь пачуцці да Віцебска, Дзвіны, Бацькаўшчыны:

Дадому вяртае нас памяць жывая.
Радзіма, як маці, заўсёды адна.
І сэрца аб Віцебску песню спявае.
І ў сэрца мне хваляю плешча Дзвіна.

У кнізе Леаніда Дранько-Майсюка «Над пляцам» ёсць вершы, якія склаліся пад уплывам жывапісу Марка Шагала: ён хоча «вярнуцца да Віцебска з клічам, які узвіхрыць будзённасці шэрыя транты...» («Віцебск. 1922»).

Сам вялікі мастак Марк Шагал, як сказаў Р. Барадулін, быў паэтам і «віцебскую тугу, віцебскае захапленне радасцю жыцця, віцебскую вернасць роднай зямлі» пранёс праз сваё доўгае жыццё. У вершы «Горад далёкі» Марк Шагал пісаў:

Ён ува мне звініць,
далёкі горад,
дзе перагукваюцца, як суседкі, веры:
цэркаўкі белыя,
цэрквы далёкія
і сінагога. Дзверы
расчынены. Неба цвіце,
жыццё ляціць
упэўненае ў сваёй праваце.

У вершы «Краіна нараджэння» вялікі падарожнік з віцебскай 2-й Пакроўскай вуліцы перад усім светам прызнаваўся:

Я маляваў да стомы воч
тваіх людзей, лясы, паляны,
твой твар твару як апантаны,
багаслаўляю дзень і ноч.

*(Пераклад Р. Барадуліна)*

Віцебск меў дзівосную сілу для прыцягнення музаў. Побач з творчым біяполем мастакоў М. Дабужынскага, Я. Мініна, К. Малевіча, Ю. Пэна, С. Юдовіна, згаданага ўжо М. Шагала дзеялі вучоныя, літаратары, скульптары многіх нацыянальнасцей, людзі многіх стваральных прафе-

сій. Заснавальнікам і першым кіраўніком Віцебскай філіі «Маладняка» быў паэт Алесь Дудар.

У прыватнай гімназіі І. Неруша, дзе вучыўся будучы латышскі пісьменнік Эдуард Саленіекс з Сенненшчыны, працаваў настаўнікам вядомы этнограф Мікалай Нікіфароўскі родам з вёскі Вымна. Яго спадчына — каля 20 кніг аб Прыдзвінні.

Вайна з Напалеонам пакінула на літаратурных скрыжалях Прыдзвіння свае адмеціны. Ёсць перакладзены з латышскай мовы верш Мірдзы Кемпэ «Напалеон у Віцебску». Бачыў гэты край «повсеместного разрушения» Фёдар Глінка. Пра Дрысенскі лагер пісаў Аляксандр Мураўёў. Віцэ-губернатар Іван Лажэчнікаў прыехаў у Віцебск у канцы 1853 года. Як не згадаць ягоныя словы — не службіста, а літаратара: «Здешний крестьянин загнан, забит, под пару тощей своей клячонке в верёвочной сбруе...» Як у ваду глядзеў, у дзвінскую...

Пра тых, хто ў свой час наведаў Віцебск, хораша расказаў у сваёй кнізе нарысаў «Сквозь даль времён» Давід Сімановіч. Паводле яго звестак, да прыкладу, дарогі Пушкіна двойчы праходзілі па Прыдзвінні. Упершыню Аляксандр Сяргеевіч трапіў у Віцебск 10 траўня 1820 г. Праз Віцебск, Полацк, Колпіна, Себеж вяртаўся з паўднёвай высылкі ў жніўні 1824 года.

Віцебск наведвалі Карней Чукоўскі, Глеб Успенскі, Павел Антакольскі, Іосіф Уткін, Аляксей Талстой, Яўгеній Далматоўскі, Уладзімір Лугаўцоў, Канстанцін Паўстоўскі, Міхаіл Святлоў, Уладзімір Маякоўскі, Аляксандр Твардоўскі, Мікалай Рыленкаў...

У 1926 годзе гэты горад (тут пахавана яго мама), наведаў Яніс Райніс. Яго сястра Дарта разам з мужам Петэрам Стучкам жыла ў Віцебску некалькі гадоў. Аж да зеніту сталінскіх рэпрэсій Віцебск быў культурным цэнтрам латышскіх падзвінскіх калоній, не гаворачы ўжо пра даўнюю тутэйшую прысутнасць высокаарганізаванай яўрэйскай культуры.

Віцебск — родны горад паэту Рыгору Жалезняку, і драматургу Аркадзю Маўзону, паэту і празаіку Тодару Лебядзе (Пятро Фёдаравіч Шыракоў), і літаратуразнаўцу Ісідару Басу. Тут лунае рэха галасоў Леаніда Дайнекі, Яўгена Шабана, Пятра Ламана, Вольгі Іпатавай, Нэлі Тулупавай... Віцебск гайдаў калыску і самай маладой паэтэсы — Алены Танана (нарадзілася ў 1965 г.).

Не пералічыць усіх імён, паяднаных з багатай і шматлі-

кай культурай горада. Звечарэла. Услухаемся, што прамаўляе неба. Гучаць не караткевічаўскія «Званы Віцебска», а другія:

Над Пакроўкаю ноччу і ўдзень,
праз гадзіну і паўгадзіны,
то старэйшы звон загудзе,
то хвіліну адпусціць сыну.
Гэты ціхі, прасветлены звон
я чакаў, як нябеснага госця...
Над Дзвіной прачынаецца ён —
і ў душы прачынаецца штосьці.

*(«Званы»)*

І не толькі ў Алега Салтука, аўтара гэтых радкоў, прачынаецца навіна чакання. Такія старажытныя гарады, як Віцебск, маюць вялізны духоўны патэнцыял, культурную аўру, якая і будзе нас падпітваць у самыя ліхія часы.

Мы пакідаем горад і рушым уніз па цячэнню. Праваруч якраз і сустрэнем родную вёску Алега Салтука — Рыжэнькі. А ў вёсцы Мазурына Шумілінскага раёна нарадзіўся паэт Уладзімір Градоўкін, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Недзе ў 1958 годзе было надрукавана вершанё Івана Калесніка «Сянно».

Любы сэрцу гурты валуноў,
Мора сіняе росных ільноў,
Звон крыніц, шум лісцвяных гаёў,
Спеў бяссонных вясной салаўёў.
Тут блакітнае неба плыве,
Тут заслонаўцаў слава жыве.

Сапраўды, на Сенненшчыне нарадзіліся П. М. Машэраў, А. К. Гаравец. На гэтай зямлі загінуў К. С. Заслонаў. Адна з вуліц у Сянне носіць імя абаронцы Сталінграда паэта Алеся Жаўрука.

Тут пачыналі свой жыццёвы шлях скульптар Заір Азгур, паэт Анатоль Вялюгін, празаік і навуковец Яўген Радкевіч. У 1891 годзе ў вёсцы Алексінічы нарадзіўся будучы вучоны Міхайла Піятуховіч, а праз 30 гадоў пасля гэтага сенненская зямля стала апошнім прытулкам паэта і рэлігійнага дзеяча Андрэя Зязюлі — Аляксандра Сцяпанавіча Астрамовіча.

У вёсцы Лугінава нарадзіўся паэт-рамантык Тадэвуш Лада-Заблоцкі (1811—1847). У Віцебску ён скончыў гімназію, вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, адкуль за «возмутительный» верш быў адпраўлены радавым у Каўказскі корпус, дзе і памёр ад халеры ў росквіце творчай сілы. Сярод лепшых твораў Т. Лады-Заблоцкага — «Ваколіцы

Віцебска», «Да Дзвіны», «Да Лучосы», «Вілія», «Даўжанскае возера», дзе ў кожным радку чуецца туга па Бацькаўшчыне, услаўляецца яе гістарычнае мінулае.

На Сенненшчыне на пачатку стагоддзя існавала Пушчанская латышская калонія. У вёсцы Груздзы ў 1900 годзе і нарадзіўся Эдуард Саленіекс, будучы латышскі празаік. Памёр у Рызе ў 1977 годзе. Яго творчая спадчына — вершы, драматургічныя творы, цыкл з пяці аўтабіяграфічных раманаў-успамінаў («Робертс Заланс») — пра дзіцячыя і юнацкія крокі на беларускай зямлі, пра побыт перасяленцаў, якія хацелі знайсці на Беларусі «свой лапік зямлі», вольны ад баронаў-памешчыкаў.

На карце каля Бешанковічаў пазначаны якар. А чаму яму не быць адным з нашых нацыянальных сімвалаў, не ў адмоўным, канешне, значэнні: беларусы сталі на якар. На «шляху з грэкаў у варагі» без якара не абысціся. Да таго ж бывае і якар ратунку — апошняя надзея на выбавенне.

Мы кідаем якар у Бешанковічах. Не будзем цытаваць вершы тых паэтаў, якія нарадзіліся ў гэтых мясцінах, але нагадаем: у саміх Бешанковічах убачыў свет Аркадзь Гейне, які загінуў у акопах Сталінграда. Адсюль родам паэт Аркадзь Казак. З вёскі Слабада родам Сяргей Законнікаў, з вёскі Промыслы — паэт Барыс Беляжэнка, з вёскі Чалнышкі — Алесь Бабаед, з вёскі Новае Сяло — краязнавец, гісторык, літаратуразнавец Даніла Васілеўскі, з вёскі Аскеры — рэжысёр і драматург Аляксандр Гутковіч. Пашчасціла Бешанковічам і на жывапісцаў — Саламона Юдовіна, Івана Бабаедава... У Быстрэі быў родавы маёнтак бацькоў Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Вы можаце прачытаць пра гэта ў цікавым творы Віктара Карамазава «Крыж на зямлі і поўня ў небе».

Калі добра гукнуць у Бешанковічах, то пры спрыяльным надвор'і рэха адаб'ецца і ад Лепеля і ад Чашнікаў. У Чашніках нарадзіўся паэт і празаік Рыгор Рэлес, а пад Чашнікамі — крытык Дзмітрый Палітыка (в. Гарывец), паэтэса Яўгенія Мальчэўская (в. Замошша), празаік Алесь Шашкоў (в. Раманаўшчына), паэт Генадзь Пашкоў (в. Ліпавічы). Знакаміты паэт Янка Журба нарадзіўся ў вёсцы Купніна. Мы пра яго згадаем яшчэ, калі будзем вандраваць па літаратурным Полацку.

А на Лепельшчыне можна зазірнуць у вёску Дзямешкава — на радзіму Анатоля Вярцінскага, у вёску Забалацце — на радзіму Пятра Дудо, у вёску Парэчча — на радзі-

му Тодара Кляшторнага, у вёску Камень — на радзіму Мендэля Модэля. У 1829 годзе ў маёнтку Завідавічы на беразе маляўнічага Лепельскага возера нарадзіўся Міхаіл Кусцінскі — археолаг, гісторык, краязнавец. Стваральнік археалагічнай карты Лепельшчыны вывучаў таксама Барысавы (Дзвінскія) камяні — выдатныя помнікі эпіграфіі XII ст.

Услаўляў роднае Прыдзвінне мастак Іван (Ян) Цімафеевіч (Фаміч, Трафімавіч) Хруцкі (1810—1885), які нарадзіўся ў мястэчку Ула. Будучы заснавальнік класічнага нацюрморта вучыўся ў Полацкім ліцэі, у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Многія яго работы выкананы ў Захарнічах, што ў 20-ці вярстах ад Полацка, дзе мастак і пахаваны.

Вёска Цяпіна далучылася да нашага маршруту таму, што абмінуць яе аніяк нельга. Тут з'явіўся на свет Васіль Мікалаевіч Амельяновіч-Цяпінскі (1540—1603), славуты дзеяч Рэфармацыі, які заклікаў развіваць навуку, літаратуру, культуру на матчынай мове, пашыраць на ёй Слова Божае.

Але перш, чым пастукацца ў старажытную браму Полацка, угледзімся ў левае крыло нашае прыдзвінскае літаратурнае калыскі, дзе здаўна нараджаліся і зыбаліся ў салаўінай лубушачцы таленты матухны Беларусі.

А вось і чуецца голас аднаго з сыноў Ушаччыны:

Крывіч
І зямляк Скарыны,
З краплінаю балцкай крыві,
Я з краю таго, з краіны,
Дзе пасвяцца зор гаі.
Губіў я прадонны гарнец —
Дасюль галава гудзе.
Малаикай кшчоны паганец,
Малюся агню й вадзе.

Калі гукнецца слова «Ушаччына», адразу згадваецца імя паэта, хто штодня нашча моліцца агню і вадзе яго роднай Бацькаўшчыны, імя Рыгора Барадуліна, народнага паэта з хутара Верасоўка (цяпер в. Гарадок Ушацкага раёна). Яго зямляк, польскі пісьменнік Антон Асандоўскі, успамінаючы аблокі Ушаччыны, напісаў за сваё жыццё 90 кніг. Рыгор Барадулін, мусіць, напісаў не менш. І любоў у яго была, ёсць і будзе не толькі да аблокаў:

Бацькаўшчына,
Дзедзіна,
Вырай смутку — спадчына,

Доляю адведзена,
Злом пералапачана.

«Якая радзіма паэта — такі і сам паэт»,— сказаў Рыгор Барадулін. Сказаў пра Полаччыну, намякаючы на Генадзя Бураўкіна з Расоншчыны. Але — і на самога сябе, і на сваіх землякоў — Петруся Броўку, Еўдакію Лось, Васіля Быкава, Сяргея Законнікава... «Полаччына — цемя нацыі, цемя Беларусі,— прадаўжаў Р. Барадулін.— Гэта яна захавала крынічна чыстую беларускую мову вякам наступным...»

Захавальнік спадчыннай моцы роднай зямлі Генадзь Бураўкін з вёскі Шулякі (цяпер — Тродавічы) на Расоншчыне так выказаўся пра свайго сябра і паплечніка на сенакосе Жыцця: «І на паэтычнай карце Беларусі зашумела дзятлінкай і аерам малая Рыгорава радзіма — партызанская, баравая Ушаччына. Вядома ж, не была яна абдзелена сардэчнай увагай і ў творчасці Петруся Броўкі і Еўдакіі Лось, але ніколькі не крыўдзячы слаўных старэйшых паэтаў, сцверджу, што найбольш адкрыў яе для цэлага свету Рыгор Барадулін».

І сапраўды: чытаеш Рыгоравы вершы («Заінелая Ушаччына», «Трэба дома бываць часцей», «На Ушаччыну», «Ушацкі снег»...) — і зайздросціш яго высокай любові да радзіннага, хатняга, каранёвага... Мама Акуліна, бабуля Марушка з Вечаллем і Завечаллем, Задаброццем і Забалаццем, Увалокамі і Забораўнамі дзякуючы ушацкаму Баяну — Рыгору Барадуліну — назаўсёды застануцца пазначанымі на скрыжалях планеты. І не абернуць святыя імёны і назовы пад іржавы дзірван аніякія меліяратары, ні выграбленні-ўзбуйненні «неперспектыўных» — вёскі, мовы, народа.

Ва Ушацкім раёне, у Пуцілкавічах, стаіць хата-музей Петруся Броўкі — галоўная сядзіба Паэта, з акон якой бачны быў яму цэлы свет, бо толькі адтуль усё відно. І можна было праз незамгнёныя далягляды выгукнуць:

Былога быліны, старога паданні
Плывуць, як аблітыя сонцам чаўны,
Па краю зялёным, прасторах бяскрайніх
Ад Нёмна да Сожа, ад Буга да Гайны,
Па хвалях Дняпра і шырокай Дзвіны.
Бацькоў нашых слава на іх узбярэжжах,
Гамоняць пра гэта бары-байкары,
Гамоняць пра гэта і Полацка вежы,
І Турава сцены, і шум Белавежы,
І роднага Мінска сівыя муры.

Пятру Усцінавічу (Петраку Юстынёнку) «званілі штодня з-пад Ушачы крыніцы». Родная Ушаччына была Броўку «як павелічальнае шкло, праз якое бачыцца ўся Радзіма з яе клопатамі і поспехамі, з яе радасцю і смуткам ёміста, велічна, чыста» (Р. Барадулін).

Памяць пра Петруся Броўку будзе трывалай і доўгай. Акрамя хаты-музея ў Пуцілкавічах Муза паэта мае прыпіску і па такіх адрасах: літаратурны музей у Мінску (дом № 30 па вуліцы К. Маркса, дзе жыў Пётр Усцінавіч). Для студэнтаў-філолагаў БДУ прызначана стыпендыя яго імя, выдавецтвам «Юнацтва» з 1994 года ўстаноўлена Літаратурная прэмія імя Петруся Броўкі ў галіне дзіцячай паэзіі. Імя Броўкі носяць выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», калгас «Новае жыццё», Вялікадолецкая сярэдняя школа ва Ушацкім раёне, там адкрыты музей народнага паэта. У Мінску, Віцебску, Полацку і ва Ушачах яго імем названы вуліцы. У Віцебску на «яго» вуліцы ўстаноўлены памятны знак з бронзавым барэльефам П. У. Броўкі. На Маскоўскіх могілках — помнік над прахам нашага знакамітага суайчынніка.

Помнік маці П. Броўкі стаіць на месцы той хаціны, дзе прайшло маленства будучага паэта.

А як вызначала сваю радзіму Еўдакія Лось? У вершы «Продкі», прысвечаным П. Броўку, ёсць такія радкі:

Мая радзіма —
Дзе з-за бору
Ўзыходзіць месяц уначы,
Дзе ў братнім ладзе,
Ў дружным зборы
Жылі калісьці крывічы...

Хочацца гушкаць кожнае слова яе верша і самому ўздымацца-раскалыхвацца над вадастокам Лета: «Над Звонню — звон, ля Звоні — сінь: званочкі ладзяць караго-ды...» «Еўдакія — ушацкая мадонна...» — пісаў Рыгор Барадулін. Гэтае «блакаднае дзяўчо» нарадзілася ў вёсцы Старына і так заўчасна пакінула гэты свет, як і яе сяброўка Жэня Янішчыц, якая паспела напісаць свой верш «Памяці Еўдакіі Лось»:

Анямела вечарэюць
Вочы руж і хрызантэм.
А да старасці яшчэ Вам —
Стольki вершаў і паэм!
. . . . . . . . . . . . . . . .

Краскі Вы б знайшлі якія
Ды наткалі б палатна,

Доня, Дуня, Еўдакія
З ціхай вёскі Старына!..

А Валянціна Пчолка ва ўшанаванне паэтэсы Прыдзвіння склала верш пад назваю: «Вуліца Еўдакіі Лось у Віцебску»:

Удалячынь глядзіць сасна,
Прад ёю горад на далоні,
А мне здаецца, то — Яна
З вятрамі, сонейкам гаворыць.

Прызба роднай хаты Васіля Быкава — у вёсцы Чарапаўшчына Ушацкага раёна — стала паэтычнай метафарай у вершах Сяргея Законнікава «Прызба», Рыгора Барадуліна «За словам Быкава іду!», Навума Гальпяровіча «...Лепей граць на свісцёлцы вучылі мяне...». Фелік Бахчынян прысвяціў В. Быкаву верш «Коні на Ушацкім полі». Нездарма, відаць, Сяргей Законнікаў у вершы «Ушацкія ўзгоркі», прысвечаным свайму бацьку, прызнаваўся:

Сюды ўзыду — і тлуму скіну груз,
І захлібнуся родных вёсак дымам...
Ушацкія узгоркі — не Эльбрус,
А як відаць мне з іх уся Радзіма!

Сяргей Законнікаў перш чым узысці на паэтычны Эльбрус, закончыў Глыбачанскую сярэднюю школу на Ушаччыне, працаваў у рэдакцыі Ушацкай райгазеты, быў сакратаром райкома камсамола.

На развітанне з Ушаччынай яшчэ некалькі згадак. У вёсцы Звоня нарадзіўся празаік, драматург Сяргей Знаёмы (Сяргей Змітравіч Клопаў), які быў закатаваны за сталінскімі кратамі. З вёскі Двор Пліна — драматург Уладзімір Халіп, з вёскі Ранькава — гісторык, публіцыст Уладзімір Якутаў, з вёскі Красная Горка — літаратуразнаўца Валерый Атрашкевіч. Расце і новая літаратурная змена: Галіна Варатынская нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Ваўчо. Усіх адразу і не згадаеш...

Але вернемся на стрыжань Дзвіны. Перад намі — выспа? Перад намі — Полацк, амаль непрыкметны астравок каля берагоў Антарктыды. У Паўднёва-Шатландскім архіпелагу побач Полацка размясціліся выспы: Бярэзіна, Смаленск, Барадзіно, Малаяраславец,— названыя на ўпамін аб вайне 1812 года...

А як пачувае сябе летапісны «Полтеск»? У заводскім пасёлку амаль на ўскрайку гэтага горада жыў школьнік Генадзь Бураўкін. Пазней ён прамовіў: «Часта ў горкім роздуме дакараю я сам сябе і сяброў-літаратараў за лай-

дацтва наша, за незразумелае раўнадушша да сівой даўніны і забытай славы. У адным Полацку «спіць» цэлая бібліятэка гістарычных раманаў. Ды якіх!..» Што тут адказаць аўтару? Ад сябе дадам:

Бераг знямеў.
Перакулены ўсе пласкадонкі.
Пад гільяцінаю —
вежы, званіцы, крыжы...
По-ла-цак!
Ты — крутабокі і звонкі:
Памяці кроны свае ўскалышы!
На крыжака
прабіраешся воўчаю сцежкай,
злюбамі-шлюбамі
лучыш падзвінскі прастор...
По-ла-цак!
Ты і нашчадкаў усцешыў:
ордам жахлівым даваў ты адпор.
Веча гудзе.
Адраджаецца Полацка вера.
Князь-чужачок
сігануў з гарадзішча як стрыж.
По-ла-цак!
Ты радаводны наш бераг.
Вечны, як наш Еўфрасіннеўскі крыж!

Што ж раскажа, куды павядзе полацкі радаводны бераг? Асцярожна ступаем на яго, ловячы насцярожаным слыхам рэха стагоддзяў...

«Дзе мой край?» — пытаўся Уладзімір Караткевіч у вершы «Беларуская песня»? І адказваў: «...Дзе Сафія плыве над Дзвіною нібы карабель...» Генадзь Бураўкін смела запрашаў на Полаччыну, бо адчуваў яе веліч і харастро:

Не шукайце красы за марамі,
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі,—
Прыязджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

У гэты анталагічны агляд так і просяцца вершы, дзе пераплятаюцца між сабою шчырыя словы любові. «Шлях Полацка даўно відзён усім» (Пятрусь Броўка), «О велічных гукаў Прыдзвінне!» (Данута Бічэль-Загнетава). У вершы «Пісьмёны на камені» Данута Бічэль-Загнетава прамаўляе:

Беларусь!
Палачанкай глядзіш з-пад рукі,
абцугамі цябе абнімаюць вякі.

Густы на думкі, глыбокі зместам і сэнсам полацкі

сшытак паэтэсы з Гародні меў свайго папярэдніка: у 1926 годзе (дапоўнены ў 1958 г.) вялікі цыкл «Полаччына» стварыў Алесь Звонак. У яго радках-акварэлях «ласкава срэбрацца воды Дзвіны», «свежаю, новай ідзе баразною вольных палёў гаспадар-чалавек». Паэт быў сведкам Адраджэння, беларусізацыі краю, таму і змог напісаць:

Сягоння на новых шляхах палачане,
Сягоння на новых шляхах Беларусь!

*(«Полацк», 1926)*

Шчаслівы быў Алесь Звонак, упэўнены ў свой народ, яго будучыню, калі адзначаў:

Мякка час ідзе
Па свету,
Па Наддзвінню...

А 17 гадоў перад гэтым Янка Купала бачыў іншае:

Перайшло, мінула,
Што калісь жыло.
Ў курганах заснула,
Зеллем зарасло.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Войска Усяслава
Не ідзе ў паход
На той бой крывавы
За свой край, народ.

*(«З мінулых дзён», 1909)*

Ды і сучаснік Алеся Звонака, Алесь Дудар, на год пазней за свайго цёзку зазначаў:

Цябе гісторыя ў свае скрыжалі
ўпісала гранямі руін.
Ні кроплі літасці, ні іскры жалю
твае не ведалі страі.
Муры Рагнедзіны, сцяг Рагвалодаў,
шчыты нарманскіх караблёў...
Бандыты Захаду, цары Усходу
Тваіх грудзей гramілі бронь!
Чужынцы з ніў тваіх збіралі зерне,
каралі гневам і вайной...
Цябе рэспублікі, цябе імперыі
таптал кованай пятой.

*(«Полацк», 1927)*

Гэтую боль, занепакоенасць лёсам Бацькаўшчыны і першым яе стольным горадам перанялі і пазнейшыя пакаленні паэтаў. Вольга Іпатава ў вершы «Полацкай Сафіі» рашуча заяўляе:

Што забыта — ўсё успомню.
Нежывое — уваскрашу.

У Алеся Пісьмянкова «ажывае» Якаў Палачанін, у Алеся Бабаеда — «цені прашчураў каля ног» («У Полацку»).

Найбольш пашанцавала прывабнай Сафійцы. Яна адухоўлена самымі лепшымі радкамі Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль-Загнетавай, пранікнёнымі вершамі Алега Мінкіна, Міколы Мятліцкага, Людмілы Паўлікавай...

Пімен Панчанка сваім вершам «Полацкая прафесія» асцярожна пераводзіць нас з Полацка да нафтавікоў Наваполацка, якому прысвяцілі свае творы Генадзь Бураўкін, Сяргей Сокалаў-Воюш, Валянціна Аксак, Валянцін Лукша... В. Лукша нарадзіўся ў Полацку; не адзін год прысвяціў камсамольскай будоўлі нафтагіганта, працуючы спачатку першым камсоргам у трэсце № 16 «Нафтабуда» і літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», а потым — загадчыкам аддзела міжраённай газеты «Ленінская іскра». У красавіку 1956 года надрукаваў тут свой першы верш. Творы пра людзей Прыдзвіння змешчаны ім у кнігах «Гарады нараджаюцца сёння», «Наша полацкая прафесія», «Рамантыкі шасцідзесятых» і інш. Потым выйшлі паэтычныя зборнікі «Атава», «Споведзь», «Белыя берагі», «Сляды памяці», «Агонь і попел». Аўтар шэрагу кніг для дзяцей, п'ес, песень, выпускнік Полацкага лясного тэхнікума, а затым Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС, ён прайшоў нялёгкі шлях духоўнага і мастакоўскага ўдасканалення. Сёння ён вядомы грамадскі дзеяч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, Літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі. З часу заснавання выдавецтва «Юнацтва» (1980) Валянцін Лукша нязменны яго дырэктар. Ёсць у яго і такія турботы: ён — віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў, член Савета спецыяльнага фонда прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, член рады Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Ганаровым грамадзянінам Полацка з'яўляецца пісьменнік Алесь Савіцкі. Героі многіх яго твораў (сярод якіх аповесці «Пасля паводкі», «Самы высокі паверх») жывуць і працуюць у Прыдзвінску, у горадзе, у якім пазнаецца родны Полацк празаіка.

Калі складаць літаратурную карту Полацка і Наваполацка, то нельга будзе абмінуць на ёй такія адрасы — даўнія і навейшыя. Напрыклад, з успамінаў Станіслава Шушкевіча вядома, што да вайны «...па ініцыятыве чыгу-

начнікаў адна з вуліц горада Полацка была названа імем Міхася Чарота». Яшчэ пры жыцці пісьменніка. Два гады, з 1925 па 1927, жыў у Полацку Алесь Звонак: працаваў сакратаром рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына» і ўзначальваў полацкую філію «Маладняка». Ян Скрыган у свой час працаваў загадчыкам Народнага дома ў Расонах, потым — у рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына».

Не забыць і Канстанцыю Буйлянку, якой яшчэ да першай сусветнай вайны Купала з Цёткай параілі паехаць у Полацк заняцца асветнай работай. Яна працавала ў беларускай кнігарні. Яе сучаснік, Янка Журба, у 1902 годзе скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю. У Полацку ён знайшоў і свой апошні прытулак.

Ураджэнцамі Полацка з'яўляюцца Леанід Прокша, Уладзімір Арлоў, Вінцэсь Мудроў, Пётра Васючэнка, Лявон Баршчэўскі, Пятро Сіняўскі, Лера Сом, Лявон Неўдах, Навум Гальпяровіч... Полацкае педагагічнае вучылішча скончыла Валянціна Аколава. Сяржук Сокалаў-Воюш нарадзіўся ў вёсцы Астроўшчына пад Полацкам. Працаваў у Наваполацку на «Паліміры», у сярэдняй школе. Сёння жыве ў Наваполацку празаік Ірына Жарнасек. Дарэчы, Навум Гальпяровіч, Ірына Жарнасек, Герман Кірылаў, Марыя Баравік, Алесь Жыгуноў, Уладзімір Сауліч, Мікола Воранаў, Ігар Пракаповіч    стварылі нядаўна ў Полацку філію абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў (старшыня — Навум Гальпяровіч). Ёсць каму клапаціцца пра будучае папаўненне літаратурнай змены. А яна расце, гадуецца на старажытным мацерыку нашай гісторыі і культуры. «Я... нарадзілася на незвычайнай зямлі — Полаччыне»,— піша маладая паэтка Зоя Паўлава.

Гэтая «незвычайная зямля» стала ўзлётнай кручай і для такога яе гадаванца, як Ян Баршчэўскі. Мы ведаем гэтага сына Прыдзвінскай зямлі як аўтара чатырохтомнага «Шляхціца Завальні», многіх паэм, балад, вершаў, санетаў, фантазій. Выпускнік Полацкай езуіцкай калегіі выдаваў у Пецярбургу альманах «Незабудка», чым унёс свой дзейсны ўклад у літаратурны рух на Бацькаўшчыне.

А як не ганарыцца нам такім іменем: Самойла Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітняновіч! Славуты на ўвесь славянскі свет Сімяон Полацкі, прадаўжальнік справы свайго земляка Францыска Скарыны. Друкар, паэт. Аўтар «Псалтыры рыфмаванай», своеасаблівай энцыклапедыі — «Вертаграда шматколернага», «Рыфмалагіёна» ...У прадмове да «Рыфмалагіёна» Сімяон Полацкі прызнаваўся:

Писах в начале по языку тому,
Иже свойственный бе моему дому.
Таже увидев много пользу быти,
Словенскому ся чисту учити.

Беларускі і расійскі прафесійны пісьменнік (толькі паэтычная спадчына якога складае 50 тысяч радкоў), перакладчык, асветнік і філосаф, уніят паводле рэлігійных перакананняў, драматург, стваральнік першага расійскага тэатра, астролаг, народны лекар, аўтар праекта першай у Расіі вышэйшай вучэльні (пазней — Славяна-грэка-лацінская акадэмія) — Сімяон Полацкі да канца сваіх дзён не забываў Бацькаўшчыну. Нездарма паводле яго тэстаменту спадкі (срэбра і золата) атрымалі манастыры ў Полацку, Віцебску, Оршы, Дзісне, Мёрах, Менску, Вільні... Замест эпітафіі на магілу славутага палачаніна маглі б прыдасца яго ж уласныя радкі:

Кто ся со мною может поровнати,
Разве из мертвых Голиафу встати.

У лёс гэтага эмігранта (выгнаннік Самойла паўтарыў лёс Францыска) — зводдаль — пільна ўглядалася паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Прачытайце яе радкі пра «Вершатворца Сімяона Полацкага» — і вы многае зразумееце:

Вусны вякоў не залепіш маўчання пячаткай.
Рукапіс тлее. Сорам не тлее ў агні.
Продкаў віна ападзе на рамёны нашчадкаў
ганьбай і горам.
Не забывайма віны!

Так, наша зямля адправіла ў божы свет вялікую кагорту талентаў, якія ўславілі гісторыю блізкіх і далёкіх народаў. А ці сплоцім віну перад тымі, каго выправілі ў выгнанне, тым, што надаем іх імя вуліцам у Віцебску і Полацку, што ў Мінску Ленінскі праспект становіцца праспектам Францішка Скарыны?

— Не забывайма віны! — прамаўляем мы ўслед словам Скарыны: «Хвала і бясконцая пашана мудрасці! Яна — маці ўсіх спраў...»

— Не забывайма віны! — шэпча скалечаны не вытраўленымі з галавы догмамі юнак. А ўслед яму гукае Скарына: «Усялякае слова, Богам натхнёнае,— карысна! Яно вучыць, выкрывае, выпраўляе і карае!»

Імя славутага на ўвесь свет палачаніна Скарыны займела такую прывабную сілу, што з усяго напісанага пра яго можна скласці вялікую бібліятэку (адна такая серыя кніг, падрыхтаваная Акадэміяй навук, атрымала Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь). Для выдавецтва

«Юнацтва» аўтар гэтых радкоў быў укладальнікам зборнікаў «Падарожная кніга Скарыны» (сумесна з В. Дышыневіч) і «Слаўны сын Беларусі».

Ураджэнец Полацка напачатку быў узгадаваны сваімі ж, мясцовымі навуковымі сокамі, перш чым стаў бакалаўрам філасофскіх навук Кракаўскага (Ягелонскага) універсітэта, доктарам медыцынскіх навук Падуанскага універсітэта. Асветнік-гуманіст зрабіў усё для таго, каб яго пражская «Біблія Руска» з уласнымі перакладамі, прадмовамі, пасляслоўямі была зразумелай і на радзіме — у Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім, і ў Маскоўскай дзяржаве, і ў многіх іншых краінах. Таму зусім справядліва Пятрусь Броўка ў паэме «Беларусь» пісаў:

Яшчэ ў дні старыя, у век наш лучынны,
Аб горадзе Полацку слава ішла,—
Друкар там выдатны Георгій Скарына,
Што зоры, рассыпаў па роднай краіне
Крыштальныя словы навукі — святла;
Нямала народаў з крыніц яго піла
І брала ад мудрасці вечны агонь,
У літарах першых знаходзячы сілу...
Ты слаўна, зямля, што вякам нарадзіла
Такога выдатнага сына свайго!

Дзякуючы Полацку, Скарыне знае пра нас шырокі свет. А такіх імёнаў у Беларусі многа. Сярод першых вядомых нам гістарычных асоб старажытнай Полацкай зямлі вылучаюцца Прадслава — маці Рагвалода і Тура, Рагнеда Рагвалодаўна, яе сын Ізяслаў... Хто не ведае легенды пра Рагнеду, якая не захацела «разуці рабыніча»? Рагнеда-Гарыслава вымушана была стаць жонкай будучага кіеўскага князя Уладзіміра Краснае Сонейка, яе гвалтоўніка, забойцы ўсіх яе родных, ка́та Полацкай зямлі. Гэтае паданне спарадзіла многа твораў. З літаратурных сюды адносяцца празаічныя здабыткі Уладзіміра Арлова, Кастуся Тарасава, Сяргея Тарасава, Хведара Крываноса... Расійскі паэт-дзекабрыст К. Рылееў вывеў вобраз палачанкі ў адной з сваіх «Думаў». Тарас Шаўчэнка згадваў Рагнеду ў паэме «Цары». Кампазітар А. Сяроў напісаў оперу «Рагнеда»...

Янка Купала ў незакончанай (не па волі паэта) паэме «Гарыслава» хацеў нагадаць беларусам пра волю і гордасць, былую славу Бацькаўшчыны.

Рагнедзе прысвяціў сваю гістарычную драму Пётра Крэчэўскі (1879—1928), грамадскі і палітычны дзеяч, спадчына якога выявіла ў апошнія гады і цікавыя літаратур-

ныя творы. «Рагнеду» П. Крэчэўскі закончыў у Коўне ў 1923 годзе. Дзейнымі асобамі твора акрамя Рагнеды з'яўляюцца: Рагвалод, кіеўскі князь Уладзімір, яго сын Ізяслаў, князь Яраполк, купцы, паслы, ваяры. Вось як ацэньвае адзін з крытычных момантаў у гісторыі Полацкай зямлі яе валадар Рагвалод:

Нядоўга я спакойна правіў,
Народ заможны стаў, ажыў.
Сваіх людзей — князёў паставіў,
Старыя спрэчкі ўсе забыў.
Цяпер ізноў навалы дзікай
Настаў час новы перажыць:
То Кіеў з Полацкам вялікім
Паўднёвы край ідзе дзяліць.

У снежні 1943 года Лявон Случанін (Лявон Раманавіч Шпакоўскі, 1914 года нараджэння) закончыў у Слуцку сваю паэму «Рагнеда» такімі словамі:

Не зарасці пракладзенаму следу!
І сёння ў грозную крывавую пару
Я слаўлю гордую крывіцкую Рагнеду,
Я слаўлю любую Радзіму — Беларусь!

Дарэчы, у Салігорску, дзе жыў Лявон Случанін, выходзіць газета таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пад назваю «Рагнеда». А Праваслаўная Рада надала імя Гарыславы гісторыка-культурнаму комплексу пры капліцы «У імя ўсіх беларускіх святых», які знаходзіцца ў Заслаўі, месцы смерці Рагнеды ў 1000 годзе.

Да волатаў, «што свой край баранілі», залічвае Максім Танк і Рагнеду ў вершы «Акамянелыя волаты»:

Хоць бязлітасны час
Сцёр нямала імён,
Ды ў легендах і песнях
жывуць яны ўсе:
Камяні Глеба,
Рагнеды,
Адама,
Кастуся,
Багушэвіча...

Пра «замгнёную зорку Рагнеды», якая не была пасцельніцай здрайцаў, пісала Данута Бічэль-Загнетава. «Будзе вечна свяціцца Рагнеды імя ў стагоддзях...» — прадракае паэтэса ў «Баладзе полацкага гарадзішча». Лёсу Рагнеды прысвяцілі вершы Таіса Бондар («Заручыны»), Вольга Іпатава («Рагнеда»), Алесь Разанаў («Рагнеда»).

У творах нашых паэтаў вобраз Рагнеды выяўляецца не

толькі як пакутніцкі. Яе жыццёвы подзвіг — стымул для дзеяў на пералом лёсавага наканавання (нездарма ж полацкая царыца ўзняла меч помсты!). У Віктара Шніпа пра гэта сказана так:

Заслана тканаю дзяружкай лава.
Там Багдановіч — найшчырэйшы госць.
На покуце Рагнеда і Прадслава.
І нам адведзенае месца ёсць.

А раз так, то няхай «У горадзе валадарыць Рагвалод, горад радуецца Рагнедзе»! (Алесь Разанаў «Горад»).

Полацкія імёны... Ігумен Дзіянісій, дойлід Іаан, ювелір Богша, інакіня Еўпраксія (князёўна Звеніслава — стрыечная сястра Еўфрасінні). Гэта на ахвяраванні Еўпраксіі, дачкі князя Барыса, быў пабудаваны Спаса-Еўфрасіннеўскі храм у Полацку. Памерла яна ў 1202 годзе, пахавана ў Бельчыцкім манастыры Барыса і Глеба. Звеніслава-Еўпраксія — магчымы аўтар «Жыція Еўфрасінні Полацкай» («Аповесці жыція і смерці Святой і блажэннай і Найпадобнейшай Еўфрасінні, ігуменні манастыра Святога Спаса, Найсвяцейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку»).

«На покуце Рагнеда і Прадслава»... Пра Рагнеду мы збольшага расказалі. Чарга — Прадславе, якая стала святой для ўсіх канфесій Беларусі (кананізавана праваслаўнай, каталіцкай і ўніяцкай цэрквамі). Еўфрасіння — апякунка, нябесная заступніца Беларусі. Таму 5 чэрвеня святкуецца Агульнанародны дзень святой Еўфрасінні, праводзіцца паломніцтва ў Полацк, дзе нарадзілася ўнучка Усяслава Чарадзея. На спадзяванне, што імя святое Еўфрасінні зможа аб'яднаць наш народ, стварыў супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Роднае слова» Іван Жданович вось такі верш-заклік:

Быў час — мы, як аблудныя, ішлі
Ад Веры... А без Веры — ўсё загіне.
У Полацак! То наш Ерусалім!
Там дух святой княгіні
Еўфрасінні.
Там Волі дух. І велічы былой.
І Веры — праз вякі! — нязгаснай промні.
У Полацак, паломнік! Бог — з табой!
Хай будзе лёгкім шлях табе, паломнік.

*(«У Полацак!»)*

З найвялікшай павагаю і пашанотаю, укленна прамаўляецца на беларускім і латгальскім Падзвінні імя Еўфрасінні (каля 1110—1167) — падзвіжніцы і асветніцы, якая

«яко луча солнечная просветила землю Полотскую». Еўфрасіння — у перакладзе з старажытнагрэцкай мовы азначае — родная. Гэта яна, заклаўшы манастыр у Сяльцы, адкрыла першыя школкі, распачала перапіс кніжак, стварэнне летапісу, сама стала аўтаркаю царкоўных акафістаў, трапараў, малітваў. Еўфрасіння ўзвяла падмурак для развіцця мастацкіх традыцый у архітэктуры, жывапісе, прыкладным мастацтве. Ёю на доўгія вякі наперад была створана такая культурна-асветніцкая атмасфера, якая спарадзіла творчыя подзвігі дойліда Іаана, ювеліра Лазара Богшы — стваральніка «ўзвіжальнага» крыжа, а пазней — першадрукара Францішка Скарыны. Былі б мы шчырымі вернікамі, то штодня прамаўлялі б: «...а ты, святая Еўфрасіння Полацкая — патронка Беларусі, ды ўсе святыя заступнікі Беларускага народа, апякуйце нас, каб мы сталіся народам святым, што выконвае Волю Божую і сваё пасланство...»

Да святой Еўфрасінні звяртаўся ў сваіх малітвах яе суродзіч Сімяон Полацкі, калі прасіў вярнуць вывезены ў Маскву цудадзейны абраз Багародзіцы:

Убо, о мати, припади за нами
К Господу Богу Твоими рабами,
Да возвратит нам икону святую,
Просвети землю белорусскую.

Еўфрасіння Полацкая ўсіх нас хацела бачыць як адну душу. Мо калі яе нашчадкі і выканаюць гэты запавет. Але падобна на тое, што яны не засталіся абыякавымі да духоўнага подзвігу суайчынніцы. Партрэтную галерэю палачанкі папоўнілі работы мастакоў І. Пратасені, А. Марачкіна, П. Свентахоўскага... Скульптары А. Арцімовіч, А. Шатэрнік таксама спрычыніліся да ўвекавечання вобраза Еўфрасінні. Ну а паэты?

Яшчэ ў 1910 годзе полацкі паэт П. Батурын напісаў цікавы верш «На перенесение св. мощей княжны Евфросинии», у якім, як адзначыў даследчык С. П. Сахараў, «ярка ўзнавіў гэтую падзею»:

В умиленьи встрепенулась
Наша бедная страна,
И Русь Белая проснулась
От томительного сна.
И слышна мольба простая:
Помощь нам твоя нужна.
Евфросиния святая,
Полотской земли Княжна!
. . . . . . . . . . . . . . . .

Ты у нас живой свидетель
Отдаленной старины,
Покровитель, благодетель
Нашей доблестной страны.
Пусть же дух твой здесь витает
Среди нас из рода в род,
Пусть хранит он, наставляет
Добродушный наш народ!

Відаць, адной рахманасці мала на спаўненне запаветаў нашых разумных продкаў. Таму Данута Бічэль-Загнетава, якая надзіва многа і таленавіта напісала пра гісторыю Полацкай зямлі (згадайма яе вершы «У полацкай Сафійцы. 1986», «Балада пра князя Усяслава Чарадзея», цыкл «Ефрасіння Полацкая»), нібы ў малітве звяртаецца да славутых палачан:

О сонейка Ефрасінні,
умацоўвай дзявочыя сэрцы.
Ясны месяц Скарынавай кнігі,
асвятляй нашу сумную долю.
(«Літанне»)

Сваю — полацкую! — анталогію мае наш народны паэт Рыгор Барадулін. Верш, прысвечаны Людміле Мазанік, «Жняя» ён заканчвае такімі словамі:

...Пакутныя дупы
Збавення прасілі.
Бядой набрынялае ныла калоссе.
...І грэлася
Зорка святой Еўфрасінні
У жнейчыным зірку,
У жнейчыным лёсе...

Таіса Бондар з надзеяй чакае той дзень, які «вырве з цемры страчаны ўжо шлях» (верш «Белая літара») і асвеціць «меч Усяслава Ефрасінін твар...»

Калі мерыць сённяшняй меркаю, то, можа, і няблага, што ў вершы Петруся Броўкі «Полацак»

Чырванахустачных дзяўчат
Не знала Ефрасіння.

Яны разам са сваімі такімі ж бадзёрымі спадарожнікамі хацелі разбурыць усё навокал «до основанья», а Прадслава, паводле верша Людмілы Урублеўскай,—

...Прадслава хоча стаць упарта
Святой —
і вольнаю, як вецер.
(*«Ефрасіння.»* Балада аб жаночай долі)

Так, яна адна з першых кананізаваных жанчын на ўсходнеславянскіх землях! А як пачуваюцца яе нашчадкі,

ці чуюць яны сваю заступніцу, якая ў свой час прамаўляла: «Але баюся, што будзеце вы пустазеллем і аддадуць вас агню незгасальнаму. Пастарайцеся ж, дзеці мае, пазбегнуць яго, і зрабіцеся чыстай пшаніцаю, і змяліцеся ў жорнах уміронасці (...), каб прынесціся чыстым хлебам на трапезу Хрыстовую».

Відаць, што святая Еўфрасіння адчувае стан нашае душы. Таму і вершы пра яе пішуцца такія:

Толькі горад славуты
ўсё не бачыць яшчэ,
як струменіцца смутак
з Ефрасінні вачэй.

(*Яўгенія Мальчэўская* «Ноч у Полацку»)

Або як у Людмілы Забалоцкай:

...Ефрасінні Полацкай акно
Безнадзейным пазірае вокам.

Як тыя пчолы, свой паэтычны ўзятак дадалі да Еўфрасініяны Вольга Іпатава, Люба Тарасюк... І як заўсёды — гулкі і трывушчы радок чуецца ў гэтай анталогіі нашай незабыўнай Ларысы Геніюш:

Мой курганны, жытні, зубрыны мой,
вытрывалы ў агні пакут,
Ефрасінін, святы, Скарынавы
Беларускі адвечны кут.

У адрозненне ад паэтак, у паэтаў мужчын вобраз Палачанкі-Прадславы акрэсліваецца мо і не такімі шчымлівымі словамі. Затое гістарычная праўдападобнасць застаецца несумненнай у вершах Сяргея Грахоўскага («Палачанка»), Алеся Звонака («Цень Ефрасінні»), Васіля Зуёнка («Апошняя малітва», «Ефрасіння Полацкая», «Шукаю Богшу»), Алега Лойкі («Ефрасіння Полацкая»), Віктара Шніпа («Хрыстова нявеста»)...

Кожны твор — люстэрка свайго часу, асабліва такога, які мы перажылі — зашоранага ідэалагічнымі догмамі. Тады ўсіх асветнікаў называлі не інакш як чорнымі манахамі, цемрашаламі.

Сёння, дзякаваць Богу, наша гістарычная спадчына ацэньваецца па іншых, больш-менш справядлівых эталонах.

Ураджэнец Полацка Валянцін Лукша праз усё сваё жыццё нясе асаблівы клопат аб полацкай духоўнай спадчыне:

Гады дазволаў межы абкасілі,
Падумаць пра духоўнасць самы час...

І фрэскі прападобнай Ефрасінні
Зірнулі праз імжу вякоў на нас.
І дабрыню пасеялі наўкола,
Бо колькі можна ў прыцемках гібець!
І людзі пачалі на стольны Полацк
Як на анёла светлага глядзець.
І згадваць,
Як да баганоснай славы,
У келлю,
Дзе не выпрастаць крыло,
Прыйшла калісьці юная Прадслава,
Каб несці людзям радасць і святло...
(«Фрэскі святой Ефрасінні»)

Разам з кампазітарам Віктарам Войцікам і я ўдзячны Еўфрасінні за натхненне, якое дапамагло стварыць песню «Споведзь», ёй прысвечаную.

У апошні час з'яўляюцца і новыя творы і новыя даследаванні аб Еўфрасінні. Адкрываюцца і новыя патаемы полацкай гісторыі. Варта прыгадаць тут імя пецярбургскай вучонай Наталлі Сярогінай, якая, даследуючы спеўны цыкл XII стагоддзя пра Еўфрасінню, прыйшла да такой высновы: там сцвярджаюцца тыя самыя ідэі, што і ў «Слове пра паход Ігаравы» — пратэст супраць братазабойчых усобіц, неабходнасць яднання славянскіх княстваў перад пагрозай з Усходу. Даследчыца прапануе версію, што і аўтар «Слова...» і Еўфрасіння былі знаёмцамі, належалі да людзей аднаго кола, іх перакананні і светапогляд супадалі. З гэтага можа вынікаць, што аўтар «Слова...» мог быць ураджэнцам ці жыхаром Полацкай зямлі.

Супынімся разам з паэтам Алегам Салтуком на беразе Дзвіны ў Полацку і ўспомнім героя згаданага славутага літаратурнага помніка — Усяслава Чарадзея:

«Смелы целам» і «вольны душой» —
Аб табе адклікаецца «Слова».

А мо і праўда, што на гэтай старажытнай зямлі не толькі

Ефрасінні вадзіла рука
Лебядзіным пяром па бяросце?..
(*Алег Салтук* «Полацку»)

Пімен Панчанка ў вершы «Донары» ставіў знак роўнасці паміж «Словам» і нашаю мовай: «Наша мова, як «Слова аб Ігары», задуменна-славянская...» Да сённяшняга дня застаецца патаемай усяго свету гэты літаратурны помнік XII стагоддзя — «Слова аб палку Ігаравым» («Слова пра паход Ігаравы»), спадчыны рускага, украінскага, беларускага народаў. Створаны ў канцы 1185—

87 гадоў (ці крыху пазней), але кім і дзе? У шэрагу мастацкіх вобразаў «Слова...» — амаль уся старажытная беларуская зямля. Тут і Полацк з Сафійкай, тут Горадня, Дудуткі і Няміга... Тут Усяслаў Брачыслававіч і Ізяслаў Васількавіч, «грозныя палачане» і Гоцкі бераг, куды гэтыя палачане дабіраліся Дзвіною, акунаючы свае вёслы ў Варажскае (Балтыйскае) мора.

Сярод першых даследчыкаў «Слова...» былі А. Міцкевіч, А. Кіркор, У. Сыракомля, З. Даленга-Хадакоўскі, Я. Драздовіч, В. Ластоўскі... Сярод сучасных — М. Ермаловіч, В. Чамярыцкі, А. Лойка, М. Абабурка... Гэтую неўміручую песню Старажытнай Русі перакладалі «з старой на сучасную беларускую мову...» М. Багдановіч, М. Гарэцкі, Р. Барадулін, І. Чыгрынаў, Я. Крупенька, В. Дарашкевіч... Празаічны і вершаваны пераклад «Слова...» зрабіў Янка Купала. Магіляўчанін Ігар Шклярэўскі стварыў новы пераклад на расійскую мову. Многа ёсць перакладаў і перайманняў «Плачу Яраслаўны».

Яшчэ У. Сыракомля лічыў, што аўтарам «Слова...» мог быць выхадзец з Полацкага княства. Не супраць гэтай гіпотэзы В. Мачульскі, С. Майхровіч, Г. Штыхаў, Л. Гурчанка з-пад Масквы. Вучоныя ўказваюць на балцкія традыцыі культуры аўтара. Ёсць і такія, хто ў магчымыя аўтары залічваюць Кірылу Тураўскага. Даводзяць, што з мінчукоў паходзіць вешчы Баян, які нібыта склаў такую прыпеўку аб трагічным лёсе полацкага князя Усяслава: «Ні хітраму, ні быстраму, ні шпаркаму птаху не мінуці Божага суда».

Мікола Гайдук з Беласточчыны мяркуе, што «Слова...» магло быць напісана ў Навагрудку падчас знаходжання яго аўтара пры князі Міндоўгу.

Энцыклапедычны слоўнік «Слова пра паход Ігаравы» (аўтар — М. Булахаў) паведамляе нам, што ідэйна-эстэтычнае ўздзеянне «Слова...» адчуваецца ў творчасці П. Труса, А. Куляшова, П. Броўкі, М. Танка, К. Кірэенкі і інш. С. Майхровіч, аўтар кнігі «Слова аб палку Ігаравым», вобразныя рэмінісцэнцыі гэтага твора знаходзіць і ў радках Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, А. Вялюгіна, А. Русецкага...

Васіль Вітка ў вершы «Чытаючы «Слова аб палку Ігаравым» так ацэньвае гэтую запісную кніжку беларускай гісторыі:

Ты — адзіны запаветны ключ
Нашае спрадвечнай таямніцы,

Не з мячом ішло праз навальніцы,
А бліжэй да сэрца — леваруч.
Знемагалася, а ўсё ж ішло
Ад стагоддзя да стагоддзя
І не менш пакут перамагло,
Чымся Ігар у сваім паходзе.

Пра «Слова...» пісалі У. Арлоў, Л. Дайнека, Я. Сіпакоў... Калісьці яно было адрасавана князям, сёння — усім нам, каму дарага воля і слава Айчыны. Літары яго, як той кальцый, мацуюць касцяк наш, не даючы згінацца, гадаваць горб рабства. У Міхася Скоблы ёсць на гэтую тэму такія радкі:

Пад гукі гусляў адмысловых
устане мой славянскі род,
над галавой узняўшы «Слова...»,
якому восем соцень год.
Дружыны той цяжкія крокі
падхопяць вецер і вада,
і — хай маўчаць усе прарокі! —
адступіць чорная вада!

А на заканчэнне згадкі пра «Слова...» хочацца яшчэ раз працытаваць Рыгора Барадуліна: «...Гэта вяршыня славянскага духу, гэта ўзор самай высокай літаратуры, гэта загадка наступным пакаленням».

* * *

Згадаўшы лёс палачан, самотна прыходзяць на памяць радкі Пімена Панчанкі з верша «Донары»:

Мы для братніх народаў
Бяздонныя
Верныя донары,
Пасля гнеўнай вайны
Мы народам усім
Сваякі.

Апошнія словы гэтага твора я магу пацвердзіць дакументальна, сотнямі сведчанняў тых жыхароў Віцебшчыны, якія падчас Вялікай Знішчальнай вайны (Вялікай Айчыннай) прайшлі пякельныя кругі фашысцкага канцлагера Саласпілс пад Рыгай. Там з малалетніх вязняў, а імі былі ў большасці асвейцы, выкачвалі кроў (усяго было назапашана 3500 літраў дзіцячай крыві для шпіталяў вермахта). Тыя эрытрацыты пэўна ж і зараз цякуць у жылах некаторых ацалелых нямецкіх салдат. А колькі было ўсыноўлена і ўдачарона асвейскіх малалетак! З адной з іх, місіс Вільям Лоўлар, я сустракаўся ў Нью-Йорку. А перад

гэтым — у Віцебску ў кватэры яе мамы — Ганны Іванаўны Дземяншчонак. Алачка Дземяншчонак не выраклася свайго прозвішча, калі яе прымалі ў амерыканскую сям'ю, таму па сёння ідэнтэфікуе сябе як беларуска. Дружыць Ала і яе муж Біл з сям'ёю Андрусішыных — бацькамі славутага Данчыка.

Але і да гэтага часу Віцебшчына не можа нагадава́ць даваенную лічбу сваіх жыхароў...

А колькі на Віцебшчыне было ўзгадавана талентаў, якія пайшлі служыць не толькі «для братніх народаў»! Во ўжо непераводная грыбніца на гэтым мацерыку! Толькі некалькі прыкладаў. На вуліцы Задуноўскай у Віцебску прайшло ранняе дзяцінства Самуіла Маршака. У 1977 годзе Васіль Салаўёў-Сядой прыгадваў: «Мой бацька, выхадзец з былой Віцебскай губерні, да самай смерці размаўляў з беларускім акцэнтам. Дарэчы, да гэтага часу жыве на Віцебшчыне бацькава сястра, якой споўнілася ўжо 90 гадоў і якая таксама размаўляе на мове беларусаў». Для адной з нізак вершаў у часопісе «Нёман» Рыма Казакова напісала прадмову: прызнавалася, што дзяцінства яе прайшло на Беларусі, каля вёскі Юровічы пад Полацкам, дзе яе бацька служыў у войску. Ён быў ураджэнцам Віцебшчыны, як і яе няня Шурка (Аляксандра Рыгораўна). Вось чаму ў звароце да зязюлі расійская паэтэса згадвае і свой радавод:

Зязюля, зязюля, зязюлька,
Нямала яшчэ на вяку
ты будзеш будзіць мяне гулка
сваім гарлавінным «ку-ку».
Над рэчкай, над ціхім райцэнтрам,
у бліках расы, ручая —
мая, з беларускім акцэнтам,
як першая нянька мая.

*(Пераклад Анатоля Вярцінскага)*

З гэтае нагоды прыгадаем і тое, што ўсім вядомая нянька Арына Радзівонаўна таксама сваім паходжаннем звязана з шырокім Прыдзвіннем. Як і род паэта Жукоўскага, паэта-празаіка Буніна. Як і род шляхціца Дзісенскага павета Стэфана Грынеўскага — бацькі Аляксандра Грына... Каля Дзісны нарадзіўся Ян Гушча, які стаў знакамітым польскім паэтам, перакладчыкам. У мястэчку Слабада-Дзісна нарадзіўся Анатоль Багдановіч, мовазнаўца (1888—1969). У 30-х гадах, не маючы магчымасцей для поўнага выкарыстання ведаў і здольнасцей, адчуваючы пагрозу арышту, ён пакінуў Бацькаўшчыну. «Донар»

А. Багдановіч працаваў у інстытутах Астраханскім, Магнітагорскім, Краснадарскім, Херсонскім, стварыў падручнік для адыгейскіх школ. Усе свае творчыя сілы аддаў тувінскаму народу ўраджэнец Дрысы (Верхнядзвінска) Аляксандр Адольфавіч Пальмбах (1897—1963). Наш зямляк валодаў лацінскай, нямецкай, французскай, англійскай, грэчаскай, некалькімі ўсходнімі мовамі. «Бакшы»-настаўнік Аляксандр Пальмбах стаў адным з стваральнікаў тувінскага пісьма, «Граматыкі тувінскай мовы», рэдактарам руска-тувінскага і тувінска-рускага слоўнікаў, аўтарам буквароў і падручнікаў, нарысаў, вершаў і п'ес на тувінскай мове. Пад псеўданімам А. Тэмір выступаў і як перакладчык мастацкай літаратуры Тувы. Чалавек з Прыдзвіння быў узнагароджаны самымі высокімі ордэнамі Тувінскай Народнай Рэспублікі. А якую пашану меў — толькі не на сваёй Бацькаўшчыне — ураджэнец Свольны Ян Дамінікавіч Чэрскі! Калі імя нашага земляка будзе ўзнесена на горныя вяршыні і пікі, уплецена ў лаўровыя вянкі, стужкі, тады і мы зварухнёмся, зробім, як для Яна Чэрскага, школьны музейчык, і то з дапамогай фонда Сораса.

Такі ўжо мы дзіўны народ. Самаеднічаем. І слухаем асецінскага паэта, Аляксандра Пухаева, які пасяліўся ў Віцебску, у родным горадзе яго жонкі: «Я ў вас, беларусы, як дома». Манкурствуем і слухаем расійскага паэта Браніслава Кежуна:

Сустракаліся з мірам,
Расставаліся шчыра
І на Прыпяці і на Дзвіне.
Тыя шчасныя хвілі
Нас здружылі, зараднілі
І надоўга запомняцца мне.

Калі заззяла залатая зорка Героя ў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Сяргея Сартакова, то мы прыслухаліся да слоў гэтага сібірскага празаіка. Сказаў жа ён на з'ездаўскім застоллі наступнае: «А я, браткі, напалавіну беларус». У адным з інтэрв'ю Сяргей Сартакоў яшчэ раз сцвердзіў, каб мы паверылі на ўсе 100 працэнтаў: «...я лічу сябе крышачку беларусам». Высветлілася, што маці пісьменніка нарадзілася ў Сар'і ў сям'і Нарубіных (Дрысенскі павет). На пачатку стагоддзя сям'я выехала ў Краснаярскі край. Сяргей на ўсё жыццё запомніў матчыну гаворку, смак матчыных дранікаў.

Яшчэ аднаго ўраджэнца сучаснага Верхнядзвінскага

раёна я сустрэў у Таліне. Генадзь Героднік (Генрых Іосіфавіч) нарадзіўся ў Асвеі. Скончыў Полацкае педагагічнае вучылішча. Ваяваў. Пасля дэмабілізацыі пасяліўся ў Эстоніі. На асвейскім матэрыяле напісаны ім аповесць «Реквием деревне Ярохи», «Поплачем и посмеёмся (Истории, услышанные от Марии Жавнерки)».

Зусім па другой прычыне застаўся пасля вайны на-за межамі Беларусі яшчэ адзін воін Другой Сусветнай — Вісарыён Гарбук, аўтар вершаваных і празаічных кніг для дарослых і дзяцей. У 1945 годзе ён пакінуў аўтограф на калоне рэйхстага. А потым на доўгія 15 гадоў былы сяржант інжынерных войск з вёскі Шкілякі на Полаччыне атрымаў шпітальную прапіску ў Пяцігорску. Перамог немач, жудаснае здранцвенне, абудзіў у сабе прагу да творчасці.

Зусім не пашчасціла яшчэ аднаму пісьменніку — Міколу Сямашку з вёскі Барылы (пазней стала часткаю вёскі Катушанкі) Полацкага раёна. Ён загінуў пры абароне Оршы ў 1941 годзе. Яго творчая спадчына — адзіны прыжыццёва выдадзены зборнік «Шчырасць».

У Ільі Клаза была цікавая кніга «Па Дзвіне на вёслах». Не забудзем жа, што і мы весляры. А Дзвіна віруе, хоць і не так, як Дняпро ў Гогаля, але сунецца сама па сабе ўніз, і аблокі не патанаюць у яе тонях. Не скруцілі яе ў драпежны час новай перагародкай пад Даўгаўпілсам. Абараніліся латышы з дапамогаю беларусаў. Бо смярдзючая завадзь стаяла б ад Даўгаўпілса аж да Полацка. «Не затапіць!» — крычалі мы тады ўсе разам...

Бяда склікае веча,
збірае да стырна.
Калі Дзвіну знявечыць —
радзіму пакалечыць.
Мы раны будзем лечыць
жывой вадой, Дзвіна.

Адбіліся. Быў адменены неабгрунтаваны праект будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, плаціна якой магла парушыць экалагічны баланс усяго басейна Дзвіны-Даўгавы.

Мінаем Наваполацк, дзе, як фарсункі, згараюць над лесам ядавітыя клубы. Наваполацк не раз труціў Дзвіну аж да самага прадоння, калі і магутныя самы паказвалі людзям — валадарам прыроды — свае цыяністыя жываты. Але ж гэта падзеі саманавейшыя, нашыя, будзённыя. А вось злева паказваюцца берагі Дзісеншчыны. Тут пачынаецца мой Мёрскі раён. Таму я «ўедлівей» буду ўгля-

дацца ў краявіды зямлі, якая да вайны ўваходзіла ў Віленскую губерню, вайной — у так званы Остланд з цэнтрам у Рызе, па вайне — у Полацкую вобласць, крыху пазней — у Маладзечанскую. А ўвогуле Дзісеншчына — надзвычай цікавая Старонка нашых старажытных скрыжаляў. Узнікла Дзісна адразу пасля Полацка як адзін з яго прыгарадаў. На картах напісана побач назвы горада — «XI ст.». Упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1461 годзе. Дзісна — гэта своеасаблівы «лемантар» — буквар Полацкай зямлі. Непадалёку ад Дзісны ў 1915 годзе быў знойдзены пярсцёнак Усяслава Чарадзея з гербам і надпісам. Са славутых «барысавых камянёў» тры былі выяўлены пад Дзісною. Адзін з іх, з надпісам «Сулібор хрэст», у 1887 годзе быў вывезены ў Маскву, астатнія — узарваныя.

У выніку ваенных дзеянняў у Лівоніі Курляндыя паміж ненажэрнай Швецыяй і памяркоўным Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім выбрала нас. У 1579 годзе ў Дзісне «перад каралём, сенатарамі і ўсім войскам прыносіў васальную прысягу герцаг Курляндыі Готфрыд Кетлер» (цытата з артыкула пра Дзісну археолагаў Л. Дучыц і Э. Зайкоўскага). Курганы-валатоўкі, могілкі з вялікімі каменнымі крыжамі, замак на востраве... Усё гэта дзісенская гісторыя. З ёю можна абыходзіцца па-рознаму. Каменныя крыжы мясцовае жыхарства выкарыстала на падмуркі. А вось з легендай пра двараніна Паўла Астроўскага з радавога маёнтка Астраўшчызна з-пад Дзісны вялікі Аляксандр Сяргеевіч Пушкін (у якім акрамя афрыканскай была і крывіцкая кроў) абышоўся творча: дзісенец стаў адным з прататыпаў для стварэння вобраза «разбойніка» Дуброўскага.

Дзісеншчына — радзіма і творчая скарбонка ўжо згаданага Яна Гушчы. У фальварку Людвінава каля Дзісны нарадзіўся Арцём Вярыга-Дарэўскі (1816—1864). Тут вандраваў і набіраў артыстаў, музыкаў для сваёй трупы Ігнат Буйніцкі (зазірніце ў эсэ Рыгора Семашкевіча «Світка Буйніцкага»). На Дзісеншчыне — мастацкі сусвет Язэпа Драздовіча. Арсень Ліс так апісвае вандроўкі гэтага мастака за марай: ён ідзе на сваю зялёную Дзісеншчыну, каб «...перадаць само народнае жыццё, убачанае, падслуханае там, ля самых яго вытокаў».

У Наркавічах каля Дзісны нарадзілася крытык, літаратуразнаўца Марына Барсток. А ў вёсцы Галубічы Дзісенскага павета нарадзіўся паэт Алесь Дубровіч. Ёсць

верш «Дзісна» ў паэта Пятра Сушка, майго земляка. І калі добра пакапацца ў багатай, прысвечанай Дзісеншчыне літаратуры, абавязкова знойдуцца «сведкі сівой даўніны» — і вершы, і празаічныя творы, і навуковыя даследванні. Пачакаем выпуск кнігі «Памяць», якую рыхтуе рэдактар мёрскай раённай газеты «Сцяг працы» Леанід Матэлёнак.

Мёрскі раён можа пахваліцца новым літаратурным папаўненнем: прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Галіна Тычка і Франц Сіўко. Часта друкуецца ў перыёдыцы журналіст газеты «Сям'я» Уладзімір Пірог-Пучынскі, які часам падпісваецца і псеўданімам Лявон Пальскі (лявонпальскі малец, значыцца).

Пакінуў у Вашынгтоне свае скульптуры ўраджэнец Мёршчыны Генрых Дмахоўскі. Багатую культурную спадчыну пакінуў і графскі род Лапацінскіх (адзін з графскіх маёнткаў быў у мястэчку Лявонпаль). Уславіў гэтую зямлю народны артыст і збіральнік фальклору Генадзь Цітовіч. Пад Парыжам дажывае свой доўгі век мастак-імпрэсіяніст Віктар Жаўняровіч... Пад Мёрамі не згубіліся для нашчадкаў сляды Вацлава Ластоўскага, знакамітага грамадскага, палітычнага, культурнага дзеяча, празаіка і паэта. У вёсцы Дзедзіна нарадзіўся Ільдэфанс Бобіч — ксёндз, доктар тэалогіі. Як празаік, перакладчык, публіцыст, драматург выступаў пад псеўданімам Пётра Просты.

З Мёршчыны (з вёскі Бабышкі, з мястэчка Лявонпаль) засталіся запісаныя на магнітафоннай стужцы галасы цёткі Адэлі, бабкі Альжбеты, дзядзькі Андрыяна з песнямі, якім па некалькі соцень гадоў. Яны гучаць на чысцюткай спрадвечнай мове нашай, не сапсаванай дамешкамі ніякіх імперый. І калі я ехаў у Рыгу на магілу пахаваных у Юрмале бацькоў, узгадаў запісаную ад мамы песню:

Няма лепшай ягадачкі,
як у лесе брусьнічанкі.
Няма лепшай гасцінaчкі,
як у роднай матулечкі.
Як матулечка памрэць —
дзе гасцінaчку мець?
Зарастуць усе сцежачкі,
зарастуць дарожачкі...
А чым жа я церабіць буду?
Ды ці ранняй расою,
ды ці позняй слязою?

І сапраўды, зараслі сцяжынкі да роднага бабышкаўскага хутара. Меліярацыйны роў — як шнар — прайшоў праз

сядзібу бацькоў, пакінуўшы памяць пра яшчэ адно вынішчэнне радзіннасці нашай нацыі. Адбывалася зрушванне з котлішча, зрушванне з каранёў, з месца пахавання пупавіны — каб чалавек лягчэй пачуваў сябе без святога цяжару Памяці.

Калі я нарадзіўся, над Дзвіною, як гаварыла мне пазней мама, кожную ноч гарэла неба. Гэта пачыналіся карныя экспедыцыі на партызанскі край. Карнікі (а яны былі ўсіх масцей) «рабілі» з Асвейскага і Дрысенскага раёнаў (усё, што ляжала на поўнач ад чыгункі) мёртвую зону. І недзе 20 гадоў назад пачаліся мае першыя пошукі тых, хто ацалеў у вогненных вёсках Задзвіння. Паводле тых запісаў выйшлі кніжкі «Браніслава», «Асвейская трагедыя». Многа вершаваных радкоў, прысвечаных людзям Асвейшчыны, увайшло ў зборнікі «Мацярык», «Стырно», «А пісар земскі...».

Сёння два былыя даваенныя раёны ўваходзяць у адзін — Верхнядзвінскі. Пройдземся даўно мне знаёмымі задзвінскімі сцежкамі. Згадаем хоць збольшага літаратурныя арыенціры зямлі, якая, як сведчыць адна з легенд, «нарадзілася ў кальчузе і з мячом у руцэ...».

Больш як шэсць вякоў «пад сподам» Дрысы (Дрызы). Найменне захавала свой балцкі корань — друтас (магутны). Сэнс яго праслухоўваецца і ў назвах Друя, Друць, Дрывяты... Крывічы з балтамі дзяліліся ўсім: курганамі, гарадзішчамі і нават мовай. Першы ўспамін пра Дрысу адносіцца да 1386 года ў сувязі з нападам на одрызскі замак полацкага князя Андрэя Альгердавіча. Потым Дрыса згадваецца ў дагаворы ад 25 сакавіка 1503 года. У 1547 годзе ў гэтым парубежным горадзе была заснавана мытня. 25 снежня 1962 года гэтае старажытнае найменне было панішчана: горад пераназваны ў абстрактны Верхнядзвінск.

Дрысенскі (Дрыскі) лагер згадваецца на старонках рамана-эпапеі Льва Талстога «Вайна і мір». Сюды прыязджаў адзін з галоўных герояў твора Андрэй Балконскі. А Мікалай Растоў здзейсніў свой подзвіг на радзіме Льва Сапегі, пад Астраўно (непадалёку ад Віцебска).

Раней прыпамінаўся ўраджэнец Дрысы Аляксандр Пальмбах. Тут вучыў у школе паэт Навум Кіслік. Зараз жыве паэт і празаік Эдуард Зубрыцкі. Добрыя вершы піша дасведчаны краязнавец Антон Бубала:

Тутэйшай мовы сакавітай,
Бадай, няма нідзе святлей.

Адною стужкаю спавіты:
Асвея, песня, салавей,
Савейкі, Добры Плёс, Дубровы,
Свяціца, Лісна, Астравок...
Дык гэта ж кветкі, а не словы:
бяры, сплятай сабе вянок.
Але не толькі мілагучны
сатчэцца з мовы той вянец.
Ці ж не з Асвеяю сугучны
Асвенцім, свастыка, свінец?

Вось гэтае апошняе «сугучча» спарадзіла цэлую бібліятэку мемуарнай літаратуры пра партызанскую барацьбу на Прыдзвінні. Згадаю мо некалькі: «Узрыў на світанку» С. Аслёзава, «У суровыя дні» І. Мандрыка, «У Сар'янскіх лясах» А. Шамаля, «Спытайце ў бярозаў» У. Хазанскага, «Вайна ў краі азёраў» І. Захарава...

З гераічным асвейска-дрысенскім краем знітаваў свае паэтычныя радкі паэт Сяргей Законнікаў. З галоўных твораў назаву такія: балада «Свольна», паэма «Урбаны»... І як не сціснуцца сэрцу, калі ты, да прыкладу, даведаешся, што ў часы вайны карнікамі ў рэчцы Свольна было ўтоплена 2118 дзяцей. Страты, роўныя дзіцячым стратам паў-Еўропы!

ЗЛіснай судакранаецца імя Д. Фанвізіна. Са Свольнай — Я. Чэрскага. З Бандзелямі — Э. Самуйлёнка. З Шайцеравам — Т. Хадкевіча. З Каханавічамі — І. Храпавіцкага... Пра кожнае такое радзіннае поле можна пісаць даследванні. Вось, да прыкладу, Ігнат Храпавіцкі (1817—1893) — паэт, збіральнік і даследчык мясцовага фальклору, актыўны аўтар часопіса «Рубон», які выдаваў яго ж зямляк — Казімір Буйніцкі з мястэчка Дагда.

Недалёка ад Верхнядзвінска — Валынцы (былыя Забелы) — радзіма першай беларускай камедыі! Тут у мурах дамініканскай калегіі атрымлівалі еўрапейскую адукацыю. Дзякуючы выкладчыкам калегіі Каятану Марашэўскаму, Міхалу Цяцерскаму, Ігнату Юрэвічу тутэйшыя шкаляры паказвалі сцэны з трагедый паводле сюжэтаў антычнай гісторыі. У Валынцах упершыню (у 1787 годзе) загучаў па-беларуску Мальер! М. Цяцерскі зрабіў пераробку мальераўскай п'есы «Доктар па прымусу». А на інтэрмедыйнай аснове нарадзілася тая самая славутая «Камедыя» Каятана Марашэўскага.

У Варшаве ўзноўлена і пастаўлена аперэта забельскага кампазітара Вардоцкага «Апалон-заканадаўца, або Зрэфармаваны Парнас». Як і заўсёды, беларусы пасля ўсіх на

гэтым свеце бяруцца за патрэбную справу. Нездарма лявонпальскі яўрэй гаварыў майму бацьку «за польскім часам»: дай, Божа, майму дзіцятку той розум напачатку, які да мужыка прыходзіць потым».

Шукаючы магілы названых асветнікаў на мясцовым могільніку, мы з Адамам Мальдзісам бачылі абрабаваныя склепы, і побач на кіі ўздзетыя чарапы продкаў. Такая вось «асвета» ў гадаванцаў рэжыму, які ўсё яшчэ абараняюць на Беларусі пажылыя і зарыентаваныя ў які-небудзь бок людзі.

Каля Дрысы, у Жоўніне, усю зіму (канец 1918 — пачатак 1919 годоў) пражыла з сям'ёй будучая паэтка Наталля Арсеннева. Для яе Жоўніна — той Рубікон, пасля якога яна назаўжды прытуліла да паэтычнай душы беларускую мову. У Кліўлендзе Наталля Арсеннева прыпаміназа: «Зіма ў Жоўніне мне запомнілася на ўсё жыццё. Там я першы раз спаткалася з жывой беларускай мовай. Так яна мне ўпадабалася!» З Жоўніна шлях Наталлі Арсенневай прайшоў праз Дзвінск у Вільню. Яна ехала на санях па старым бальшаку, той дарогаю, якой яшчэ ў 1374 годзе ішоў на Дзінабург ваяваць крыжакоў Андрэй Полацкі. Недалёка ад «шляху з грэкаў у варагі» каля вёскі Цінкаўцы стаіць «хата бабкі Параскі», дзе я ў пошуках новых старонак для кніг, цікавейшых вобразаў і рыфмаў знаходжу ўжо каторы год для сябе прытулак. На адной сцяне дома вісіць шыльда «вул. Старавіленская» — у гонар Наталлі Арсенневай; на другой — «шлях з Грэкаў у Варагі»: у гонар усіх тых падарожнікаў, хто не мінаў прыберагу Дзвіны — «цінкавы» (з латышскай мовы перакладаецца як «вытаптанае месца, ток, такавішча»).

Правы бераг Дзвіны за Бігосавам, Юльяновам, Робежнікамі «ўспорваецца» на мяжу. Далей на захад — Зарэкі, Дамнаполе, Бярозкі, але — на латвійскай тэрыторыі, дзе таксама жывуць паэты, якія пішуць па-беларуску: Эдвард Вайвадзіш у Вайвадах, Станіслаў Валодзька ў Даўгаўпілсе...

Ды зірнем налева. Стромкі бераг Дзвіны трымаецца яшчэ беларускай мяжы. І недзе пасярод ракі перамешваюцца хвалі — дзвінскія з даўгаўпілскімі. За Друяй, не даплываючы Краславы, мая рака поўнасцю становіцца Даўгавай. Толькі даўнія паселішчы ўсё яшчэ напамінаюць сучаснікам, што насялялі іх калісьці крывічы, жывучы ў згодзе з латгаламі і лівамі.

Мінаем леваруч вусце Волты, на якой я нарадзіўся,

вусце Мерыцы, на якой стаяць Панізнікі — вёсачка, з якой, відаць, паходзіць мой род. Пасля Вяты набліжаецца злева Друя, першы ўспамін аб якой зафіксаваны яшчэ да 1386 года. З сакавіка 1620 года Друя атрымала герб: у блакітным полі віціна з разгорнутым ветразем, вада сярэбраная (згадаем для параўнання даўняе выслоўе: дно ў Дзвіны залатое, а берагі сярэбраныя). Друйскія муры памятаюць князя Андрэя Полацкага, Стэфана Баторыя, Сапегаў... Гэты горад маляваў Напалеон Орда, пра «браслаўскую ўскраіну, цудоўную краіну гораў і азёраў» пісаў М. Мельнікаў. «Друя — заштатны горад Віленскай губерні» — кніга Д. Даўгялы. Пра Дзісну і Друю як магдэбургскія гарады пісаў у 30-х гадах таленавіты гісторык і краязнаўца Отан Гедэман (1887—1937). Тут уступіў у манаскі ордэн марыянаў, выкладаў у гімназіі латынь і багаслоўе Язэп Германовіч (1890—1978). Адсюль Вінцук Адважны (яго псеўданім) — святар, асветнік, паэт, перакладчык — ад'ехаў у 1932 годзе ў Харбін. У яго часы хадзіў яшчэ цягнік «Бігосава — Маньчжурыя».

Пад Друяй знаходзіўся маёнтак, які належаў дваранскай сям'і Мілашаў (з гэтага роду паходзіць Нобелеўскі лаўрэат французскі паэт і драматург Аскар Уладзіслаў дэ Любіч Мілаш (1878—1939), які нарадзіўся ў мястэчку Чарэя (Чашніцкі раён). Друю ён згадваў у сваіх знакамітых «Казках і фабліо старой Літвы» (Парыж, 1930).

Славутым вучоным і краязнаўцам Віцебшчыны А. Сапуновым у Друі быў адкрыты Барысаў камень.

Друя ўваходзіць зараз у Браслаўскі раён. Мы забылі сёння такі помнік, узведзены трыма прабалцкімі суродзічамі (латышамі, літоўцамі, беларусамі), як ГЭС «Дружба народаў». Яе сляды — між Дрысвятамі і Опсай. Тыя падзеі былі апісаны П. Броўкам у рамане «Калі зліваюцца рэкі» (паводле матываў кнігі кампазітар Г. Вагнер стварыў балет «Святло і цені»). Сваю «Паэму брацтва» прысвяціў ГЭС літоўскі паэт Э. Межэлайціс, а латышскі кампазітар А. Жылінскіс — аперэту «У краі блакітных азёраў».

З Браслаўшчынай, а праз раку — з Краслаўшчынай знітаваны род Плятэраў. Адзін з іх — Адам Плятэр пісаў «Пра старажытныя камяні з надпісамі, знойдзенымі ў рацэ Дзвіне...» (1843), пра «Полацк» (1843). Генадзь Каханоўскі лічыў яго «самым раннім вестуном беларускай гістарычнай навукі». А Эмілія Плятэр (1806—1831) збірала фальклор. Лічыцца ў нас адной з першых беларускіх паэтэс.

Пра мястэчка Краславу пісаў Юрка Віцьбіч. Паводле падання, Краслаўка атрымала імя ад Рагнеды-Гарыслаўкі. Мястэчка было калісьці прыгарадам Полацка; фарпостам у барацьбе з мечнікамі была і Ершыца-Герсіка. А крыху далей па Даўгаве, як піша Ю. Віцьбіч, стаяў Крыжбор, які па-нямецку загучаў як Крэйцбург, а па-латышску — Круст-пілс. Яшчэ доўга помніліся плытнікам назвы страшных каменных парогаў на Дзвіне-Даўгаве: Перакрыж, Гусак, Бродыш, Ціхая Руба. Нездарма захавалася ў памяці такая прыказка дзвінскіх плытагонаў: «Прабег Янка Перакрыж дый кажа: браткі, Рыгу бачу!»

Пэўна ж, гэты горад бачыўся й паэту-франтавіку Пятру Прыходзьку, калі ён пісаў верш «Дзвіна-Даўгава»:

Ад Полацка
Да Верхнядзвінска
Дарога бяжыць з даўніны.
І ўсюды стаяць абеліскі
Навокал Заходняй Дзвіны.
О край партызанскае славы,
Даўно адгрымеўшых баёў!
Сваёю прыродай ласкавай
Кранаеш ты сэрца маё.
Адною ракой падзяліўся
Ты з братняй латышскай зямлёй.
І нашу Дзвіну
Ў Даўгаўпілсе
Назвалі Даўгавай сваёй.
Вядзе мяне дружбы дарога
Да братняй лясной старaны —
На захад,
Да мора самога,
Што стала працягам Дзвіны.

Лічу натуральным і зусім не агрэсіўным такі вось выхад беларускага паэта да мора. Не будзем наракаць, што ўсталяваліся новыя межы, мытні... На Кургане Сяброўства, які з 1959 года стаіць на сутыку трох дзяржаў — Расіі, Беларусі, Латвіі, мне нядаўна больш за ўсё спадабалася выказванне лудзенцаў пра тое, як і ў сучасных умовах ладзіць кантакты, мацаваць добрасуседства, знаходзіць узаемаразуменне.

То падзякуем Дзвіне-Даўгаве, што яна збліжае нас — расіян, беларусаў, латышоў, нанізвае на сваю блакітную жылку сярэбраныя росы нашых шчырых пачуццяў.

Жывіца капала і стыла.
Не пойдзе бервяно на дно:
на Рыгу зрушана стырно.
Бывайце, румы залатыя!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Трымала песня, абдымала
і раздымала берагі.
Плылі ганкі — і ночы мала
запеў закончыць дарагі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ці сёння мы не заадно?
Ці румы спадчыны пустыя?
Майструю вернае стырно,
плыву — у песні маладыя.

*Сяргей Панізнік*

# ЗМЕСТ



***«Гэтак і людзі: дзе нарадзіла іх маці,
Ласку да месца таго берагуць заўсягды»***

Літаратурна-мастацкае выданне

**БАЦЬКАЎШЧЫНА**

Зборнік гістарычнай літаратуры

Укладальнік
**ПАНІЗНІК Сяргей Сцяпанавіч**

Рэдактар *Л. М. Цяляк*
Мастацкі рэдактар *К. С. Ракіцкі*
Тэхнічны рэдактар *С. А. Абрамчук*
Карэктар *Дж. Р. Лосін*

Здадзена ў набор 07.10.96. Падпісана да друку 28.02.97. Фармат $84\times108^{1}/_{32}$. Папера друкарская. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 15,12+0,84 укл. Ум. фарб.-адб. 17,22. Ул.-выд. арк. 16,00+0,71 укл. Тыраж 3000 экз. Зак. 855.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 7. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Б 31 **Бацькаўшчына:** Зб. гіст. літ.: Для сярэд. і ст. шк. узросту / Уклад., прадм., пасляслс. С. С. Панізніка; Маст. У. М. Якунін.— Мн.: Юнацтва. 1997.— 286 с., 8 л. іл.: іл.
ISBN 985-05-0130-8.

Гэты выпуск «Бацькаўшчыны» складаюць творы, прысвечаныя Надзвінню, гістарычным падзеям, якія адбываліся на Полацкай зямлі і на яе галоўнай жыццядайнай артэрыі — Дзвіне.

**ББК 84(4 Беи) + 63.3(4 Беи)**

